Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

*Установа адукацыі*
«Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт
імя Максіма Танка»

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС

*Вучэбна-метадычны дапаможнік*

Мінск 2010


УДК
ББК
Б

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета БДПУ


*Дапаможнік падрыхтаваны
ў межах рэспубліканскага Плана мерапрыемстваў
па рэалізацыі палажэнняў Закона Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 года
«Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» на 2010–2013 гг.*


А ў т а р ы :
кандыдаты філалагічных навук, дацэнты *І.Л. Бурак, Д.В. Дзятко, Н.М. Нямковіч, Н.А. Радзіваноўская, В.В.Урбан, А.М. Цясевіч, Ф.С. Шумчык*

П а д р э д а к ц ы я й *Д.В. Дзятко*

Р э ц э н з е н т ы :
доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык аддзела сучаснай беларускай мовы ДНУ «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі» *В.П. Русак*;
кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *Э.А. Ялоўская*



Б___ **Беларускі правапіс**: вучэбны дапаможнік / І.Л. Бурак, Д.В. Дзятко, Н.М. Нямковіч і інш.; пад навук. рэд. Д.В. Дзятко. – Мінск : БДПУ, 2010. – 212 с.
ISBN 978-985-501-???-?.



З улікам найноўшых дасягненняў беларускага мовазнаўства прапануецца падрабязны агляд усіх асноўных правапісных правіл у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (зацверджаны 23 ліпеня 2008 г.). Асвятляюцца асобныя пытанні граматыкі і словаўтварэння сучаснай беларускай літаратурнай мовы, найбольш цесна звязаныя з правапісам.

Адрасуецца студэнтам універсітэтаў, будзе карысным для навучэнцаў педагагічных каледжаў, вучняў старэйшых класаў сярэдніх агульнаадукацыйных устаноў, а таксама ўсіх, хто хоча правільна пісаць па-беларуску.



**УДК**
**ББК**

**ISBN 978-985-501-???-?**



© БДПУ, 2010

# ПРАДМОВА

Сучасная беларуская літаратурная мова – поліфункцыянальная. Яна выкарыстоўваецца ў розных сферах грамадскай і індывідуальнай дзейнасці чалавека з рознымі камунікацыйнымі мэтамі: для назапашвання і перадачы інфармацыі, асваення вопыту папярэдніх пакаленняў, выражэння эмоцый і рэалізацыі творчых памкненняў.

Важнейшыя характарыстыкі літаратурнай мовы – гэта яе наддыялектны характар, функцыянальна-стылёвая разгалінаванасць, устойлівыя арфаэпічныя, арфаграфічныя, граматычныя і лексічныя нормы. Менавіта норма з'яўляецца адной з асноўных умоў стабільнасці, адзінства, самабытнасці нацыянальнай мовы і таму павінна спрыяць захаванню нацыянальнай маўленчай культуры.

Паняцце нормы прадугледжвае пэўную «гістарычную глыбіню», аднак варта памятаць, што разам з развіццём мовы можа змяняцца і норма. Таму задача грамадства не толькі ў своечасовай фіксацыі сучаснага стану агульнапрынятых моўных сродкаў, але і ў поўным авалоданні гэтымі сродкамі.

Гэты дапаможнік падрыхтаваны ў адпаведнасці з тыпавой праграмай па сучаснай беларускай літаратурнай мове для філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў Беларусі з мэтай больш хуткага і паспяховага засваення «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», зацверджаных Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 года.

У кнізе прапануецца падрабязны агляд усіх асноўных арфаграфічных і пунктуацыйных правіл. Акрамя таго, закранаюцца асобныя пытанні граматыкі і словаўтварэння сучаснай беларускай літаратурнай мовы, непасрэдна звязаныя з правапісам. Асаблівую ўвагу аўтары надавалі найбольш складаным або спрэчным аспектам беларускага правапісу.

Дапаможнік пабудаваны ў выглядзе асобных тэм, якія, акрамя тэарэтычнага матэрыялу, уключаюць разнастайныя практыкаванні і тэсты, што дазваляе выкарыстоўваць яго як для самастойнай працы студэнтаў, так і ва ўніверсітэцкай аўдыторыі. У кожным тэсце прапануецца 5 магчымых варыянтаў адказаў, з якіх адзін, два, тры або чатыры могуць быць правільнымі. Важна, каб выкладчык



своечасова звярнуў увагу студэнтаў на тое, што форма множнага ліку ў фармулёўцы задання («Адзначце *правільныя сцвярджэнні*…») не з'яўляецца паказчыкам таго, што правільных адказаў абавязкова павінна быць некалькі.

У практычнай частцы выкарыстаны сказы і тэксты з праграмных і пазапраграмных твораў звыш 100 беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх М. Багдановіч, Янка Брыль, В. Быкаў, У. Караткевіч, А. Карпюк, Якуб Колас, Янка Купала, І. Пташнікаў, Я. Скрыган, Я. Сіпакоў, М. Стральцоў, А. Сыс, Максім Танк, Кузьма Чорны, Ф. Янкоўскі і інш. Паколькі большасць кантэкстаў прайшлі адаптацыю да канкрэтных правіл, у тэставых заданнях звесткі пра аўтарства не падаюцца.

Дапаможнік прызначаны для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь, аднак з поспехам можа быць выкарыстаны і студэнтамі іншых факультэтаў пры вывучэнні беларускай мовы, а таксама для правядзення факультатыўных заняткаў у старэйшых класах агульнаадукацыйных школ, пры падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэсціравання, для самаадукацыі.

Праца аўтараў размеркавана наступным чынам:
к.ф.н. ***Бурак І.Л.*** – раздзелы 10–11;
к.ф.н. ***Дзятко Д.В.*** – «Прадмова», «Уводзіны», раздзелы 1, 6, «Літаратура», агульнае рэдагаванне;
к.ф.н. ***Нямковіч Н.М.*** – раздзелы 4–5, 9;
к.ф.н. ***Радзівана́ўская Н.А.*** – раздзел 2;
к.ф.н. ***Урбан В.В.*** – раздзелы 3, 7, «Даведнік»;
к.ф.н. ***Цясевіч А.М.*** – раздзел 12;
к.ф.н. ***Шумчык Ф.С.*** – раздзел 8.

Аўтары будуць удзячныя за любыя заўвагі адносна структуры і зместу дапаможніка:
220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 18,
кафедра беларускага мовазнаўства
ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»;
e-mail: *lingby@gmail.com*.

# УВОДЗІНЫ

**Правапіс –** гэта сукупнасць агульнапрызнаных і агульнаабавязковых правіл, якія вызначаюць спосабы перадачы мовы на пісьме. Правапіс уключае ***арфаграфію*** (гр. *orthographia*, ад *orthós* ‘правільны’ і *gráphō* ‘пішу’) і ***пунктуацыю*** (лац. *punctuatio* ад лац. *punctum* ‘кропка’). Сістэма правіл складаецца гістарычна і адлюстроўвае як даўнія традыцыі, так і новыя тэндэнцыі ў перадачы гукаў, слоў і форм, што выяўляюцца ў пісьмовай мове на розных этапах яе развіцця.

У лінгвістычнай літаратуры тэрмін ***арфаграфія*** мае тры асноўныя значэнні.

**Арфаграфія –** 1) сістэма аднастайных напісанняў слоў, якая выкарыстоўваецца ў пісьмовым маўленні; 2) правілы аднастайнай перадачы пісьмовага маўлення; 3) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаецца і распрацоўваецца сістэма арфаграфічных правіл. Часам тэрміны ***арфаграфія*** і ***правапіс*** выкарыстоўваюцца як сінанімічныя.

Напісанні слоў не аднатыпныя, таму і ў самой арфаграфіі вылучаецца некалькі адносна самастойных частак. Так, арфаграфія:

- ✓ вызначае правілы перадачы на пісьме гукавога складу асобнага слова ці значымых частак слова (кораня, прыстаўкі, суфікса, канчатка);
- ✓ устанаўлівае правілы ўжывання вялікай і малой літары;
- ✓ рэгламентуе правілы злітнага, паўзлітнага (праз дэфіс) і раздзельнага напісання слоў;
- ✓ упарадкоўвае правілы графічнага скарачэння і пераносу слоў.

Сучасная беларуская арфаграфія пабудавана на чатырох асноўных прынцыпах – фанетычным, марфалагічным, традыцыйным (гістарычны) і дыферэнцыйным (ідэаграфічны).



**Паводле фанетычнага прынцыпу** словы перадаюцца на пісьме ў адпаведнасці з іх вымаўленнем, г.зн. кожнаму гуку адпавядае пэўная літара: *л**е**с – л**я**сок, ц**э**гла – ц**а**гляны, дв**а** – дз**в**е* і інш.

Згодна з **марфалагічным прынцыпам** на пісьме аднастайна адлюстроўваюцца ўсе значымыя часткі слова (марфемы) незалежна ад іх вымаўлення ў розных фанетычных пазіцыях: *нагля**д**чык*, *мала**ць**біт*, *дзя**дзь**каванне, паса**г**.*

**Традыцыйны прынцып** рэгламентуе напісанні, якія ўсталяваліся гістарычна і не адпавядаюць сучаснаму гукавому і марфемнаму складу слова: *ЮНЕСКА, **А**рганізацыя **А**б’яднаных **Н**ацый, **ТЮГ**.*

**Дыферэнцыйны прынцып** заключаецца ў графічным адрозненні слоў з аднолькавым гучаннем, але розным значэннем: *бяроза* ‘дрэва’ і *Бяроза* ‘горад’, *раман* ‘мастацкі твор і Раман ‘імя’, *гук**а*** ‘лінгвістычны тэрмін’ і *гук**у*** ‘ваганні паветра, якія ўспрымаюцца слыхам’.

Традыцыйныя і дыферэнцыйныя напісанні мала пашыраныя ў беларускай мове.

Тэрмін *пунктуацыя* таксама з’яўляецца мнагазначным.

**Пунктуацыя –** 1) сістэма графічных пазаалфавітных знакаў (знакаў прыпынку), якія разам з графікай і арфаграфіяй утвараюць асноўныя сродкі пісьмовай мовы; 2) правілы пунктуацыйнага афармлення пісьмовага тэксту; 3) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца заканамернасці сістэмы пунктуацыі і нормы выкарыстання знакаў прыпынку.

Пунктуацыя як з’ява пісьма – гэта сукупнасць знакаў прыпынку з уласцівымі ім асаблівасцямі і характарыстыкамі. Як лінгвістычная дысцыпліна пунктуацыя апісвае гэтыя знакі, іх функцыі і выпрацоўвае правілы іх выкарыстання.

У цэлым пунктуацыя – гэта дапаможная частка пісьма. Яе асноўнае прызначэнне – упарадкаванне, структураванне пісьмовага тэксту: графічны падзел тэксту на семантыкасінтаксічныя часткі і іх аб’яднанне ў адзінае цэлае.

У аснове сучаснай беларускай пунктуацыі ляжаць наступныя прынцыпы: лагічны, або сэнсавы, (роля пунктуацыі для разумення пісьмовага тэксту), сінтаксічны (роля пунктуацыі ў сінтаксічнай будове пісьмовага тэксту) і інтанацыйны (роля пунктуацыі як паказчыка рытмамелодыкі маўлення).

Правілы пісьма забяспечваюць правільную перадачу зместу паведамлення і правільнае разуменне напісанага. Таму выключна важнае значэнне мае стабільнасць, устойлівасць правапісных нормаў і правіл. Разнабой у правапісе стварае складанасці ў пісьмовых зносінах і перашкаджае ў рэалізацыі камунікацыйнай функцыі мовы.

У беларускай лінгвістыцы даследаванням правапісу прысвечаны навуковыя працы А. Булыкі, Л. Бурака, І. Гапоненкі, В. Іўчанкава, Я. Камароўскага, Г. Клюсава, У. Куліковіча, А. Лукашанца, Л. Сямешкі, А. Юрэвіча і інш.



# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ АРФАГРАФІЯ

## Раздзел 1. З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

Сучасная сістэма беларускіх арфаграфічных правіл сфарміравалася ў выніку складанага гістарычнага развіцця. У агульным працэсе яе станаўлення можна вылучыць 5 асноўных перыядаў, якія адрозніваюцца: а) сваёй працягласцю; б) інтэнсіўнасцю працякання норматворчых працэсаў; в) прыярытэтам у адборы моўных фактаў (арыентацыя на рэсурсы роднай мовы або збліжэнне з сістэмамі іншых моў):

- ✓I перыяд (падрыхтоўчы): XIX ст. – 1918 г.;
- ✓II перыяд: 1918 г. – 1933 г.;
- ✓III перыяд: 1933 г. – 1959 г.;
- ✓IV перыяд: 1959 г. – 2010 г.;
- ✓V перыяд: з 2010 г.

Названыя перыяды характарызуюцца сваёй спецыфікай і могуць падзяляцца на шэраг этапаў. Разам з тым кожны з перыядаў з’яўляецца цэласным адлюстраваннем мэтанакіраванага ўздзеяння грамадства на мову і падаецца аднолькава важным у агульным працэсе станаўлення беларускага правапісу ў яго сучасным выглядзе.

### I перыяд (XIX ст. – 1918 г.)

У аснове правіл беларускай арфаграфіі ляжаць правапісныя традыцыі агульнаўсходнеславянскай мовы, што грунтаваліся на фанетычным прынцыпе. Элементы старажытнарускага правапісу выкарыстоўваліся ў беларускай пісьменнасці XIV–XVI ст. У канцы XVI ст. у беларускім правапісе ўсталяваўся

гісторыка-этымалагічны прынцып. Разам з тым на працягу XVI–XVII ст. склаліся новыя тэндэнцыі, звязаныя з пераагучваннем літар алфавіту ў адпаведнасці з жывым беларускім вымаўленнем. Вынікам гэтага стала суіснаванне некалькіх арфаграфічных варыянтаў адных і тых жа слоў. Так, у «Аповесці пра Баву» (беларускі пераклад – XVI ст.) сустракаем: *вдаръ* і *ударъ*, *вмеръ* і *умеръ*, *втекъ* і *утекъ*.

З пачатку XIX ст. у беларускай мове пашыраецца фанетычны (фанематычны) прынцып напісання. Напрыклад, у ананімных паэмах «Энеіда навыварат» (надрук. у 1845 г.) і «Тарас на Парнасе» (надрук. у 1889 г.) адлюстраваны такія асаблівасці беларускага вымаўлення, як аканне (*паклон*, *чаунок*), дзеканне і цеканне (*дзе*, *будзеце*, *уцякли*), наяўнасць гука **ў** (*Саука*, *казау*) і інш.

З сярэдзіны XIX ст. пачалося станаўленне тэорыі беларускай арфаграфіі – найперш у даследаваннях па беларускай граматыцы П. Шпілеўскага і К. Нядзвецкага. Фарміраванню арфаграфічных нормаў садзейнічала навуковая распрацоўка беларускай мовы на пачатку XX ст. Я. Карскім.

Канец XIX – пачатак XX ст. стаў прамежкавым, пераходным этапам паміж кніжнай мовай XIV–XVIII стст. і беларускай літаратурнай мовай XX ст. З-за адсутнасці прамой пераемнасці ў пісьмовым працэсе беларускія арфаграфічныя нормы на гэтым этапе давялося не адраджаць, а фактычна ствараць нанава. Станаўленне новага правапісу мела дынамічны характар і праходзіла галоўным чынам стыхійна, непасрэдна ў практыцы кнігадрукавання.



У гэты перыяд у беларускай арфаграфіі акрэсліліся наступныя тэндэнцыі:

- ✓ арыентацыя на агульнанацыянальныя сродкі;
- ✓ пашырэнне фанетычнага прынцыпу пры напісанні галосных (у выніку чаго дастаткова паслядоўна адлюстроўвалася аканне) і некаторых зычных (перадавалася дзеканне, цеканне, цвёрдасць шыпячых і ***р***, падаўжэнне зычных, пераход ***л*** і ***в*** у ***ў***: *дарагі, нажыў, далоў, доўга*;
- ✓ у адпаведнасці з марфалагічным прынцыпам стабільна не перадавалася асіміляцыя па глухасці-звонкасці і шыпячасці-свісцячасці, нязменна пісаліся некаторыя спалучэнні на стыках кораня і суфікса: *сьведкі*, *дарожка*, *лодка*, а таксама прыстаўкі і прыназоўнікі на ***б***, ***д***: *абсыхае*, *адказаў*.



## II перыяд (1918–1933 гг.)

Праблемы ўнармавання граматычнага ладу і арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы неаднаразова ўздымаліся ў пачатку XX ст. беларускімі пісьменнікамі, выдаўцамі, грамадскімі дзеячамі – Ф. Багушэвічам, А. Грыневічам, Якубам Коласам, Янкам Купалам, А. Пашкевіч і інш.

Першыя спробы стабілізацыі беларускага правапісу рабіліся ў асноўным у межах граматыкі. Вынікам стала выданне шэрагу арыгінальных прац Антонам Луцкевічам («Jak prawilna pisać pa biełarusky», Вільня, 1917), Браніславам Пачобкам («Hramatyka biełaruskaj mowy», Вільня, 1918), Янам Станкевічам і Антонам Луцкевічам («Biełaruski prawapis», Вільня, 1918), Рудольфам Абіхтам і Антонам Луцкевічам («*pròsty spòsab stàcca ŭ karòtkim càse hràmatnym»,* Брэслаў, 1918), Аленай Смоліч («Зорка. Беларуская граматыка», Вільня, 1919). Гэтыя дапаможнікі вызначаліся схематызмам у распрацоўцы пытанняў правапісу, недасканаласцю граматычнай тэрміналогіі і не аказалі істотнага ўздзеяння на стан літаратурнай мовы ў цэлым. Аднак яны адыгралі станоўчую ролю ў нармалізацыі беларускай графікі і правапісу.

Праца Браніслава Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ» (Вільня, 1918; 7-е, факсім. выд. Мінск, 1991) стала першым выданнем, у якім навукова карэктна асвятляліся такія нераспрацаваныя галіны беларускага мовазнаўства, як фанетыка, граматыка, словаўтварэнне і сінтаксіс.

Граматыка была напісана з захаваннем лепшых традыцый тагачаснага ўсходнеславянскага мовазнаўства і апорай на даследаванні акадэмікаў А. Шахматава і Я. Карскага.

Пры ўкладанні правіл правапісу і граматыкі Б. Тарашкевіч кіраваўся фанетыка-граматычнымі асаблівасцямі сярэднебеларускіх гаворак. Ён замацаваў фанетычны прынцып для напісання галосных (перадача акання / якання) і марфалагічны – для перадачы зычных (за некаторым выключэннем на карысць фанетычнага прынцыпу, напрыклад, пры адлюстраванні дзекання, цекання, зацвярдзелага ***р***, прыстаўных гукаў, асіміляцыйнай мяккасці). Словы іншамоўнага паходжання Б. Тарашкевіч прапанаваў пісаць у адпаведнасці з іх вымаўленнем у той мове, з якой яны былі запазычаны: *лёзунг*, *Пэрсія*, *катэдра*. Акрамя таго, аўтар распрацаваў правапіс запазычаных слоў у адпаведнасці са ступенню іх асвоенасці ў беларускай мове.

Для замацавання правіл прапаноўваліся заданні з тэкстамі, узятымі з беларускіх мастацкіх твораў.

Такім чынам, дзякуючы «Беларускай граматыцы для школ» быў ліквідаваны частковы разнабой у школьным навучанні, выдавецкай і навуковай дзейнасці. Праўда, шэраг важных праблем у напісанні запазычаных лексем, складаных слоў, уласных найменняў не атрымалі свайго сістэмнага вырашэння.

На тэрыторыі Савецкай Беларусі правапіс Б. Тарашкевіча ўпершыню папулярызаваўся Язэпам Лёсікам у яго «Практычнай граматыцы» (Мінск, 1922,






ч. 1). Нормы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі развівалі таксама і многія іншыя аўтары школьных падручнікаў і граматык беларускай мовы 1920–1930-х гг. (А. Багдановіч, Н. Шэўчык і А. Саломенік, І. Пратасевіч і І. Самковіч, В. Рэверэлі і Р. Папіш і інш.).

У лістападзе 1926 г. у Мінску прайшла Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі, удзел у якой прынялі каля 70 беларускіх і замежных навукоўцаў, выкладчыкаў, грамадскіх дзеячаў. У тым ліку: П. Бузук, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, (БССР); П. Растаргуеў, П. Гарчынскі, Ю. Лазарэвіч (Расія); К. Німчынаў (Украіна); М.-Ю. Фасмер (Германія); В. Ластоўскі, М. Біржышка (Літва), Е. Блесэ, К. Езавітаў, В. Пігулеўскі (Латвія), У. Жылка (Чэхія) і інш. На канферэнцыі грунтоўна абмяркоўваліся найбольш вострыя і спрэчныя пытанні беларускага правапісу: перадача акання / якання ў словах іншамоўнага паходжання, выкарыстанне мяккага знака для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных (напісанні тыпу *сьнег, зьзяць, дзьве, калосьсе*), пераход на лацініцу і мн. інш.

Даклады, прысвечаныя правапісу, былі абмеркаваны ўдзельнікамі канферэнцыі, а асноўныя ідэі адносна рэфармавання арфаграфіі сістэматызаваліся

спецыяльна створанай у кастрычніку 1927 г. Правапіснай камісіяй (С. Некрашэвіч, А. Багдановіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі, П. Бузук, І. Бялькевіч, І. Луцэвіч (Янка Купала), У. Чаржынскі).

Камісія правяла звыш 30 пасяджэнняў, у выніку якіх быў падрыхтаваны «Беларускі правапіс (проект)» (Мн., 1930). Яго асноўныя палажэнні:

✓ не пашыраць фанетычны прынцып на напісанне зычных;
✓ галосныя няверхняга пад'ёму пасля мяккіх зычных перадаваць на пісьме праз ***я*** толькі ў першым складзе перад націскам;
✓ часціцу ***не*** і прыназоўнік ***без*** перадаваць нязменна;
✓ словы ***няма*** і ***няхай*** перадаваць праз ***я***;
✓ гукі ***й*** і ***ў*** у пачатку слоў, а таксама пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны, перадаваць з дапамогай літар ***і*** і ***ў*** адпаведна.

Ва ўмовах нарастання палітычных рэпрэсій гэты праект не быў зацверджаны, а замест яго калектывам супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук быў падрыхтаваны новы «Проект спрашчэньня беларускага правапісу» (Мн., 1933). У істотна перапрацаваным і абагульненым выглядзе ён быў замацаваны пастановай СНК БССР «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу» 26 жніўня 1933 г.

У прэамбуле да гэтай пастановы адзначалася, што змены ў існуючы правапіс уносяцца з мэтай «палягчэньня шырокім працоўным масам вывучэньня беларускай пісьменнасьці, аслабаненьня школы ад непрадукцыйнай працы пры вывучэньні беларускага правапісу, з мэтай далейшага разьвіцьця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкаваньня беларускага правапісу задачам выхаваньня працоўных мас у духу пралятарскага інтэрнацыяналізму».



Асноўныя змены заключаліся ў наступным:

✓ абмяжоўваўся фанетычны прынцып правапісу:
  - аканне ў «інтэрнацыянальна-рэволюцыйных словах» і вытворных ад іх не перадавалася: *пролетарыят*, *соцыялізм*, *соўгас*, *комсамол*;
  - іншамоўныя ўласныя назвы перадаваліся ў адпаведнасць з іх правапісам у мове-донары і не падпарадкоўваліся аканню: *Шэўчэнка, Тэрэшчэнка, Постышэў, Егор'еўск, Белінскі, Владзівасток, Орджанікідзе, Жэлезноў*;
  - у часціцы ***не*** і прыназоўніку ***без*** нязменна пісалася літара ***е***: *без меры, не без вынікаў*;

✓ пашырыўся марфалагічны прынцып на правапіс зычных:
  - ліквідавалася абазначэнне на пісьме асіміляцыйнай мяккасці: *смех, збег, жыццё*;
  - уводзілася нязменная перадача на пісьме спалучэнняў ***дс, жс, зс, кс, шс*** на стыку апошняга зычнага кораня з суфіксальным ***с***: *выбаргскі, чэшскі, французскі*;
  - не перадавалася цвёрдасць зычных перад галоснымі пярэдняга рада ў словах іншамоўнага паходжання: *марксізм, сістэма, універсітэт* і інш.

На аснове пастановы Савета Народных Камісараў 1933 г. Інстытут мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук падрыхтаваў і выдаў (пад кіраўніцтвам А. Александровіча) «Правапіс беларускай мовы» (Мн., 1934).

Правапіс утрымліваў звыш 80 правіл, згрупаваных у наступных раздзелах: «Фанетыка»; «Правапіс слоў іншамоўнага паходжання»; «Правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў»; «Марфалогія»; «Правапіс адмоўяў, прыназоўнікаў і прыставак»; «Вялікая і малая літара».

У навуковай літаратуры пастанова «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» не атрымала аднязначнай ацэнкі, аднак большасць навукоўцаў сыходзяцца ў тым, што яна: а) стала першым дзяржаўным актам, які афіцыйна замацаваў правілы беларускай арфаграфіі; б) выйшла па-за межы ўласна правапісу і істотна закранула фанетыку, граматыку і нават лексіку беларускай мовы.

## III перыяд (1933 г. – 1959 г.)

Рэформа 1933 г. у многім была непадрыхтаванай і паспешлівай, што пацвярджаецца выхадам у снежні 1933 г. пастановы Савета Народных Камісараў «Аб дадатках і папраўках да пастановы СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», а пра патрэбу далейшага ўдасканалення арфаграфіі ў канцы 1930-х гг. пачаў настойліва пісаць рэспубліканскі друк. Так, у газетах «Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва» публікаваліся выказванні і меркаванні па праблемах правапісу беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, настаўнікаў, прадстаўнікоў шырокай грамадскасці.

У выніку ў 1940 г. Камісарыят асветы стварыў Правапісную камісію, але яе працы перашкодзіў пачатак ваенных дзеянняў.

Пасля вайны праца па ўпарадкаванні беларускай арфаграфіі і пунктуацыі аднавілася. У 1951 г. Арфаграфічнай камісіяй на чале з Якубам Коласам быў падрыхтаваны праект змяненняў беларускага правапісу, вытрыманы ў кірунку далейшага збліжэння беларускай мовы з рускай (напрыклад, прапаноўвалася поўнасцю адмовіцца ад перадачы якання). Аднак пасля грамадскага абмеркавання праект быў адхілены.




У маі 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу», якая ў пэўнай ступені ішла насуперак русіфікацыйнай палітыцы. У пастанове адзначалася, што «асобныя правілы арфаграфіі з'яўляюцца недасканалымі і таму не могуць служыць цвёрдым крытэрыем для адзінага і паслядоўнага напісання», і прапаноўваліся наступныя змены:

- ✓ напісанне ***а*** на месцы ***о*** не пад націскам пашыралася на ўсе словы, незалежна ад іх паходжання (за выключэннем слоў тыпу трыо, Антарыо): *рэвалюцыя, савет, Арджанікідзе*;
- ✓ уводзілася напісанне ***а*** (***я***) у першым складзе перад націскам ва ўласных назвах славянскага паходжання (а таксама ў даўно запазычаных – неславянскага): *Дзяніс, Пячора, Шаўчэнка*;
- ✓ пашыралася адлюстраванне дзекання і цекання пры перадачы на пісьме ўласных найменняў: *Цімафееў* замест *Тімафееў*;
- ✓ сістэматызаваўся правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа, складаных слоў, падоўжаных зычных, асобных формаў назоўнікаў, дзеясловаў і лічэбнікаў.

У адпаведнасці з названай пастановай Інстытут мовазнаўства АН БССР падрыхтаваў «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959), якія сталі першай спробай стварэння поўнага зводу беларускага правапісу. Яны былі распрацаваны калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам акадэмікаў К. Атраховіча (Кандрата Крапівы) і П. Глебкі. У складанні «Правіл» прымалі ўдзел вядомыя беларускія лінгвісты М. Булахаў, П. Гапановіч, М. Лобан, М. Суднік, П. Шуба. Даведнік змяшчаў 240 правіл беларускага правапісу, згрупаваных па наступных раздзелах: «Правапіс галосных»; «Правапіс зычных»; «Правапіс мяккага знака і апострафа»; «Аб напісанні разам і праз злучок (дэфіс)»; «Ужыванне вялікай літары»; «Складанаскарочаныя словы, літарныя абрэвіятуры і графічныя скарачэнні»; «Правілы пераносу»; «Правілы пунктуацыі».

Аднак і ў новых «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» засталося шмат нявырашаных праблем і супярэчнасцей, што абумовіла вялікую колькасць выключэнняў.

## IV перыяд (1959–2010 гг.)

Для практычнай рэалізацыі Пастановы Савета Міністраў 1957 г. было неабходна ажыццявіць выданне акадэмічных граматык, нарматыўных слоўнікаў, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для ўніверсітэтаў і школ па беларускай мове. Істотную ролю ў станаўленні правапісных нормаў беларускай літаратурнай мовы ў 1950–1980-я гг. адыгралі: «Беларуска-рускі слоўнік» (Мн., 1962), «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (Мн., 1987), «Граматыка беларускай мовы» (Мн., 1962–1966), «Беларуская граматыка» (Мн., 1985–1986), дапаможнікі Я. Камароўскага «Беларускі правапіс (Мн., 1965 і пазнейшыя перапрацаваныя выданні), Г. Клюсава і А. Юрэвіча «Сучасная беларуская пунктуацыя» (Мн., 1966), кнігі Л. Бурака «Пунктуацыя беларускай мовы» (Мн., 1969), «Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы» (Мн., 1980) і інш.

Аднак у гэты час развіццё беларускай літаратурнай мовы было ў многім абумоўлена ўздзеяннем сістэмы рускай літаратурнай мовы, што знаходзіла сваё адлюстраванне ў нарматыўных слоўніках і граматыках.




Пасля прыняцця Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» (1990 г.) і набыцця Беларуссю дзяржаўнага суверэнітэту зноў паўстала пытанне аб рэфармаванні існуючага правапісу. У жніўні 1993 г. была прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб удасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы», у адпаведнасці з якой стваралася Дзяржаўная камісія па ўдакладненні беларускай арфаграфіі. У яе склад уваходзілі Янка Брыль, Н. Гілевіч (старшыня), А. Булыка,



В. Зуёнак, А. Клышка, А. Крывіцкі, В. Лемцюгова, І. Лепешаў, Г. Малажай, А. Міхневіч, І. Навуменка, А. Падлужны, Б. Сачанка, Л. Сухнат, Г. Цыхун, Л. Шакун, П. Шуба, М. Яленскі, А. Яскевіч, М. Яўневіч.

Дзяржаўная камісія прызнала, што існуючыя правілы беларускага правапісу ў цэлым забяспечваюць функцыянаванне пісьмовай мовы ва ўсіх сферах выкарыстання, не патрабуюць кардынальных змен, і рэкамендавала Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», дзе былі б улічаны выказаныя прапановы, а таксама патрэбы моўнай практыкі. У прыватнасці, было рэкамендавана:

- ✓ пашырыць фанетычны прынцып пісьма як у лексіцы спрадвечна беларускай (напісанне мяккага знака для перадачы асіміляцыйнай мяккасці, падпарадкаванне правілу якання слоў тыпу *дзевяты*), так і ў словах іншамоўнага паходжання (перадача канцавых спалучэнняў ***-эр***, ***-эл(ь)*** у ненаціскным становішчы праз ***-ар***, ***-ал(ь)***;
- ✓ напісанне ***ў*** у выпадках тыпу *ва ўніверсітэце, правесці ўніфікацыю*;
- ✓ пашырыць напісанне мяккага знака: *сьведчыць*, *астраханьскі*, *разьюшаны* і інш.

У 1997 г. быў створаны калектыў па распрацоўцы правіл арфаграфіі і пунктуацыі (А. Падлужны, А. Крывіцкі, А. Міхневіч, А. Цясевіч, П. Шуба, М. Яўневіч). які на працягу 1997–1998 гг. падрыхтаваў праект новай рэдакцыі «Правіл». Аднак праца была ў цэлым негатыўна ацэнена грамадскасцю (артыкулы А. Каўруса, Д. Паўлаўца, П. Сцяцко, водгукі кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ і інш.).

Канчатковы варыянт новай рэдакцыі «Правіл» распрацавала рабочая група пад кіраўніцтвам А. Лукашанца і В. Іўчанкава, якая была створана ў студзені 2008 г. Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Вынікам такой шматгадовай падрыхтоўкі стала падпісанне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 23 ліпеня 2008 г. Закона «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», які ўступіў у дзеянне з 1 верасня 2010 г.




У адпаведнасці з Законам дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць або часова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі ва ўсіх сферах і пры выкарыстанні на пісьме беларускай мовы.

Асноўныя наваўвядзенні ў сферы беларускага правапісу наступныя:

✓ напісанне ***а*** ў корані складанаскарочаных слоў тыпу *газпр**а**м*, *выканк**а**м*, *прафк**а**м*;
✓ напісанне ***а*** ў ненаціскным становішчы на канцы запазычаных слоў тыпу *адажы**а***, *імпрэсары**а***;
✓ напісанне ***а*** над націскам у фіналях запазычаных слоў: *грэйд**а**р*, *лід**а**р*, *камп'ют**а**р*, *шніц**а**ль*;
✓ пашырэнне напісання ***я*** ў першым складзе перад націскам: *дз**я**вяты*, *с**я**мнаццаць*, *пяцьдз**я**сят*;
✓ пашырэнне напісання ***ў*** у словах іншамоўнага паходжання: *для **ў**ніята*, *ва **ўніверсітэце***, *раўнд*;
✓ пашырэнне напісання прыстаўкі ***су-*** ў словах са значэннем сумеснасці, узаемнай сувязі з тым, што названа матывавальнай асновай: *суграмадзянін*, *суродзіч*, *сунаймальнік*, *супалімер*;






✓ пашырэнне ўжывання суфікса ***-ава-*** (***-ява-***) у дзеясловах і адпаведных аддзеяслоўных назоўніках: *анатаваць*, *забетанаваць*, *рэтушаванне*;
✓ пашырэнне ўжывання вялікай літары ў назвах органаў дзяржаўнай улады, вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасад, а таксама ў назвах знамянальных падзей і дат: *Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Далай-Лама; Нараджэнне Хрыстова, Дзяды*;
✓ спрашчэнне правіл пераносу: *дзя-цінства, дзя-цін-ства, дзя-цінс-тва, дзя-цінст-ва* і інш. (усяго каля 20).




Беларускімі лінгвістамі праводзіцца актыўная праца па рэалізацыі Закона «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»: складаюцца слоўнікі, распрацоўваюцца падручнікі і дапаможнікі. Так, падрыхтаваны і выдадзены «Беларускі арфаграфічны слоўнік» (Мінск, 2009) і «Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы» (Мінск, 2009) Л. Кунцэвіч і І. Кандрацені, «Современный русско-белорусский словарь для школьников» В. Нікалаевай і Т. Трухан (Мінск, 2009), «Слоўнік сучаснай беларускай мовы» У. Завальнюка, М. Прыгодзіча, В. Рамանцэвіч (Мінск, 2009), «Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя» (Мінск, 2009), «Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы для школьнікаў» І. Капылова і Т. Маракулінай (Мінск, 2010) і інш.



**Практыкаванне № 1.** Пазнаёмцеся з падыходам Б. Тарашкевіча да праблемы рэфармавання правапісу, выкажыце сваё меркаванне адносна сфармуляваных аўтарам ідэй.

«Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласьці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў (морфолёгія).

Адпаведныя праекты павінны быць апрацаванымі паасобнымі адзінкамі, але прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыцьцё аўторытэтам культурных устаноў. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на сьмех.

Горш за тое: непавязаныя, паасобныя зьмены *«на лепшае»* могуць заграмазьдзіць і загарадзіць дарогу да запраўды *добрай* рэформы».

(«Беларуская граматыкі для школ», Вільня, 1929)

**Практыкаванне № 2.** Прачытайце ўрывак з эсэ Ігната Абдзіраловіча «Адвечным шляхам» (Вільня, 1921). Зрабіце аналіз арфаграфічных асаблівасцей тэксту.

«На беларускую справу прызвычаіліся глядзець як на нешта надта нявыразнае, нявызначанае, ня маючае ў сабе духу жывога, каторы можа даць беларусам права на законнае сярод іншых народаў істнаваньне. Ў нявыразнасьці беларускай культуры хочуць бачыць духовую сьмерць народу, яго няздольнасьць вызначыць свой ўласны ідэал. Фармальна мы павінны згадзіцца, што ў нас неакрэсьлена культура, што ў нас смутны гістарычныя шляхі, але ў гэтым ня можна бачыць духовай беднасьці нашага народу, яго няздольнасьці ўласным крокам ісьці да вытварэньня ўласных формаў жыцьця, – не, жыцьцёвыя акалічнасьці даводзяць аб іншым, што навет меней здольныя, меней сільныя народы вытварылі культурна-вызначанае жыцьцё.



Калі беларускі народ не стварыў выразнай культуры, дык гэта дзеля таго, што ў гістарычнай спадчыне яго была вялікая трагэдыя народнага духу, якую перажыць выпала толькі двумтром эўрапэйскім народам: Беларусь ад X веку і да гэтай пары фактычна зьяўляецца полем змаганьня двох кірункаў эўрапэйскай, пеўна арыйскай, культуры – заходняга і ўсходняга. Граніца абодвых уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Ўкраіну і хаваецца ў балканскіх краёх».

**Практыкаванне № 3**. Прачытайце ўрывак з падручніка П. Юргелевіча «Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі» (Мн., 1974). Ці можна пагадзіцца з ацэнкамі і прапановамі лінгвіста?

«У выніку рэформы правапісу 1933 г. беларуская літаратурная мова вызвалілася ад вузкадыялектных і архаічных формаў, што зрабіла яе больш блізкай і зразумелай народу <…>.

Аднак яна была праведзена не зусім паслядоўна.

Так, суфіксы *-ск-*, *-ств-* пасля гука *д* пісаліся паводле марфалагічнага прынцыпу: *грамада – грамадскі – грамадства*, а напісанне тых жа суфіксаў пасля гука *т* заставалася фанетычнае: *брат – брацкі – брацтва*. А гэта з'явы аднаго і таго ж парадку <…>. Відавочна, гэтая з'ява патрабуе уніфікацыі, г. зн. аднолькавай перадачы яе і на пісьме.

Другім прыкладам непаслядоўнасці ў правядзенні марфалагічнага прынцыпу пісьма можа служыць ужыванне *ў* у пачатку слоў і змяненне прыназоўніка *у* на *ў*, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны гук: *была ў брата*, *добры ўнук*, у той час як злучнік *і* і *і* ў пачатку слоў у аналагічным становішчы працягвалі пісацца марфалагічна: *сястра і брат*, *доўга ішлі*. На нашу думку, і гэта з'ява патрабуе уніфікацыі, г. зн. напісання *у* складовага ў пачатку слоў і прыназоўніка *у* незалежна ад таго, на які гук канчаецца папярэдняе слова: *была у брата*, *добры унук*».

# Раздзел 2. ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ

## § 1. Правапіс галосных о, э, а

1. Літары ***о, э*** ў беларускай мове пішуцца пад націскам: *до́м, ко́лас, о́пера, рэ́кі, сэ́рца, жэ́мчуг, арэ́нда.* Незалежна ад паходжання слова ў ненацiскным становішчы яны чаргуюцца з ***а***: *дамы́, каласы́, рака́, сардэ́чны, жамчу́жына, арандава́ць, Чалю́скін, Шаўчэнка, ада́жыа, трыа́, кака́ва, сальфе́джыа, партфо́ліа, То́кіа, Ватэрло́а, Анта́рыа, Бака́чыа.*

2. У словах са складамі ***ро, ло*** не пад націскам пішацца ***ы***: *гло́тка – глыта́ць, гро́м – грымо́ты.*

3. Перадача на пісьме ***э*** ў запазычаных словах у ненаціскных складах вызначаецца наступнымі правіламі:

✓ у адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем пачатковы ***э*** захоўваецца на пісьме: *эвалю́цыя, экра́н, экспазі́цыя, экспрэ́сія, этажэ́рка;* у другой частцы складанага слова, пасля прыставак таксама пішацца літара ***э***: *трохэлеме́нтны, праэкзаменава́ць*;

✓ пасля шыпячых, цвёрдых ***р***, ***д***, ***т***, ***ц*** пішацца ***э***: *ветэра́н, гардэро́б, жэлаці́н, рэфо́рма, тэа́тр, тэрмоме́тр;* напісанне ***э*** і ***а*** пасля іншых зычных вызначаецца па слоўніку: *панэ́ль* (☝ **але** *шыне́ль*).

4. Ненаціскныя фіналі ***-эль, -ар*** у іншамоўных словах перадаюцца як ***-аль***, ***-ар***: *ада́птар, ба́ртар, камп'ю́тар, магі́стар, пры́нтар, шпа́таль, шні́цаль* (☝ **але**: *ска́нер).* Ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання ненаціскныя фіналі ***-эль, -ар*** перадаюцца нязменна: *Вінчэ́стэр, Га́ры По́тэр, Ге́ндэль, Манчэ́стэр, Ры́хтэр, Юпі́тэр.*





✎ **Практыкаванне № 4.** Прачытайце, растлумачце правапіс ***о***, ***э***, ***а***. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Рамонт, чароўна, рэдакцыя, рэкі, холад, дрывасек, застрэшак, адажыа, бурымэ, бартар, дровы, характар, Токіа, поплаў, эпоха, эпітэт, полымя, Рыа-дэ-Жанэйра, жэтон, лідар, Гендэль, сканер, рачулка, шэрань, ордэн, праэкзаменаваць, Жэнева, правайдар, бавоўна, латарэя, сальфеджыа, энцыклапедыя, Шаўчэнка, сэрца, партфоліа, камп'ютар, лазовы, Чалюскін, рэзюмэ.

✎ **Практыкаванне № 5.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх ***о***, ***э***, ***а***.

Дровосек, ремонт, Горацио, винчестер, монолог, концерт, купе, Хосе, желатин, Онтарио, шестёрка, эксперемент, жолудь, академический, сольфеджио, реформа, шницель, целлюлоза, речной, бровь, желтоватый, Эстония, канапе, Токио, тема, катер, гендерность, облако, лидер, сканер, Череповец, телефон, похолодание, трио, Макао, галифе.

## § 2. Правапіс галосных *е*, *ё*, *я*

1. Літара ***ё*** пішацца пад націскам: *вёска, дзённік, мёд, мёрзлы, сёмга.* У першым складзе перад націскам замест літар ***е, ё*** пішацца ***я***: *мёд – мядо́вы, дзе́вяць – дзявя́ты, дзе́сяць – дзяся́ты, сем – сямна́ццаць, восе́м – васямна́ццаць.*

2. Ва ўсіх іншых ненаціскных скаладах ***е*** захоўваецца: *верацяно, вечары́на, дзевятна́ццаты.* Літара ***ё*** ў ненаціскным складзе пішацца ў словах з коранем ***ёд-*** і ***ёт-***: *ёдаме́трыя, ётава́ны.*

3. У імёнах, прозвішчах, геаграфічных назвах славянскага паходжання, а таксама ў даўно запазычаных словах у першым складзе перад націскам замест ***е*** пішацца літара ***я****: Нясві́ж, Бялы́нічы, Сярге́й, калянда́р, сяржа́нт.*

4. Пасля заднеязычных ***г, к, х*** у першым пераднаціскным складзе захоўваецца ***е****: гепа́рд, герба́рый, Герма́нія, кефі́р, Херсо́н.*

5. Літара ***я*** пішацца ў каранях некаторых слоў: *мякка-ва́ты, цягаві́та, по́яс, ме́сяц, за́яц.*

6. Часціца ***не*** і прыназоўнік ***без*** заўсёды пішуцца з літарай ***е***: *не пі́ша, без ме́ры*. Пры напісанні са словамі разам ***не*** і ***без*** становяцца прыстаўкамі і падпарадкоўваюцца правілам перадачы якання на пісьме: *бязлю́дны, бязвы́езна, нявы́хаваны, бездаро́жны, неадкла́дны.*



✎ **Практыкаванне № 6.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

Б…сконцы, м…д, кал…ндар, дз…сяты, к…фір, б…тон, Г…ракл, з…л…наваты, сц…на, вас…мнаццаць, зар…чча, бал…рына, Х…рсон, дз…сятка, ц…ц…рук, ц…гавіты, б…здарожны, Б…рлін, м…даль, с…ржант, Б…тховен, аб…ліск, Ал…ксей, м…тровы, паўдз…сятка, б…злессе, г…рбарый, вос…мдз…сят, с…кунда, дз…с…ць, н…пісьменны, св…ткаваць.

✎ **Практыкаванне № 7.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх літар ***е, ё, я***.

Берёзка, генерал, пятьдесят, ефрейтор, Менделеев, весёлый, восемьсот, спектакль, Европа, бесстрашный, Ершов, семнадцать, металл, Македония, вечер, вельвет, немецкий,



безграничный, аппетит, пятидесятый, Васнецов, пенал, енот, тележка, зеленоватый, методика, молекулярный, беллетристика, Белинский, Версаль.

## § 3. Правапіс галосных у складаных словах

1. У складаных словах можа быць адзін асноўны і адзін або некалькі пабочных націскаў. Калі націск у другой частцы складанага слова на першым складзе, то ў першай частцы замест ***о*** пішацца ***а:*** *вадасхо́вішча, даўгаве́чны, гарналы́жны.* У першай частцы складаных слоў захоўваецца ***о***, калі ў другой частцы слова націск падае не на першы склад: *до̀ўгачака́ны, во̀гнетушы́льны, во̀далячэ́бніца, до̀брасусе́дства.*

2. Лічэбнік ***сто*** ў складаных словах заўсёды мае форму ***ста***: *стагадо́вы, стаметро́ўка, ста́ножка.*

3. Літара ***о*** захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляюцца *слова-, што-, фота-, мота-: словатво́рчасць, словафо́рма, словападзел, словаўжыванне, мотаралі, мотаролер, мотагонка* (☝ **але**: *матацыкл, матавоз* і вытворныя ад іх), *фотаконкурс, фотапартрэт, фотафініш* (☝ **але** *фатаграфія* і вытворныя ад яго).

4. У першай частцы некаторых складаных слоў, асабліва навуковых тэрмінаў, можа праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны на першым складзе другой асновы: *азо̀тнакі́слы, мо̀вазна́ўства, мало̀чнакі́слы.*

5. Літара ***о*** пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** (у нескладовага): *збо̀жжаўбо́рка, маро̀заўсто́йлівы.*

6. Літара ***е*** захоўваецца ў першай частцы складанага слова незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы: *свежазамаро́жаны, белагры́вы*.

7. Калі першай часткай складанага слова з’яўляецца аснова ***велік- (вялік-)***, то ў першай частцы слова пішацца ***е***, калі націскным з’яўляецца першы склад другой часткі: *велікаро́слы, велікагру́зны, велікаду́шны.* Літара ***я*** пішацца, калі націск не на першым складзе: *вялікаакія́нскі, вялікадзяржа́ўны, Вялікабрыта́нія.*

8. Літара ***ё*** захоўваецца ў першай частцы складанага слова пры націску не на першым складзе другой часкі: *лёнаапрацо́ўка, лёгкавыраша́льны, мёдаварэ́нне, цёмнавало́сы.* Замест ***ё*** пішацца ***е***, калі націск падае на першы склад другой часткі: *легкакры́лы, легкара́нены, медано́сны, цемнаво́кі, цемнаску́ры.*



**Практыкаванне № 8**. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

В…дасховішча, т…рфаўборачны, з…мл…коп, м…тавоз, р…дкалессе, в…лам…таспорт, г…рналыжны, ф…такамера, в…даразборны, м…вазнаўства, сл…ватворчасць, ст…гадовы, зерн…сховішча, в…лікасвецкі, в…рацярпімасць, к…нтрмеры, выс…к…частотны, мал…чнакіслы, р…дкалессе, сін…вокі, зб…жжаўборка, м…танакіраваны, ш…сцісоты, св…жавымыты, В…лікабрытанія, л…дарэз, мар…з…ўстойлівы, л…гкаатлет.

**Практыкаванне № 9.** Утварыце ад наступных спалучэнняў слоў складаныя словы. Запішыце іх, растлумачце правапіс галосных.

Тонкі ствол, што і месяц, розны колер, сто працэнтаў, сінія вочы, фосфарны і кіслы, здабыча вугалю, рэдкія зубы, зерне і бабы, роўныя правы, слова і творчасць, убіраць збожжа, дзесяць год, свежы і марозіць, гадаваць коней, высокай пробы, радаснае жыццё, мёд і збіраць, кроў і цячы, востры вугал, вада і лячыць.



## § 4. Правапіс прыстаўных галосных

У беларускай мове ёсць прыстаўныя галосныя ***а, і***. Яны пішуцца перад збегам зычных, першая з якіх ***л, м, р***.

1. Прыстаўны галосны ***а*** пішацца толькі ў некаторых словах: *амшара* (і *імшара*), *аржаны* (і *іржаны*), *аржанішча* (і *іржышча*).

2. Прыстаўны галосны ***і*** пішацца:

- ✓ у пачатку слова перад збегам зычных, першая з якіх ***м***: *імжысты, імклівасць, імшысты*;
- ✓ перад ***л, р*** пішацца тады, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны, пасля знаку прыпынку ці ў пачатку сказа: *навокал імгла, пах ільну.* Калі слова з такім спалучэннем стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосны ці перад ім няма знаку прыпынку, то прыстаўная ***і*** не пішацца: *атрыманыя льготы, маладая львіца.*

3. Прыстаўныя ***а, і*** не пішуцца пасля прыставак і першай часткі складаных слоў, якія заканчваюцца на галосную: *заржаве́ць, замшэ́лы, вокамгне́нна.*



**Практыкаванне № 10.** Спішыце, устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары, растлумачце іх правапіс.

Скасіць …ржышча, за…ржавець, на …льнозаводзе, …рваліся бомбы, восеньская …мгла, па…мкнуцца, напружана-трывожнае …ржанне каня, пад …льдзінай, за…мглёны, …льготны білет, у …ржышчы, усё навокал …рвецца, над …лбом, вялікая …льдзяная лужына, вока…мгненна, стары …мшалы тын, гронкі рабіны …рдзелі, густая …мжа, за…мгліцца, гэта …мгненне, …ржаны хлеб.

**Практыкаванне № 11.** Запішыце сказы, устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс прыстаўных галосных.

1. Азалаціла восень поле …ржышчам, дрэвы лісцем, гумны снапамі (Кузьма Чорны). 2. Часам па цэлым кіламетры рассцілалася дарога роўным, нібы выбеленым, …льняным палатном (Якуб Колас). 3. Унізе …мгліліся прысады ў тумане (Кузьма Чорны). 4. За акном праляталі неспакойныя …рваныя кудлы дыму з паравоза (І. Мележ). 5. Па леташнім …ржышчы вядзе ў бярэзнік свежы след (І. Навуменка). 6. Накрыла ясны твар дзявочы задумы сумная …мгла (М. Багдановіч). 7. На плюшнік, на круглыя лісты лотаці пырскае разрэджаны торф і жоўтая …ржа (А. Кулакоўскі). 8. За пшаніцай, за пахам …льну спыніўся недзе ў полі трактар (Янка Брыль). 9. …ржуць коні, калёсы скрыпяць ад Дона да Буга (Янка Купала). 10. Вецер …рве і носіць зычны водгаласак (Кузьма Чорны). 11. Андрэй прыпыніўся і аглядаў ствалы дрэў, каб па …мшэлых баках пазнаць, дзе поўнач (П. Пестрак). 12. Бялела на лугавінах разасланая …льнотраса, побач чарнелі квадраты ўзаранага …ржышча (Т. Хадкевіч). 13. Атрыманыя …льготныя крэдыты дазволілі шматдзетным сем'ям палепшыць жыллёвыя ўмовы (Звязда). 14. Дзе коратка, там …рвецца (Прыказка). 15. …мжэў надакучлівы асенні дождж (А. Марціновіч). 16. На Гэлю глядзелі за…мшэлыя выварaты і дуплаватыя дубы (С. Грахоўскі). 17. Добры кавалак сала ляжыць на возе на чыстай белай торбе побач з ладным акрайцам …ржанога хлеба (А. Якімовіч). 18. Сцюдзёная …льдзінка на бярозе гарыць халодным сінявaтым святлом (М. Лынькоў). 19. Люблю прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора …ржаных каласоў (Якуб Колас).



## § 5. Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах

Большасць запазычаных слоў пішуцца згодна з правіламі беларускай арфаграфіі. У некаторых іншамоўных словах спалучэнні галосных захоўваюцца нязменна.

1. Спалучэнні ***іо, йо***, калі яны вымаўляюцца як два склады, перадаюцца на пісьме:

✓ у пачатку слова – літарамі ***іо*** пад націскам: *іо́н, іднаабме́н, Іо́сіф,* а літарамі ***іа*** не пад націскам: *іаніза́тар, іанасфе́ра, Іані́чнае мора*;

✓ у сярэдзіне слова – пад націскам літарамі ***іё*** (***ыё***): грацыёзны, аксіёма, геліёграф, рацыён, не пад націскам – літарамі ***ія*** (***ыя***): *патрыяты́зм, ажыята́ж, дыядэ́ма*.

Калі спалучэнні ***іо, йо*** вымаўляюцца як адзін склад, то на пачатку слова яно перадаецца праз ***ё***: *ёгурт, ёд, ётавы, Нью-Ёрк*. У сярэдзіне слова пад націскам пішацца літара ***ё***: *булён, раён, мікрараён, маёр*, а не пад націскам – літара ***я***: *маянэ́з, раяні́раваць*.

2. Спалучэнне ***іе*** незалежна ад націску і месца ў слове на пісьме абазначаецца літарамі ***іе (ые)***: *абітурые́нт, кліе́нт, дые́та, іеро́гліф, іерыхо́нскі*.

3. Спалучэнне ***йе*** вымаўляецца як адзін склад і незалежна ад пазіцыі ў слове на пісьме перадаецца праз ***е***: *езуі́т, прае́кт, фае́, Феерба́х.*

4. Спалучэнне ***іа*** незалежна ад націску абазначаецца літарамі ***ія (ыя)***: *варыя́нт, генія́льны, дыяпазо́н, піяні́ст*.

5. Спалучэнне ***йа*** пасля галосных і ў пачатку слова абазначаецца літарай ***я***: *ярд, яхант, лаяльны*. Пасля зычных *л, с, ц* (мяккага), *дз* і непрыставачных *н, з* – праз ***ья***: *мільярд, кальян, альянс.* Пасля астатніх зычных – праз ***'я***: *саф'ян.*

6. Спалучэнне ***ео*** пад націскам перадаецца праз ***ео (эо)***: *акардэóн, ідэóлаг, фразеóлаг*, не пад націскам абазначаецца літарамі ***эа (еа)***: *акардэанíст, ідэалóгія, фразеалóгія.*

7. Спалучэнне ***еа*** на пісьме абазначаецца літарамі ***еа (эа)***: *лаўрэат, рэалізм, неандэрталец, Неапаль*
(☝ **але** *акіян* і вытворныя ад яго).



**Практыкаванне № 12**. Растлумачце правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Стадыён, фае, мельхіёр, маянэз, афіцыянт, арыенцір, акіянскі, ёгурт, каланіяльны, біёлаг, матэрыял, чэмпіён, Нью-Ёрк, акардэаніст, віяланчэль, кліент, геніяльны, генеалогія, акіянарыум, Мая, фартэпіяна, ятаган, акцыянерны, булён, іерогліф, іанізацыя, Ліён, ліяна, іон, траекторыя, дыяфрагма, піяла, іерыхонскі, ianiт, раён, лайнер, бібліятэка, філіял, інгрэдыент, дыета, бібліяграфія, Іанічнае мора, сакваяж.

**Практыкаванне № 13.** Запішыце словы па-беларуску, растлумачце правапіс спалучэнняў галосных. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Палеонтология, пианино, Нью-Йорк, плеяда, реактив, диаметр, фойе, майонез, лауреат, океанолог, альвеола, филиал, стеарин, аккордеон, ионизация, йога, медиобизнес, Эфиопия, виолончель, ауцион, ориентация, радиационный, диаграмма, океан, радио, коллекционер, миниатюрный, мелиорация, период, абитуриент, ажиотаж, чемпионат, гносеология, пиар, эфиопский, ионизатор, мельхиор, бастион, аксиома, приоритет, олимпиада, театральный, проект, материализм, яхта, софьян, районирование, бульён, рояль, гелиотроп, Майя, Иокагама, секвойя, йод, гелиоцентрический, океанографический, бактериолог.



# Тэст № 1

**1. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *а*:**
1) адажы…; 2) др…мучы; 3) Ч…люскін;
4) Токі…; 5) ц…нзура.

**2. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *э*:**
1) рэзюм…; 2) карат…; 3) куп…;
4) філ…; 5) камюнік…

**3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *а*:**
1) скан…р; 2) шніц…ль; 3) бар…ль;
4) камп'ют…р; 5) Юпіт…р.

**4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *ы*:**
1) бр…зент; 2) ж…тон; 3) ц…нзура;
4) канц…лярыя; 5) поч…рк.

**5. Адзначце словы, напісаныя правільна:**
1) сэрвіс; 2) інтэрнет; 3) радэа;
4) камп'ютэр; 5) Пітэр.

**6. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *я*:**
1) л…генда; 2) шасцідз…сяты; 3) м…тровы;
4) дз…сятка; 5) сямідз…сяці.

**7. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *е*:**
1) Г…расім; 2) л…снікі; 3) высв…тліць;
4) вас…мнаццаць; 5) к…фір.

**8. Адзначце словы, напісаныя правільна:**
1) землятрасенне; 2) жыццерадасны; 3) Вялікабрытанія;
4) велікадушны; 5) мёдагонка.

**9. Адзначце рады, у якіх усе словы запісаны правільна:**
1) сялянін, Сяргей, кераміка, беспаваротны, дзявятка, васямнаццаты;
2) фотакамера, вогнеўстойлівы, матавоз, мотагонка, стапрацэнтны, збожжасховішча;
3) холад, Токіа, жамчужына, літэра, тэндар, шынель;
4) вялікасвецкі, белабрысы, мёдаварэнне, часопіс, баездольны, вялікагаловы;
5) сэрвіс, каратэ, сальта-мартале, тунэль, менеджмент, Еўропаю.

**10. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *а*:**

1) лі…на; 2) і…нізацыя; 3) ды…грама;
4) акардэ…ніст; 5) гені…льны.

**11. Адзначце словы, напісаныя правільна:**

1) езуіт; 2) Нью-Ёрк; 3) секвойя;
4) пляяда; 5) дыапазон.

**12. Знайдзіце слова, у якім дапушчана памылка, і запішыце яго правільна.**

Рацыён, акіянарыум, іанізацыя, ёгурт, іярогліф, кліентура.

**13. Знайдзіце слова з памылковым напісаннем і запішыце яго правільна.**

Перад вачыма адкрылася цудоўная панарама Палесся з вёскамі, старымі трактамі, балотнымі мшарынамі, рэкамі і лясамі (Т. Хадкевіч).

**14. Адзначце спалучэнні, дзе не трэба пісаць прыстаўную галосную:**

1) смелае (і)львяня; 2) пад (і)льдом; 3) (а)ржаны хлеб;
4) па леташнім (і)ржышчы; 5) за(і)ржавелы.

**15. Знайдзіце слова, у якім прапушчана літара *ы*, і запішыце яго правільна:**

1) р…жым; 2) вет…ран; 3) ш…дэўр;
4) т…кстыль; 5) р…сорны.



# Раздзел 3. ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

## § 6. Правапіс звонкіх і глухіх зычных

1. У беларускай мове звонкія зычныя на канцы і ў сярэдзіне слова перад глухімі зычнымі аглушаюцца, а глухія зычныя перад звонкімі – азванчаюцца. Але на пісьме такое аглушэнне і азванчэнне не адлюстроўваецца. Для праверкі напісання звонкіх і глухіх зычных трэба падабраць аднакаранёвае слова ці змяніць слова так, каб пасля зычнага, які патрабуе праверкі, з'явіўся галосны або зычныя ***р***, ***л***, ***м***, ***н***, ***в***: *след – следам*, *легчы – лягу*, *сцежка – сцяжынка*, *снег – снегу*, *загадка – загадаць, загадваць*, *грыб – грыбы*, *грыбны*, *тыраж – тыражу*, *тыражны*, *мозг – мазгавіты*, *бегчы – бягу*, *беглы*, *бегма*, *малацьба – малаціць*, *касьба – касец*. Словы *лязг*, *лязгаць* маюць варыянты *ляск*, *ляскаць*.

2. Правапіс слоў іншамоўнага паходжання, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па слоўніку: *айсберг*, *баскетбол*, *вакзал*, *струбцына*, *футбол*, *экзамен*, *Афганістан*.



**Практыкаванне № 14**. Прачытайце, растлумачце напісанне звонкіх і глухіх зычных.

Абводка, абоз, абсерваторыя, абшлаг, агляд, баабаб, баскетбаліст, блізка, блюмінг, боязь, брыдкі, вадкасць, вакзальны, васьміног, ветразь, віраж, вэб-старонка, Вялікдзень, галубка, гібрыд, грузкасць, драматург, едкі, жакард, завадзь, загрэбці, замігцець, засцерагчы, калодка, карніз, кнігалюб, лёжка, лёгкія, медзь, мігцець, міжрадкоўе, мовавед, наледзь, наўзрыд, пераклад, пералезці, разведшкола, роўнядзь, Сінод, стэлаж, сюрпрыз, тэхагляд, уклад, ферзь, фісгармонія, хлебароб, цуд, чарцёж, шланг, экзэмпляр, экзотыка, этнагенез, эцюд, ямб, ярд.

**Практыкаванне № 15.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

1. Сне... ляжаў яшчэ трывала, толькі вецер зрэ...ку дыхаў мяккім цяплом (У. Рубанаў). 2. Але вось ужо схавалася за далягля... сонца і на небасхіл выплыў падобны на кавалак вышчарбленага люстэрка маладзік (Д. Нічыпаровіч). 3. Рэчка выйшла з берагоў, затапіла ўсе даліны і ла...чыны, але колькі тых далін і ла...чын, яны не маглі прыняць і спыніць зімнюю паво...ку (В. Казько). 4. Такое здаралася не толькі з песнямі, але і з прымаўкамі, жартамі, ка...камі, дасціпнымі і трапнымі слоўцамі – но...ьбітамі мудрасці і той неўміручай сілы, што павязала ў адно цэлае розныя пакаленні, злівала іх у неверагодна глыбокую раку, імя якой было – народная творчасць (Я. Радкевіч). 5. Нарэшце пачало світаць, і страх нібы трошкі адлё... . Над гняздом ні...ка схілялася жыта, яно хвалявалася, настойліва пра нешта шаптала (У. Ягоўдзік). 6. Плача на... сваёю хаткаю наўзры..., но...кі, ручкі складзе і заліваецца ў тры ручаі, і ў рукі не даецца, не верыць чалавечай спагадзе і дабрыні (В. Казько). 7. Ніколі яшчэ так блі...ка не бачыў ён ляснога веліканa. Лось, пачуўшы чалавека, не кінуўся бе...чы (А. Рыбак). 8. Звярыная сце...ка навяла зубра на дубняк, што цягнуўся кіламетры з два ўздоў... балота (В. Казько). 9. – ... Ёсць па...ставы прыняць вас без э...заменаў. Напішыце заяву (І. Навуменка). 10. Некалькі разоў бацька вадзіў Петруся да загара...кі, дзе жывуць зубры (Т. Хадкевіч). 11. У твар шырокаю пру...каю хваляю дыхае вільготны з сало...кім прысмакам паўднёвы вецер (У. Ягоўдзік). 12. Веласіпе... забрынкаў. Зубр па...хапіў яго і ўскінуў угору (Т. Хадкевіч). 13. Ляплю з падатлівага снегу вялікую сне...ку, шпурляю высока ў неба і думаю, ад каго дзед навучыўся гэтай дзіўнай песні (У. Ягоўдзік). 14. Велічна-халодны ай...бер... сталіншчыны раставаў і расколваўся, сыплючы крышталёвы звон лёду, але яшчэ мог раздушыць і ўтапіць не адзін белы, поўны адвагі карабель (В. Адамчык). 15. Заляскалі доўбні і цапы па жалезных шаломах. І пайшла мала...ьба (У. Караткевіч).



## § 7. Правапіс зычных *д* – *дз*, *т* – *ц*

1. У беларускай мове чаргаванне цвёрдых зычных гукаў ***д***, ***т*** з мяккімі ***дз'***, ***ц'*** (дзеканне і цеканне) адлюстроўваецца на пісьме: перад галоснымі ***е***, ***ё***, ***і***, ***ю***, ***я*** замест ***д***, ***т*** пішуцца адпаведна ***дз***, ***ц***: *загад – у загадзе*, *вада – у вадзе*, *малады – маладзіца*, *вяду – вядзём*, *мост – на мосце*, *куст – кусцік*, *пяты – пяцёрка*.

2. Афрыката ***дз*** і літара ***ц*** пішуцца перад мяккім ***в'*** у корані слова: *подзвіг*, *дзверцы*, *падзвіжніца*, *мядзведзь*, *зацвердзіць*, *бацвінне*, *цвердаваты*, *цвярдыня*, *ліцвін*, *ліцвінка*, *яцвяг*, *Дзвіна*, *Мацвей* і інш. Выключэнне: *твіст*.

3. Гукі ***д*** у канцы прыстаўкі і ***т*** у складзе суфікса перад мяккім ***в'*** захоўваюцца нязменна і на пісьме перадаюцца адпаведна літарамі ***д*** і ***т***: *адвесці*, *адвеку*, *падвялы*, *надвячорак*, *у спаборніцтве*, *аб грамадстве*.

У аддзеяслоўных назоўніках і ў словах, вытворных ад іх, перад мяккім ***в'*** пішацца ***т***: *бітва – у бітве*, *брытва – брытве*, *клятва – клятве*, *паства – у паստве*. Літары ***д*** і ***т*** пішуцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва – мардве*, *Мардвінаў*, *Літва – у Літве*.

4. У запазычаных словах і вытворных ад іх цвёрдыя ***д***, ***т***, як правіла, пішуцца нязменна: *акадэмік*, *дыплом*, *ордэн*, *бібліятэка*, *тэатр*, *медыкаменты*, *кватэра*, *скептык*, *ерэтык*, *дырэктыва*, *дыктатура*.

У некаторых запазычаных словах пішуцца ***дз*** і ***ц***: *арцішок*, *бардзюр*, *гетэрадзін*, *дзюдо*, *дзюна*, *дзюшэс*, *каранцін*, *мундзір*, *накцюрн*, *нацюрморт*, *уверцюра*, *цітла*, *цюбік*, *цюбінг*, *цюль*, *цюльпан*, *цюркскі*, *цюфяк*, *эцюд*.

5. У словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, вытворных ад іх, перад суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання ***-ін-***, ***-ір-***, ***-ік-***, ***-ёр-***, ***-еец-***, ***-ейск-*** пішуцца ***дз*** і

***ц***: *сульфіды – сульфідзін*, *брыгада – брыгадзір*, *канверт – канверцік*, *білет – білецёр*, *гвардыя – гвардзеец*, *гвардзейскі*.

6. Ва ўласных іншамоўных імёнах і назвах зычныя ***д***, ***т*** або ***дз***, ***ц*** пішуцца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем: *Дэлі*, *Дэтройт*, *Тэрэза*, *«Юманітэ»*, *Дзяніс*, *Хрысціна*, *Цютчаў*, *Церак*, *Цюрынгія*, *Гаіці*, *Палесціна*, *Поці*, *Таіці* і інш.



**Практыкаванне № 16.** Прачытайце словы, растлумачце правапіс зычных ***д***, ***дз***, ***т***, ***ц***. Сэнс незразумелых слоў вызначце па слоўніку.

Адвезці, тэндэм, Мацвеенка, дзвесце, індывід, цітр, дзеканне, арцель, дыван, тэндэнцыйны, аб вынаходніцтве, мундзір, зыходзіць, нікацінамід, дыдактыка, улагодзіць, ідылія, дызайнер, падвязаць, у грамадстве, мардвін, тэлегенічны, інтэрв’ю, вудзіць, білецік, дыкцыя, інтуітыўна, тэндар, дынаміт, этымалогія, у таварыстве, Тэлаві, гняздзіцца, ідыш, этыкет, дзюбель, Атэла, эдэльвейс, негатыўны, эдэм, тэрыторыя, цвёрды, Дадэ, ідэнтыфікаваны, падвеяць, кадыфікацыя, маладзік, у пітве, Цюрых, пластык.

**Практыкаванне № 17.** Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх зычных ***д, дз, т, ц***.

Репетитор, депеша, Диана, гвардеец, медик, тенор, стимулировать, грандиозный, Тимофей, о народе, громадина, индеец, отвиснуть, Леокадия, титанический, вентилировать, ботва, подведённый, четвертак, латинский, Владислав, диффузия, академический, индианка, аудиенция, диалектный, отвозить, тир, метеор, дефис, факультет, резиденция, подвезти, в битве, текучий, Людвиг, эпидемиологический, тюль, тенденциозный, тезис.



## § 8. Правапіс некаторых спалучэнняў зычных

1. У спалучэннях ***здн***, ***згн***, ***стн***, ***скн***, ***стл***, ***рдн***, ***рдц***, ***лнц*** зычныя гукі ***д***, ***т***, ***г***, ***к***, ***л*** не вымаўляюцца і на пісьме не перадаюцца:

- ✓ ***здн – зн***: *праязны* (*праезд*);
- ✓ ***згн – зн***: *бразнуць* (*бразгаць*);
- ✓ ***стн – сн***: *пачэсны* (*чэсць*), *колькасны* (*колькасць*), *гуснуць* (*густы*), *абвесны* (*абвестка*), *месны* (*змястоўны*); тое ж і ў словах іншамоўнага паходжання: *кантрасны* (*кантраст*), *кампосны* (*кампост*), *фарпосны* (*фарпост*);
- ✓ ***скн – сн***: *выпырснуць* (*выпырскаць*), *пляснуць* (*пляскаць*), *трэснуць* (*трэскаць*); ☝ **але**: *віскнуць*, *націскны*;
- ✓ ***стл – сл***: *шчаслівы* (*шчасце*), *бескарыслівы* (*карысць*), *помслівы* (*помста*);
- ✓ ***рдн – рн***: *міласэрнасць* (*сардэчнасць*);
- ✓ ***рдц – рц***: *сэрца* (*сардэчны*);
- ✓ ***лнц – нц***: *сонца*, *сонцаварот*.

2. Спалучэнні зычных ***стц*** і ***здч*** пішуцца незалежна ад іх вымаўлення: *у чыстцы*, *аб’ездчык*.

3. У корані слова могуць адбывацца чаргаванні спалучэнняў зычных ***ск***, ***ст***, ***с’ц’*** з ***шч***, якія адлюстроўваюцца на пісьме: *воск – вашчыць*, *густы – гушчар*, *хрысціць – хрышчоны*.

4. Спалучэнні ***сч*** і ***сшч***, якія вымаўляюцца як ***шч*** і ***шшч***, на пісьме перадаюцца літарамі *сч* і *сшч*: *пясчынка*, *брусчатка*, *расчасаць*, *расчапіць* (кручкі), *расшчапіць* (на дзве часткі);

☝ **але**: нішчымны, пяшчота, рошчына, ушчуваць, шчасце.

5. На канцы слоў іншамоўнага паходжання ў спалучэнні зычных ***дт*** зычны ***д*** не вымаўляецца і на пісьме не перадаецца: *Кранштат*, *Брант*, *Рэмбрант*, *Шміт*, *Клот*, *фарштат.*



**Практыкаванне № 18**. Спішыце сказы, пры спісванні ўстаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары.

I. 1. Шэсць першых пасляваенных гадоў адпрацаваў Лявонік карэспандэнтам аблас...ной газеты (І. Навуменка). 2. Мне чамусьці да слёз радас...на і прыемна проста вось так сесці ў пракос толькі што скошанай травы і дыхаць гэтым водарам… (Я. Сіпакоў). 3. Але Валі ён не чапаў, а з нас на дарозе віў вяроўкі: настаўнікам жаліцца на сябе ён забараніў, – грозіў ра...чапіць галаву (І. Пташнікаў). 4. Проста табе прыемна – і ўсё, бо ...часце – гэта заўсёды нешта недасягальнае (Я. Сіпакоў). 5. Цягнік прыбыў у Мінск уранку, ледзь толькі паказалася со...нца (А. Марціновіч). 6. Было, напэўна, поз...на, але вяртацца дахаты, у тую сваю пякучую адзіноту, Алаізе не хацелася, і яна далучылася да невялікага натоўпу, што кіраваўся ў бок Нявы (В. Коўтун). 7. Усе даўно ведаюць, як лёгка, як радас...на робіцца на сэр...цы, калі схілішся да тае крыніцы (К. Кірэенка) 8. І трэба было бачыць Коласа, радас...нага, ...час...лівага, калі ў спякотныя дні перападалі добрыя, спорныя дажджы (М. Лынькоў). 9. Мы не можам ра...чапіць рук, а як ра...чэпім, хапаемся за маскі злодзеяў і кайданкі, і каханне нараджаецца зноў (Мэцью Дзікман). 10. ...І вось ён на панадворку дзядзькі і хрос...нага бацькі Івана (І. Навуменка).

II. 1. Біч баяўся, што яго будуць у...чуваць і лаяць. Але абышлося (В. Казько). 2. Потым яна глядзела, як узяліся расці памідоры, капус...ны качан, высаджаны на насенне, думала, ці добры будзе гэты год (М. Стральцоў). 3. Пры сустрэчы з чалавекам, які быў вядомы як нядобры, зайздрос...ны, злы, імкнуліся абавязкова «абараніць» сябе славесным абярэгам – замовай: «Ліхое вока, не глядзі на нас!» («Народная газета»). 4. Ня...часны той, хто пра ўзаемнасць толькі сніць, ня...часны, у каго ў душы – нуда пустэчы. Ды больш ня...часны той, чые з каханнем стрэчы ўжо ў мінулым – іх ніколі не забыць! (А. Міцкевіч). 5. Закаханых пачалі караць самаю страшнай карай, для чаго давялося выдумаць электрычнасць і ра...чапіць атам (В. Быкаў). 6. Першыя зоры ўжо замігцелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажарам узнімаўся кругам блі...часты месяц (Якуб Колас). 7. Крашта... што вулей. Трывожна гудзяць сірэны (В. Купрэвіч). 8. Здаралася, у прыгожых кос з'яўляўся зайздрос...нік, які мог, дакрануўшыся да іх, вырваць пасмачку і кінуць на вецер, дзьмухнуўшы, тады валасы радзелі і выпадалі («Беларуская міфалогія»). 9. І бацька бровы пасувае, пільчак чысцейшы адзявае, ідзе на двор для прывітання і для пачэс...нага спаткання (Якуб Колас). 10. «Няхай ходзіць у сваёй чысценькай сукенцы, – помс...ліва думаў я. – Справа ж не ў капялюшыках і сукенках. Знайшлася княгіня!..» (І. Навуменка). 11. Увечары рэчку рас...чапіла чорная, злавесная трэ...чына, якая проста на вачах расла, пашыралася... (У. Ягоўдзік).

**Практыкаванне № 19**. Запішыце словы па-беларуску і растлумачце напісанне ў іх спалучэнняў зычных.

Областной, радостный, сцепление, Гумбольдт, расщемлять, поздний, шестнадцать, постланный, устно, контрастный, компостный, жалостный, расчёсывание, счастливо, сердцебиение, расцепить, устланный, солнечный, форпостный, костный, крестник, хрустнуть, считывать, Рембрандт, свистнуть, милосердие, визгнуть, проездной, солнцезащитный.

## § 9. Правапіс прыстаўных і ўстаўных зычных

У беларускай мове ёсць прыстаўныя гукі ***в*** і ***г***, якія на пісьме абазначаюцца адпаведнымі літарамі.

1. Прыстаўная літара ***в*** <u>пішацца</u>:

✓ перад націскным ***о***:

○ у пачатку слоў: *во́зера*, *во́йкаць*, *во́стры*, *во́рыва*, *во́спа*, *во́бласць*, *во́страў*, *во́льха*, *Во́льга* і інш., у вытворных ад

іх словах пасля прыставак: *абво́страны*, *адво́рваць*, *паво́йкаць* (☝ **але**: *о́каць*), *о́дум*. Калі пры змене месца націску ў слове ***о*** пераходзіць у ***а***, то прыстаўная ***в*** не пішацца: *азёрны*, *абласні́*, *заара́ны*;
- ○ перад прыстаўкамі ***о***-, ***об***-, ***од***- (***от***-): *во́кліч*, *во́піс*, *во́бзем*, *во́дзыў* і інш., а таксама ў словах *наво́бмацак*, *паво́ддаль*, *паво́дле*, *наво́дшыбе* і інш.;
- ○ у запазычаных словах: *во́хра*, *во́цат* і вытворных ад іх: *во́хрысты*, *паво́хрыць*, *во́цатны* і інш.;
- ○ у словах *во́ка*, *во́стры*, *во́сем*, *вако́л* і вытворных ад іх прыстаўная ***в*** захоўваецца незалежна ад месца націску: *у вача́х*, *заво́чны*, *увачаві́дкі*; *паваcтры́ць*, *вастрыня́*; *васьмёрка*; *вако́ліца*, *навако́лле*;

✓ перад каранёвым ***у*** ў пачатку слоў: *ву́чань*, *ву́да*, *ву́зел*, *ву́ліца*, *вус*, а таксама ў вытворных ад іх словах незалежна ад месца націску: *навучы́цца*, *вучнёўства*, *вудзі́льна*, *вузлавы́*, *ву́лічны*, *вуса́ч* і інш.;

✓ перад націскнымі прыстаўкамі ***у***-, ***уз***- (***ус***-): *ву́пражь*, *ву́згалаўе*, *ву́сцішна*.

2. Прыстаўная літара ***в*** не пішацца:

✓ перад націскным і пачатковым ***у*** ў запазычаных словах: *у́льтра*, *ультрамо́дны*, *у́нтэр*, *уніка́льны*, *у́рна* (☝ **але**: *ву́стрыца*);

✓ перад пачатковым ***у*** ва ўласных імёнах і назвах: *Усціння*, *Уганда*, *Урубель, Урал*, *Узбекістан*, *Украіна*, *Уфа*, *Уэльс* і інш.;

✓ перад прыставачным ***у*** і ***у***, які ўзнік на месцы старажытнага ***в***: *уборка*, *улада*, *унучка*, *учарашні*;

✓ у запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах перад пачатковым націскным ***о***: *о́перны*, *о́птам*, *о́птыка*, *о́рдар*, *Оксфард*, *Ожагаў*, *Орша* і інш.

3. Устаўная літара ***в*** пішацца ў сярэдзіне слоў:

✓ перад націскным ***у***: *паву́к*, *ціву́н*, *караву́л*, *есаву́л*, а таксама ў вытворных ад іх словах незалежна ад месца націску: *павуці́нне*, *павучкі́*; *цівуно́м*; *караву́ліць*; *есаву́льскі*;



✓ перад ***у*** ва ўласных імёнах і геаграфічных назвах: *Матэвуш*, *Тадэвуш, Навумовічы*;

✓ перад націскным ***о*** у сярэдзіне некаторых слоў: *ніво́днага*, *Лyво́н*, *Ларыво́н*, *Радзіво́н* і інш.

4. Прыстаўная літара ***г*** пішацца:

✓ у займенніках *гэты, гэтакі, гэтулькі*;

✓ у прыслоўях *гэтак, гэтаксама, дагэтуль, адгэтуль*;

✓ у выклічніках *гэй, го, га*.



**Практыкаванне № 20**. Прачытайце, растлумачце наяўнасць ці адсутнасць прыстаўных і ўстаўных зычных у прапанаваных словах.

Воблачнасць, вобмацкам, навукова-папулярны, вогнеахова, Одэр, водбліск, водмель, ультрамарын, Усеваложскі, водпаведзь, урывак, завочнік, гэта значыць, унцыя, орган, Осака, возеразнаўства, войкаць, ураган, вокамгненнасць, онікс, навобмацак, вокіс, навуковец, вопіс, навучэнец, Радзівонаў, завулак, Увядзенскі, восевы, Омск, вохраны, ураджай, ода, павуціна, Ульяна, гэта, окаць, уборка, наводмаш, воцатнакіслы, навостраны, вуглездабыча, умяціна, гэтакія, уланбатарскі, опус, Улан-Удэ, завушніца, утопія, Осла, вуглярод, павучальна, Уручча, улюбёнасць, вуджэнне, вужовы, узус, оталарынгалогія, учора, вузкапрафесійны, вулей, вучэбнаметадычны, навокал, завурчаць, дагэтуль.

**Практыкаванне № 21**. Спішыце сказы, пры спісванні ўстаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс прыстаўных і ўстаўных зычных.

І. 1. Максім Танк даражыць светам хлебаробаў, светам свайго дзяцінства і першаснага жыццёвага ...опыту (У. Калеснік). 2. Хораша думаецца пад чароўную музыку ...осені (А. Ва-

рановіч). 3. Праўда, усё роўна незаўважным рэдка калі ўдавалася застацца: безбілетнікаў кінамеханікі адразу пазнавалі па па...уціне, у якую тыя былі паўкачаныя, і выганялі на ...уліцу (Я. Сіпакоў). 4. У вёсцы ўрачыстая цішыня, і толькі ярка і спакойна высвечваюць ...окны (А. Жук). 5. Яна працавала ў горадзе, на будаўніцтве, за...очна канчала тэхнікум (А. Жук). 6. Зараз ён на ўсю ...этую прыгажосць злаваўся, знарок апускаў ...очы долу, каб не бачыць ні самой ...уліцы, ні заінелых ...акол яе дрэў (Я. Сіпакоў). 7. Сёння такіх вандроўнікаў сустрэнеш не часта – вандроўнікаў, бясконца ўлюбёных у ...образы роднай прыроды… (Н. Гілевіч). 8. Ды і за сапраўдную палутаркаю, што зрэдзь калі ўзнімала пыл на нашай ...уліцы, мы, як зачараваныя, беглі, аж пакуль яна не знікала з ...ачэй (Я. Сіпакоў). 9. Паволі альбо раптоўна мы адхіляемся ад задумаў, якія хацелі спраўдзіцца намі, калі не чуем, ці адгукаецца на...аколле (А. Разанаў). 10. Галоўны патрыятычны подзвіг Францішка Скарыны ў тым, што ён першы даў свайму народу друкаваную кнігу і ...этым самым зрабіў невымерны ўклад у развіццё асветы, на...укі і культуры на Бацькаўшчыне (Н. Гілевіч). 11. На ...узкай лясной сцежцы цёмна і зацятаглуха… (А. Жук). 12. У Балгарыю трэба прыязджаць улетку ці вясною, у...осень (Б. Сачанка). 13. Пыляць з вёскі ў вёску – як з ...озера ў ...озера (Я. Сіпакоў). 14. І чаканне дзіва, цуда за першым ...углом, за паваротам (В. Казько).

II. 1. Кассё ўсё яшчэ ў зямлі, і ты абапіраешся на яго, як на посах, як на саму зямную ...ось (В. Казько). 2. На блакітным, глыбокім і бязмежным небе стаяла адно толькі сонца – ад небасхілу да небасхілу невідно ні...однага ...облачка (Я. Сіпакоў). 3. Стоячы як не па самую шыю ў вадзе, ...олька чэрпала вядром і падавала яго мне (Я. Сіпакоў). 4. На...оддаль, на самым беражку, лена дыміў касцярок, дым ад якога і патрывожыў салдата (В. Быкаў). 5. Усё жыло ў нейкім зачараваным руху: ...очы, твар, пастава ў бронзавых ...одблісках полымя (Я. Скрыган). 6. Сухая дыхмень стаіць у бары, і толькі няўлоўна тонка, але ...остра пахне патрэсканымі шышкамі, падсохлым голлем і леташнім лісцем (М. Стральцоў). 7. ...облік Бёрнса-паэта спалучаецца для нас з …обликам Бёрнса-чалавека… (М. Лужанін). 8. Трохі ...удзілі, прыпыніўшыся ў спакуслівай мясціне, а больш любаваліся, з бадзёрым грукатам летучы па празрыстай і ціхай вадзе (Янка Брыль). 9. Аповесць «Чыгун», думаецца, увабрала ў сябе ўвесь папярэдні ...опыт пісьменніка, а таксама ...учобу ў класікаў, найбольш, відаць, у Кузьмы Чорнага (У. Гніламёдаў). 10. Для ўвасаблення мастацкай канцэпцыі Георгія Марчука дастаткова было б аднаго Давыд-Гарадка з ...аколіцамі (І. Штэйнер). 11. Конна гарцуе ці...ун між мэндлікаў па ржанні (З. Бядуля). 12. Ды зноў схаваўся за цёмную хмару, зноў стала ...усцішна ў лесе (Ян Баршчэўскі). 13. – Хаця б чалавечага мяса. – І засмяяўся са свайго недарэчнага жарту. – ...устрыцы! Гурка свежага няма. А на рынку іх поўна ўжо (І. Шамякін).

## § 10. Правапіс *у* і *ў*

1. ***У*** (складовае) пішацца:

- ✓ у пачатку сказа, пасля знакаў прыпынку і пасля слоў, што заканчваюцца на зычную літару: *У вачах адлюстравана тое, што ў душы хаваецца на дне* (Я. Непачаловіч). *Лугі, выганы, старыцы, сухія летам азярынкі – **у**сё залівала вада* (С. Грахоўскі). *З Навагрудка Міхась пайшоў **у** свет, які завецца дарослым* (А. Кажадуб);
- ✓ у пачатку ўласных назваў: *на Украіне*, *ва Уруччы*, *на Ушачы*, *для Усяслава*, *за Уладзіміра*;
- ✓ у пачатку і ў сярэдзіне слоў, калі ***у*** знаходзіцца пад націскам: *Люблінская у́нія*, *вялікая у́рна*, *саксау́л*, *бау́л*, у выклічніках ***у*** (*у, які ты смелы!*), ***ух*** (*ух ты, як прыгожа!*), ***уй*** (*уй, які смешны!*);

✓ у запазычаных словах, якія заканчваюцца на *-ум*, *-ус*: *соцыум*, *кансіліум*, *вакуум*, *страус*, *соус,* і вытворных ад іх: *вакуумны*, *страусавы*, *соуснік*;

✓ у канцы запазычаных слоў: *фрау*, *ток-шоу*, *ноу-хау*, *Шоу*, *Ландау*, *Дахау*, *Цеміртау*.

2. ***Ў*** (нескладовае) пішацца:

✓ у пачатку слова пасля галосных: *на ўсё жыццё*, *прыгожы ўбор, моцна ўдарыць*, *скласці ўдвая*, *гучнае «ўра»*, *на ўніверсіядзе, для ўніята*, *каля ўніверсітэта*, *ва ўніверсаме, пайсці ўнаймы, з лёгкасцю ўздыхнуць*;

✓ у сярэдзіне слова пасля галосных: *аўкцыён*, *паўза*, *фаўна*, *аўдыяапаратура*, *джоўль*, *раўт, саўдзел, траўлер, клоўн, воўнаапрацоўчы, скаўт*

(☝ **але**: *траур*);

✓ пры чаргаванні ***в*** з ***ў*** і ***л*** з ***ў***: *поплаў* (*паплавы*), *маўленне* (*мова*), *поўны* (*повен*), *кроў* (*крыві*), *Аўстрыя*, *Аўдоцця*, *Аўрора*, *Каўказ*, *Боўш*, *Роўда, змоўкнуць*, *воўк*, *шоўк*, *поўзаць*, *таўстун*

(☝ **але**: краіна В'етнам, рака Влтава, армія В'етконга, палка, памылка, Алжыр, Албанія, Волга, Валдай, Балгарыя);

✓ пасля дэфіса ці двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосную: *па-ўчарашняму*, *паўднёва-ўсходні*, *класна-ўрочны*, *жанчына-ўдава*, *«Волга» ўехала ў двор*, *медаль «За адвагу» ўручылі на афіцыйнай сустрэчы*, *опера «Кастусь Каліноўскі» ўразіла школьнікаў*.

У вершаваных творах з мэтай захавання рытму можа пісацца ***ў*** замест ***у*** і наадварот: *Ты прыйдзі ка мне увосень, зоркаю прыйдзі; ў свет далёкі з шумам сосен думку павядзі…* (Янка Купала). *Ў дарозе будзеш ты ці дома, я аб адным цябе малю: нібы аб нечым невядомым, згадай, што я цябе люблю* (М. Шабовіч).





**Практыкаванне № 22.** Прачытайце, растлумачце напісанне ***у*** і ***ў***. Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам, вызначце сэнс незразумелых слоў.

Абноўлены, апелятыў, архіў-музей, аўдыт, аўра, аўтаралі, бавоўнаўборка, вакуум-фільтр, ваўкалак, гяур, дапаўненне, жаўна, іуда, коўдра, лаўр, лаўсан, натарыус, наўцёкі, опіум, паўаўтамат, паўлін, паўночна-ўсходні, плаўнік, раўнд, саўгас, таўро, траўлер, уверцюра, моўны узус, для Уладзіславы, на ўніверсіядзе, на Урале, смачны ўрук, моцны ўціск, ціў-ціў, шаўро, шоу, эўфемізм.

**Практыкаванне № 23**. Спішыце, устаўце прапушчаныя ***у*** і ***ў***, растлумачце іх правапіс.

А...дыенц-зала, шлагба...м, індывіду...м, байк-шо..., холада...стойлівы, умля...т, рады...с, тэза...рус, традыцыйна-...рачысты, Барна...л, тайм-а...т, а...т, бра...ншвейгскі, бакала...р, бо...лінг-клуб, мя...каць, ваку...м-фільтр, на ...звейвецер, на ...ра, Карата..., меды...м, а...л, а...каць, каля ...фы, архівары...с, ка...чук, Наталля ...ладзіміраўна, на...цёкі, шо...-бізнес, Гуанчжо..., Кейпта...н, сло...нік, ...нікум, сто...п, ха...туры, ва ...ніверсаме, педагагічны ...ніверсітэт.

## § 11. Правапіс падоўжаных зычных

1. У становішчы паміж галоснымі зычныя гукі ***з'***, ***дз'***, ***л'***, ***н'***, ***с'***, ***ц'***, ***ч***, ***ж***, ***ш*** вымаўляюцца падоўжана і на пісьме абазначаюцца падвоеным напісаннем адпаведных літар (падоўжанае вымаўленне ***дз'*** на пісьме перадаецца спалучэннем літар **ддз**): *рыззё*, *маззю*, *асяроддзе*, *разводдзе*, *наваколле*, *засілле*, *Наталля*, *паданне*, *каханне*, *Аўгіння*, *Аксіння*, *Усціння*, *паднябессе*, *двукоссе*, *Анісся*, *Фядосся*, *пачуццё*, *васьмюдзесяццю*,

*Аўдоцця*, *Таццяна*, *Закарпацце*, *ламачча*, *роспаччу*, *падарожжа*, *узмежжа*, *Пабужжа*, *зацішша*, *Замошша*.

2. Падаўжэння зычных звычайна не адбываецца ў запазычаных і вытворных ад іх словах, а таксама ва ўласных імёнах і назвах: *алея*, *каментарый*, *масіў*, *група*, *калектыў*, *калона*, *імунітэт*, *касір*, *тэрыторыя*, *піца*, *саміт*; *Ала*, *Генадзь*, *Іна*, *Кірыл*, *Адэса*, *Марока*, *Ніца*.

☝ Але: бонна, донна, манна, панна, ванна, мадонна, саванна, меццасапрана; Ганна, Жанна, Сюзанна, Мекка.

3. Не адбываецца падаўжэння зычных у некаторых уласных імёнах: *Ілья*, *Емяльян*, *Ульян*, *Ульяна*, *Юльян*, *Юльяна*, *Касьян*, *Традзьякоўскі* і вытворных ад іх: *Ільін*, *Ільіч*, *Ільінскі*, *Ільічоўка*, *Ульянаў*, *Ульянаўск*, *ульянаўскі*.

☝ Ад фанетычнага падаўжэння гукаў трэба адрозніваць марфалагічнае падваенне зычных – напісанне дзвюх аднолькавых літар на стыку марфем: *бессардэчны* (*бес-сардэчны*), *рассмакаваць* (*рас-смакаваць*), *ажыннік* (*ажын-нік*), *дружыннік* (*дружын-нік*), *асенні* (*асен-н-і*).



✎ **Практыкаванне № 24**. Спішыце сказы, устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары, растлумачце правапіс падоўжаных зычных.

I. 1. Памяць народа – гэта самае вялікае багац...е, якое і называецца спадчынай (В. Вітка). 2. Якуб Колас нарадзіўся ў маляўнічым лясным прывол...і, дзе векавечныя хвоі і кашлатыя елкі падпіралі сіняе неба, а непадалёку бруіліся хвалі нястомнага Нёмана (С. Александровіч). 3. Забыўшыся на снедан...е, мастак выносіў у сад эцюднік і пачынаў пісаць яблыневую квецень (В. Карамазаў). 4. Над развод...ем з крыкамі праносіліся чароды гусей і качак і знікалі ў блакітнай смузе (С. Грахоўскі). 5. Я дапамагаў ім, счышчаў рыдлёўкаю дзе трэскі і смец...е, а дзе – пясок (В. Жуковіч). 6. Яна як быццам паменшала, толькі вочы значны на абліч...ы (М. Лужанін). 7. З нейкім асаблівым пачуц...ём чытаеш: «З Полацка...» (С. Панізнік, В. Дышыневіч). 8. Туман як лёг з раніцы, так і трымаўся праз увесь дзень: у бары на ўзвыш...ы радзейшы, ля дарогі – густы і нізкі (М. Стральцоў). 9. Аксін...я, Якубава жонка, пачала поркацца ля печы, дастаючы вячэру (М. Зарэцкі). 10. Здавалася, птушкі нават чакалі, каб хто-небудзь выйшаў з зямлянкі, паслаў ім вітан...е, пагаварыў пра іх (К. Кірэенка) 11. На самы верх узвыш...а вылезла царква (М. Лужанін). 12. Дыхан...е ракі збівалася над цёмнай глад...ю панцыра ў белыя тумановыя клубкі… (В. Коўтун). 13. На вільготным вец...і набрынялі, большалі вялікія і чыстыя кроплі, зрываліся, стукаліся аб учарнелае лісце (А. Кажадуб).

II. 1. Паміж Сожам і Бесяд...ю лютавала радзівілаўская «экспедыцыя» (І. Чыгрынаў). 2. «Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэта тваё залатое багац...е не вечнае, калі-небудзь яму прыйдзе канец» (А. Гурскі). 3. Рака ўжо несла іх [крыгі] чорнай грознай плын...ю (В. Коўтун). 4. Неяк ноч...у мне здалося, што я чуў, як трубілі, летучы над горадам, журавы (М. Стральцоў). 5. Скончылася вясел...е, пачаліся будні (А. Гурскі). 6. ...Народ, які забываецца на сваё мінулае, робіцца бездапаможным у гістарычным быц...і і, па сутнасці, перастае быць народам (М. Ермаловіч). 7. «Не тое, не тое цяпер Палес...е», – падумаў Андрэй, і зашчымела, як ад болю, сэрца, калі ўспомніў свае наезды дадому, у вёску (Б. Сачанка). 8. О, Вільня, крывіцкая Мек...а, о, места, – усё цуд, хараство! Дзяржаўная думнасць павеваў, узнята рашуча брыво! (У. Жылка). 9. Значыцца, або гэты дзівак чалавек яшчэ жывы, або кал...екцыя ў руках яго спадчыннікаў (Штэфан Цвайг). 10. Вузкіх шляхаў выгіб ломкі машастовай рун...ю ўбраны, і шнуруюць скокам ёмкім німфы-ведзьмы, феі-пан...ы... (Ц. Гартны). 11. Францішак таксама, бывала, спрабаваў клікаць буслоў, як Ган...ачка, але буслы чамусьці на яго кліч не ішлі (В. Хомчанка). 12. І міжволі спасці-

гаў, што натоўп – гэта не безаблічная, радасная і бурлівая, мас...а людзей, якія заўсёды ў руху (Я. Сіпакоў). 13. Прыходзілі і адыходзілі ак...упанты, і сляды іх znікалі з твару зямлі, а мова жыла, бо карані яе ў глыбінях, бо народ стагод...ямі песціў, шліфаваў яе (У. Караткевіч).

**Практыкаванне № 25.** Прачытайце. Выпішыце са сказаў спачатку словы з фанетычным падаўжэннем зычных, пасля – з марфалагічным падваеннем. Абгрунтуйце свой выбар.

І. 1. Гэта былі нізінныя мясціны. ...Траплялiся даўнія лесасекі, зарослыя дрэўцамі, малiннікам, скрыпенем. Белы туман шматкамі выпаўзаў з нетраў. Было бязлюддзе. І цішыня. Залаты і шафранны захад шырокай паласой дагараў за ляснымі волатамі (У. Караткевіч). 2. Майская зеляніна пад дрэвамі адлівае чырванню бяды, шэранню папялішчаў, далягляд і акрайчык неба трывожна пунсавеюць, майская прозелень і просінь не змылі апёкаў. Яблынькі цвітуць нясмела, бель квецені як сівы туманок, як першае вяселле ў спаленай вёсцы (В. Карамазаў). 3. Вось тады і быў выдадзены строгі загад: не ўпускаць у Лоск ні пешага, ні коннага без камянёў. ...Калі камянёў набралася цэлыя горы, іх рассартавалі па памерах, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены (А. Гурскі). 4. Дзяўчынка засмяялася, шырока разявіўшы свой яшчэ зусім бяззубы роцік, і так зморшчыла трошкі сіняватае пераноссе, што здавалася, нібы яна сама хацела пазабаўляць незнаёмага дзядзьку (А. Кулакоўскі). 5. Адхінаючы рукою шырокія лапы ляшчынніку, Уладзіслаў ішоў з вудамі па ўтравелай сцяжынцы, якую, пэўна, пароўну білі звяры і людзі. (У. Арлоў) 6. Госці заварушыліся; Аўгіння выціскала слёзы і цёрла далонню сухія вочы (Кузьма Чорны). 7. Мне доўгае расстанне з Вамі чарней ад Вашых чорных кос. Чаму ж нядобры час прынёс мне доўгае расстанне з Вамі? (М. Багдановіч). 8. Самы плённы перыяд у жыцці кампазітара, паўстанца, дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага звязаны з Залессем, што на Смаргоншчыне. 9. Патыхала



струхлелым дрэвам, зямлёй, вільгаццю (А. Кажадуб). 10. Міхась быў цвёрда ўпэўнены: калі горад прайшоў праз стагоддзі, не знік у іх, не згарэў у пажарах войнаў, ён набывае асаблівую высакароднасць свайго аблічча (А. Кажадуб). 11. І так шкада ўсяго таго, з чым звыклася, без чаго не ўяўляла свайго жыцця (Б. Сачанка).

ІІ. 1. «Не, Антоля, бессардэчны быў не я. І можа якраз табе пра гэта не варта ўспамінаць» (Я. Скрыган). 2. Тут нарадзілася і пражыла сваё самаадданае жыццё выдатная асветніца, адна з самых адукаваных жанчын свайго часу Ефрасіння Полацкая (С. Панізнік, В. Дышыневіч). 3. Так у Наднямонні з’явіўся свой сейбіт – пясняр сялянскай нядолі. Пачынаць паэтычны спеў яму дапамагалі хвалі Нёмана, гоман лесу, лугавое раздолле, якое настойліва стукалася ў акенца ціхай і глухой лесніцоўкі (С. Александровіч). 4. Пакаленне, да якога належыць паэт [П. Панчанка], выпрабавана на грамадзянскую сталасць найперш вайной (М. Стральцоў). 5. Пад густой навіссю лістоты, праз якую ледзьве прабіваліся сонечныя промні, я вырашыў трохі адпачыць (З. Бяспалы). 6. Аднак цела ўжо звыклася з новым асяроддзем, і Тоня пераконвалася, што небяспекі няма (А. Кажадуб). 7. Пацякла вада з крыніцы па рове да Сажа, і ажыў роў безжыццёвы: зазелянелі яго схілы, а паабапал паўсталі бярозкі белыя (К. Кірэенка) 8. Мы, напэўна ж, ведаем, як прыемна пахне зацвілы асот. Але для нас гэта – пустазелле (Я. Сіпакоў). 9. Ён [гром] сапраўды не забавіцца, агалосіць сваім магутным голасам амярцвела-прыціхлае наваколле (І. Навуменка). 10. У сярэдзіне лета, часцей пад вечар, а то і ноччу, нечакана аднекуль падплывалі даўжэзныя плыты з тоўстага смольнага бярвення (С. Грахоўскі). 11. Купалле – бронзавыя дзяўчаты, якія пускалі на ваду бронзавыя вянкі, – ёй таксама спадабалася (Я. Сіпакоў).

## Тэст № 2

**1. Адзначце словы, напісаныя правільна:**

1) вагзал; 2) вэб-сайт; 3) маладзьба;
4) экзаменатар; 5) баскетбол.

**2. Адзначце словы, напісаныя правільна:**

1) ятвяг; 2) бацвінне; 3) рэзідэнцыя;
4) уверцюра; 5) пласцік.

**3. Адзначце словы, напісаныя няправільна:**

1) літвінка; 2) гвардыец; 3) медыцына;
4) тэхніка; 5) сульфідын.

**4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *т*:**

1) счарс...велы; 2) у Лі...ве; 3) ча...вёрты;
4) аб таварыс...ве; 5) у кля...ве.

**5. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца *д*:**

1) мя...ведзь; 2) мар...він; 3) па...веяць;
4) ...вухтомны; 5) ...ве.

**6. Адзначце словы, напісаныя правільна:**

1) абласны; 2) фарпостны; 3) карыстлівы;
4) шчаслівы; 5) Рэмбрант.

**7. Адзначце словы, напісаныя няправільна:**

1) кампосны; 2) пырскнуць; 3) пяшчаны;
4) пяшчота; 5) фарштадт.

**8. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *в*:**

1) ...одзыў; 2) ...оперны; 3) ...устрыца;
4) ці...ун; 5) ...окаць.

**9. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца *у*:**

1) па...метра; 2) фра...; 3) а...каць;
4) рады...с; 5) ска...т.

**10. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца *ў*:**

1) но...-ха...; 2) ка…бой; 3) паўднёва-...сходні;
4) Ланда...; 5) а...дыт.



**11. Адзначце словы, напісаныя няправільна:**

1) траўр; 2) ток-шоў; 3) аул;
4) кансіліўм; 5) іуда.

**12. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску адбываецца падаўжэнне зычных:**

1) ка...екцыя; 2) сава...а; 3) Маро...а;
4) кало...е; 5) лама...а.

**13. Адзначце словы, напісаныя правільна:**

1) піцца; 2) манна; 3) Мекка;
4) Улляна; 5) куцця.

**14. Адзначце словы, напісаныя няправільна:**

1) дона; 2) Усціньня; 3) саміт;
4) Ільінскі; 5) Жана.

**15. Адзначце словы, у якіх адбылося марфалагічнае падваенне зычных:**

1) рассохлы; 2) беззямельны; 3) узбярэжжа;
4) чыгунны; 5) сувяззю.

# Раздзел 4. ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА

Мяккі знак бывае ***змякчальны*** і ***раздзяляльны***. Змякчальны мяккі знак ужываецца для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага, а раздзяляльны мяккі знак, як і апостраф, паказвае на раздзельнае вымаўленне зычнага з наступным галосным.

## § 12. Правапіс змякчальнага мяккага знака

1. **Змякчальны мяккі знак** пішацца пасля мяккіх зычных ***з***, ***л***, ***н***, ***с***, ***дз*** (з мяккага ***д***), ***ц*** (з мяккага ***т***):

- ✓на канцы слова: *мазь, соль, камень, вось, медзь, чытаць*;
- ✓у сярэдзіне слова перад цвёрдым зычным: *касьба, барацьба, дзядзька*;
- ✓у сярэдзіне слова паміж двума мяккімі зычнымі, калі пры змяненні слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) другі зычны становіцца цвёрдым, а першы застаецца мяккім: *пісьменнік* (*пісьмо*), *цьмяны* (*цьма*), *васьмі* (*восем*);
- ✓пасля мяккага ***л*** перад любым зычным (цвёрдым або мяккім): *вельмі, пальцы, гульні, бразільскі*.

2. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці ***н***:

- ✓перад суфіксам -***к***-, а таксама перад суфіксам -***чык***- (калі слова без суфікса -***чык***- заканчваецца мяккім знакам): *нянька, Манька; карэньчык* (*корань*), *агеньчык* (*агонь*);
- ✓перад суфіксам -***ск***- у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў, якія заканчваюцца мяккім ***н'***, і назоўніка *восень*: *снежаньскі, студзеньскі, восеньскі*, а таксама ў суадносных уласных назвах: *Чэрвеньскі раён, Ліпеньская школа*;
- ✓у суфіксе -***еньк***- (-***эньк***-, -***аньк***-): *кволенькі, даражэнькі, прыгожанькі*.

3. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у дзеясловах загаднага ладу:

- ✓перад канчаткам першай асобы множнага ліку -***ма***: *станьма, кіньма, сядзьма*;
- ✓перад канчаткам другой асобы множнага ліку -***це***: *намыльце, сядзьце, станьце*;
- ✓перад зваротнай часціцай -***ся***: *сунься, кінься*.

4. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку -***мі***: *коньмі, грудзьмі, дзецьмі*.

5. Мяккі знак пішацца:

- ✓у некаторых складаных лічэбніках: *пяцьдзясят, шэсцьсот, дзевяцьсот*;
- ✓у часціцы -***сьці***, якая з'яўляецца часткай слова: *штосьці, кудысьці, якісьці* (як і ў словах *штось, хтось, кудысь*);
- ✓у слове ***ледзьве*** (як і ў слове *ледзь*).

6. Мяккі знак не пішацца:

- ✓пасля шыпячых (***ж***, ***дж***, ***ч***, ***ш***), ***р***, ***ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д***, ***т***, а таксама пасля губных ***б***, ***в***, ***м***, ***п***, ***ф***: *дождж, печ, ціш, вар, купец, насып, верф*;
- ✓пасля ***з***, ***с***, ***ц***, ***дз*** перад мяккімі зычнымі, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго іншым, аднакаранёвым) нельга паставіць гэтыя ***з***, ***с***, ***ц***, ***дз*** перад цвёрдым зычным: свет – свяціць – асвятленне; дзверы – дзвярэй (гутарка ідзе пра асіміляцыйную мяккасць);
- ✓пры падаўжэнні зычных: *калоссе, галлё, насенне*, а таксама пры падваенні: *ззяць*;
- ✓у прыметніках з суфіксам -***ск***-, утвораных ад назоўнікаў на -***нь***: *конскі* (*конь*), *разанскі* (*Разань*), *цянь-шанскі* (*Цянь-Шань*).

## § 13. Правапіс раздзяляльнага мяккага знака

1. **Раздзяляльны мяккі знак** пішацца пасля зычных ***л, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** і непрыставачных ***н*** і ***з*** перад ***е, ё, і, ю, я*** ў словах іншамоўнага паходжання: *рэльеф, дасье, парцье, мадзьяры, кастаньеты, Карбюзье*.

2. Ва ўласных імёнах і назвах, утвораных ад імён на ***-ій*** (***-ый***), пасля зычных ***л, с, ц, дз, н, з*** перад суфіксальным ***-еў-*** ***(-ев-)*** пішацца мяккі знак: *Васільевіч, Васільеўскі (востраў), Васільеўка, Арсеньеў, Арсеньевіч, Кандрацьеў, Аркадзьевіч*.

☝ Трэба адрозніваць напісанне некаторых імёнаў па бацьку з раздзяляльным мяккім знакам і без яго. Гэта тлумачыцца тым, што яны ўтвораны ад розных формаў уласных асабовых імён: *Васілій – Васільевіч* і *Васіль – Васілевіч, Аркадзій – Аркадзьевіч* і *Аркадзь – Аркадзевіч*.

3. Пасля ***г, к, х*** і збегу зычных, акрамя ***нц***, перад суфіксальным ***-еў-*** (***-ев-***) пішацца ***і*** (***ы***): *Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Георгіеў, Георгіевіч*

(☝ **але**: Вікенцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьеў і інш.).

4. **Апостраф** пішацца пры асобным вымаўленні зычных з наступным галосным:

- ✓ пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную, перад ***е, ё, ю, я*** і націскным ***і***: суб’ект, пад’ёмны, між’ярусны, ад’ютант, аб’інець;
- ✓ у сярэдзіне слова пасля губных ***б, в, м, п, ф,*** заднеязычных ***г, к, х,*** зубных ***д, т*** і дрыжачага ***р*** перад літарамі ***е, ё, і, ю, я***: *б’е, В’етнам, інтэрв’ю, куп’істы, Лук’ян, Пракоф’евіч, Юр’еў*;
- ✓ у складаных словах з першай часткай ***двух-, трох-, чатырох-, шмат-*** перад літарамі ***е, ё, ю, я***: *шмат’ёмісты, двух’ярусны*.

5. Апостраф не пішацца:

- ✓ пасля ***ў*** перад літарамі ***е, ё, і, ю, я***: *здароўе, салаўі, саўюць*;
- ✓ у складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку калі іх часткі пішуцца праз злучок: *дзяржюрвыдавецтва, цэхячэйка*.





✏ **Практыкаванне № 26.** Спішыце, ставячы, дзе трэба, замест кропак мяккі знак. Растлумачце (вусна) яго правапіс.

І вясну сустракац..., як з...дзіўлен…не,
Будзе кожнен...кі зелен...-лісток.
Мова, кол...кі ў цябе пакален...няў,
Дзе бруіцца твой слаўны выток,
Дзе заўчора з...вячора гаворац...,
Дзе агон... нагарае, гарыц...,
Дзе дзяўчаты вячоркі сну дорац...,
Дзе ў зязюлен...кі крыл...ца баліц...!
Край случан...скі – прамен...чык Радзімы,
Ты былінка, таемны і дзіўны!
Пакул... мамы пяюц... калыханку
І вітаюц... буслы новы дзен...,
Мая мова, ідзі да людзей –
Ад с...вятла да начы і да ранку!
(В. Аколава)

✏ **Практыкаванне № 27.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе патрэбна, мяккі знак або апостраф. Аргументуйце свой выбар.

Піс...маносец, саслоў...е, лас...ён, літаб...яднанне, кал...е, правер…це, гомел…скі, лісц…вяны, зрэб…е, нацян…кі, пасляслоў…е, чан...-чун...скі, кан...як, цікавас...цю, суб...ектыўны, уз...езд, жэрдз...е, без...языкі, медал...ён, п...яўка, мадэл...ер, кубан...скі, сем...дзесят, вас...мёрка, вып...ю, Соф...я, мнагабор...е, узваж...це, кон...мі.

✏ **Практыкаванне № 28.** Запішыце словы па-беларуску. Растлумачце іх правапіс.

Льёт, кровь, адъютант, пьеса, верфью, батальон, отрежь, четырьмя, объём, миллион, копьё, мадьяр, Свислочь, семья, барьер.

## Тэст № 3

**1. Адзначце, якую функцыю выконвае апостраф у беларускай мове:**
1) дапамагае раздзельна вымаўляць прыстаўкі, што заканчваюцца на зычную, і кораня, што пачынаецца з галосных *е, ё, ю, я* або націскной галоснай *і*;
2) дапамагае злітна вымаўляць шыпячыя *ж, дж, ч, ш* з наступнымі галоснымі *е, ё, ю, я, і*;
3) дапамагае злітна вымаўляць спалучэнні галосных у іншамоўных словах;
4) дапамагае раздзельна вымаўляць губныя *б, п, в, ф, м* з наступнымі галоснымі *е, ё, ю, я* і націскным *і*;
5) дапамагае размяжоўваць часткі слоў і асобныя словы.

**2. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца раздзяляльны мяккі знак:**
1) шампін...ён; 2) п...яўка; 3) мыш...; 4) Н...ю-Ёрк; 5) ледз...ве.

**3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца апостраф:**
1) двукроп...е; 2) Мар...яна; 3) здароў...е; 4) раз...езд; 5) павіл...ён.

**4. Запішыце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца змякчальны мяккі знак:**
1) паштал...ён; 2) дз...ве; 3) бур...ян; 4) мен...шы; 5) чэрвен...скі.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | |

**5. Адзначце словы, напісаныя правільна:**
1) штосьці; 2) нянчыць; 3) Дзьмітрый; 4) ралля; 5) астраханскі.

**6. Адзначце словы, напісаныя няправільна:**
1) трох'ярусны; 2) іньекцыя; 3) біл'ярд; 4) раз'юшаны; 5) Дзям'ян.

**7. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца *ь*:**
1) талон...чык; 2) ц...вік; 3) мадэл...ер; 4) дзе-небудз...; 5) мален...кі.

**8. Адзначце памылковыя сцвярджэнні:**
1) мяккі знак пішацца пасля шыпячых *ж, дж, ч, ш*;
2) мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у дзеясловах загаднага ладу перад канчаткам першай асобы множнага ліку *-ма*;
3) мяккі знак не пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці *л* перад зычнымі;
4) мяккі знак пішацца пасля *з, л, н, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* (з мяккага *д*) для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым зычным;
5) мяккі знак пішацца ў некаторых складаных лічэбніках.



**9. Адзначце словы, у беларускамоўных адпаведніках якіх пішацца апостраф:**
1) пьеса; 2) льёт; 3) адъютант; 4) воробьи; 5) барьер.

**10. Адзначце словы, у беларускамоўных адпаведніках якіх пішацца *ь*:**
1) букварь; 2) поздний; 3) батальон; 4) четырьмя; 5) миллиард.

**11. Адзначце формы іменных часцін мовы, у якіх на месцы пропуску пішацца змякчальны мяккі знак:**
1) людз…мі; 2) вясел…ле; 3) стан…ма; 4) камен…чыкі; 5) малюпасен…кага.

**12. Запішыце слова, у якім на месцы пропуску пішацца апостраф:**
1) шчаў…е; 2) куп…істы; 3) Іл…іч; 4) подз…віг; 5) восен…скі.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | |

**13. Адзначце формы дзеясловаў, у якіх на месцы пропуску пішацца змякчальны мяккі знак:**
1) ляж…ма; 2) хтос…ці; 3) пасун…це; 4) сем…сот; 5) намыл…ся.

**14. Адзначце памылковыя сцвярджэнні:**
1) мяккі знак пішацца ў назоўніках перад суфіксам *-чык-*, калі зыходнае слова не заканчвалася на *н'*;
2) мяккі знак пішацца пры асіміляцыйнай мяккасці;
3) мяккі знак пішацца ў словах *меньшы, іньшы*;
4) мяккі знак не пішацца паміж падоўжанымі зычнымі;
5) мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках, утвораных ад назваў месцаў, якія заканчваюцца на *н'*.

**15. Адзначце словы, напісаныя правільна:**
1) медальён; 2) зьвілісты; 3) рашэньне; 3) вазончык; 5) які-небудзь.

# Раздзел 5. ПРАВАПІС АБРЭВІЯТУР

## § 14. Правапіс абрэвіятур

1. У абрэвіятурах скарочаныя часткі пішуцца так, як у адпаведных поўных словах: *гарвыканкам* (*га*радскі *вы*канаўчы *кам*ітэт), *галоўурач* (*галоў*ны *ўрач*), *музвучылішча* (*му*зычнае *вучылішча*), *ваенкамат* (*ваен*ны *кам*іс*а*рыя*т*), *інтэрпал* (*інтэр*нацыянальная *пал*іцыя), *член-кар.* (*член-кар*эспандэнт).

2. Літарныя, гукавыя абрэвіятуры і абрэвіятуры змешаннага тыпу звычайна пішуцца вялікімі літарамі без кропак, злучкоў і апострафаў: *БДПУ* (Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт), *УА* (установа адукацыі), *СНД* (Садружнасць Незалежных Дзяржаў), *СМІ* (сродкі масавай інфармацыі), *УП* (унітарнае прадпрыемства).

✓Калі да абрэвіятуры далучаецца лічба, то яна пішацца праз злучок: *МАЗ-200, ВАЗ-21*.

✓Калі абрэвіятура скланяецца, канчаткі яе пішуцца малымі літарамі: *у ВАКу, у ЦУМе*.

✓Дапускаецца напісанне малымі літарамі агульнавядомых абрэвіятур тыпу *жэс, цэц*.

✓Малыя літары пішуцца ў некаторых камбінаваных абрэвіятурах: *БелТА, ЛіМ, УП «Белкніга»*.

3. Напісанне запазычаных абрэвіятур вызначаецца па слоўніку. Поўны сэнсавы беларускі адпаведнік не расшыфроўвае іх, а перадае значэнне такіх запазычанняў: *завуч* (намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце), *ЮНЕСКА* (Камісія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры), *АСУ* (аўтаматызаваная сістэма кіравання).

4. У некаторых абрэвіятурах напісанне не супадае з іх вымаўленнем: *РІВШ* (вымаўляецца [*рыўш*]), *ТЮГ* (вымаўляецца [*ц'ух*]).



☝ Літарныя абрэвіятуры не трэба блытаць з умоўнымі графічнымі скарачэннямі, якія ўжываюцца на пісьме, але заўсёды чытаюцца поўнасцю.

5. Скарачэнне слоў рэгламентуецца наступнымі правіламі:

✓нельга скарачаць на галосную літару, на ***ь***, на ***й*** і на ***ў***;

✓пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай: *ваен. завод*;

✓пры збегу дзвюх або некалькіх зычных скарачэнне робіцца пасля апошняй зычнай: *народн. казкі*;

✓калі імя або імя па бацьку пачынаецца з дыграфа ***Дз***, то ініцыялам выступае толькі літара ***Д***: *Дзяніс Дзмітрыевіч – Д. Д.*

Пры графічных спалучэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя самыя знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы для поўнага напісання: *В.-Д. к.* (Волга-Данскі канал), *с.-д. партыя* (сацыял-дэмакратычная партыя).

Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак: *кг* (кілаграм), *см* (сантыметр), *т* (тона) і інш.



✎ **Практыкаванне № 29.** Растлумачце ўтварэнне, значэнне і напісанне наступных слоў.

I. Прафсаюз, Беллітфонд, прафкам, рыбгас, гарсавет, камбат, прамкамбінат, Еўрасаюз, юнкар, рацыя, генплан, Белдзяржпраект, лячфак, аблкамунгас, сельсавет, эсмінец, цэхкам, ваенкам, Саўмін, Гомсельмаш, Мінэканомікі.

II. РБ, НАН Беларусі, ТАА, БДПУ, МАК, РВУ, ЗАТ, МТЗ, ЦСУ, РУУС, ВНУ, ВДНГ, БелТА.

✏ **Практыкаванне № 30.** Расшыфруйце абрэвіятуры і ўмоўныя скарачэнні і запішыце іх паводле ўзору. Растлумачце ўжыванне вялікай літары.

*Узор:* ВКЛ – Вялікае Княства Літоўскае.
НДІ, СП, БелСЭ, ТЮГ, МДЛУ, нэп, га, стст., з-д, т. зв., н. э.

✏ **Практыкаванне № 31.** Запішыце і запомніце агульнапрынятыя скарачэнні слоў, спалучэнняў слоў, словазлучэнняў.

***Акад.*** – акадэмік; ***б.*** – былы; ***бухг.*** – бухгалтэрыя; ***в.*** – вёска; ***в.а.*** – выконваючы абавязкі; ***в-аў*** – востраў; ***вобл.*** – вобласць; ***воз.*** – возера; ***г.*** – горад; ***гг.*** – гады; ***г.зн.*** – гэта значыць; ***гл.*** – глядзі; ***гр.*** – грамадзянскі; ***дац.*** – дацэнт; ***заг.*** – загадчык; ***зб.*** – зборнік; ***і г.д.*** – і гэтак далей; ***і да т.п.*** – і да таго падобнае; ***і інш.*** – і іншае; ***і пад.*** – і падобнае; ***нам.*** – намеснік; ***напр.*** – напрыклад; ***н.ст.*** – новы стыль; ***параўн.*** – параўнайце; ***п-аў*** – паўвостраў; ***праф.*** – прафесар; ***р.*** – рака; ***р-н*** – раён; ***руб.*** – рубель; ***с.*** – старонка; ***с.-г.*** – сельскагаспадарчы; ***сс.*** – старонкі; ***с/с*** – сельскі савет; ***ст.*** – стагоддзе; ***ст.ст*** – стары стыль; ***т.*** – том; ***тав.*** – таварыш; ***т-ва*** – таварыства; ***тт***. – тамы.



# Раздзел 6. ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ

## § 15. Правапіс прыставак

1. Прыстаўка ***су***- пішацца:

✓ у словах са значэннем сумеснасці, узаемнай сувязі з тым, што названа матывавальнай асновай: *суаўтар*, *сувіноўнік*, *сувымярэнне*, *сугаспадар*;

✓ у словах, якія без ***су***- не ўжываюцца: *суквецце*, *суглінак*, *сугучча, сумежжа, сумесны*, *супольнасць*, *су́праць* (*супро́ць*), *сутыкацца*.

Прыстаўка ***са***- пішацца:

✓ у запазычаннях (пераважна з рускай мовы) і словаўтваральных кальках: *сабрат*, *саіскальнік*, *сакурсніцкі*, *садружнасць*, *саслужывец*, *саўдзельнічаць* і інш.

☝ Напісанне прыставак ***су***- і ***са***- ў іншых выпадках вызначаецца па слоўніку.

2. Калі апошняя зычная літара прыстаўкі і першая літара кораня супадаюць, то пішуцца абедзве літары: *аддзел*, *бессардэчна*, *бессаромна*, *контррэфармацыя*, *Наддзвінне*, *паддавацца*, *паддоследны*, *раззбраенне*, *рассаднік* (крыніца чаго-небудзь), *расслаблены*.

☝ У словах *расол*, *расольнік*, *расада*, *расаднік* (скрынка для вырошчвання расады) адбылося сцяжэнне гукаў, і таму яны пішуцца з адной літарай ***с***.

3. У прыстаўках ***з-***, ***уз-***, ***раз-***, ***без- (бяз-)***, ***цераз-*** і пад. перад звонкімі, санорнымі зычнымі і ётаванымі галоснымі пішацца літара ***з***, а перад глухімі зычнымі – літара ***с***: *зблізку*, *здабытак*, *з’ява*, *ізноў, узбунтаваны, уз’юшыцца, без’ядзерны, бязлюдны, небездакорны*; *схітрыць*, *усхадзіцца*, *бесклапотны*, *бясшкодны*, *цераспалосіца*.

☝ У словах *разявіць, узлаваць* і вытворных ад іх адбылося сцяжэнне ***з*** у прыстаўцы і корані.

4. Калі корань слова пачынаецца з галосных ***а***, ***э*** або ненаціскнога ***і***, якое пераходзіць у ***ы***, замест прыстаўкі ***з-*** пішацца прыстаўка ***с-***: *сарганізаваць*, *сумысна*, *сэканомлены*, *сыграць*.

☝ **Але**: зымправізаваць, зыначыць.

5. У прыстаўцы ***дыз***- перад галоснымі пішацца ***з***, а перад зычнымі – ***с***: *дызасацыяцыя*, *дызартрыя*, *дыз'юнкцыя*, *дысгармонія*, *дыскамфорт*.

Прыстаўка ***дэз***- пішацца нязменна: *дэзактывацыя*, *дэзарыентаваць*, *дэзынфекцыя*.

6. У словах, утвораных ад дзеясловаў *ісці*, *хадзіць*, прыстаўкі на ***з-*** пішуцца ў залежнасці ад лексічнага значэння: *зысці* – *сысці*, *зыходзіць* – *сыходзіць*, *зыходзячы* – *сыходзячы*.

7. Спалучэнні літар ***сч***, ***сш***, ***сшч***, ***зж***, ***здж*** на стыку прыстаўкі і кораня перадаюцца нязменна: *расчахліць*, *расчасаць, сшытак*, *сшэрхлы*, *расшчапленне* (*расколванне*), *разжаць*, *разжыцца, зджаліць*.

☝ **Але**: *рашчыніць* (паставіць цеста), *рошчына, ушчуваць, ушчуванне, нішчымны, нішчымніца.*

8. Пасля приставак на зычны гук ненаціскны пачатковы кораня абазначаецца на пісьме літарай ***ы***: *абысці*, *безыдэйны*, *безыменны*, *дэзынфармацыя*, *зымправізаваць*, *зыначаны*, *разыграцца*, *спадылба*, *субынспектар*, *узысці*.

У складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае ***і*** другога кораня пішацца нязменна: *палітінфармацыя*, *медінструменты*, *гарінспекцыя*.

☝ Пасля прэфіксоідаў ***звыш-***, ***між-***, ***пан-***, ***супер-***, ***транс-***, ***контр-*** ***і*** захоўваецца: *звышімклівы, міжінстытуцкі, паніславізм, контрідэя, контрігра, суперінтэлігент, трансіндыйскі.*

☝ У складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае ***і*** другога слова пішацца нязменна: *педінстытут*, *дзяржінспектар*, *палітінфармацыя*, *санінструктар*, *цяжіндустрыя*, *медінструменты*, *спецінструктаж*, *гарінспекцыя*, *гасінвентар.*





✎ **Практыкаванне № 32.** З дапамогай этымалагічнага слоўніка адкажыце на пытанне: што агульнага ў паходжанні і семантыцы наступных слоў? Чаму, на ваш погляд, адны з прыведзеных слоў маюць частку ***су-*** а другія – ***са-***?

Сусед, супастат, супоня, суткі, сустаў; сасуд, савет, сабор, саюз, саслоўе.

✎ **Практыкаванне № 33.** Запішыце словы, устаўце прапушчаныя літары.

А(д/дд)ача, а(д/дд)аліцца, а(к/кк)амадацыя, а(к/кк)упацыя, а(п/пп)азіцыя, бе(з/зз)аконне, бе(с/сс)ардэчны, бе(с/сс)вядомы, бя(з/зз)орны, бя(з/зз)убы, звы(ш/шш)татны, (з/зз)аду, (з/зз)елянець, і(н/нн)авацыя, конт(р/рр)абота, па(дз/ддз)ёўка, па(д/дд)обрывацца, па(д/дд)золісты, па(д/дд)оследны, ра(з/зз)браенне, ра(з/зз)лавацца, (с/сс)івець, сю(р/рр)эалізм, тран(с/сс)ібірскі, у(с/сс)ядаць.

✎ **Практыкаванне № 34.** Размяркуйце словы ў адпаведны слупок табліцы.

| **На месцы пропуску пішацца -ы-** | **На месцы пропуску пішацца -і-** |
|---|---|
| | |

Аб...граць, аб...нтэлігенціцца, ад...граць, ад...менны, ад...ходзіць, гар...нспекцыя, дэз...нфармацыя, дэз...нфіцыраваць, звыш...мклівы, звыш...ндустрыяльны, звыш...нфляцыя, з...мправізаваць, з...начаны, з...сці, мед...нструменты, пад...нтэграваць, паліт...нфармацыя, перад...нфарктны, раз...сціся, раз...грываць, перад...мперскі, перад...спытны, с...грацца, с...шчык, спад...лба, спад...спаду, суб...нспектар, супер...нтэлект, с...сці, уз...ход.

## § 16. Правапіс суфіксаў

1. Пераважная большасць запазычаных дзеясловаў і вытворных ад іх назоўнікаў ужываецца з суфіксам -***ава***- (-***ява***-): *абсалютызаваць, абстрагавацца, байкатаваць балянсаванне, групаванне, кантраляваць, рэкламаваць, тыражаваць, экспартаванне.*

Дзеяслоўны суфікс -***ірава***- (-***ырава***-) ужываецца:

✓ для недапушчэння аманіміі з адпаведнымі дзеясловамі з суфіксам -***ава***- (-***ява***-): *парадзіраваць – парадаваць, газіраваць – газаваць, камандзіраваць – камандаваць, планіраваць* (на самалёце) *– планаваць, фарміраваць – фармаваць*;

✓ калі дзеяслоў без -***ір***- (-***ыр***-) губляе сваю фармальную і семантычную акрэсленасць: *бравіраваць, гарманіраваць, лабіраваць, кампасціраваць, курыраваць, манціраваць, сервіраваць, трасіраваць.*

2. У формах інфінітыва і прошлага часу дзеясловаў незакончанага трывання пішуцца наступныя суфіксы:

✓ -***ава***- (-***ява***-), калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеяслоў заканчваецца на -***ую***- (-***юю***-): *даследую – даследаваць, аналізую – аналізаваць, пакутую – пакутаваць*;

✓ -***ыва***- (-***іва***-), калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу перад суфіксам утвараецца збег зычных, апошнімі з якіх бываюць ***л***, ***н***, ***р***: *адыгрываю – адыгрываць, запэўніваю – запэўніваць, падкрэсліваю – падкрэсліваць*;

✓ -***ва***-, калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу дзеяслоў заканчваецца на -***ваю***, перад якім няма збегу зычных на ***л***, ***н***, ***р***: *выпраменьваю – выпраменьваць, прыклейваю – прыклейваць, заваёўваю – заваёўваць.*

☝ У дзеясловах *выйграваць* і *прайграваць* пішацца суфікс -***ава***-.

Калі неазначальная форма дзеяслова закончанага трывання заканчваецца на -***іць*** або -***яць*** з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам -***ва***- пішацца ***й***: *супакоіць – супакойваць, настроіць – настройваць, засеяць – засейваць.*

3. Суфікс -***ен***- пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на -***іць***, -***ці***: *акрэслены, зацікаўлены, пабелены, сплецены.*

☝ Пры чаргаванні ў аснове дзеяслова ***с’*** / ***ш***, ***з’*** / ***ж***, ***ц’*** / ***ч***, ***дз’*** / ***дж*** у дзеепрыметніках пішацца суфікс -***ан***-: *насіць – ношаны, уразіць – уражаны, запрасіць – запрошаны, круціць – кручаны, апярэдзіць – апярэджаны.*

Спалучэнне галоснай ***я*** дзеяслоўнай асновы з суфіксам дзеепрыметнікаў -***н***- передаецца ў тых дзеепрыметніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на -***яць***-: *абстраляны*, *набрынялы*, *пасеяны*, *развеяны*, *аблаяны*, *павыдумляны*.

4. Суфікс -***ец***- (-***ац***-) пішацца ў назоўніках мужчынскага роду: *акраец, баец, запарожац*, *мсцівец*, *плывец*, *разец*, *вясковец*. Пры змяненні слова галосны выпадае.

Суфікс -***іц***- (-***ыц***-) пішацца ў назоўніках жаночага роду: *ваколіца*, *пакутніца, прасніца, разведчыца, спадарожніца*.

5. Суфіксы -***чык***- (-***чыц***-) і -***шчык***- (-***шчыц***-) ужываюцца пры ўтварэнні назоўнікаў, якія называюць людзей паводле прафесіі або роду заняткаў:

✓ суфікс -***чык***- (-***чыц***-) пішацца, калі ўтваральная аснова заканчваецца на пярэднеязычныя ***д, т, з, с, г*** (якое чаргуецца з ***ж***): *абходчык, аб’ездчык, буфетчык, дарадчыца, наладчык, перабежчыца, перапісчык, рэзчык*.

✓ суфікс -***шчык***- (-***шчыц***-) пішацца, калі ўтваральная аснова заканчваецца на на губныя зычныя ***б***, ***п***, ***м***, ***ф*** і ***ў*** (з ***в***) або на санорныя ***р***, ***л***, ***м***, ***н***, ***й***: *скупшчык*, *нарыхтоўшчык*, *турэмшчык*, *балельшчык*, *барабаншчык*, *бронзаліцейшчык*, *наборшчыца*, а таксама пасля спалучэнняў названых санорных з наступнымі ***т***, ***г*** утваральнай асновы: *аліменты – аліментшчык*, *кобальт – кобальтшчык, працэнт – працэнтшчыца*, *цюнінг – цюнінгшчык*.

6. Суфікс -***цтв***- пішацца ў словах, у якіх зычныя ***к***, ***т***, ***ц***, ***ч*** зліліся з пачатковай зычнай суфікса -***ств***-: *баламут – баламуцтва*, *дзівак – дзівацтва*, *донкіхот – донкіхоцтва*, *выдавец – выдавецтва*, *ткач – ткацтва*.

☝ Зычныя **г**, **ж**, **х**, **ш** перад суфіксам **-ств-** на пісьме не перадаюцца: бог – боства, прыгожы – прыгоства, птах – птаства, харошы – хараство.

7. У прыметніках і прыслоўях з ласкальным значэннем пасля мяккіх зычных пішацца суфікс -***еньк***-, а пасля цвёрдых зычных – суфікс -***эньк***- (пад націскам) і -***аньк***- (не пад націскам): *маленькі*, *макрусенькі*, *даражэ́нькі*, *до́бранькі*.

8. З падвоеным ***н*** пішуцца прыметнікі:

✓ утвораныя з дапамогай суфікса -***н***- ад назоўнікаў з асновай на -***н***-: *батальённы*, *вясенні*, *глыбінны*, *раслінны*;

✓ утвораныя ад назоўнікаў на -***мя***: *семя – семянны, племя – племянны*

(☝ **але** полымя – палымяны);

✓ з суфіксам -***энн***- (-***енн***-): страшэнны, здаравенны, таўсценны.

9. Суфікс -***ск***- пішацца ў прыметніках, утваральная аснова якіх заканчваецца на ***с***: *беларускі*, *адэскі*, *вільнюскі*, *копыскі*, *палескі*.

У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з дапамогай суфікса -***ск***-, зычныя асноў ***т***, ***ц***, ***ч***, ***к*** у спалучэнні з суфіксальным ***с*** даюць у вымаўленні і напісанні ***ц***: *брат – брацкі, мастак – мастацкі, ткач – ткацкі*.

Калі ўтваральная аснова заканчваецца на ***д***, ***з***, то спалучэнне іх з суфіксальным ***с*** падаецца як ***дс***, ***зс***: *горад – гарадскі*, *люд – людскі*, *грамада – грамадства*, *сусед – суседскі*, *француз – французскі.*

У словах, вытворных ад асноў славянскага паходжання на ***к***, спалучэнне ***к*** з суфіксальным ***с*** на пісьме перадаецца як ***ц***: *гарняцкі*, *казацкі*, *крыжацкі*, *чашніцкі*.



У словах, утвораных ад асноў неславянскага паходжання на ***к***, на пісьме захоўваецца спалучэнне ***кс***: *нью-ёркскі*, *бангкокскі*, *цюркскі*, *квебекскі*, *таджыкскі*, *узбекскі*.

У прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў на -***ка***, -***кі***, зычны ***к*** (пасля іншага зычнага) у канцы слова перад суфіксам -***ск***- знікае: *крупскі* (Крупкі), *дудзінскі* (Дудзінка), *церахоўскі* (Церахоўка), *вяцкі* (Вятка).

☝ **Але**: *касабланкскі.*

10. Калі ўтваральная аснова слова заканчваецца на ***т***, ***ц***, ***ч***, а суфікс пачынаецца з зычнага ***с***, то спалучэнні ***тс***, ***цс***, ***чс*** на пісьме перадаюцца праз ***ц*** у адпаведнасці з фанетычным прынцыпам: *агенцтва*, *балцкі*, *кравецкі*, *баранавіцкі*, *чытацкі*.

11. У прыметніках, утвораных ад уласных назваў і назваў народаў, спалучэнні ***жс***, ***шс*** перадаюцца нязменна: *Нясвіж – нясвіжскі*, *Добруш – добрушскі, Парыж – парыжскі*, *латыш – латышскі*, *Прага – пражскі*.



✎ **Практыкаванне № 35.** Прачытайце ўрывак з кнігі прафесара П.У. Сцяцко «Культура мовы» (Мінск, 2002). Выкажыце свае думкі адносна меркавання аўтара.

«Суфікс -***ірава***- чужы беларускай мове, яго функцыю спраўна выконвае суфікс -***ава***-. Элемент -***ір***- нічога не дадае да семантыкі дзеяслоўнае асновы, пра што сведчаць паралельныя формы – з -***ір***- (суфікс -***ірава***-) і без яго (суфікс -***ава***-): *апламбіраваць* і *апламбаваць*, *гастраліраваць* і *гастраляваць*, *завізіраваць* і *завізаваць* і пад. Да таго ж гэтага элемента -***ір***- не маюць суфіксы -***ізава***- і -***фікава***-, якія таксама выкарыстоўваюцца ў беларускай мове пры ўтварэнні дзеясловаў ад іншамоўных асноваў: *вітамінізаваць*, *дэталізаваць*, *ідэалізаваць*, *нармалізаваць*; *газіфікаваць*, *кінафікаваць*, *тарыфікаваць*».

**Практыкаванне № 36.** Запішыце пары слоў. Падкрэсліце дзеясловы, якія маюць аднолькавае значэнне.

Акупіраваць – акупаваць, апаніраваць – апанаваць, базіраваць – базаваць, буксіраваць – буксаваць, візіраваць – візаваць, будзіраваць (праяўляць незадавальненне) – будаваць, галапіраваць – галапаваць, дэмаскіраваць – дэмаскаваць, калькіраваць – калькаваць, кампасціраваць – кампаставаць, курсіраваць – курсаваць, пазіраваць – пазаваць, пасіраваць – пасаваць, субстантывіраваць – субстантаваць, тушыраваць – тушаваць, парыраваць – параваць, паніраваць – панаваць, прэміраваць – прэміяваць, фарміраваць – фармаваць.

**Практыкаванне № 37.** Размяркуйце словы ў адпаведны слупок табліцы.

| Дзеясловы, у якіх у форме інфінітыва пішацца | | |
|---|---|---|
| -ава- (-ява-) | -ыва- (-іва-) | -ва- |
| | | |

Адказваю, адмерваю, адорваю, адрозніваю, адыгрываю, будую, выветрываю, выконваю, вымешваю, галасую, дагульваю, даследую, забінтоўваю, заваёўваю, загадваю, заканчваю, запэўніваю, зацярушваю, камандую, малюю, начую, падкрэсліваю, падстрэльваю, падтрымліваю, пакутую, разбэшчваю, раздумваю, размяркоўваю, распілоўваю, рэкамендую, характарызую, чаргую.

**Практыкаванне № 38.** Перакладзіце на беларускую мову.

Компенсировать убытки, этапировать в Сибирь, активизировать деятельность, абсолютизировать власть, купировать симптомы, дискутировать по проблеме, зонировать помещение, дисциплинировать коллектив, гипнотизировать жертву, минировать поле, витаминизировать продукты, асфальтировать поверхность, анонсировать фильм, латинизировать народ, лидировать в соревновании, пародировать героя, парафировать соглашение, переориентировать политику, перефразировать высказывание.



**Практыкаванне № 39.** Запішыце словы, устаўце прапушчаныя літары.

Абме(н/нн)ы, аднакарэ(н/нн)ы, адухоўле(н/нн)ы, адчыне(н/нн)ы, аздобле(н/нн)ы, апасродкава(н/нн)ы, апераза(н/нн)ы, белакаме(н/нн)ы, бярве(н/нн)ы, вапе(н/нн)ы, гуме(н/нн)ы, здараве(н/нн)ы, кішэ(н/нн)ы, летуце(н/нн)ы, мезе(н/нн)ы, падначале(н/нн)ы, паўнацэ(н/нн)ы, пельме(н/нн)ы, свяшчэ(н/нн)ы, страшэ(н/нн)ы, стрэмя(н/нн)ы, суверэ(н/нн)ы, ячме(н/нн)ы.

**Практыкаванне № 40.** Утварыце ад прыведзеных назваў вёсак Слуцкага раёна прыметнікі і запішыце іх.

Гарохаўка, Буслаўка, Бярозаўка, Слабада, Грэск, Ульянаўка, Яўладавічы, Шышчыцы, Астравок, Барок, Вішнёўка, Нежаўка, Панічы, Агароднікі, Боркі, Шулякі, Рабак, Ржаўка.

## Тэст № 4

**1. Адзначце словы з прыстаўкай *су-*:**

1) с...іскальнік; 2) с...пернік; 3) с...зіранне;
4) с...умбурны; 5) с...множнік.

**2. Адзначце словы, у якіх адбылося сцяжэнне гукаў *с*:**

1) ды...ідэнт; 2) ра...ол; 3) бе...ямейны;
4) бе...паспяховы; 5) ра...акрэціць.

**3. Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца *с*:**

1) небя...грэшны; 2) абе...галосець; 3) абя...грошыць;
4) пра...мерны; 5) ра...кідаць.

**4. Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца *з*:**

1) ра...'езд; 2) ...хапіць; 3) ро...піс;
4) абя...шкодзіць; 5) ра...дум'е.

**5. Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара *з*:**

1) ды…прапорцыя; 2) ды…кваліфікаваць; 3) ды…функцыя;
4) ды…крэдытаваць; 5) ды…'юнкцыя.

**6. Адзначце, у якіх выпадках спалучэнні літар *сч*, *сшч*, *зж*, *здж* на стыку прыстаўкі і кораня перадаюцца нязменна:**
1) ра…шчодрыцца; 2) бе…журботна; 3) ні…чымніца;
4) з…жаліць; 5) у…чуванне.

**7. Адзначце, у якіх словах на месцы пропуску пішацца *і*:**
1) контр...гра; 2) з...начаны; 3) пан...сламізм;
4) ад...сці; 5) пад...граць.

**8. Адзначце, якія дзеясловы могуць выкарыстоўвацца з суфіксамі *-ірава-* (*-ырава-)* і *-ава-* (*-ява-*):**
1) кансервіраваць; 2) зандзіраваць; 3) матывіраваць;
4) нарміраваць; 5) канваіраваць.

**9. Адзначце, якія дзеясловы ў форме незакончанага трывання будуць пісацца з літарай *й* перад суфіксам *-ва-*.**
1) завіць; 2) заклеіць; 3) прасеяць;
4) утаіць; 5) завабіць.

**10. Адзначце дзеепрыметнікі, у якіх пішацца суфікс *-ян-*:**
1) засе...ны; 2) разбаўл...ны; 3) змул...ны;
4) складз...ны; 5) узбро...ны.

**11. Адзначце, пры змяненні якіх слоў адбываецца выпадзенне галоснай у суфіксе:**
1) абаронец; 2) макрыца; 3) абхазец;
4) канькабежац; 5) цукарніца.

**12. Адзначце словы, у якіх пішацца суфікс *-цтв-*:**
1) шасцідзесятні...а; 2) штукар...а; 3) эпігон...а;
4) аматар...а; 5) шляхе...а.

**13. Адзначце прыметнікі, якія пішуцца з суфіксам *-нн-*:**
1) палымя...ы; 2) хвілі...ы; 3) этало...ы;
4) асі...ы; 5) паланё...ы.

**14. Адзначце словы, у якіх пішацца суфіксам *-шчык-*:**
1) ракет...; 2) груз...; 3) вугаль...;
4) выбар...; 5) перапіс...

**15. Адзначце выпадкі, калі ў прыметніках, утвораных ад прыведзеных слоў, спалучэнне *к* з суфіксальным *с* на пісьме будзе перадаецца як *ц*:**
1) Вялікія Лукі; 2) Ганцавічы; 3) Бузулук;
4) Глыбокае; 5) Каракалпакія.



# Раздзел 7. ПРАВАПІС ВЯЛІКАЙ І МАЛОЙ ЛІТАР

## § 17. Правапіс вялікай і малой літар у асабовых назвах, геаграфічных і астранамічных найменнях

1. З вялікай літары пішуцца:
- ✓ імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, мянушкі, клічкі жывёл, уласныя назвы прыродных геаграфічных аб'ектаў, назвы краін, уласныя назвы астранамічных аб'ектаў: *Іван*, *Васіль, Надзея*, *Максім Багдановіч*, *Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч* (*Якуб Колас*), *Яўген Іванавіч Скурко* (Максім Танк), *Вікенцій Дунін-Марцінкевіч*, *Дон Жуан*; *сабака Мухтар*, *папугай Кеша*; *Дзвіна*, *Нарач*, *Свіцязь*, *Палессе*, *Ай-Петры*, *Азоўскае мора*, *Рыжскае ўзмор'е*, *Бермудскія астравы*, *Вогненная Зямля*, *пустыня Руб-Эль-Халі*, *Афрыка*, *Злучаныя Штаты Амерыкі*, *Рэспубліка Беларусь*, *Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае*, *Полацк*, *Нясвіж*, *Буда-Кашалёва*, *Магілёў-Падольскі*, *Віцебшчына*, *Міхалова*, *Курасоўшчына*; *Блізняты*, *Фенікс*, *Андрамеда*, *Марс*, *Сатурн*, *Сонца*;
- ✓ прозвішчы і імёны ў множным ліку, калі яны выступаюць як назва роду ці ўжываюцца ў значэнні агульнай назвы: *браты Міцкевічы*, *спадчына Радзівілаў*, *бязродныя Іваны*, *Заслонавы*;
- ✓ пачатковыя часткі *Ібн*, *Бен*, *Шах-*, *Мак-*, *Сан-*, *Сант-*, *Сен-*, *Сент-*, *Тэр-* у іншамоўных уласных назвах, якія пішуцца асобна, разам або праз дэфіс, а таксама пачатковыя *О'*, *Д'*, якія пішуцца праз апостраф: *Ібн Сіна*, *Сан-Францыска*, *Сент-Люсія*, *Тэр-Петрасян*, *О'Генры*, *Д'Артаньян*;
- ✓ прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад уласных назваў пры дапамозе суфіксаў -***оў*** (-***ов***-), -***аў*** (-***ав***-), -***ёў*** (-***ёв***-), -***еў*** (-***ев***-), -***ін***- (-***ын***-): *Купалавы вершы*, *Багдановічаў артыкул*,

*Антосевы ўспаміны*, *Брылёў твор*, *Таццяніна люстэрка*, *Аленчыны кніжкі*, *Красуліна малако*;

- ✓ адносныя прыметнікі, якія ўтвараюцца ад імён, прозвішчаў і псеўданімаў пры дапамозе суфіксаў -***ск***-, -***аўск***-, -***еўск***- і ўваходзяць у склад састаўных уласных назваў, якія з'яўляюцца сінанімічнымі назвам са словамі *імя*, *памяці*: *Купалаўская прэмія* (прэмія імя Янкі Купалы), *Нобелеўская прэмія* (прэмія імя Нобеля), *Коласаўская стыпендыя* (стыпендыя імя Якуба Коласа), *Танкаўскія чытанні* (чытанні, прысвечаныя памяці Максіма Танка).

2. З малой літары пішуцца:

- ✓ назоўнікі, якія ўтварыліся на аснове асабовых і геаграфічных назваў і з'яўляюцца агульнымі назвамі людзей, прадметаў, рэчываў і хімічных элементаў, адзінак вымярэння: *донжуан*, *эскулап*, *кацюша*, *наган*, *фрэнч*, *уран*, *вольт*, *рэнтген*;
- ✓ асабовыя назоўнікі, якія маюць пагардліва-зневажальную афарбоўку і ўжываюцца ў множным ліку: *гарлахвацкія*, *кручковы*, *пісулькіны*, *тулягі*;
- ✓ назвы чалавека па яго прыналежнасці або прыхільнасці да чаго-небудзь: *будыст*, *купалавец*, *хрысціянін*, *вальтэр'янец*;
- ✓ утвораныя ад уласных назваў прыметнікі, якія ўжываюцца ў складзе фразеалагізмаў або састаўных агульных назваў: *арыядніна ніць*, *ахілесава пята*, *бальзакаўскі ўзрост*, *броўнаўскі рух*, *напалеонаўскія планы*.

## § 18. Правапіс вялікай і малой літар у найменнях асоб, звязаных з рэлігіямі, у назвах міфалагічных і казачных герояў

1. З вялікай літары пішуцца:

- ✓ найменні найвышэйшых божастваў у рэлігійных культах і ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя найменні: *Бог*, *Алах*, *Шыва*, *Гасподзь*, *Святая Тройца*, *Бог Сын*, *Святы Дух*, *Прасвятая Дзева Марыя*, *Месія*;



- ✓ прыметнікі, утвораныя ад слова ***Бог***: *Божы* (*Боскі*) *суд*, *Божы* (*Боскі*) *храм*, *Божая* (*Боская*) *міласць*;
- ✓ асабовыя імёны заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, а таксама апосталаў, прарокаў, святых і інш.: *Ісус Хрыстос*, *Буда*; *Іаан Хрысціцель*, *Апосталы Пётр і Павел, Святыя Сымон і Алена*, *Святая Ефрасіння*;
- ✓ імёны язычніцкіх багоў, легендарных і міфалагічных асоб: *Зеўс*, *Афрадзіта*, *Уран*, *Фурыя*, *Лада*, *Сварог*, *Купала*, *Пярун*, але як агульныя назвы пішуцца з малой літары: *пярун* – удар грому, *фурыя* – злая жанчына;
- ✓ імёны казачных персанажаў, герояў літаратурных твораў: *Чараўніца*, *Мачаха*, *Ліса*, *Воўк*, *Дзед Мароз*, *Баба Яга*, але як агульныя назвы пішуцца з малой літары: *дзед-мароз* – ёлачная цацка, *баба-яга* – агідная старая.

2. З малой літары пішуцца:

- ✓ слова ***бог*** (***гасподзь***) ва ўстойлівых выразах: *бог яго ведае*, *дай божа*, *не давядзі госпадзі*, *дзякуй богу*, *бог з вамі*, *алах з ім*;
- ✓ слова *бог*, калі яно ўжываецца з агульным значэннем 'боства' ў спалучэнні з уласнай назвай або з агульным назоўнікам у родным склоне: *славянскі бог Род*, *бог урадлівасці Белабог*, *Тор – старажытнагерманскі бог грому, бур і ўрадлівасці*;
- ✓ агульныя назвы ўяўных істот: *архангел, анёл, херувім, фея, муза, дамавік, вадзянік, лазнік, русалка, троль* і інш.

## § 19. Правапіс вялікай і малой літар у назвах дзяржаўных органаў і іншых арганізацый

1. З вялікай літары пішуцца:

✓ усе словы ў назвах вышэйшых органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады Рэспублікі Беларусь і іншых краін: *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь*, *Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь*, *Усекітайскі Сход Народных Прадстаўнікоў*;

(☝ **але**: Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь);

✓ першае слова ў найменнях органаў дзяржаўнага кіравання і іншых арганізацый: *Еўрапейскі саюз*, *Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы*, *Нацыянальная акадэмія навук Беларусі*, *Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка*, *Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы*, *Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі*;

✓ простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый: *Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*, *Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр балета Рэспублікі Беларусь*, *Таварыства Чырвонага Крыжа*, *Міжнародны суд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый*;

✓ слова ***Савет*** у значэнні органа ўлады: *Мінскі абласны Савет дэпутатаў*, *сельскі Савет дэпутатаў* (☝ **але**: *сельсавет*), а таксама словы ***Дом***, ***Палац***, якія пачынаюць найменне ўстановы: *Дом культуры*, *Палац спорту*, *Палац шлюбу*, *Палац Рэспублікі*

(☝ **але**: Зімовы палац, дом адпачынку).

2. З малой літары пішуцца:

✓ найменні аддзелаў і падраздзяленняў навуковых і адукацыйных устаноў, іх органаў кіравання, а таксама словы тыпу ***калегія***, ***вучоны савет***, ***навукова-метадычны савет***, ***савет па абароне дысертацый***, ***факультэт***, ***аддзяленне***, ***сектар***, ***група***: *савет па абароне дысертацый*, *кафедра беларускага мовазнаўства*, *факультэт рускай філалогіі*, *навукова-метадычны савет факультэта беларускай філалогіі і культуры*

(☝ **але**: Агульны сход Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Аддзяленне аграрных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі).



## § 20. Правапіс вялікай і малой літар у найменнях пасад і званняў, у назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, рэліквій, дзяржаўных узнагарод, у назвах дакументаў, іх зводаў, унікальных прадметаў, твораў

1. З вялікай літары пішуцца:

✓ афіцыйныя назвы асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*, *Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь*, *Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь*, *Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь*, *Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі*, *Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі*, *Імператар Японіі*, *Папа Рымскі*, *Далай-Лама*

(☝ **але** ў неафіцыйным ужыванні словы прэзідэнт, старшыня, кароль, імператар пішуцца з малой літары: візіт імператара, прыём у караля, загад прэзідэнта; але: выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь);

✓ назвы асобы па вышэйшых дзяржаўных узнагародах (акрамя слова ***кавалер***): *Герой Беларусі*, *Герой Савецкага Саюза*, *Герой Сацыялістычнай Працы*, *кавалер ордэна Ганаровага Легіёна*, *кавалер ордэна Суворава*;

✓ усе словы ў назвах дзяржаўных і нацыянальных, ваенных і культурных рэліквій: *Сцяг Перамогі*, *Крыж Ефрасінні Полацкай*, *Курган Славы*, *Востраў Слёз*, *Помнік Перамогі*;

✓ усе словы ў поўных назвах ордэнаў і медалёў (акрамя слоў ***медаль***, ***ордэн***, ***ступень***): *медаль «Залатая Зорка» Героя*

*Савецкага Саюза*, *ордэн Славы І ступені*, *ордэн Маці*, *Георгіеўскі Крыж*

(☝ **але**: ордэн Дружбы народаў);

✓ першае слова ў назвах дзяржаўных сімвалаў, дзяржаўных і міжнародных прэмій, грамат, прызоў і інш.: *Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь*, *Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь*, *Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*, *Міжнародная прэмія Міру*, *Кубак свету*.

✓ аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах важнейшых дзяржаўных і міжнародных дакументаў, пагадненняў, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, іх зводаў: *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь*, *Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь»*, *Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах па ўдасканаленню выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт»*, *Статут ВКЛ*, *Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека*

(☝ **але**: распараджэнне (пратакол даручэнняў) Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь);

✓ аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадметаў мастацтва і ўнікальных прадметаў, твораў: *Саракавая сімфонія Моцарта*, *Джаконда, Янтарны пакой*, *Псалтыр*, *Новы Запавет*, *Каран*.

2. З малой літары пішуцца агульныя назвы стыляў у мастацтве і архітэктуры: *барока*, *ракако*, *готыка*, *ампір*, *мадэрн*.

☝ **Але**: эпохв Рэнесанс.



## § 21. Вялікая і малая літары ў назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, святаў

1. З вялікай літары пішуцца:

✓ уласныя аднаслоўныя найменні і першае слова ў састаўных назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох: *Варфаламееўская ноч*, *Адраджэнне*, *Стагадовая вайна*, *Грундвальская бітва*, *Кулікоўская бітва*, *Крыжовыя паходы*, *Крычаўскае паўстанне*, *Другая сусветная вайна*;

✓ аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах дзяржаўных, традыцыйных і рэлігійных святаў: *Дзень Перамогі*, *Дзень Незалежнасці*, *Дзень Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь*, *Новы год*, *Дзень жанчын*, *Нараджэнне Хрыстова*, *Дзень ведаў*, *Уваскрэсенне Хрыстова*, *Таццянін дзень*, *Радаўніца*, *Вялікдзень*, *Каляды*, *Вадохрышча*, *Масленіца*, *Купалле*, *Рамадан*.

2. З малой літары пішуцца:

✓ назвы родаў і відаў знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, асобных гадоў, дзён і інш.: *імперыялістычная вайна*, *лютаўская рэвалюцыя*, *паўстанне Кастуся Каліноўскага*, *мезазойская эра*, *эпоха капіталізму*, *перыяд феадальнай раздробленасці*, *сярэбраны век*, *высакосны год*, *дзень адчыненых дзвярэй*, *месячнік добраўпарадкавання*.

## § 22. Правапіс вялікай літары ў назвах з двукоссем

1. З вялікай літары пішуцца ў двукоссі:

✓ аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах арганізацый, перыядычных выданняў, кніг, атласаў, карт, літаратурных, публіцыстычных, навуковых твораў, твораў розных галін мастацтва, прадметаў побыту, прамысловых і прадуктовых тавараў: *установа адукацыі «Беларускі дзяржаўны*

*педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»*, *кінатэатр «Беларусь»*, *гасцініца «Вікторыя»*, *часопіс «Роднае слова»*, *газета «Звязда»*, *летапіс «Хроніка Быхаўца»*, *карта «Рэспубліка Беларусь»*, *раман Кузьмы Чорнага «Пошукі будучыні»*, *камедыя Андрэя Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!»*, *опера Уладзіміра Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха»*, *танец «Мяцеліца»*, *карціна Алеся Ксяндзова «Янка Купала ў Вільні. 1913 год»*, *хлеб «Спадчына»*, *цукеркі «Лявоніха»*;

✓ назвы марак машын, механізмаў, прылад і іншых тэхнічных вырабаў бяруцца ў двукоссе і пішуцца з вялікай літары: *аўтамабіль «Форд»*, *трактар «Беларус»*, *тэлевізар «Віцязь»*. Назвы саміх вырабаў (акрамя назваў, што супадаюць з асабовымі і геаграфічнымі назвамі) пішуцца ў двукоссі з малой літары: *«хонда»*, *«боінг»*, *«гарызонт»* (☝ **але**: *«Мінск»* – халадзільнік, *«Волга»* – аўтамабіль).



✎ **Практыкаванне № 41.** Прачытайце, растлумачце правапіс малой і вялікай літар у выдзеленых словах.

1. Славяне здаўна жылі па суседству з *балтыйскімі* плямёнамі. Асноўная вобласць іх жыхарства ляжала на *захад* ад *балтаў* паміж *Эльбай* (*Лабай*) і *Віслай*, на *поўнач* ад *Карпацкіх* гор.

2. Расказваючы пра рассяленне *славян*, летапіс называе *палачан*, *крывічоў*, *дрыгавічоў*, *радзімічаў*, *бужан*, якія рассяліліся на тэрыторыі *Беларусі*: палачане – на *Дзвіне* каля ракі *Палаты*, крывічы – у вярхоўях *Дзвіны* і *Дняпра*, дрыгавічы – паміж *Прыпяццю* і *Дзвіной*, радзімічы – на *Сожы*, бужане – на *Бугу*.

3. Галоўным агульным *богам* быў *Пярун – бог* грознага неба, грому і маланкі. Другім па значэнню *богам* быў *Сварог*,



які ўвасабляў *сонца* і дараваў ураджай. Трэцім *богам* быў *Велес – бог* жывёлы, хавальнік статка. Пакланяючыся язычніцкім *багам*, славяне будавалі спецыяльныя свяцілішчы, выраблялі фігуры *багоў-ідалаў*.

4. *Вялікае Княства Літоўскае* было поліэтнічнай (не складалася толькі з адной народнасці) феадальнай *манархіяй*. Да сярэдзіны XIV ст. яно ўяўляла сабой сукупнасць асобных княстваў і ўдзелаў – своеасаблівую *федэрацыю*.

5. На *Беларусі* ў гэты час [XIV–XVI стст.] вызначыліся эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і ідэалагічныя перадумовы для развіцця культуры *Адраджэння*. Павышалася цікавасць да культурных каштоўнасцей антычнасці, у асяроддзі феадалаў і гараджан, распаўсюджваліся ідэі *Рэфармацыі* і *гуманізму*.

6. У гэты час асноўнымі архітэктурнымі стылямі былі *беларуская готыка*, *раманскі стыль* і *рэнесанс*. Характэрнымі ўзорамі *беларускай готыкі* з'яўляюцца цэрквы ў *Сынковічах* (XV–XVI), *Маламажэйкаве* і *Заслаўлі* (XVI). У гэтых пабудовах злучаны мясцовыя архітэктурныя формы з *гатычнымі* і *раманскімі* рысамі. Па ўзору гэтых цэркваў была перабудавана ў XVIII ст. *Полацкая Сафія*. У другой палавіне XVI ст. узводзяцца першыя збудаванні ў стылі *рэнесанса* – пратэстанцкая царква ў *Смаргоні* і каталіцкі сабор у *Нясвіжы*. З канца XVI ст. у архітэктуры Беларусі зацвярджаецца стыль *барока* (езуіцкі касцёл у *Нясвіжы*).

7. У адным з *еўрапейскіх* універсітэтаў, хутчэй за ўсё ў *Пражскім*, яму была прысвоена вышэйшая вучоная ступень – *доктара свабодных навук*. У 1512 г. *Скарына* бліскуча здаў экзамены ў *Падуанскім* універсітэце (*Італія*) і атрымаў тытул *доктара лекарскіх* (*медыцынскіх*) *навук*.

8. У 40–90 гг. [XVIII ст.] беларуская літаратура развіваецца пад уплывам ідэй *Асветніцтва*. У ёй пачынаецца фарміраванне *класіцызму* і *сентыменталізму* – літаратурных напрамкаў эпохі *Асветніцтва*.

9. Вялікую ролю ў тэатральным жыцці *Беларусі* адыгралі выступленні на сцэнічных пляцоўках *Беларусі* тэатральных калектываў з *Расіі* і *Украіны*, вялікіх рускіх актрыс *М.Г.Савінай* і *Г.М. Фядотавай*, артыстаў *Александрынскага* тэатра *К.А. Варламава*, *В.П. Далматава*, акцёраў *Малога* тэатра *А.І. Южына*, *А.А. Яблачкінай*.

10. Майстрам беларускага пейзажу і рэалістычнага партрэтнага жывапісу быў мастак *А. Гараўскі*. Родную прыроду ён адлюстраваў у карцінах «*На радзіме*», «*Бераг* ракі *Свіслач*», «*Балота*», «*Вечар* у *Мінскай* губерні». Ім напісана шмат партрэтаў, у тым ліку жывапісца *Бруні*, кампазітараў *Глінкі* і *Даргамыжскага*.

(«Гісторыя Беларусі»)

**Практыкаванне № 42.** Прачытайце. Адзначце словы, спалучэнні слоў і словазлучэнні, якія пішуцца з вялікай літары. Растлумачыць правапіс вялікай літары.

1. Сімваламі Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы з'яўляюцца яе Дзяржаўны сцяг, Дзяржаўны герб і Дзяржаўны гімн.

2. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна. Выбары Прэзідэнта назначаюцца Палатай прадстаўнікоў не пазней чым за пяць месяцаў і праводзяцца не пазней чым за два месяцы да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга Прэзідэнта.

3. Парламент – Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь – з'яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам Рэспублікі Беларусь. Парламент складаецца з дзвюх палат – Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 21 года. Членам Савета Рэспублікі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 30 гадоў і пражыў на тэрыторыі адпаведнай вобласці, горада Мінска не менш як пяць гадоў.



4. Выканаўчую ўладу ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляе Урад – Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь – цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання. Урад у сваёй дзейнасці падсправаздачны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і адказны перад Парламентам Рэспублікі Беларусь. Урад Рэспублікі Беларусь складаецца з Прэм'ер-міністра, яго намеснікаў і міністраў. У склад Урада могуць уваходзіць і кіраўнікі іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання.

4. Кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве ажыццяўляецца Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь. Шэсць суддзяў Канстытуцыйнага Суда назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, шэсць суддзяў выбіраюцца Саветам Рэспублікі. Старшыня Канстытуцыйнага Суда назначаецца Прэзідэнтам са згоды Савета Рэспублікі.

6. Адзіную і цэнтралізаваную сістэму органаў пракуратуры ўзначальвае Генеральны пракурор, які назначаецца Прэзідэнтам са згоды Савета Рэспублікі.

7. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме (гэтая Канстытуцыя), уступае ў сілу з дня яе апублікавання, за выключэннем яе асобных палажэнняў, якія ўступаюць у сілу ў тэрміны, устаноўленыя гэтай Канстытуцыяй. Адначасова спыняецца дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

(«Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь»)

**Практыкаванне № 43.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне вялікай і малой літар.

1. Вынікі 6-га (Н,н)ацыянальнага тэлевізійнага конкурсу «(Т,т)элевяршыня» будуць падведзены 16 красавіка ў (П,п)алацы (Р,р)эспублікі, дзе будуць названыя лепшыя тэлепраекты і самыя таленавітыя аўтары і вядучыя мінулага сезона.

2. Завершана выданне ўніверсальнага нарматыўнага даведніка беларускай тапаніміі «(Н,н)азвы населеных пунктаў (Р,р)эспублікі (Б,б)еларусь». Даведнік складаецца з шасці кніг, што адпавядае кожнай з абласцей (Р,р)эспублікі: (М,м)інскай, (Б,б)рэсцкай, (Г,г)омельскай, (Г,г)родзенскай, (В,в)іцебскай і (М,м)агілёўскай. Рашэнне аб распрацоўцы і выданні нарматыўнага даведніка «(Н,н)азвы населеных пунктаў (Р,р)эспублікі (Б,б)еларусь» было прынята ў 1998 годзе (Т,т)апанімічнай (К,к)амісіяй пры (С,с)авеце (М,м)іністраў (Б,б)еларусі. Ініцыятарам выдання быў (К,к)амітэт па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры (С,с)авеце (М,м)іністраў (цяпер (Д,д)зяржкаммаёмасці), які фінансаваў усе работы па падрыхтоўцы матэрыялаў да выдання і яго тыражаванні.

3. Адказваючы на пытанні журналістаў, (М,м)ітрапаліт (М,м)інска-(М,м)агілёўскай архіепархіі (Р,р)ымска-каталіцкай царквы ў (Р,р)эспубліцы (Б,б)еларусь (Т,т)адэвуш (К,к)андрусевіч паведаміў, што работа па падрыхтоўцы праекта пагаднення паміж (Б,б)еларуссю і (С,с)вятым (П,п)растолам ідзе актыўнымі тэмпамі.

4. Асабліва (К,к)іраўнік дзяржавы адзначыў вялікі ўклад (М,м)ітрапаліта (М,м)інскага і (С,с)луцкага (Ф,ф)іларэта, (П,п)атрыяршага (Э,э)кзарха ўсяе (Б,б)еларусі ў дасягненне міжканфесійнага міру ў (Б,б)еларусі.

5. За плённую работу, значны асабісты ўклад у будаўніцтва шматпрофільнага культурна-спартыўнага комплексу «(М,м)інск-(А,а)рэна» (П,п)рэзідэнт (Б,б)еларусі адзначыў (Д,д)зяржаўнымі ўзнагародамі шэраг грамадзян краіны.

6. Выконваючы пагадненне аб супрацоўніцтве паміж (Г,г)родзенскім (А,а)бласным (У,у)праўленнем (М,н)(Н,н)(С,с) і абласной арганізацыяй (Б,б)еларускага таварыства «(Ч,ч)ырвоны (К,к)рыж», праведзена гуманітарная акцыя па аказанні дапамогі жыхарам населеных пунктаў, што пацярпелі ад паводкі.

7. Да свята (У,у)васкрэсення (Х,х)рыстова, якое сёлета адзначаецца ўсімі хрысціянскімі канфесіямі ў адзін дзень,



у эфіры тэлеканалаў (Б,б)елтэлерадыёкампаніі запланаваны шэраг спецыяльных трансляцый.

8. Учора ў сталіцы распачала сваю працу 13-я (М,м)іжнародная спецыялізаваная выстава «(Б,б)удэкспа-2010. Беларускі будаўнічы рынак прапануе». Яе праводзіць (Н,н)ацыянальны выставачны цэнтр «(Б,б)елэкспа», (К,к)іраўніцтва справамі (П,п)рэзідэнта (Р,р)эспублікі (Б,б)еларусь пры садзейнічанні (М,м)іністэрства архітэктуры і будаўніцтва, (М,м)іністэрства прамысловасці, (М,м)іністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі і (М,м)інгарвыканкама.

9. Падзяка (П,п)рэзідэнта (Р,р)эспублікі (Б,б)еларусь аб'яўлена (М,м)ітрапаліту (М,м)інскаму і (С,с)луцкаму (Ф,ф)іларэту, (П,п)атрыяршаму (Э,э)кзарху ўсяе (Б,б)еларусі за вялікі асабісты ўклад у адраджэнне, захаванне, развіццё культурнай і духоўнай спадчыны краіны і ў сувязі з 75-годдзем з дня нараджэння.

10. 26 сакавіка 2010 года (М,м)іністэрства (С,с)увязі і (І,і)нфарматызацыі (Р,р)эспублікі (Б,б)еларусь выпускае ў абарачэнне паштовы блок «(С,с)луцкія (П,п)аясы».

11. Камісія па найменаванні і перайменаванні пры (М,м)інгарвыканкаме даволі плённа працуе апошнія гады. Яшчэ раней (М,м)інчане займелі вуліцы (Н,н)апалеона (О,о)рды, (Я,я)на (Ч,ч)ачота, (Е,е)жы (Г,г)едройца, (У,у)ладзіслава (Г,г)алубка, (У,у)севалада (І,і)гнатоўскага, (А,а)леся (Г,г)аруна. На апошнім пасяджэнні (К,к)амісіі зацверджаныя некаторыя перайменаванні. Так, вуліцы (Р,р)эвалюцыйнай вяртаецца гістарычная назва (К,к)ойданаўская, вуліцы (В,в)ызвалення – (У,у)васкрасенская, (Г,г)андлёвая зноўку будзе (З,з)ыбіцкай. Камунальная ўзбярэжная стане (Т,т)раецкай узбярэжнай, вуліца (Г,г)ерцэна – (Б,б)ернардынскай, (Д,д)зімітрава – (П,п)ятніцкай, (В,в)іцебская – (Н,н)яміга-(Р,р)акаўскай.

12. Нацыянальны (Б,б)анк (Б,б)еларусі ўвёў у абарачэнне памятныя манеты «65 год (П,п)ерамогі савецкага народа ў (В,в)ялікай (А,а)йчыннай (В,в)айне».

13. У (Н,н)ацыянальным (А,а)кадэмічным (В,в)ялікім (Т,т)эатры (О,о)перы і (Б,б)алета прайшла ўрачыстая цырымонія віншавання дзесяці жанчын-пераможцаў II (Р,р)эспубліканскага (К,к)онкурсу «(Ж,ж)анчына года-2009».

14. У святочны дзень 23 (Л,л)ютага, пакуль цывільныя мужчыны атрымліваюць падарункі ад жанчын і чакаюць самай смачнай вячэры, салдаты са 120-й асобнай гвардзейскай механізаванай (Р,р)агачоўскай (Ч,ч)ырванасцяжнай (О,о)рдэнаў (С,с)уворава і (К,к)утузава брыгады імя (В,В)ярхоўнага (С,с)авета БССР займаюцца самым адпаведным даце заняткам – абараняюць (А,а)йчыну.

15. У галоўным храме (С,с)вята-(У,у)знясенскага жаночага манастыра, што ў (Б,б)аркалабаве на (Б,б)ыхаўшчыне, 13 мая адбылося свята ў гонар асвячэння прастолу. У гэтым маляўнічым кутку на беразе (Д,д)няпра ў старажытнасці стаяў знакаміты манастыр, які лічылі рэлігійным і культурным цэнтрам (Б,б)еларусі. Тут быў створаны ўнікальны помнік летапісання – (Б,б)аркалабаўскі летапіс. У манастыры захоўваўся знакаміты абраз (М,м)аці (Б,б)ожай (Б,б)аркалабаўскай, які народ дасюль лічыць цудатворным.

(«Звязда»)

## Тэст № 5

**1. Адзначце, у якіх спалучэннях трэба пісаць вялікую літару:**
1) (П,п)алескае золата; 2) (С,с)карынавы кнігі;
3) (З,з)осіна люстэрка; 4) (Б,б)рылёвы мініяцюры;
5) (С,с)карынаўская стыпендыя.

**2. Адзначце, у якіх спалучэннях трэба пісаць малую літару:**
1) (А, а)ўгіевы стайні; 2) (Г,г)арэцкія чытанні;
3) (М,м)іхасёў сшытак; 4) (Р,р)энтгенаўскі здымак;
5) (М,м)мележаўскі раман.

**3. Адзначце словы, у якіх трэба пісаць вялікую літару:**
1) (В,в)ішну; 2) (Х,х)ерувім; 3) (Б,б)уда;
4) (С,с)варог; 5) (М,м)уза.



**4. Адзначце словы і спалучэнні слоў, у якіх трэба пісаць малую літару:**
1) (Б,б)ожы дар; 2) (Б,б)ожая Маці; 3) дай (Б,б)ожа;
4) не давядзі (Г,г)оспадзі; 5) (А,а)лах з вамі.

**5. Адзначце няправільна напісаныя словы і спалучэнні слоў:**
1) уладыка нябесны; 2) цацачны Дзед Мароз; 3) жанчына-Мігера;
4) гучны пярун; 5) прыгожы анёл.

**6. Адзначце выпадкі правільнага выкарыстання вялікай літары:**
1) Таварыства Чырвонага Крыжа; 2) Нацыянальны Кангрэс;
3) Палата Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;
4) Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; 5) Сельсавет.

**7. Адзначце выпадкі няправільнага выкарыстання вялікай літары:**
1) Нацыянальны Сход Рэспублікі Беларусь; 2) Еўрапейскі саюз;
3) Сусветны Паштовы Саюз; 4) Дом адпачынку;
5) Палац спорту.

**8. Адзначце выпадкі правільнага выкарыстання малой літары:**
1) папа Рымскі; 2) ордэн Айчыны I ступені; 3) курган Славы;
4) выступленне караля; 5) медаль «За адвагу».

**9. Адзначце, у якіх найменнях трэба пісаць вялікую літару:**
1) (Н,н)овы (З,з)апавет; 2) (Г,г)отыка; 3) (Р,р)энесанс;
4) (М,м)адэрн; 5) (К,к)аран.

**10. Адзначце, у якіх найменнях трэба пісаць малую літару:**
1) (Б,б)іблія; 2) (А,а)драджэнне; 3) (А,а)мпір;
4) Свята (П,п)рацы; 5) санітарны (Д,д)зень.

**11. Адзначце выпадкі няправільнага выкарыстання малой літары:**
1) свята рамадан; 2) дзень Рэспублікі; 3) Першая сусветная вайна;
4) высакосны год; 5) зімовыя каляды.

**12. Адзначце выпадкі няправільнага выкарыстання вялікай літары:**
1) Масленіца; 2) Ордэн Маці; 3) Ракако;
4) Кафедра беларускай мовы; 5) Мінэканомікі.

# Раздзел 8. ПРАВІЛЫ НАПІСАННЯ РАЗАМ, ПРАЗ ЗЛУЧОК І АСОБНА

## § 23. Правапіс складаных назоўнікаў

1. Пішуцца разам:

- ✓ назоўнікі, утвораныя з дапамогай злучальных галосных ***о (а)***, ***е (я)***: *льнозавод, грузаатрымальнік, газазварка, гарналыжнік, новабудоўля, землекарыстанне, конезавод, далягляд, зернясховішча*;
- ✓ назоўнікі з першай іншамоўнай часткай ***авія***-, ***агра***-, ***астра***-, ***аўдыя***-, ***аўта***-, ***аэра***-, ***бія***-, ***варыя***-, ***вела***-, ***відэа***-, ***геа***-, ***гідра***-, ***гіпер***-, ***грос***-, ***дыс***-, ***дэз***-, ***заа***-, ***кіна***-, ***контр***-, ***макра***-, ***медыя***-, ***метэа***-, ***мікра***-, ***мілі***-, ***мона***-, ***мота***-, ***неа***-, ***палеа***-, ***пан***-, ***паст***-, ***полі***-, ***радыё***-, ***сацыя***-, ***сейсма***-, ***сін***-, ***спарт***-, ***стэрэа***-, ***супер***-, ***танц***-, ***тэле***-, ***тэрма***-, ***ультра***-, ***фіта***-, ***фота***-, ***хлор***-, ***хрома***-, ***хрона***-, ***цепла***-, ***электра***-, ***энерга***-: *авіяканструктар, аграгарадок, астралогія, аўдыяапаратура, аўтамотакрос, аэрафотаздымка, біякантроль, варыяэкран, велапрабег, відэакліп, геабатаніка, гідракасцюм, гіпертанія, гросмайстар, дыстрафія, дэзактывацыя, заапарк, кінаактрыса, контратака* (☝ **але**: *контр-адмірал*), *макраэканоміка, медыятэкст, метэазводка, мікрасхема, міліметр, монакультура, мотакалона, неакалонія, палеаграфія, панславізм, пастфактум, поліэтылен, радыёвыпуск, сацыялінгвістыка, сейсмаактыўнасць, сінгармонія, спартзала, стэрэагук, супермаркет, танцпляцоўка, тэлемост, тэрмарэгулятар, ультраакустыка, фітабіялогія, фотаконкурс, хлорбензол, хромагравюра, хронаметраж, цеплаабменнік, электрафізіка, энергаўстаноўка*;
- ✓ назоўнікі, у склад якіх уваходзяць словы ***дарма, лёгка, мала, многа, скора, цяжка***: *дармаед, лёгкапраходнасць, малакроўе, мнагазначнасць, многагалоссе, скарасшывальнік, цяжкаатлет*;



- ✓ складанаскарочаныя словы: *педуніверсітэт, ваенурач*;
- ✓ назоўнікі, першай часткай якіх з’яўляюцца дзеясловы загаднага ладу на ***-і***, ***-ы***: *сарвігалава, прайдзісвет, вярнідуб, вярцішыйка, пакацігарошак, гарыцвет*

  (☝ **але**: перакаці-поле, пусці-павалюся, узвей-вецер, вей-вецер, гуляй-вецер);
- ✓ складаныя назоўнікі, якія з’яўляюцца навуковымі тэрмінамі і скланяюцца як прыметнікі: *бруханогія* (*бруханогіх, бруханогім, бруханогімі* і г. д.), *галаваногія*;
- ✓ складаныя ўласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай ***верхне-*** **(*верхня-*)*,*** ***ніжне-*** **(*ніжня-*)*,*** ***сярэдне-*** **(*сярэдня-*)*,*** ***нова-*** **(*нава-*)*,*** ***стара-*** і інш.: *Верхнядзвінск, Ніжнявартаўск, Сярэдняборск, Новалукомль, Навагрудак, Старабельск*;
- ✓ складаныя уласныя геаграфічныя назвы з другой часткай ***-горад***, ***-град***, ***-горск***: *Слаўгарад, Бялград, Салігорск*.

2. Пішуцца праз злучок:

- ✓ назоўнікі, якія складаюцца з двух самастойных слоў без інтэрфікса і маюць значэнне аднаго слова: *плашч-палатка, магазін-салон, генерал-маёр, прэм’ер-міністр, член-карэспандэнт*;
- ✓ назоўнікі з першай часткай ***арт-, блок-, бэта-, ват-, віцэ-, вэб-, гама-, лейб-, максі-, міні-, обер-, прэс-, унтэр-, штаб-(штабс-), экс-***: *арт-дырэктар, блок-пункт* (☝ **але**: *блокпост*), *бэта-прамяні, ват-гадзіна* (☝ **але**: *ватметр*), *віцэ-консул, вэб-дызайн, гама-выпрамяненне, лейб-гвардыя, максі-мода, міні-паліто, обер-лейтэнант, прэс-цэнтр, унтэр-афіцэр, штаб-ротмістр, штабс-капітан, экс-чэмпіён*;
- ✓ назоўнікі з першай часткай ***зюйд***-, ***вест***-, ***норд***-, ***ост***- пры абазначэнні прамежкавых кірункаў свету: *зюйд-ост, зюйд-вест, норд-ост, норд-вест*;
- ✓ назоўнікі, якія абазначаюць палітычныя партыі і напрамкі і іх прыхільнікаў: *нацыянал-патрыёт, сацыял-рэвалюцыянер, сацыял-дэмакратыя*;

- ✓ назоўнікі са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна*, *самалёта-вылет, чалавека-дзень*

(☝ **але**: *працадзень* – працоўны дзень);

- ✓ назоўнікі з аднаслоўным прыдаткам: *хлопчык-гарэза, ночка-цыганка, дзед-мароз, лён-даўгунец, горад-герой, нявеста-красуня, Шура-рака*

(☝ пры адваротным парадку назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца: *рака Шура, красуня нявеста*);

- ✓ састаўныя прозвішчы і імёны: *Доўнар-Запольскі, Бялыніцкі-Біруля, Эпімах-Шыпіла, Дон-Кіхот, Дон-Жуан*

(☝ **але**: калі слова *дон* ужываецца ў значэнні *'пан'*, то яно пішацца асобна: *дон Пэдра, дон Базіліа*);

- ✓ іншамоўныя ўласныя імёны з канцавымі часткамі ***-аглы***, ***-бай***, ***-бей***, ***-бек***, ***-задэ***, ***-кызы***, ***-паша***, ***-хан***, ***-шах***, ***-эль*** і інш: *Кёр-аглы, Курман-бай, Ізмаіл-бей, Асман-бек, Турсун-задэ, Зейнал-кызы, Асман-паша, Чынгіз-хан, Ахмат-шах, Махамед-эль-Куні*;
- ✓ іншамоўныя ўласныя назвы асоб і геаграфічных аб'ектаў з пачатковымі часткамі ***Ван-***, ***Мак-***, ***Нью-***, ***Сан-***, ***Санкт-***, ***Сен-***, ***Сент-***: *Ван-Дэйк, Мак-Магон, Мак-Кінлі, Нью-Кастл, Сан-Себасцьян, Сан-Марына, Санкт-Пецярбург, Сен-Санс, Сент-Экзюперы*;
- ✓ геаграфічныя назвы, што складаюцца з двух назоўнікаў або назоўніка і прыметніка: *Аўстра-Венгрыя, Давыд-Гарадок, Эльзас-Латарынгія, Лос-Анджэлес, Буда-Кашалёва, Камянец-Падольскі, Пераяслаў-Хмяльніцкі, Камень-Кашырскі*;
- ✓ геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца спалучэннем назоўніка з назоўнікам у месным склоне і прыназоўнікам ***на***, а таксама падобнымі іншамоўнымі спалучэннямі слоў з ***дэ, сюр***: *Растоў-на-Доне, Франкфурт-на-Майне, Па-дэ-Кале, Булонь-сюр-Мэр*;



- ✓ некаторыя назвы населеных пунктаў з першымі часткамі ***Верх-***, ***Нова-***, ***Соль-***, ***Стара-***, ***Усць-***: *Верх-Ільмень, Усць-Каменагорск, Нова-Барысаў, Стара-Канстанцінаў, Соль-Ілецк*

(☝ **але**: Наваполацк, Навагрудак, Новасібірск, Верхнядзвінск, Старабельск);

- ✓ уласныя назвы з часткай ***паў-***: *паў-Іванца, паў-Амерыкі,*

(☝ **але**: з агульнымі назоўнікамі ***паў-*** пішацца разам: *паўкорпуса, паўдарогі*);

- ✓ спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца назвамі раслін: *брат-і-сястра*;
- ✓ складаныя словы, першай (або апошняй) часткай якіх з'яўляецца літара або літарная абрэвіятура любога алфавіта, а таксама лічба любога злічэння: *а-часціца, Q-код, мода-2010*.

Злучок пішацца пасля першай часткі складанага назоўніка, калі пры спалучэнні двух складаных назоўнікаў з аднолькавай другой часткай гэтая частка ў першым слове апускаецца: *газа- і водалічыльнік, электра- і цеплавозы*.

3. Пішуцца асобна:

- ✓ геаграфічныя назвы, якія складаюцца з прыметніка і назоўніка, лічэбніка і назоўніка: *Вялікія Радванавічы, Каралёў Стан, Новая Вёска, Дзве Хаты, Першая пасялковая (вуліца)*;
- ✓ злучэнні назоўнікаў, з якіх першы азначае родавае паняцце: *кветка васілёк, дрэва дуб*;
- ✓ назвы, якія складаюцца з двух і больш назоўнікаў, з якіх першы абазначае родавае паняцце, а другі з'яўляецца ўласным імем: *вёска Заброддзе, рака Сула, генерал Сікорскі, брат Андрэй*;
- ✓ артыклі і часціцы ***да***, ***дэ***, ***ла***, ***ле***, ***ля*** і інш., а такама словы ***ван***, ***дон***, ***дэр***, ***фон*** у іншамоўных уласных назвах: *Васка да Гама, Леанарда да Вінчы, Бадуэн дэ Куртэнэ, Гі дэ Мапасан, ла Валета, ла Мот, ле Шапелье, ля Крэзо, Ван дэр Мейлен, Людвіг ван Бетховен, дон Хуан, фон дэр Гольц*;
- ✓ уласныя назоўнікі *Ібн Сіна, Жуль Верн, Галілей Галілеа, Нэруда Пабла, Пікаса Пабла, Моцарт Вольфганг Амадэй, Ралан Рамэн, Русо Жан Жак, Хо Шы Мін, Хаям Амар*.



**Практыкаванне № 44.** Запішыце, раскрываючы дужкі.

(Арт) галерэя, (авія) атрад, агародніна (сховішча), (агіт) кампанія, (агра) лабараторыя, (адна) вясковец, (акадэм) гарадок, (анты) дэпрэсант, (арг) бюро, (арт) падрыхтоўка, (архі) біскуп, (аўта) бан, (аўта) дром, (аэра) сіноптык, (бальнеа) тэрапія, (бізнес) цэнтр, (бія) генез, (блок) сігнал, (боўлінг) клуб, (брэйк) данс, (бэта) выпрамяненне, (ват) секунда, (ватэр) лінія, вада (спад), (вакуум) фільтр, (вела) завод, (відэа) карта, (віцэ) губернатар, (вэб) старонка, (газа) ацяпленне, (гама) дэфектаскоп, (грос) майстар, (дынама) машына, (дзярж) бюджэт, (каза) дзераза, (кантр) марка, (канферэнц) зала, (контр) разведка, (кафэ) марожанае, (крэсла) ложак, (марш) парад, (месца) жыхарства, (між) дзяржаўны, (мікра) раён, (міні) мода, (мона) культура, (ноу) хау, (полі) вітаміны, (паст) скрыптум, (плашч) накідка, (поп) музыка, (прэм'ер) міністр, (прэс) сакратар, (пчола) сям'я, (радыя) метрыя, (сад) яслі, (стоп) сігнал, (стрэс) фактар, (стэрэа) апаратура, (супер) агент, (тайм) аўт, (ток) шоу, (ультра) мадэрнізм, (фельд) маршал, (флаг) шток, (фокс) тэр'ер, (фонда) аснашчанасць, (форс) мажор, (фота) аб'ектыў, (хор) майстар, (цэх) аўтамат, (член) карэспандэнт, (этна) псіхалогія, (юрыс) консульт, (яхт) клуб, (яхт) смен.

**Практыкаванне № 45.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс складаных назоўнікаў.

Агіт (пункт), Ван (Гог), волат (дуб), кіна (плёнка), кілават (гадзіна), сарві (галава), (Нава) Полацк, (лейб) медык, (паў) Беларусі, (Ціхая) Слабада, (метэа) служба, электра (механік), возера (Кромань), фестываль (конкурс), альма (матэр), Новы (Свержань), праца (дзень), пакаці (гарошак), плашч (палатка), (Дон) Кіхот, (авія) білет, расліна (чабор), (мікра) раён, (грос) майстар, рака (Нёман), (электра) і цеплавозы, Чынгіз (хан), (Санкт) Пецярбург, матч (рэванш), сівізна (пазалота), кветка (папараць), (Нова) Барысаў, (контр) удар, кафэ (рэстаран), (ван) Бетховен, зюйд (вест), (фота) дакумент, Франкфурт (на) Майне, мята (рута), бамба (сховішча), (гары) цвет, Порт (Артур), хлопцы (студэнты), хлор (вініл), (сон) трава, норд (ост), (паў) школы, Леанарда (да) Вінчы, Мінск (Таварны), дзяржы (морда), (жар) птушка, (Стара) Бельск, персона (нон) грата, (герой) горад, Картуз (Бяроза), (контр) адмірал, шапка (аблавушка), (стоп) кран, вальс (бастон), (радыё) прагноз.

## § 24. Правапіс складаных прыметнікаў

1. Пішуцца разам прыметнікі:

- ✓ утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца разам: *авіямадэльны* (*авіямадэль*), *верхнядзвінскі* (*Верхнядзвінск*), (*кнігавыдавецкі* (*кнігавыдавец*), *мастацтвазнаўчы (мастацтвазнаўства), салігорскі* (*Салігорск*);
- ✓ утвораныя ад словазлучэнняў, у якіх адно слова падпарадкавана другому: *чорнавалосы* (*чорныя валасы*), *левабярэжны* (*левы бераг), мясапрадукты* (*мясныя прадукты*), *беларускамоўны, вастракутны, высакагорны, дабраякасны, жаўталісты, народнагаспадарчы*;
- ✓ якія суадносяцца са словазлучэннямі назоўнікаў з лічэбнікамі і прыслоўямі адноснай меры колькасці, аб'ёму, прасторы і інш.: *аднабаковы* (*адзін* бок), дванаццаціградковы (*дванаццаць радкоў*), *мнагалюдны* (*многа людзей*), *двухтысячагадовы, старублёвы, шматразовы*;
- ✓ якія суадносяцца са словазлучэннямі дзеясловаў з назоўнікамі: *алмазаздабыўны* (*здабываць алмазы*), *гукапераймальны* (*пераймаць гук*), *паветраачышчальны* (*ачышчаць паветра*), *лесанарыхтоўчы, лёсавызначальны, прыродаахоўны*;
- ✓ утвораныя ад спалучэння прыслоўя і прыметніка, прыслоўя і дзеепрыметніка і абазначаюць адно паняцце: *густапасаджа-*

*ны* (*густа* пасадзіць), ніжэйадзначаны (*ніжэй адзначыць*), *цяжкаўспрымальны* (*цяжка ўспрымаць*), *вечназялёны, высока-кваліфікаваны, дзікарослы, маларазвіты, хуткадрукавальны*

(☝ **але**: трэба адрозніваць спалучэнні прыслоўяў і прыметнікаў або дзеепрыметнікаў, якія пішуцца асобна. У такіх спалучэннях кожнае слова захоўвае свой націск, выконвае самастойную сінтаксічную ролю, можна пераставіць месцамі, паставіць пытанне да прыслоўяў: *адносна спакойны, асабліва адказны, выпадкова сустрэты, дыяметральна процілеглы, матэрыяльна зацікаўлены, рэдка пасаджаны*);

- ✓ утвораныя з дзвюх і больш лексічных частак і ўжываюцца для абазначэння навуковых і тэхнічных паняццяў: *інда-еўрапейскі, правабярэжназаходнебугскі, старабеларуска-моўны, усходнеславянскі*;
- ✓ субстантываваныя з першай часткай ***ваенна***-: *ваеннаабавязаны, ваеннапалонны, ваеннаслужачы*

(☝ усе астатнія складаныя прыметнікі з першай часткай **ваенна-** пішуцца праз злучок: ваенна-акруговы, ваенна-палітычны, ваенна-палявы, ваенна-санітарны, ваенна-судовы, ваенна-ўліковы, ваенна-эканамічны і інш.).

2. Пішуцца праз злучок складаныя прыметнікі:

- ✓ утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *вакуум-апаратны* (*вакуум-апарат*), *давыд-гарадоцкі* (*Давыд-Гарадок*), *дызель-маторны* (*дызель-матор*), *сацыял-дэмакратычны*, *унтэр-афіцэрскі*

(☝ **але**: калі пры складаных прыметніках, утвораных ад уласных назваў, што пішуцца праз злучок, ёсць прыстаўка, то яны пішуцца разам: *заісыккульскі* (*ад Ісык-Куль*), *перадцяньшанскі* (*ад Цянь-Шань*);

- ✓ часткі якіх абазначаюць разнародныя назвы адпаведнай прыкметы: *аграрна-сыравінны, дарожна-будаўнічы, народна-вызваленчы, параўнальна-гістарычны, электронна-вылічальны*;
- ✓ часткі якіх абазначаюць раўнапраўныя паняцці (паміж гэтымі часткамі можна паставіць злучнік ***і***): *беларуска-літоўскі, гісторыка-філалагічны, музычна-педагагічны*;
- ✓ якія абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *гучна-пявучы, кісла-салёны, ярка-светлы, чырвона-белы*;



- ✓ якія абазначаюць напрамкі свету ў іх спалучэнні: *паўднёва-заходні, паўночна-ўсходні*;
- ✓ якія абазначаюць складаныя геаграфічныя назвы з першай часткай ***Заходне-***, ***Усходне-***, ***Паўночна-***, ***Паўднёва-***, ***Цэнтральна-*** і інш.: *Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Усходне-Сібірскае мора, Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён* і інш.;
- ✓ якія ўтвораны ад уласнага імя і прозвішча (пішуцца з малой літары): *леў-талстоўскі* (Леў Талстой), *янка-брылёўскі* (Янка Брыль);
- ✓ пачатковай часткай якіх з'яўляюцца лічба або літара любога алфавіта: *100-гадовы, 25-тонны, Н-падобны*.



✎ **Практыкаванне № 46.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс складаных прыметнікаў.

Паўднёва (Кітайскае) мора, хутка (адрэдагаваны), рамэн (раланаўскі), шчыра (паважаны), высока (мастацкі), старажытна (славянская) мова, Верхня (дзвінскі), (пры) цяньшаньскі, доўга (чаканы), лаціна (амерыканскі), мікра (хвалевы), сельска (гаспадарчы), высока (пастаўлены), рэдка (высаджаны), хутка (растваральны), Барыса (глебскі) сабор, вечна (зялёны), (пры) алмаацінскі, усебакова (падрыхтаваны) леў (талстоўскі), Усходне (Еўрапейская) раўніна, Светла (горскі), інша (моўны), Давыд (гарадоцкі), звыш (тэрміновы), ніжэй (падпісаны), высока (развіты), культурна (грамадскі), урачыста (прачытаны), высока (тэмпературны), інда (еўрапейская) мова, Буда (кашалёўскі), глыбока (выкапаны), мала (прыкметны), мар'іна (горскі), Паўночна (Ціхаакіянскае) цячэнне, (за) ісыккульскі, высока (адукаваны), вальтэр (скотаўскі), (між) універсітэцкі, дыяметральна (процілеглы), добра (апрацаваны), народна (дэмакратычны), бел (чырвона) зялёны сцяг, ультра (левы), Стара (дарожскі), высока (размешчаны), мала (населены), глы-

бока (паважаны), Нава (полацкі), адваротна (прапарцыянальны), народна (гаспадарчы), добра (падрыхтаваны), Нова (барысаўскі), мароза (устойлівы), агульна (славянскі), жыццёва (важнае) пытанне, нізка (пробны) твор, добра (прыгладжаны), хутка (замарожаны).

## § 25. Правапіс лічэбнікаў

1. Пішуцца разам:

✓ складаныя колькасныя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з’яўляюцца ***-дзясят***, ***-сце***, ***-ста***, ***-сот***: *пяцьдзясят, дзвесце, чатырыста, шэсцьсот*;

✓ складаныя парадкавыя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з’яўляюцца ***-дзясяты***, ***-соты***, ***-тысячны***, ***-мільённы*** і інш.: *сямідзясяты, двухсоты, трохтысячны, васьмімільённы, чатырохмільярдны, трохсотпяцідзесяці-дзевяцітысячны* і інш.

2. Пішуцца праз злучок:

✓ парадкавыя лічэбнікі, напісаныя лічбамі, пры спалучэнні іх з канчаткамі, часткамі канчаткаў, састаўнымі часткамі ў выглядзе слоў: *37-ы, на 5-м км, 45-му, 16-мільённы, 22-мільярдны*;

✓ лічэбнікі, напісаныя словамі або лічбамі, якія абазначаюць прыблізны лік: *пяць-шэсць кілаграмаў, тры-чатыры хвіліны, дзявятае-дзясятае стагоддзе, 1–2 месяцы*

(☝ **але**: ставіцца працяжнік у складаных і састаўных лічэбніках прыблізнага ліку: *праз дваццаць пяць – трыццаць гадоў, 60–80-я гады*, а таксама пры ўмоўным пералічэнні: *пункты 3–8, 2–4 курсы*).

3. Пішуцца асобна састаўныя колькасныя, парадкавыя і дробавыя лічэбнікі: *дзвесце пяцьдзясят тры, шэсцьдзясят пяць, трыста дваццаць восьмы, семдзясят чацвёрты, дзве трэція, шэсць дзясятых*.





✎ **Практыкаванне № 47.** Запішыце лікі і лічбавыя абазначэнні словамі.

60; 300; 2010; 586 мільярдаў; 70-у; 99-га; 28-тысячны; 475-мільённы; 400-ы; 634-м; 100017-га; 152–154 кілаграмы; 3/5; 7/8; 8 2/3; 507,6 тысячы квадратных кіламетраў.

## § 26. Правапіс прыслоўяў

1. Пішуцца разам:

✓ прыслоўі, утвораныя ад назоўнікаў:

- шляхам спалучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі назоўнікаў, якія ў мове самастойна не ўжываюцца: *бесперастанку, даспадобы, дашчэнту, досыць, запанібрата, знячэўку, навобмацак, напавал, насцеж, уваччу, упокат*;
- з шырокім прасторавым і часавым значэннем, якія маюць у сваім складзе назоўнікі *дзень, ноч, раніца, вечар, верх, высь, ніз, даль, перад, зад, бок, век, гара, пачатак, раз, лета, восень* і іншыя, пры адсутнасці пры іх азначэння або дапаўнення: *удзень, звечара* (☝ **але**: *з вечара да ранку*), *увечары* (☝ **але**: *пад вечар*), *зранку* (☝ **але**: з ранку да вечара), *уранку, уночы, поначы; наверх, зверху, уверх; увысь; уніз, данізу* (☝ **але**: *з верху да нізу*), *знізу; удалеч; наперад, уперад, уперадзе; ззаду, назад, узад; збоку, набок, убок, убаку; навек, навекі; угары, дагары, угару; спачатку, упачатку; адразу, ураз; улетку, увосень*;
- шляхам спалучэння прыназоўнікаў з назоўнікамі, паміж якімі нельга без змены сэнсу паставіць азначэнне або да назоўніка нельга паставіць сэнсавага пытання: *адроду* (☝ **але**: *некалькі гадоў ад роду*), *дадому* (*‘назад’*), *замужам, наадварот, накрыж, напаказ, напалову, насілу, насмерць*

(☝ **але**: *не на жыццё, а на смерць*), *спадылба, упершыню, уразброд, усур'ёз* і інш.;
- ✓ прыслоўі, утвораныя ад кароткіх і поўных прыметнікаў прыставачна-суфіксальным спосабам: *дабяла, дачыста, збольшага, здалёк, злева, направа, памалу, пацiху, упустую, урассыпную*

(☝ **але**: у адкрытую, у абхват);

- ✓ прыслоўі, утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў ***у*** і ***на*** з рознымі склонавымі формамі колькасных і зборных лічэбнікаў: *надвое, натрое, удвух, упяцёх, усемярых, утрох*

(☝ **але**: у адно, па двух, па трох, па двое, па трое);

- ✓ прыслоўі, утвораныя ад займеннікаў:
  - ○ шляхам спалучэння з прыназоўнікамі: *затым, зусім, нашто, потым*

(☝ **але**: калі спалучэнне прыназоўніка з займеннікам не з'яўляецца прыслоўем, то пішацца асобна: *за тым, з усім, на што, ні за што*);

  - ○ шляхам спалучэння з займеннікамі ***што*** і ***сама***: штогод, штораз, штовечар, штораніцы, штодзень, штодня, гэтаксама, таксама, тамсама;
- ✓ прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў прыставачным спосабам, а таксама пры дапамозе постфікса ***-сьці***: *залетась, замнога, назаўсёды, назаўтра, незадоўга, ніколі, нясмела, пазаўчора, паслязаўтра, дзесьці*

(☝ **але**: ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія ўжываюцца ў значэнні дапаўнення (такія назоўнікі з прыназоўнікамі пішуцца асобна): *за дзякуй* (*працаваць*), *да заўтра* (*скончыць*), *на заўтра* (*адкласці*); *ад цямна да відна, да ранку, з цямна да цямна*);

- ✓ прыслоўе *мімаволі*.

2. Пішуцца праз злучок:
- ✓ утвораныя ад прыметнікаў і прыналежных займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з прыстаўкай ***па-*** і заканчваюцца суфіксамі ***-аму*** (***-яму***), ***-ому***, ***-му*** (***-йму***), ***-ску*** (***-цку***), ***-і*** (***-ы***):



*па-харошаму, па-асенняму, па-старому, па-твойму, па-свойму, па-беларуску, па-брацку, па-дзіцячы* і інш. (прыслоўі, утвораныя з дапамогай прыстаўкі ***па-*** ад складаных прыметнікаў, якія пішуцца праз злучок, маюць злучок толькі пасля прыстаўкі: *па-народнадэмакратычнаму, па-нацыянальнадзяржаўнаму*);
- ✓ прыслоўі, утвораныя ад парадкавых лічэбнікаў: *па-першае, па-другое, па-шостае* і г. д.;
- ✓ складаныя прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння аднолькавых або блізкіх слоў: *цяжка-цяжка, даўно-даўно, крыж-накрыж, сям-там, калі-нікалі, раз-пораз*.
- ✓ прыслоўі з прыстаўкай ***абы-*** і постфіксам ***-небудзь***: *абы-куды, абы-калі, дзе-небудзь*;
- ✓ прыслоўі-тэрміны *дэ-юрэ* (фармальна), *дэ-факта* (фактычна на справе), *на-гара* (наверх, на паверхню зямлі).

3. Пішуцца асобна:
- ✓ блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам:
  - o калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць азначэнне: *да астатку* (*да самага астатку*), *у момант* (*у адзін момант*), *у тупік* (*трапіў у такі тупік, што не выбрацца*);
  - o пры наяўнасці паясняльнага слова: *у глыб двара, з пачатку зімы, у бок лесу, на верх гары, у высь завоблачную, на векі вечныя, з пачатку восені* (прыслоўі не маюць паясняльных слоў: *ныраць углыб; спачатку пайшоў дождж; пазіраць убок*);
  - o калі назоўнік у адным значэнні захаваў хаця б некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі (за выключэннем назоўнікаў з шырокім прасторавым і часавым значэннем, напрыклад: *бок, век, верх, вечар, гара, далеч, пачатак, перад, ранак* і інш.): *да душы, па душы; за граніцай, з-за граніцы; праз меру, у меру, па меры; за мяжой, за мяжу,*

*з-за мяжы; на памяць, на памяці, па памяці; пад паху, пад пахі, пад пахамі; у пару, да пары, не ў пару; па часе, да часу, з часам, у час*;

- ✓ блізкія па значэнні да прыслоўяў наступныя спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі:
  - o ***без***: *без аглядкі, без канца, без разбору, без развагі, без толку, без упынку*

(☝ **але**: безаглядна, безразважна, безупынна, бесталкова, бясконца);

  - o ***да***: *да адвалу, да зарэзу, да смерці, да ўпаду*;
  - o ***з***: *з гарачкі, з налёту, з наскоку, з разбегу, з разгону, з размаху, з ходу*;
  - o ***на***: *на баку, на віду, на вока, на гвалт, на грэх, на дзіва, на жаль, на злосць, на ляту, на скаку, на славу, на слых, на смак, на смех, на хаду*;
- ✓ спалучэнні часціц ***не*** і ***ні*** з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не да смаку, не да смеху, не да спеху, не да твару, не на жарт, не пад сілу, не ў лад, не ў меру, не ў пару, ні за грош, ні на ёту*;
- ✓ спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца з галоснай, з прыназоўнікам ***у***: *у абдымку, у абмен, у абрэз, у абхват, у абцяжку, у адзіночку, у імгненне, у момант, у меру* і інш;
- ✓ прыназоўнік ***у*** і склонавая форма поўнага прыметніка ў значэнні прыслоўя, калі яна пачынаецца з галоснай: *у адкрытую*;
- ✓ устойлівыя спалучэнні, у якіх слова паўтараецца ў розных склонах з прыназоўнікамі: *адзін на адзін, дзень у дзень, з мінуты на мінуту, рука ў руку, след у след, час ад часу*;
- ✓ выразы: *усё адно, усё роўна, як бачыш, як мага, як след* і інш.

(☝ **але**: *якраз*).





✎ **Практыкаванне № 47.** Растлумачце правапіс прыслоўяў (вусна).

Дабяла, давеку, дасыта, датла, задарам, запанібрата, здаўна, здуру, знячэўку, набела, нагала, назубок, назусім, напалам, напаследак, наперакор, наперарэз, напрасткі, нараспеў, нарасхват, насілу, насмерць, наспех, насуха, насцеж, неўпапад, паасобку, падрад, падчас, пакрысе, памаленьку, памалу, папалам, пароўну, паціху, спадцішка, увачавідкі, уголас, удабавак, удосталь, узамен, укрутую, унічыю, уперамежку, уперамешку, уплаў, упокат, упрыкуску, упрысядкі, упустую, ураз, уразброд, уразвалку, уразнабой, уразнос, уразрэз, урассыпную, урасцяжку, урукапашную, услед, услых, усляпую, усутыч.

✎ **Практыкаванне № 49.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс прыслоўяў.

(Абы) куды, (без) адрыўна, (на) жаль, (з) верху, (з) дня (на) дзень, (гэтак) сама, (з) надворку, (з) наскоку, (з) нізу (да) верху, (зноў) такі, (з) разбегу, (з) размаху, (з) ходу, (з) часам, (міма) ходам, (крыж) накрыж, (на) абапал, (на) адрэз, (на) відавоку, (на) вобмацак, (на) выварат, (на) выраст, (на) выцяжку, (у) абцяжку, (на) двае, (усё) роўна, (над) вечар, (да) астатку, (на) зіркам, (на) зло, (на) зубок, (на) крыж, (на) павал, (на) паказ, (на) палавіну, (на) памяць, (на) парукі, (на) перарэз, (на) прадвесні, (на) пракат, (на) сілу, (на) смелую, (на) смех, (на) удачу, (у) момант, (на) уцёкі, (не) здарма, (не) умеру, (не) (у) лад, (пад) час, (па) мастацку, (па) просту, (па) пятае, (па) сярэдзіне, (па) чалавечы, (пад) вечар, (у) адкрытую, (у) васьмёх, (у) ваччу, (у) дваіх, (у) зацяжку, (у) міг, (у) пацёмку, (у) перамешку, (у) поплеч, (як) след, (у) прочкі, (у) прысядкі, (у) пустую, (у) развалку, (у) рассыпную, (на) дзіва, (у) рукапашную, (у) слых, (у) шчыльную, (усё) адно, (як) раз.

✏ **Практыкаванне № 50.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс прыслоўяў.

Бралася (на) відно, (за) дарам, (па) ціху, адкласці (на) заўтра, ісці (у) глыб двара, (пад) вечар, (па) воўчы, (на) уцёкі, там (сама), (дэ) факта, не (у) меру, (ва) усю, (пад) час, зрабіць (на) злосць, па-сацыял (дэмакратычнаму), (на) смелую, (па) мойму, (у) двух ісці, (па) крысе, (на) супрацьь, (на) памяць, (па) малу, падышлі (да) дома, (у) ручную, (за) панібрата, (на) векі вечныя, (пасля) заўтра, па-народна (дэмакратычнаму), працаваць (да) цямна, ударыць (з) размаху, (да) спадобы, (у) пустую, працуй (на) славу, (па) асобку, (у) адкрытую, пачакаць, (да) заўтра, ляцець (з) боку лесу, (з) даўна, па-рабоча (сялянску), (усё) адно, (у) чацвярых ісці, гэтак (сама), след (у) след, (на) гара, (з) нізу да верху, (да) шчэнту, у (сляпую), (па) летняму, дзень (у) дзень, (на) прапалую, (з) ранку да вечара, (у) пачатку дарогі, (дэ) юрэ, (па) сабачы, (за) пазухай, (да) бяла, (на) суха, па-нацыянальна (дзяржаўнаму), (на) жаль, (у) плаў.

## § 27. Правапіс прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц, выклічнікаў

1. Пішуцца разам:

- ✓ прыназоўнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з назоўнікам: *замест, звыш, наконт, накшталт*;
- ✓ прыслоўі, якія ўжываюцца ў якасці прыназоўнікаў і з’яўляюцца вынікам зліцця склонавых форм назоўнікаў з прыназоўнікамі: *знізу, наперадзе, наперакор, насустрач, уперадзе, услед* (*услед за калонай аўтамашын*);
- ✓ злучнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з займеннікам ці словамі *колькі, столькі*: *затое, настолькі, пакольki, прытым, прычым.*



☝ Іх трэба адрозніваць ад падобных спалучэнняў прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікам ці неазначальна-колькаснымі словамі, якія пішуцца асобна, паколькі займеннікі і неазначальна-колькасныя словы адказваюць на пытанні членаў сказа. Злучнікі на пытанні не адказваюць. Параўнаем: ***За тое*** *месца над ракою не знаю большае красы, яно заўжды, заўжды са мною, дзе б я ні быў, ва ўсе часы* і *Днём усё яшчэ было горача.* ***Затое*** *ноччу дацінаў холад*; ***паколькі*** *абяцаў, трэба зрабіць* і *бяром па столькі,* ***па колькі*** *дамовіліся*.

- ✓ злучнікі ***або*** (***альбо***)*,* ***ажно****,* ***каб****,* ***нібы****,* ***нібыта***;
- ✓ часціца-постфікс ***-сьці*** ***(-сь)*** з займеннікамі і прыслоўямі: *дзесь, дзесьці, кудысьці, хтось, хтосьці, якісьці*;
- ✓ займеннікі з пачатковай узмацняльнай часціцай ***а***: *анідзе, анікуды, аніхто, аніштo, аніяк*;
- ✓ часціца ***а*** з часціцай ***ні***: *ані слова, ані нічога, ані хмурынкі*.

2. Пішуцца праз злучок:

- ✓ складаныя прыназоўнікі ***з-за****,* ***з-пад****,* ***па-за****,* ***па-над***: *з-за возера, па-за школай, па-пад рэчкай*;
- ✓ часціца-прыстаўка ***абы-*** з займеннікамі і прыслоўямі: *абы-што, абы-хто, абы-які, абы-калі, абы-дзе, абы-як* (☝ **але**: з іншымі часцінамі мовы часціца ***абы*** пішацца асобна: *абы выканаць, абы немалы*; займеннікі ***абы-хто*** і ***абы-што*** пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *абы ў каго, абы ў чым, абы да каго, абы да чаго, абы з кім, абы з чым*; займеннік ***абы-які*** пры спалучэнні з прыназоўнікамі перадаецца або двума словамі (*з абы-якімі*), або трыма (*абы з якімі*); словы, вытворныя ад прыслоўя ***абы-як***, з прэфіксам ***абы*** пішуцца разам: *абыякава, абыякавасць, абыякавы, абыякаваты*);
- ✓ часціцы-постфіксы ***-небудзь****,* ***-кольвечы*** (***-колечы****,* ***-кольвек***) з займеннікамі і прыслоўямі: *хто-небудзь, што-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь, хто-кольвечы, што-кольвек*;
- ✓ словы з часціцай ***то***: *яна-то, намаляваць-то намаляваў*;
- ✓ часціца-постфікс ***такі*** ў словах тыпу *так-такі, усё-такі*, а таксама ў тых выпадках, калі стаіць пасля дзеяслова: *прачытаў-такі, сказаў-такі*; ва ўсіх астатніх выпадках

часціца ***такі*** пішацца асобна: *яны такі паслухаліся, такі выканаў, такі выйшаў*;
- ✓ складаныя выклічнікі, падзыўныя і гукапераймальныя словы: *вой-вой-вой, о-ё-ёй, ох-ох, цю-цю-цю, ку-ку, му-му* і інш.

3. Пішуцца асобна:
- ✓ састаўныя прыназоўнікі пішуцца ў два-тры словы: *на працягу, у галіне, у адпаведнасці з, на чале, нягледзячы на*;
- ✓ састаўныя злучнікі ***а то***, ***гэта значыць***, ***дарма што***, ***затым што***, ***пры гэтым***, ***як быццам***, ***таму што***, ***то так***;
- ✓ злучнікі ***ды і***, ***ды і то***, ***але і*** (дапускаецца дваякае напісанне гэтых злучнікаў: *ды і – дый, ды і то – дый то, але і – але й*);
- ✓ часціцы ***бы (б)***, ***жа (ж)*** (калі папярэдняе слова заканчваецца на зычную, то пішуцца часціца ***бы*** або ***жа***, калі на галосную – часціца ***б*** або ***ж***): *чытаў бы, гаварыў жа, чытала б, гаварыла ж*;
- ✓ часціца ***што*** ў спалучэннях *амаль што, ледзь што, пакуль што, сама што, толькі што, хіба што*.



**Практыкаванне № 51.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс слоў.

(Па) над возерам, (абы) што, быццам (бы), заснуў (такі), (а) то, прыбег (бы), (пад) мною, чые (сьці), дарма (што), які (сьці), (на) чале, дзе (ж), абы (ў) каго, усё (ж) такі, пакуль (што), (а) ніхто, даволі (такі), дзе (небудзь), (на) конт, пакуль (што), не (то), (такі) пастараўся, як (жа), (з) за хаты, (абы) намаляваць, быць (бы), (абы) куды, (абы) якавасць, (па) за сцяной, амаль (што), усё (такі), дый (то), што (ж) небудзь, як (колечы), (ані) нічога, як (бы), яна (то), прачытаць (то) прачытаў, (абы) як, ці (то), каму (сьці), (абы) якімі, ха (ха), (што) кольвек, (з) пад каменняў, (а) ніяк, (то) так, добра (такі).



## § 28. Асаблівасці ўжывання часціц *не* (*ня*), *ні*

1. Часціца ***не*** выражае адмоўнае значэнне, калі ўжываецца:
- ✓ у адмоўных сказах: *Не маўчыць, не сціхае, супакою не мае, ходзіць рэха, блукае, выйсця з лесу шукае*;
- ✓ пры супрацьпастаўленнях: *Часамі днём позняга лета пачынае хмурнець дзень, і гэта не збіраецца на дождж, а незаўважна падплылі павевы восені*;
- ✓ пры адмоўным параўнанні: *Не сакоча за хвойнікам ластаўка, не пяе салавейка над возерам, – так смяецца Алёнка, гаворачы, на траве з князем седзячы побач*.

2. Часціца ***не*** можа мець сцвярджальнае значэнне:
- ✓ калі ўжываецца з пытальнымі займеннікамі, прыслоўямі, часціцамі: *Як я мог не чуць? Ці не вецер над грэбляю вые, ці мо плачуць вярбіны старыя?;*
- ✓ калі паўтараецца два разы ў састаўным дзеяслоўным выказніку: *Не згадаць не магу рэчкі люстраной між лозаў і вязаў, што на лугах быстра воды нясе;*
- ✓ калі спалучаецца з часціцамі ***ледзь***, ***амаль***, ***чуць*** і падпарадкавальнымі злучнікамі ***каб***, ***пакуль***: *Ледзь не на кожнай палескай хаце ляскае дзюбай вольны бусел, абліты барвай захаду*;
- ✓ калі спалучаецца са словамі ***нельга***, ***немагчыма***: *Нельга не напісаць аб людзях, справы і лёс якіх хвалююць.*

3. Часціца ***ні*** выкарыстоўваецца для ўзмацнення адмаўлення:
- ✓ у адмоўных сказах з часціцай ***не*** ці са словамі ***няма***, ***нельга***, ***немагчыма***: *Птушкі недзе пахаваліся. Няма над возерам ні ластавак, ні чаек*;
- ✓ у якасці злучніка і пры пералічэнні аднародных членаў сказа: *У начной цішыні не чуваць было ні смеху, ні песняў, ні гаворкі;*
- ✓ у пабуджальных сказах з загаднай інтанацыяй: *Ні кроку назад!*

4. Часціца ***ні*** выкарыстоўваецца для ўзмацнення сцвярджэння ў спалучэнні з займеннікамі і займеннікавымі прыслоўямі: *хто ні, што ні, дзе ні, дзе б ні, куды ні, куды б ні, як ні*:

*Летам, куды ні кінеш вокам, зачароўвае зялёны прастор і прыгажосць.*

5. Часціца ***ні*** ўжываецца ва ўстойлівых зваротах – са значэннем няпэўнасці, узмацнення: *ні рыба ні мяса, ні жывы ні мёртвы, ні свет ні зара*.

## § 29. Правапіс *не* (*ня*), *ні*

1. ***Не***- (***ня***-) пішацца разам:

✓ калі слова без ***не***- (***ня***-) не ўжываецца: *невук, недамагаць, незабудка, нездаровіцца, незлічоны, нельга, немаўля, ненавідзець, непакоіць, непахісны, неўзабаве, няўцям, няшчадна;*

✓ з назоўнікамі, калі адмоўе ***не***- (***ня***-) надае слову значэнне супрацьпастаўлення, адмаўлення: *небяспека, нелінгвіст, нечалавек, няволя, нятэрмін, няшчасце*;

✓ з прыметнікамі і прыметнікавымі прыслоўямі на -***о*** (-***а***), калі спалучэнне іх з *не* служыць не для адмаўлення чаго-небудзь, а для выражэння новага, супрацьлеглага паняцця: *невысокі* (нізкі), *невялікі* (малы), *недалёкі* (блізкі), *неспакойны* (які хвалюецца), *нелегальна* (падпольна, скрытна), *няшмат* (мала) і інш., а таксама з прыслоўем *няйначай* (абавязкова);

✓ у дзеясловах з прыстаўкай ***неда***-, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недаацэньваць* (ацэньваць ніжэй, чым належыць), *недамерваць* (адмерваць менш, чым трэба), *недасаліць* (пасаліць менш, чым патрабуецца), *недавыканаць, недагледзець, недаесці, недалічваць*. Часта такія дзеясловы можна супаставіць з дзеясловамі з супрацьлеглай па значэнні прыстаўкай *пера*- (параўн.: *недаацаніць – пераацаніць, недамераць – перамераць, недавыканаць – перавыканаць*). Дзеясловы з прыстаўкай ***неда***- важна адрозніваць ад дзеясловаў з прыстаўкай ***да***-, перад якімі стаіць адмоўе ***не***; такія дзеясловы абазначаюць не даведзенае да канца дзеянне: *не дапісаць* (ліст), *не дачакацца* (цягніка), *не дачытаць* (да канца кнігу), *не даведацца, не давучыцца, не даглядзець*;



✓ з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі пры іх няма паясняльных слоў і супрацьпастаўлення: *незачыненыя* (дзверы), *непрыбраны* (пакой), *нявырашанае* (пытанне), *нявысушанае* (сена), *няходжаная* (сцежка) (☝ **але**: *не прачытаная вучнем кніга, не ўзаранае вясной поле*);

✓ з прыслоўямі, поўнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, да якіх адносяцца паясняльныя словы ***абсалютна***, ***амаль***, ***вельмі***, ***выключна***, ***зусім***, ***надта***, ***надзвычай***, ***незвычайна***, ***у вышэйшай ступені***, ***часткова*** і інш.: *вельмі неўраджайны год, надзвычай неспрыяльнае надвор'е, зусім нецікава, у вышэйшай ступені непрадуманае рашэнне, надта няшчырая размова;*

✓ з няпэўнымі займеннікамі, калі на часціцу ***не*** падае націск і паміж ***не*** і займеннікам няма прыназоўніка, і з падобнымі займеннікавымі прыслоўямі: *нешта, нехта, некага, нейкі, нейчы, некалі, некуды, некалькі, недзе, неадкуль* (☝ **але**: *не адкуль, не адтуль* – пры націску на займеннікавым прыслоўі);

✓ у прыслоўях: *неабсяжна, незадоўга, непадалёк, неўзаметку, нехаця, нельга*; у прыназоўніку *нягледзячы на*; у часціцах *няўжо, няхай,* постфіксе *-небудзь,* (*калі-небудзь, штонебудзь*) і слове *няма*.

2. Часціца ***не*** пішацца асобна:

✓ з дзеясловамі і дзеепрыслоўямі: *не буду глядзець, не прыйшоў, не сядзіцца; не думаючы, ісці не спяшаючыся, не чытаючы;*

✓ з поўнымі дзеепрыметнікамі, пры якіх ёсць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *не засеянае сялянамі поле, не прачытаная да канца кніга, не прыбраны зранку пакой; не скошаная, а толькі збітая трава, не запрошаны, але жаданы госць;*

✓ з кароткімі дзеепрыметнікамі: *поле не засеяна, стол не накрыт, кніга не прачытана, луг не скошан*;

✓ са словамі іншых часцін мовы, калі ёсць ці падразумяваецца супрацьпастаўленне: *не прыяцель, а знаёмы; не лёгкі, а цяжкі выпадак; не салодкі, а кіслы яблык; не тры – больш;*

*не табе, а яму раскажу; не пашкоджаны, але не працуе нешта; чытаў не моцна, а ледзь чутна; знаходзіцца не далёка – зусім блізка*;

- з прыметнікамі, прыслоўямі, калі ў якасці паяснялынага слова выступае займеннік або займеннікавае прыслоўе, якія пачынаюцца з ***ні***: *ніхто не мокры, ні да чаго не прыдатны, ён нічуць не старэйшы, нікому не цікава*;
- з формамі вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: *не лепшы за яго, не цікавейшы за кнігу, не раней чым заўтра, не лепш чым у мяне;*
- з прыметнікамі і прыслоўямі з паясняльным словам, якое мае ацэначнае значэнне якасці: *далёка не лепшы вынік, гэты выраб зусім не горшы за папярэдні, не гарачая яшчэ вада*;
- з лічэбнікамі, узмацняльнымі прыслоўямі, злучнікамі, прыназоўнікамі, часціцамі: *не пяць, не вельмі, не зусім, не надта, не ў нас, не толькі, не то*;
- у зваротах ***не хто іншы, як***; ***не што іншае, як***; ***не хто іншы, а***; ***не што іншае, а***, у складзе якіх ёсць адносныя займеннікі ***хто, што*** і азначальныя займеннікі ***іншы*** (*хто іншы, што іншае*), якія ў спалучэнні з *не* з'яўляюцца адмаўленнем іх сумеснага значэння: *не хто іншы прачытаў, як ён*; *не хто іншы, а толькі ён*; *гэта не што іншае, як мядзведзь*; *гэта не што іншае, а толькі птушка прамільгнула*

(☝ **але**: ніхто іншы не дапамог, толькі ён; нішто іншае не вабіць яго, адно толькі лугавыя кветкі);

- з усімі словамі, якія пішуцца праз дэфіс: *не па-беларуску, не па-вашаму, не па-свойску, не ярка-чырвоная сукенка, не навукова-папулярны фільм*;
- са словамі катэгорыі стану (безасабова-прэдыкатыўнымі словамі): *не варта, не супраць, не трэба, не шкода*

(☝ **але**: нельга, няможна);

- у выразе ***не раз***: *Не раз нам прыходзілася ад чужынцаў свой край бараніць*.



3. ***Ні*** пішацца разам:

- з адмоўнымі займеннікамі: *нішто, ніхто, нікога, нічога, ніякі, нічый, ніякаму, нічыйго*;
- у прыслоўях: *ніадкуль, нідзе, ніколі, ніколькі, нікуды, нічуць, ніяк*;
- у злучніках і часціцах: *нібы, нібыта;*
- са словамі, якія без ***ні*** не ўжываюцца: *ніштаваты, нішчымны, нічагутка, нічыйны, ніякавата, ніякаватасць* і інш.

4. ***Ні*** пішацца асобна:

- перад выказнікам у дадаеных частках складаных сказаў, калі служыць для ўзмацнення сцвярджальнага значэння: *Куды б ні закінуў лёс, Радзіма заўсёды ў памяці маёй*;
- ва ўстойлівых узмацняльных зваротах: *з кім бы то ні было; што б там ні было; што ні кажы*.



✎ **Практыкаванне № 52.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумаце правапіс ***не (ня)*** і ***ні***.

1. Людзям трэба было ісці (не) ходжаным полем (не) пражытага жыцця. 2. (Не) вялічкая вёсачка ў адну вуліцу выглядала (не) прыветна. 3. Глухаваты ад старасці, Пятрусь мог (не) дачуць гадзінніка. 4. Унізе рос ядловец, лаза, нават (не) рэдка на вочы трапляліся алешыны. 5. Ветрык прыносіў (не) халодную вільгаць прадвесня, а цеплыню вясны. 6. Ноч была (не) цёмная. 7. Гаспадар крыўдуе, калі бачыць (не) парадак. 8. Чалавеку пачало (не) дабрыцца. 9. Вяршаліны дрэў застылі ў дзіўнай (не) рухомасці. 10. Праз некалькі гадзін мы (не) далічыліся двух чалавек. 11. Густы туман, (не) разагнаны ветрам, слаўся па зямлі. 12. Пытацца дарогі ўжо (не) трэба. 13. Бульба на Васілёвым загоне была (не) дакапана. 14. (Ні) колі ворагу зямлі мы не аддамо. 15. Мікола развітаўся і выйшаў з хаты ў асеннюю (не) пагадзь. 16. Чуючы (не) прыхільнасць, хутка пачалі моўчкі, (не) ёмка разыходзіцца.

17. Мы ідзём уздоўж (не) шырокай, але паўнаводнай і глыбокай рэчкі. 18. Вучыцца (ні) колі не позна. 19. Яе вельмі (не) прадуманае рашэнне не спадабалася класу. 20. Зялёная, (не) кранутая марозам трава. 21. Бацька і маці былі вельмі старымі і часта (не) дамагалі. 22. (Не) нацешуся – так лёгка дыхаць смольнай сінявой. 23. Воўк дарогай (не) езджанай бяжыць к вёсцы (не) прошаным госцем. 24. Прамоўца гаварыў (не) моцна, але выразна, упэўнена. 25. Лета было сухое – таму кармоў (не) дабралі. 26. Днём Курані былі ў будзённым (не) хапаткім клопаце. 27. Над яшчэ (не) прыбраным лугам пранесліся грымотныя хмары. 28. Было (не) цёмна, як мінулымі начамі, а шаравата. 29. Усю ноч Ганна праляжала як (не) жывая. 30. Няхай абыходзіць вас гора і (не) шчасце.

**Практыкаванне № 53.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс часціц.

1. Над (не) зжатым полем хмарка плыве. 2. З-за (не) пагоды мітынг перанеслі ў вялікае памяшканне агітпункта. 3. (Ні) адкуль струменіць рэчка і ўпадае ў (ні) куды. 4. Хата, (не) абнесеная плотам, стаяла на самым краі вёскі. 5. Вам (не) варта глядзець на мае вочы. 6. Перагародкі пакояў былі (не) капітальныя, а з дошчак. 7. Васіль усё ж пайшоў к Міканору (не) ахвотна. 8. Трава (не) прыкметна вылазіла з (не) глыбокай вады. 9. Сымон засынае (не) хутка. 10. Надзвычай (не) цікавае выступленне ці абудзіць сэрцы слухачоў? 11. Пасека знаходзілася (не) блізка. 12. Яе раптам апанавала (не) смеласць. 13. У густым змроку ўсё рабілася (не) выразнае, прывіднае. 14. На дне яра пракідаецца (не) пераможаны снегам лядок. 15. Гэта быў у вышэйшай ступені (не) прадуманы адказ. 16. (Не) упрыкметку, (не) узаметку і (не) ухільна набліжаецца зіма. 17. (Не) пакоіць хворага дзяжурны доктар не дазваляў. 18. Лепш (не) дагаварыць, чым перагаварыць. 19. Калі чалавек паставіў мэту, дык ён дзеля яе (не) даспіць, (не) даесць. 20. Хадоська (не) навідзела таго дужага, нахабнага дзядзьку ў белым.



21. Буйны серабрысты пот сцякаў па шкле на (не) фарбаваную шуфляду. 22. Ён сёння нешта зусім (не) вясёлы. 23. І ніколі (не) дадумаеш да канца думак сваіх у вялікай дарозе. 24. Колькі зорных начэй у дарогах начных (не) даспалі мы. 25. Мы выскачылі ў (не) вялічкі (не) дагледжаны садок. 26. Сказала Ганна так (не) прыхільна, (не) даступна. 27. (Не) дагледзіш вокам – заплаціш бокам. 28. Струны (не) простыя, а серабрыстыя і каляровыя. 29. Дым з (не) высокага коміна заўсёды калыхаўся над рачнымі хвалямі. 30. Зранку яму зусім (не) здаровілася.

## Тэст № 6

**1. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**
1) (мала) населены; 2) (рэдка) пасаджаны; 3) (контр) адмірал; 4) (плац) карта; 5) (волат) дуб.

**2. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:**
1) (лаціна) амерыканскі; 2) (метэа) служба; 3) (давыд) гарадоцкі; 4) (плашч) палатка; 5) (сельска) гаспадарчы.

**3. Адзначце словы, якія пішуцца асобна:**
1) (вярні) дуб; 2) (хутка) прачытаны; 3) (віцэ) прэзідэнт; 4) (нізка) прыбіты; 5) (інда) еўрапейскі.

**4. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:**
1) (прэм'ер) міністр; 2) (паўночна) заходні; 3) (трох) гадовы; 4) (праца) дзень; 5) (паў) лімона.

**5. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**
1) (стара) беларуская мова; 2) (гары) цвет; 3) (віцэ) чэмпіён; 4) (прырода) апісальная лірыка; 5) (паветра) ачышчальная ўстаноўка.

**6. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:**
1) (далёка) усходні; 2) (ваенна) служачы; 3) (мікра) раён; 4) (Нёман) рака; 5) (Заходне) Сібірская нізіна.

**7. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**
1) (дваццаці) тысячны; 2) (пяцьсот) трэці; 3) (дзевяць) сот; 4) (на) конт; 5) (такі) сказаў.

**8. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:**

1) 300 (мільённы); 2) (тры) пятыя; 3) (абы) як;
4) (два) тры кіламетры; 5) (на) чале.

**9. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**

1) упаў (з) верху дрэва; 2) (на) жаль; 3) ісці (на) права;
4) прыйду (пасля) заўтра; 5) (с) пачатку пачні.

**10. Адзначце словы, якія пішуцца праз злучок:**

1) (па) трэцяе; 2) (па) двое; 3) (па) чалавечы;
4) (дзе) небудзь; 5) (на) гара.

**11. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**

1) ішлі (ў) трох; 2) (на) памяць; 3) (на) што ты сказаў?;
4) недзе (у) баку; 5) ныраць (у) глыб.

**12. Адзначце словы, якія пішуцца асобна:**

1) (там) сама; 2) (па) бацькоўску; 3) (у) адно;
4) (да) спадобы; 5) (з) боку дарогі.

**13. Адзначце словы, якія пішуцца разам:**

1) (пад) вечар; 2) (у) пустую; 3) (абы) дзе;
4) (у) дзень; 5) (па) воўчы.

**14. Адзначце словы, якія пішуцца асобна:**

1) (абсалютна) спакойны; 2) ісці (у) сляпую;
3) прыйсці (а) поўначы; 4) бачыць (з) верху (да) нізу;
5) (ніжэй) пералічаныя факты.

**15. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца разам:**

1. За лесам паказалася (не) узаранае поле.
2. Учора (не) дакасіў атаву каля лесу.
3. Дрэвы стаялі (не) варушачыся.
4. Вёска цэлая, (не) кранутая вайной.
5. Яе надзвычай (не) прадуманае рашэнне не спадабалася класу.

**16. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца асобна:**

1. Ён так і (не) дапісаў свой раман.
2. Кніга тая (не) прачытана.
3. (Не) зважаючы на дождж, людзі працавалі.
4. Для добрых людзей (не) шкада часу.
5. Гэты (не) дахоп можа стаць вялікай бядой.



**17. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца разам:**

1. Смутна ў асеннюю (не) пагадзь.
2. Было (не) цёмна, а шаравата.
3. Мы ідзём уздоўж (не) шырокай рэчкі.
4. Зялёная, (не) кранутая марозам трава.
5. Часамі на працы яго (не) даацэньвалі.

**18. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца асобна:**

1) На стале ляжала (не) прачытаная кніга.
2) (Не) вылечная хвароба адступіла.
3) Па нікому (не) вядомай прычыне майстэрню закрылі.
4) (Не) чутна ступаючы, кошка выслізнула з пакоя.
5) (Не) гледзячы на сябра, Алесь доўга расказваў пра сваю нялёгкую службу.

**19. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца разам:**

1. Чалавеку пачало (не) дабрыцца.
2. Бульба (не) дакапана.
3. Туман, (не) разагнаны ветрам, слаўся па зямлі.
4. Вельмі (не) ураджайны год выдаўся ў тую пару.
5. Вёсачка ў адну вуліцу выглядала (не) прыветна.

**20. Адзначце сказы, у якіх *не-* (*ня-*) пішацца асобна:**

1. (Не) кранутая ежа стаяла на стале.
2. На яшчэ (не) узараным полі стаялі стагі саломы.
3. Рака была (не) глыбокая, а плыткая.
4. У майго сябра справы ідуць (не) лепш.
5. Пасека знаходзілася зусім (не) блізка.

# Раздзел 9. ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ СЛОЎ

## § 30. Правілы пераносу слоў

1. Падзел слоў на часткі для пераносу на другі радок грунтуецца на прынцыпе складападзелу з магчымым захаваннем марфемнай структуры слова: *ра-дзі-ма, пра-чы-таць, сі-ні*.

Дзеянне гэтага правіла абмежавана некаторымі прыват-

ымі выпадкамі:

- ✓ адна літара, хоць яна і ўтварае склад, не пераносіцца і не пакідаецца: *ялі-на, уро-кі, бе-лая*

(☝ **нельга**: я-ліна, у-рокі, бела-я);

- ✓ калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі маецца спалучэнне зычных, то на наступны радок пераносіцца або ўсё гэтае спалучэнне, або любая яго частка; можна пераносіць: *кро-пля, кроп-ля; ма-ста-цтва, мас-тац-тва, мас-тацт-ва; раз-віць, ра-звіць; ва-рэн-не, ва-рэ-нне*;
- ✓ літары ***дз, дж***, якія абазначаюць адзін гук, не раздзяляюцца: *са-дзіць, ва-джу*; спалучэнне ***дж*** і ***дз*** можна разбіваць пераносам, калі ***д*** адносіцца да прыстаўкі, а ***з, ж*** – да кораня: *ад-значыць, ад-жыць*;
- ✓ літары ***й, ў, ь***, а таксама апостраф не аддзяляюцца ад папярэдняй літары: *лай-ка, воў-на, Кузь-ма, сур'-ёзны*.

2. У складаных словах кожная іх частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *тор-фа-ўбо-рач-ны, збож-жа-на-ры-хтоў-ка*.

3. Пры пераносе не дзеляцца абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі або з'яўляюцца спалучэннем літар і лічбаў, а таксама графічныя скарачэнні слоў і выразаў: *МУС, ВАК, ВАЗ-24, г.д., стст.;* пры пераносе не адрываюцца ад лічбаў далучаныя да іх канчаткі або часткі канчаткаў: *а 20-й (гадзіне), у XIX-ым (стагоддзі);* не адрываюцца ад прозвішчаў ініцыялы: *М. Багдановіч, Лугоўскі А. І., М. В. Краўцова;* не пераносяцца на наступны радок знакі прыпынку; не пераносіцца на наступны радок злучок (дэфіс), які супадае са знакам пераносу (пры гэтым знак пераносу не ставіцца); пры пераносе нельга адрываць ад лічбы скарочаныя назвы адзінак вымярэння: *1 кг, 10000 руб., XX ст., 5 га*.





✎ **Практыкаванне № 54.** Запішыце словы і спалучэнні слоў, падзяляючы іх рыскамі для пераносу. Звярніце ўвагу на варыянтныя выпадкі.

Адухоўленасць, адведзіны, безграшоўе, Мінск, абедзве, будзьце, узгор'е, падземны, байка, гаркам, досвітак, 500-ая (аўдыторыя), бацькаўшчына, бібліёграф, нараджэнне, газпрам, Л. Давідовіч, ТУ-124, аб'ява, каля ўніверсітэта, дрожджы, змізарнеласць, адажыа, брыльянт, ледзьве, адзімаваць, 50 мм, камп'ютар, явар, юннат, кіраўніцтва, заваблівацъ, пер'е, двухкіламетровы, размяжоўваць, вольны, трох'ячэісты, г. Брэст, аднадушнасць, інжынер-эканаміст.

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПУНКТУАЦЫЯ

## Раздзел 10. ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў КАНЦЫ СКАЗА

### § 31. Знакі прыпынку ў канцы сказа

1. У канцы сказа могуць ужывацца кропка, пытальнік, клічнік, шматкроп'е, а таксама пытальнік і клічнік, пытальнік і шматкроп'е, клічнік і шматкроп'е.

Пастаноўка пэўнага знака прыпынку ў канцы сказа залежыць ад таго, які гэта сказ паводле мэты паведамлення і якую інтанацыйную афарбоўку ён мае.

2. **Кропка** ставіцца ў канцы апавядальных сказаў, а таксама ў канцы пабуджальных сказаў, калі яны не маюць яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі: *Палі збажыною шумяць (Янка Купала).*; *Давайце дружна песню звонкую спяём (З. Бядуля).*

3. **Пытальнік** ставіцца ў канцы пытальных сказаў: *Што нясе нам вясна маладая?* (Якуб Колас).

Пытальнік ставіцца ў канцы складаназлучаных і складаных бяззлучнікавых сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка змяшчае прамое пытанне: *Стаміўся ў дарозе, ды дзе спачываць?* (П. Броўка); *Паслухай добра: чуеш песні?* (Якуб Колас).

Пытальнік ставіцца ў канцы складаназалежных сказаў, у якіх кожная або адна з частак (галоўная ці даданая) змяшчае прамое пытанне: *Мячык і цацку трэба аддаць сябрам, бо хто ж ідзе з горада без гасцінца? (Якуб Колас)*; *Хто згадае, чаго сэрца плача?* (П. Трус).



Пытальнік з клічнікам ставіцца ў канцы сказа, у якім прамое пытанне суправаджаецца рознымі эмацыянальнымі адценнямі: *Хіба ж не любавацца сваім прыгожым краем?! (Янка Купала).*

Пытальнік са шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказа, у якім прамое пытанне падаецца як незавершанае. Шматкроп'е ў такім выпадку абазначаецца дзвюма кропкамі, якія размешчаны за пытальнікам: *Як жа па расе халоднай босы пабяжыш?..* (В. Таўлай).

Калі ж такое пытанне суправаджаецца дадатковымі эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі, тады ў канцы сказа звычайна ставіцца пытальнік, клічнік і шматкроп'е (шматкроп'е ў такім разе абазначаецца адной кропкай): *Што на свеце роўнага па сіле знойдзецца да шчырай дружбы?!.* (У. Дубоўка).

4. **Клічнік** ставіцца ў канцы простых сказаў, якія маюць клічную інтанацыю: *Сягоння на новых шляхах Беларусь!* (А. Звонак); *Будзьце храбрымі і мужнымі!* (М. Лынькоў).

Заўсёды ставіцца клічнік у канцы тых сказаў, у якіх клічная інтанацыя падкрэслена эмацыянальна-экспрэсіўнымі часціцамі і выклічнікамі, размешчанымі ў пачатку сказа: *Колькі наперадзе спраў маладым!* (А. Астрэйка); *Ах, добра летам каля рэчкі! (Якуб Колас).*

Заўсёды ставіцца клічнік у канцы тых сказаў, у якіх пабуджэнне выражана інфінітывам, назоўнікам або прыслоўем: *Не быць вайне! Па машынах! Бягом!*

Клічнік ставіцца ў канцы складаных сказаў, у якіх кожная або толькі апошняя прэдыкатыўная частка мае клічную інтанацыю: *Ужо снедаць час, і поўдзень скора, ды з гэтым бацькам адно гора! (Якуб Колас).*

Клічнік са шматкроп'ем ставіцца ў канцы сказа, у якім эмацыянальна-экспрэсіўнае паведамленне падаецца як незавершанае: *Ну што ж, здараюцца і ў будзённым жыцці гераічныя моманты!..* (І. Грамовіч).

5. Шматкроп'е ставіцца ў канцы сказа, які не закончаны граматычна або па сэнсе: *Вецер ярасна дзьмуў, і рака бушавала...* (П. Панчанка); *Людзі ездзяць, а ты.. (Янка Брыль).*.



**Практыкаванне № 55**. Прачытайце тэкст. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

Пра вясну ж і казаць няма чаго: кожнае імгненне здараецца хоць невялічкі, але цуд. Цуд першага ручайка, які адтайвае ў снезе сваю сцяжынку. Цуд першай пратапінкі на самым адкрытым небу ўзлобку. Цуд першага кволага парастка ўсемагутнага пырніку, першага альховага лісціка, першай пралескі. Цуд абуджэння магутнай ракі, калі цямнее, набухае, лопаецца ўздоўж па хрыбце і пачынае рвацца, рваць зімовыяковы лёд...

А вясёлыя капяжы ўсюды, куды зазірне сонца! А прылёт птушак! Радасць надараецца штодня, штохвіліну – і не заўважаць яе? Не прымаць з захапленнем і ўдзячнасцю?! Дык жа на тое і дадзена жыццё, каб любіць усё вакол, любіць усім сэрцам, адчуваючы кожнае імгненне і радасць, і ўдзячнасць за яе (Паводле Т. Бондар).

**Практыкаванне № 56.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў. У дужках укажыце магчымыя варыянты.

У цягніку нам няма калі спаць, ды ніводзін з нас усё роўна і не заснуў бы / Які там сон / Усю дарогу Лазоўскі чытае мне на памяць вершы / Ён ведае паэтаў, пра якіх я нават не чула / Вось ён дык ведае літаратуру / І ён у гэтым інстытуце будзе на месцы /

Праз дзве гадзіны я спыняю крок перад дзвярыма Рагачоўскага настаўніцкага інстытута / Як жа ты стрэнеш мяне, інстытут / А далей усё мільгае, нібыта за акном цягніка / Інстытут, экзаменатары, новыя знаёмствы з абітурыентамі / У сё мне тут, у інстытуце, падабаецца / У адрозненне ад нашага мурапедвучылішча, ён нейкі вельмі прыветны і сонечны / Ці таму, што стаіць у кляновых прысадах / ці што замест двара дбайна дагледжаны і выпеставаны кветнік / Мая няўдзячная памяць толькі тое і робіць, што адшуквае чорныя плямы на тых сценах, якіх два гады назад я дамагалася гэтак жа палка, як сёння дамагаюся гэтых / (Паводле А. Васілевіч).



**Практыкаванне № 57.** Падзяліце тэкст на сказы, перакладзіце на беларускую мову. Пераклад запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

Боже как ты хороша подчас далёкая далёкая дорога сколько раз погибающий и тонущий я хватался за тебя и ты всякий раз меня великодушно выносила и спасала а сколько родилось в тебе чудных замыслов поэтических грёз сколько перечувствовалось дивных впечатлений (Н.В. Гоголь).

# Раздзел 11. ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў ПРОСТЫМ СКАЗЕ

## § 32. Знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам, якія выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону

1. Паміж дзейнікам і выказнікам, якія выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону, ставіцца працяжнік, калі:

✓ выказнік з'яўляецца лагічным азначэннем дзейніка або змяшчае ацэнку таго, што ім абазначана: *Алеська – дзяўчынка бойкая і вясёлая* (Р. Мурашка);

✓ выказнік уступае ў параўнальныя адносіны з дзейнікам: *Вочы – усмешкі вясны* (П. Трус);

✓ выказнік знаходзіцца пасля аднародных дзейнікаў: *Гамонка, смех і коней ржанне – касьбы вясёлае вітанне* (Якуб Колас);

✓ неабходна размежаваць кампаненты групы дзейніка і групы выказніка: *Сястра мая – настаўніца* і *Сястра – мая настаўніца.*

2. Працяжнік не ставіцца, калі

✓ выказнік размешчаны перад дзейнікам або ў сярэдзіне яго: *Цудоўная рэч жыццё* (І. Шамякін); *Спраўны Мацей хлопец* (А. Савіцкі);

✓ паміж дзейнікам і выказнікам знаходзяцца пабочныя словы, прыслоўі, часціцы: *Алесь, вядома, настаўнік*; *Варонча цяпер вёска-музей* (У. Караткевіч); *Марыля ўсё ж маці* (М. Лынькоў);

✓ паміж дзейнікам і выказнікам ёсць адмоўная часціца не: *Ганька не абыякавая гаспадыня* (А. Васілевіч).

☝ **Але** пры інтанацыйнай паўзе і лагічным выдзяленні аднаго з галоўных членаў сказа пастаноўка працяжніка абавязковая: *Зямлянка – не дом* (А. Куляшоў);



✓ паміж дзейнікам і выказнікам размешчаны дададзеныя члены сказа, якія ўваходзяць у састаў выказніка, але не дапасуюцца да яго: *Баравік усім грыбам грыб* (В. Вольскі).

☝ **Але** пры ўзмоцненым сэнсавым і інтанацыйным выдзяленні працяжнік можа ставіцца: *Хлеб – усяму галава* (Прыказка);

✓ дзейнік і выказнік цесна звязаны па сэнсе: *Грош цана такой рабоце* (Якуб Колас).

✓ выказнік далучаецца да дзейніка пры дапамозе параўнальных злучнікаў: *Жыта як сцяна* (І. Навуменка). Калі ж параўнанне дзейніка і выказніка падкрэслена з асаблівай сілай, тады паміж імі ставіцца працяжнік: *Шчокі – як ружы, вусны – як вішні спелыя, вочы – як васількі* (І. Гурскі).



**Практыкаванне № 58.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам. Вызначце сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты.

1. Смелы пачатак – палавіна перамогі (Прыказка). 2. Стэп – пшанічны акіян (А. Астрэйка). 3. Добры каваль дзядзька Кандрат (Х. Шынклер). 4. Бацька і сын – леснікі (Кузьма Чорны). 5. Асцярожная жаўна птушка (В. Вольскі). 6. Песня – душа народа (Янка Брыль). 7. Хлопец цяпер аграном (Т. Хадкевіч). 8. Воля сонейку роўня (Янка Купала). 9. Сяргей, безумоўна, добры таварыш (Янка Брыль). 10. Свякруха – не маці (І. Шамякін).

**Практыкаванне № 59.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Вусна адзначце сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты.

1. Азёры вочы зямлі (У. Караткевіч). 2. Асаблівы чалавек дзядзька Тамаш (Кузьма Чорны). 3. Спрэчка не сварка (Прыказка). 4. Ластаўка птушка разумная (Янка Брыль). 5. Вагон

хата Міколкава (М. Лынькоў). 6. Пушча мне дом родны (А. Астрэйка). 7. Марскія хвалі быццам горы (М. Лупсякоў). 8. Трэць тэрыторыі Беларусі лясы (У. Караткевіч). 9. Імя тваё як снег іскрысты на Татрах прамяністых (Максім Танк). 10. Вольга Андросава зусім яшчэ маладая дзяўчына (Якуб Колас). 11. Бацька ў Янука майстар-муляр (Т. Хадкевіч).

✎ **Практыкаванне № 60.** Прыдумайце і запішыце 5 сказаў, у якіх дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону, каб у адных выпадках працяжнік ставіўся, а ў другіх – не. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

✎ **Практыкаванне № 61.** Выпішыце з твораў мастацкай літаратуры 5 сказаў, у якіх паміж дзейнікам і выказнікам, што выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону, ставіцца працяжнік. Укажыце, у якіх з гэтых сказаў магчымы пунктуацыйныя варыянты.

✎ **Практыкаванне № 62.** Напішыце невялікае сачыненне на тэму «Мой любімы горад (вёска)», выкарыстоўваючы сказы з галоўнымі членамі – назоўнікамі ў форме назоўнага склону. Падкрэсліце граматычную аснову ў такіх сказах.

✎ **Практыкаванне № 63.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце неабходнасць пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам.

Стары горад гэта вузкія, пераплеценыя ў лабірынт вулачкі, высокія шэрыя дамы, у якіх калісь жыла, гандлявала, ела, піла, рагатала, кпіла і кахала паўнакроўная старая Рыга. Грыфельныя дамы, гладкі брук, крутыя дахі, тварыкі анёлаў на парталах гэта старая Рыга. На ўсіх шпілях Рыгі дзёрзка ўзносяцца ў неба нахабныя, вясёлыя і звонкія пеўні. Пеўнік сімвал яснага світання! Пеўнік сімвал нараджэння новага дня! (Паводле У. Караткевіча).



## § 33. Знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам, якія выражаны іменнымі часцінамі мовы, інфінітывам, прыслоўем, фразеалагічным выразам

1. Паміж дзейнікам і выказнікам заўсёды ставіцца працяжнік, калі:

✓ выказнік выражаны назоўнікам без дзеяслова-звязкі, а дзейнік – назоўнікам у форме творнага склону з дзеясловам-звязкай: *Быць настаўнікам – складаная праца* (В. Вітка);

✓ дзейнік выражаны інфінітывам, а выказнік – назоўнікам у форме назоўнага склону: *Ехаць па лесе – адна любата* (М. Гамолка);

✓ дзейнік і выказнік выражаны колькаснымі лічэбнікамі без дзеяслова-звязкі: *Два плюс тры – пяць*;

✓ дзейнік і выказнік выражаны інфінітывам: *Век зжыць – не мех сшыць* (Прыказка);

✓ выказнік выражаны фразеалагічным зваротам або сінтаксічна непадзельным спалучэннем слоў у форме абагульнена-асабовага ці няпэўна-асабовага сказаў: *Возера – рукой падаць* (Я. Скрыган).

2. Працяжнік звычайна не ставіцца, калі:

✓ выказнік выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону без дзеяслова-звязкі, а дзейнік – асабовым займеннікам: Ты мой госць (З. Бядуля);

☝ **але** калі дзейнік або выказнік выдзяляюцца лагічна, тады працяжнік ставіцца: Беларусь, я – твой воін адданы і сын (П. Панчанка);

✓ выказнік выражаны прыметнікам, парадкавым лічэбнікам, займеннікам або прыслоўем без дзеяслова-звязкі: *Дзень ясны, сонечны* (Янка Брыль); *Наша хата дзясятая ад канца сяла* (А. Якімовіч); *Гэтыя кнігі мае* (А. Васілевіч); *Ганна замужам* (І. Мележ);

☝ **але** калі выказнік выдзяляецца лагічна і перад ім ёсць працяглая паўза, то працяжнік ставіцца: *Радасць перамогі – самая шчаслівая* (Б. Мікуліч); *Усе вокны – насцеж* (М. Паслядовіч);

✓ выказнік, выражаны аддзеяслоўным выклічнікам, не мае катэгарычнага адцення нечаканасці і лагічна не выдзяляецца: *Снег скрып ды скрып пад нагамі* (Х. Шынклер);

☝ **але** калі выказнік абазначае дзеянне, якое характарызуецца адценнем нечаканасці і падкрэслена лагічна, то працяжнік ставіцца: *Лабановіч – скок на ганак (Якуб Колас).*



✎ **Практыкаванне № 64.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычную аснову сказаў. Вусна вызначце сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты.

1. Вялікая справа са звычайнай гліны зрабіць цудоўную вазу (І. Шамякін). 2. Голас у чалавека глухі, сіплы (Кузьма Чорны). 3. У дружбе жыць шчаслівым быць (Прыказка). 4. Бурбалкі са дна возера буль-буль-буль (Янка Брыль). 5. Выканаць план важнейшая задача, якая стаіць перад намі (М. Паслядовіч). 6. Вясна яшчэ далёка (Р. Мурашка). 7. Восень багата дарамі (А. Куляшоў). 8. Восем мінус два шэсць. 9. Алеся бегчы (П. Трус). 10. Поле вокам не абняць (А. Русак).

✎ **Практыкаванне № 65**. Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам. Выпішыце сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты. Вусна адкажыце, пры якіх умовах гэта магчыма.

1. Я пясняр лясоў, балота і загонаў каласістых (М. Чарот). 2. Пасевы – аратым па пояс (М. Калачынскі). 3. Хлеб сёлета рослы (М. Калачынскі). 4. Мы розных народаў працоўныя дзеці (А. Астрэйка). 5. Перайсці ўброд раку летам – адна асалода (Якуб Колас). 6. Мы людзі свабодныя, вольныя птахі (Янка



Купала). 7. Праўда святлей за сонца (І. Гурскі). 8. Хлопец – глянуць люба (П. Броўка). 9 На полі працаваць – ураджай здабываць (Прыказка). 10. Вясна яшчэ далёка (Р. Мурашка).

✎ **Практыкаванне № 66.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам. Падкрэсліце адной лініяй сказы, у якіх магчымы пунктуацыйныя варыянты.

1. Хату зрабіць не скрынку збіць (Прыказка). 2. Пешы коннаму не таварыш (Прыказка). 3. Кожная маці не вораг свайму дзіцяці (Прыказка). 4. Пяць плюс тры не дзесяць. 5. Гурбы не ўзабрацца (С. Шушкевіч). 6. З рамяством дружыць у жыцці не тужыць (Прыказка). 7. Шчасце не салавей: у кішэнь не пасадзіш (Прыказка). 8. Языком малоць не дровы калоць (Прыказка).

✎ **Практыкаванне № 67.** Выпішыце з тэксту сказы, у якіх дзейнік і выказнік выражаны іменнымі часцінамі мовы, падкрэсліце ў іх граматычную аснову. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам.

У Нарачы, як і ў іншых азёрах і рэках Балтыйскага басейна, ад Брэста да Асвеі, водзіцца розная рыба. Але найбольш цікавая, вядома, вугар. Доўгі, змеепадобны, тоўсты, ён не проста адна з самых смачных нашых рыб, але і самая незвычайная. Ён можа прапаўзці невялікую адлегласць ад вадаёма да вадаёма, а сяляне і рыбакі з тых мясцін, дзе ён водзіцца, дружна расказваюць, што ў дужа росныя ночы вугор выпаўзае на палі есці гарох (У. Караткевіч).

## § 34. Працяжнік у няпоўным сказе

1. Працяжнік можа ставіцца ў простых няпоўных сказах на месцы прапушчанага члена сказа, калі ў маўленні на месцы пропуску робіцца паўза: *Каля школы – прасторная хата з бурштыновых бярвенняў* (П. Панчанка). Калі на месцы

пропуску няма працяглай паўзы, то працяжнік не ставіцца: *Над полем полаг сінявата-шэрага змроку* (І. Навуменка).

2. Працяжнік можа ставіцца ў няпоўнай прэдыкатыўнай частцы складанага сказа на месцы пропуску таго ці іншага члена сказа, калі гэты член сказа прысутнічае ў папярэдняй прэдыкатыўнай частцы, а ў маўленні на месцы пропуску робіцца працяглая паўза: *У белым адзенні прыходзіць зіма, вясна – у зялёным адзенні* (П. Глебка). Калі ж у маўленні на месцы пропуску паўза не робіцца, то працяжнік не ставіцца: *Над ракой стаіць каліна, а над возерам вярба* (П. Трус).

☝ Працяжнік не ставіцца на месцы прапушчанага выказніка ў дадзеных параўнальных частках складаназалежнага сказа: *Рухалася пяро па паперы, як цяжкі воз па старой грэблі* (З. Бядуля).



**Практыкаванне № 68.** Прачытайце сказы, прааналізуйце іх структуру, растлумачце пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку пры пропуску слоў.

1. Пясчаны шлях, насыпаны ўзбоч чыгункі, вядзе ў лес і ў мястэчка, прасёлкавая дарога – у мястэчка і ў поле (І. Навуменка). 2. Над галавой – высокае неба (І. Навуменка). 3. У суседнім пакоі – раяль (Б. Мікуліч). 4. Сцюдзёны вецер з усіх бакоў (М. Гарэцкі). 5. На ўскраі хвойніку – яр (Б. Мікуліч). 6. На краі неба – зарніца далёкай кананады (І. Чыгрынаў). 7. Шлюпкі – на вадзе (А. Звонак). 8. Чалавек, як трава да сонца, горнецца да лепшага (Кузьма Чорны).

**Практыкаванне № 69.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў няпоўных канструкцыях, укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.



Лес пад бокам. Прайдзі на захад якую-небудзь вярсту па чыгунцы або па пыльным шляху які ляжыць побач і тут табе сасновы бор дзе чарніц і брусніц і грыбоў не абярэшся трохі злева змешаны лісцвяны лес у якім пераважае альха і бяроза і дол якога проста чырванее ад суніц. А падайся ў балоцісты гушчар дык маліны і ажыны процьма (І. Навуменка).

**Практыкаванне № 70.** Прачытайце тэкст, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Назавіце няпоўныя канструкцыі, укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.

Зала – як суцэльны грот з кветак. На спінках крэслаў гірлянды незабудак, у насценных вазах букеты нарцысаў і цюльпанаў. Столь – як кветкавы шацёр. І каля сцен – маладыя бярозкі.

А на сцэне – дзявочы хор. Ніжэй – вясковы аркестр.

Кумы з дзецьмі садзяцца парамі, каля праходу. І хор пачынае спяваць. Песні яго – тыя песні, што спявае народ пра дзяцінства, пра маці, пра будучы лёс немаўлятка. Музыка, водар кветак. Усе сядзяць расчуленыя (У. Караткевіч).

## § 35. Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

### *35.1. Аднародныя члены сказа са злучнікамі*

1. Спалучальныя злучнікі ***і, ды*** часцей за ўсё звязваюць два аднародныя члены, паміж якімі знакі прыпынку не ставяцца: *Я слухаў гул зямлі і сэрца.* (П. Панчанка); *Збожжа было ў гумнах ды ў сціртах* (І. Шамякін).

Калі злучнікі ***і, ды*** ў сказе паўтараюцца і звязваюць тры ці больш аднародных членаў, то ўсе гэтыя члены сказа аддзяляюцца адзін ад другога коскай: *Я малым хлапчуком палюбіў нашы пушчы, і нівы, і блакітныя рэкі, і мора зялёных*

*лугоў* (П. Панчанка). Але калі пры дапамозе паўторнага злучніка ***і*** аб'яднаны тры аднародныя члены, якія надзвычай цесна звязаны адзінствам зместу і інтанацыяй, тады коска можа не ставіцца: *Шмат злажылі казак і легенд і песень людзі пра балота, пра сваё Палессе* (Янка Купала). Не ставіцца коска і тады, калі аднародныя члены звязаны злучнікамі ***і, ды***, якія папераменна змяняюць адзін другога: *Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах ды ляніва аглядалі лагчыны* (Якуб Колас).

Не ставіцца коска, калі сінтаксічная аднароднасць не супадае з лагічнай: *Люблю зіму і спеў мяцеліц і смех вясковай дзетвары* (М. Хведаровіч).

Не ставіцца коска, калі злучнік ***і*** паўтараецца і звязвае аднародныя члены розных радоў: *Настаўніца сабрала са стала кнігі і сшыткі і паклала іх у шафу* (А. Васілевіч).

Калі злучнік ***і*** звязвае два аднародныя выказнікі, з якіх адзін выражаны спрагальнай формай дзеяслова, а другі – аддзеяслоўным выклічнікам, то паміж імі заўсёды ставіцца працяжнік. У залежнасці ад ступені нечаканасці працяжнік можа стаяць як перад злучнікам, так і пасля яго: *Машына забуксавала – і стоп* (І. Мележ); *Да рэчкі жаданай прабраліся хлопцы і – стоп* (Якуб Колас).

2. Супастаўляльныя злучнікі ***а, але, ды, аднак, толькі, не толькі – але*** і інш. звязваюць два аднародныя члены сказа, паміж якімі звычайна ставіцца коска: *Людзей аб'ядноўвае не нянавісць, а любоў* (Кузьма Чорны); *Нядоўгі, але спорны дождж ажывіў наваколле* (Янка Маўр).

3. Пры адзіночных размеркавальных злучніках ***ці, або (альбо), ці то, не то*** паміж аднароднымі членамі знакі прыпынку не ставяцца: *Шмат якія птушкі гнездзяцца ў полі альбо ў лесе* (В. Вольскі); *Штосьці яшчэ стукае ці то звоніць* (Кузьма Чорны).



4. Калі аднародныя члены звязаны паўторнымі злучнікамі ***і – і, ні – ні, то -то, ці – ці, або – або (альбо – альбо), ці то – ці то, не то – не то***, яны часцей за ўсё аддзяляюцца коскай: *Ні месяца, ні зорак не было відаць за густымі хмарамі (Якуб Колас).*; *Неба было то сіняе, то ружовае* (Максім Танк).

5. Калі тры аднародныя члены звязаны парнымі злучнікамі ***ці – або, або – ці***, тады паміж гэтымі членамі сказа знакі прыпынку не ставяцца: *Летам хлопчык хадзіў у ягады і грыбы ці гуляў з дзецьмі на вуліцы або купаўся з імі ў возеры* (У. Краўчанка).

6. Уступальныя злучнікі ***хоць, дарма што*** і ўмоўны злучнік ***калі*** звязваюць два аднародныя члены сказа, паміж якімі заўсёды ставіцца коска: *Шапаціць мне штосьці жыта, хоць слоў не гаворыць (Янка Купала).*; *Будынак яшчэ моцны, дарма што стары* (Кузьма Чорны); *Алеська, калі не Агатка прыбяжыць да дзеда ў госці* (Р. Мурашка).

7. Уступальна-супраціўныя злучнікі ***хоць – але, хоць – ды***, параўнальна-супастаўляльныя злучнікі ***як – так (так і), не столькі – колькі***, умоўна-супастаўляльныя злучнікі ***калі – то, калі – дык, як – дык*** звязваюць два аднародныя члены, паміж якімі ставіцца коска: *Хоць стомленыя, але вясёлыя вярнуліся дзеці дадому* (Янка Маўр); *Чалавек быў не столькі здзіўлены, колькі расчараваны* (Кузьма Чорны). Калі аднародныя члены з такімі злучнікамі размешчаны ў сярэдзіне сказа, то перад першай часткай злучніка (***хоць, як, не столькі, калі***) коска не ставіцца: *Лемяшэвіч хоць не надта разумеў, але любіў музыку* (І. Шамякін); *Надвор'е абавязкова палепшыцца калі не сёння, то заўтра* (І. Грамовіч).

8. Калі для сувязі аднародных членаў ужываюцца пабочныя словы ***словам, адным словам***, то коска ставіцца не толькі перад гэтымі словамі, але і пасля іх: *Вясной і летам, восенню і зімой, словам, заўсёды ў вясковых людзей шмат працы* (А. Васілевіч). Пры ўзмоцненай інтанацыі і лагічным выдзя-

ленні аднародных членаў перад словамі ***словам, адным словам*** ставіцца працяжнік: *Дзень быў цёплы, сонечны – адным словам, вясенні* (М. Гарэцкі).



**Практыкаванне № 71.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку ці адсутнасць знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа. Вызначце сінтаксічную функцыю аднародных членаў у сказе.

1. І лугам, і касагорам, нівам, пушчам і азёрам сонца шле прамень (А. Бачыла). 2. То знікне, то выблісне сонца ўгары (Н. Гілевіч). 3. Неба на гарызонце зрабілася не то сінім, не то зусім белым (Кузьма Чорны). 4. Гаворку бацькі і сына перапыняе гоман на вуліцы (П. Кавалёў). 5. Бярозы ды алешыны з усіх бакоў акружалі возера (Янка Маўр). 6. Напрасцяк, цераз поле, я пайшоў да школы і яшчэ здалёк пачуў голас настаўніцы і хор дзяцей (І. Шамякін). 7. На начлег прыехалі з коньмі і старыя і малыя (У. Дубоўка). 8. Як дзень, так і ноч ідуць цягнікі ды ідуць (А. Якімовіч). 9. Мы падалі і ўставалі, але не гнуліся ў бядзе (С. Грахоўскі). 10. Ля кожнай маладой таполі яблынька ці вішня расцвіла (П. Панчанка). 11. Прысеў кот – і гоц на акно (Янка Маўр). 12. Бабуля набрала лыжачку мёду і – хоп унуку ў рот (Янка Брыль). 13. Па шашы ці ўзбоч дарогі або проста па полі ішло і ехала шмат людзей (М. Лынькоў).

**Практыкаванне № 72.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй у сказе.

1. Возера было хоць нешырокае але глыбокае (Янка Маўр). 2. Будзеш ісці глухой пушчай – абавязкова сустрэнеш калі не зубра то лася (Т. Хадкевіч). 3. Лепшымі вучнямі хацелі быць як Янка так і Максім («Рэспубліка»). 4. У лістападзе на зямлю сыпаўся не столькі доўгачаканы снег колькі надакучлівы халодны дождж (Б. Мікуліч). 5. Каля прахадной завода пасля змены Алену заўсёды сустракалі калі не дзеці то бацька («Рэспубліка»). 6. Чалавек хоць вельмі спяшаўся але спыніўся і ветліва адказаў на пытанне вясковай жанчыне (І. Мележ). 7. Брыгада не толькі выканала але і перавыканала на дваццаць працэнтаў дзённую норму (І. Гурскі). 8. На лісцях дрэў і кустоў на збажыне палявых кветках і траве то тут то там віднеліся густыя кроплі расы (В. Каваль).



**Практыкаванне № 73.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, падкрэсліце аднародныя члены ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй.

Гэта быў старасвецкі лес. І былі ў ім такія пушчы і нетры, аб якіх не ведаў ніхто на свеце. Поўны месячык раз у чатыры квадры ўсплываў на сярэдзіну неба і адтуль рыхтаваўся пацікаваць, што дзеецца пад паветкаю густога вецця. Але яму лягчэй было б разглядзець, што робіцца пад страхою ў хаце чалавека, чым прабіцца праз галіны адвечных гушчароў. І сумаваў тады круглы блішчасты месячык і хаваў свой твар у светлых хмарках. Само яснае сонейка ледзь-ледзь прапускала залатыя косы і то толькі да палавіны; на самым нізе заўсёды панаваў цянёк і прахаладзь. Ні звяры ні птушкі не мелі адвагі забірацца ў нетры лесу. Там жыла адна тая Таемнасць, што запаўняла гэтыя нетры страхам і нікому не вядомымі дзеямі (Паводле Я. Коласа).

### *35.2. Аднародныя члены сказа без злучнікаў*

1. Дапасаваныя азначэнні з’яўляюцца аднароднымі і аддзяляюцца коскай, калі:

✓ характарызуюць прадмет з аднаго боку: *Буйное, густое зарадзіла жыта* (П. Броўка);

✓ маюць сінанімічны характар: *Ясным, сонечным днём атрад рушыў у паход* (Янка Маўр);

✓ ужываюцца ў пераносным сэнсе: *Сані віхрам памчаліся па крыштальнай, наезджанай дарозе* (М. Лынькоў);
✓ стаяць пасля азначаемага слова: *Лісце жоўтае, кляновае павольна падае з дрэў* (Б. Мікуліч). Калі ж азначэнні разам з азначаемым словам утвараюць тэрміналагічныя назвы, то яны лічацца неаднароднымі і коскамі не аддзяляюцца: *Крапіва малая пякучая змяшчае пэўную дозу мурашінай кіслаты* («Весці АН Беларусі»).

Калі дапасаваныя азначэнні характарызуюць прадмет з розных бакоў, а кантэкст стварае неабходныя ўмовы для пэўнага збліжэння абазначаных імі адзінак, то такія азначэнні лічацца аднароднымі і аддзяляюцца коскай: *Быў ясны, халаднаваты дзень вясны* (І. Мележ).

2. Прыдаткі з'яўляюцца аднароднымі і аддзяляюцца коскамі тады, калі характарызуюць асобу або прадмет з аднаго боку. Такія прыдаткі заўсёды адасабляюцца: *Жартаўніца, весялунння, Васіліна была душой кампаніі* (ЛіМ).

Прыдаткі, якія характарызуюць асобу або прадмет з розных бакоў і стаяць пасля азначаемага слова, таксама лічацца аднароднымі і аддзяляюцца коскамі: *Нікога не пакінула абыякавым выступленне Галіны Іванаўны Мацвеевай, дырэктара сярэдняй школы, дэпутата Вярхоўнага Савета* («Рэспубліка»).

Калі ж такія прыдаткі стаяць перад азначаемым словам, то яны лічацца неаднароднымі і коскамі не аддзяляюцца: *Народны паэт Беларусі акадэмік АН БССР Пятрусь Броўка нарадзіўся 25 чэрвеня 1905 года ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна* (Энцыклапедыя).

3. Дзве акалічнасці, якія абазначаюць межы працякання або існавання дзеянняў, лічацца неаднароднымі і на пісьме коскамі не раздзяляюцца: *З узгорка ў лагчыну дарожка збягае* (Якуб Колас).

Не з'яўляюцца аднароднымі акалічнасці, якія маюць аднолькавае граматычнае значэнне, але лагічна не аднародныя:



*Мы купаліся летам кожны дзень.* У сказе дзве акалічнасці часу, якія адносяцца да аднаго члена сказа – выказніка, але аднароднымі не з'яўляюцца, таму што часавая характарыстыка дзеяння выражаецца гэтымі акалічнасцямі па-рознаму: назва пары года і назва часу сутак лагічна не аднародныя.

4. У тых выпадках, калі аднародныя члены маюць пры сабе паясняльныя словы або аб'ядноўваюцца ў блізкія па сэнсе групы (асабліва калі ў сярэдзіне груп ёсць свае знакі прыпынку), паміж гэтымі членамі сказа або іх групамі ставіцца кропка с коскай: *Азалаціла восень поле ржышчам, дрэвы лісцем, гумны снапамі; абвеяла хаты жытным пылам; вострым пахам кастрыцы напоўніла вуліцу.. (Кузьма Чорны)*.

5. Працяжнік ставіцца, калі:
✓ паміж аднароднымі членамі сказа выражаны супрацiўныя адносіны: *Не кавыль – пшаніца ззяе ў пацерках расы* (М. Хведаровіч).
✓ паміж аднароднымі членамі сказа (дзеяслоўнымі выказнікамі) выражаны адносіны неадпаведнасці: *Хацеў Арцём войкнуць ад болю – ледзь стрымаўся* (З. Бядуля).
✓ апошні з аднародных членаў (дзеяслоўных выказнікаў) удакладняе або дапаўняе змест папярэдняга: *На дубе сядзеў Данік – назіраў за дарогай* (І. Шамякін).



✎ **Практыкаванне № 74.** Выпішыце асобна сказы з аднароднымі азначэннямі і сказы з неаднароднымі азначэннямі. Расстаўце патрэбныя знакі прыпынку**.**

1. Хуткім паспешлівым крокам праз поле ў бок вёскі ішоў незнаёмы чалавек (У. Шыцік). 2. Дабрыня і спагадлівасць да людзей адвеку ўласцівыя працавітай беларускай сялянцы (А. Марціновіч). 3. Ветлівая прыязная ўсмешка асвятліла твар

дзяўчыны (У. Краўчанка). 4. Непаўторныя самабытныя пейзажы роднага краю не могуць не захапляць сваёй прыгажосцю (А. Савіцкі). 5. Аўтобусы праклалі першы след у залатое чэрвеньскае ранне (С. Грахоўскі). 6. Бясхмарнае шчаслівае дзяцінства, калі былі жывыя бацькі, успаміналася ўсё часцей і часцей (У. Шыцік). 7. У школе ёсць свой цікавы батанічны сад з мноствам экзатычных раслін (У. Караткевіч). 8. Алень навaліўся грудзьмі на ствол тонкага высокага дрэва, ідзе і гне яго, дабраўся да лістоты і закусвае, водзіць цёплымі мяккімі губамі (У. Караткевіч). 9. Прыемна прайсціся ўлетку басанож па шаўкавістай мурожнай траве (Янка Брыль). 10. На самай старой маладзечанскай вуліцы размясціўся двухпавярховы масіўны будынак першай не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Расіі настаўніцкай семінарыі (Г. Каханоўскі). 11. Перламутраўка вялікая лясная адносіцца да атраду насякомых, від матылёў (Энцыклапедыя прыроды Беларусі).

**Практыкаванне № 75.** Перабудуйце сказы так, каб неаднародныя азначэнні сталі аднароднымі. Запішыце перабудаваныя сказы, растлумачце прычыны аднароднасці азначэнняў.

1. Жоўтае кляновае лісце падае з дрэў. 2. Водар духмяных лясных ландышаў напоўніў пакой. 3. У небе ўспыхнулі далёкія бліскучыя зоркі. 4. Павольна адчыніліся высокія дубовыя дзверы.

**Практыкаванне № 76.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце прычыны аднароднасці і неаднароднасці прыдаткаў.

1. Беларуская спявачка народная артыстка Беларусі Наталля Віктараўна Гайда нарадзілася ў Свярдлоўску 1 мая 1939 года (ЭЛіМ). 2. Былая медсястра партызанка Надзея Пятроўна і сёння актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці («Рэспубліка»). 3. Галубок Уладзіслаў Іосіфавіч беларускі пісьменнік акцёр рэжысёр мастак з'яўляецца адным з заснавальнікаў беларускага тэатра (ЭЛіМ). 4. Польскі славіст доктар філалогіі Галомбак Юзаф вывучаў беларускі фальклор і этнаграфію (ЭЛіМ). 5. Цэнтр Ганцавіцкага раёна горад Ганцавічы размешчаны на маляўнічых берагах ракі Цна (ЛіМ). 6. Доктар філалагічных навук літаратуразнавец Каваленка Віктар Антонавіч вядомы і як празаік (ЛіМ).



**Практыкаванне № 77.** Выпішыце сказы з аднароднымі акалічнасцямі, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце прычыны аднароднасці / неаднароднасці акалічнасцей.

1. Па-над Прыпяццю між лясоў, палёў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак (Якуб Колас). 2. Па ўзгорках па лагчынах краскі дзіўныя растуць (П. Броўка). 3. Сухое трысцё ціха нудна шархацела на ветры (В. Быкаў). 4. Над люстраванаю вадой над лазою невысокай ходзіць ветрык-неспакой (А. Астрэйка). 5. З узгорка ў лагчыну дарожка збягае (П. Броўка). 6. Пра партызан хадзіла слава ад Мінска да Масквы («Рэспубліка»). 7. Прамоўца гаварыў натхнёна захапляюча (У. Шыцік). 8. З самай раніцы да позняга вечара не спыняецца праца ў полі («Рэспубліка»).

**Практыкаванне № 78.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа.

1. Я слухаў музыку – наслухацца не мог (П. Панчанка). 2. Хацеў Лабановіч нешта сказаць – ледзь стрымаўся (Якуб Колас). 3. Мы працай багаты – не золатам (М. Лужанін). 4. Не стома – сіла грае ў жылах (А. Вялюгін). 5. Ходзіць ён паміж кустамі, разважаючы з сабой; пагаворыць з шумным борам, з серабраным ручаём; на высокі ўзыдзе ўзгорак ды прыглядзіцца кругом... (П. Броўка). 6. Качкі насіліся над нашымі галовамі, быццам збіраліся сесці недалёка ад нас, але раптам паднімаліся ўверх і з крыкам адляталі (Янка Маўр). 7. Не вузкія сцежкі – прасторныя дарогі бягуць па абноўленай зямлі (І. Навуменка). 8. Гусі бягуць, ратуюцца, зрываюцца з высокай стромы і, рас-

кінуўшы крылы, белыя-белыя, з хрыплым крыкам лятуць над свінцовай вадой; апускаюцца на яе недзе за кіламетр ад берага... (У. Караткевіч).

### *35.3. Аднародныя члены з абагульняльнымі словамі*

1. Калі ў ролі абагульняльнага слова ўжываецца назоўнік або іншая часціна мовы (акрамя займенніка і прыслоўя), то яно заўсёды знаходзіцца перад аднароднымі членамі і аддзяляецца ад іх двукроп'ем: *У куфры хаваліся Аўгінніны ўборы: палотны, абрусы, ручнікі, хусткі, паясы, кофты і спадніцы* (Якуб Колас); *Люба ўзялася за работу: набрала бярэма дроў унесла ў хату і стала класці ў печ* (Кузьма Чорны).

Пры аслабленым абагульненні, калі аднародныя члены набываюць дадатковае адценне ўдакладнення і выдзяляюцца лагічна, пасля абагульняльнага слова ставіцца працяжнік: *У нашай вёсцы дзве сястры былі – Уліта і Марфа* (І. Шамякін).

2. Калі паміж аднароднымі членамі і абагульняльным словам знаходзяцца пабочныя словы ***адным словам, словам,*** то перад імі ставіцца працяжнік, а пасля іх – коска: *Дзяцінства, маладосць, юнацтва, сілы – словам, усё аддавалася зямлі* (П. Галавач).

3. Калі аднародныя члены, якія знаходзяцца ў сярэдзіне сказа перад абагульняльным словам, маюць характар дадатковага ўдакладнення або тлумачэння, тады яны выдзяляюцца з двух бакоў працяжнікамі: *У лесе кожная мясцінка – лужок, палянка, баравінка – асобны твар і выраз мае* (Якуб Колас). Пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў і аслабленай сувязі іх з абагульняльным словам замест працяжнікаў могуць ставіцца коскі з працяжнікамі: *За ўсім, – і за цяжкай працай, ад якой ныла сярэдзіна, і за кпінамі другіх дзяцей з яе, – бачыла Надзя далі прыгожыя* (П. Галавач).



4. Калі абагульняльныя словы ўжываюцца адначасова перад аднароднымі членамі і пасля іх, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх працяжнік або коска з працяжнікам, асабліва калі яны развітыя і маюць свае знакі прыпынку: *Усё, што бачыў Слышэня над сабой: і светлыя аблачынкі, і глыбокі, нібы крыштальны, блакіт неба, і ўгрэтыя сонцам кучы пяску над ровам, і леташнюю счарнелую былінку палыну, і вясёлы струменьчык вады, – усё гэта стала яшчэ больш прыгожае, яшчэ больш захапляючае, як было раней* (М. Лынькоў).



✏ **Практыкаванне № 79.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах з абагульняльнымі словамі.

1. У вагоне было дастаўлена першае прыладдзе: маторная лодка, лесапільны інструмент, рыдлёўкі (Кузьма Чорны). 2. У хаце прыбрана па-местачковаму: сціпла, проста, скупавата (П. Пестрак). 3. Недарагі пінжак, штаны, забраныя ў крыху парыжэлыя боты, выцвілая, хоць і чыстая кашуля, акуратная старэнькая кепка, – усё гэта адзенне надавала чалавеку выгляд звычайнага рабочага (М. Лынькоў). 4. Людзі заўсёды былі чым-небудзь заняты: уранку і ўвечары, летам і зімою, у хаце, на двары, у полі, на балоце, у лесе (І. Мележ). 5. На поўдзень лес – алешнік і дубняк – усё далей і далей адыходзіў ад ракі (І. Шамякін). 6. Усё навокал: і пачарнелы снег, што асеў на палях, агаліўшы на ўзгорках лапікі зямлі, і мокрыя стрэхі дамоў і камлі дрэў, і вільготнае паветра, насычанае свежасцю і цяплом, – сведчыла аб набліжэнні вясны (Кузьма Чорны).

**Практыкаванне № 80.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены з абагульняльнымі словамі ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй у сказе.

1. Дзіця ўбачыла новыя мясціны зялёны хвойнік шэрае поле (Кузьма Чорны). 2. Усюды ў горадзе і ў вёсцы праца рупная ідзе (Міхась Чарот). 3. За кустамі пярэсцяцца розныя колеры зямлі зялёныя ўзгоркі ціхія лагчыны рэдкія чорныя палосы першай раллі і леташняя шэрань веснавой цаліны (Кузьма Чорны). 4. Ад усяго, што было перад вачыма і ад недасяжных з аснежанымі вяршынямі гор зрэдку парослых купкамі хвойных дрэў і ад імклівага шумнага вадаспаду і ад бяскрайняга без адзінай хмурынкі неба ад усяго гэтага ў душы нараджалася захапленне і адчуванне бязмернага шчасця (Янка Брыль). 5. У вясковым клубе сабралася шмат народу моладзь што заняла апошнія рады адкуль раз-пораз раздаваліся выбухі гучнага смеху людзі сталага ўзросту стомленыя за дзень ад бясконцых клопатаў па гаспадарцы а таксама самыя паважаныя вяскоўцы ветэраны вайны і працы («Рэспубліка»). 6. Таполі роўнымі радамі высаджаныя ўздоўж чыгункі зялёныя прасторы лугоў і палёў хмурыя хвойнікі светлыя бярэзнікі вёскі і вёсачкі ўсе гэтыя малюнкі даўно сталі роднымі машыністу (Б. Мікуліч). 7. Усюды чуецца жыццё яго прасцяг шырокі дзе пруд дзе гай дзе азярцо ўсё лагодзіць вока (П. Броўка). 8. З чым волат ростам ні мераўся усяму ўпоравень даводзіўся і дрэву высознаму і каменю-гары і гары да аблокаў (Т. Бондар). 9. У Пушчы найстражэйшы дogляд за пасадкамі і спелымі лясамі за гнёздамі норамі вадаёмамі за ўсім што складае стракаты калейдаскоп яе жыцця (У. Караткевіч).



**Практыкаванне № 81.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены з абагульняльнымі словамі ў адпаведнасці з іх сінтаксічнай функцыяй у сказе.

Усё гэта адбывалася ў вёсцы. Тут былі такія будынкі хаты з чырвонымі комінамі клуні хлевушкі свіронкі і прыгрэбнікі з нізенькімі да самай зямлі стрэхамі. Двары былі пrasторныя і вясёлыя. Каля хат раслі розныя дрэвы кучаравыя вішанькі разгалістыя грушы і яблыні. З аднаго боку стаяў цёмны лес. У лесе жылі звяры і драпежныя птушкі каршуны совы пугачы ястрабы. Выходзіў часамі з лесу воўк і выглядаў ці не ходзяць парасяты або другая жыўнасць. Наляталі таксама і каршуны каб забраць бедную курыцу ці якую-небудзь птушку. А птаства тут было многа вераб'і ластавачкі плісачкі галубы качкі і іншыя (Паводле Я. Коласа).

## § 36. Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

### *36.1. Знакі прыпынку пры адасобленых азначэннях*

1. Дапасаваныя неразвітыя азначэнні, выражаныя адным прыметнікам ці дзееприметнікам звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі, калі стаяць пасля азначаемага слова і надзяляюцца пабольшанай сэнсавай нагрузкай у сказе: *Дрэвы, нерухомыя, млелі ад гарачыні* (В. Каваль); *Кветкі, завялыя, ляжалі на падаконніку* (У. Шыцік).

Калі ж дапасаваныя азначэнні цесна звязаны з азначаемым словам, то яны не адасабляюцца: *Па вуліцы шырокай цячэ людская плынь* (З. Бядуля).

2. Адасабляецца азначэнне, калі паміж ім і азначаемым словам размешчаны іншыя члены сказа: *Пажаўцелы, плыве бярозавы лісток у далёкі свет* (З. Бядуля). Такія азначэнні ма-

юць дадатковае акалічнаснае адценне. Калі ж такога адцення азначэнне не мае, то яно цесна звязана па сэнсу з азначаемым словам і не адасабляецца: *Прыгожы ля хаты клён* вырас (Якуб Колас).

3. Азначэнні, размешчаныя пасля азначаемага слова, выражанага назоўнікам, перад якім ёсць другое дапасаванае неадасобленае азначэнне, могуць адасабляцца або не адасабляцца ў залежнасці ад сэнсавай нагрузкі: *З бярозавай галінкі(,) надламанай(,) цяклі празрыстыя кроплі соку* (Міхась Чарот). Але калі пасля азначаемага слова (назоўніка) знаходзіцца не адно, а некалькі неразвітых азначэнняў, то яны, як правіла, адасабляюцца: *Каля дарогі стаяў высокі стары лес, пануры і грозны* (Якуб Колас).

4. Не адасабляюцца і не аддзяляюцца коскай азначэнні, якія выражаны прыметнікамі або дзеепрыметнікамі ў форме вінавальнага склону і размешчаны за асабовымі займеннікамі ў форме гэтага ж склону: *Бацька застаў мяне соннага* (З. Бядуля); *Яны бачылі цябе ўзбуджанага і заклапочанага* (Т. Хадкевіч).

5. Ад адасобленых азначэнняў трэба адрозніваць канструкцыі, у якіх прыметнікі або дзеепрыметнікі выконваюць ролю іменнай часткі ў састаўным выказніку: *Трава расла густая* (Кузьма Чорны); *Бор стаіць зялёны* (А. Вялюгін).

6. Заўсёды адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі неразвітыя дапасаваныя азначэнні, калі ў сказе прапушчаны словы, якія яны азначаюць: *Па вуліцы, шчаслівыя, шпарка крочым на завод* (А. Кулакоўскі); *Зачараваны, гляджу на сонца ўсход* (Якуб Колас).

7. Заўсёды адасабляюцца і аддзяляюцца ці выдзяляюцца коскамі азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі або прыметнікавымі зваротамі, і аднародныя азначэнні, калі яны стаяць непасрэдна пасля азначаемага слова, выражанага назоўнікам: *Праз расчыненыя вокны ў хату залятаў свежы вецер, насычаны мядовым пахам расцвіўшага бэзу* (Т. Хадкевіч); *Стаяла лета, блізкае да восені* (В. Адамчык); *Прыйшла раніца, ясная, сонечная, вясновая* (А. Макаёнак).



8. Калі азначаемае слова выражана назоўнікам, то размешчаныя перад ім развітыя азначэнні адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі маюць дадатковае акалічнаснае адценне: *Звычайна маўклівы, Васіль гаварыў амаль бесперапынна* (І. Шамякін); *Прыгрэты сонцам, дзед ледзь не задрамаў* (М. Лынькоў).

9. Коска не ставіцца тады, калі азначэнне і азначаемае слова цесна звязаны па сэнсе і інтанацыі і азначэнне не мае дадатковага акалічнаснага адцення: *За расстаўленымі ў тры рады партамі сядзелі хлопчыкі і дзяўчынкі* (Т. Хадкевіч); *Пажаўцелыя ад часу паперы ляжалі на стале ў папцы.*

10. Развітыя дапасаваныя азначэнні перад азначаемым словам, выражаным назоўнікам, адасабляюцца і аддзяляюцца коскай тады, калі раз'яднаны з ім іншымі словамі ў сказе: *Над горадам, прыбраная ў зоры, апускаецца ноч* (Э. Самуйлёнак).

11. Адасабляюцца дапасаваныя азначэнні (неразвітыя і развітыя), якія ўдакладняюць папярэдняе азначэнне: *На тым, лугавым, беразе ракі гарэў касцёр* (І. Шамякін).

12. Дапасаваныя азначэнні аддзяляюцца працяжнікам, калі іх адасабленне падкрэслена з асаблівай сілай: *Усю ноч дзьмуў вецер – сухі, марозлівы* (З. Бядуля).

13. Калі перад адасобленымі азначэннямі з удакладняльным значэннем магчыма пастаноўка злучальнага слова ***а іменна***, то яны выдзяляюцца ці аддзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *На дрэвах зімой два колеры – чорны і белы* (З. Бядуля); *Ішоў асенні – дробны, нудны і доўгі – дождж* (Кузьма Чорны).

14. Недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі ўскосных склонаў з прыназоўнікамі, адасабляюцца або не адасабляюцца згодна з іх інтанацыйным і сэнсавым выдзяленнем у сказе, калі стаяць перад азначаемым словам ці пасля яго: *Яго(,) без шапкі(,) бачылі ўсе* (І. Гурскі); *Лес(,) направа ад вёскі(,) шумеў панура і грозна* (З. Бядуля). Недапасаваныя азначэнні адасабляюцца, калі набываюць дадатковае аб’ектнае ці акалічнаснае адценне.

15. Калі развітыя недапасаваныя азначэнні стаяць перад азначаемым словам, якое выражана асабовым займеннікам, то яны звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца ад яго коскай: *Сярэдняга росту, са светлымі валасамі, яна выглядала даволі прыгожай* (Ц. Гартны); *У высокіх ботах,ён цяпер падобны на паляўнічага або рыбака* (Б. Мікуліч).

16. Калі развітыя недапасаваныя азначэнні стаяць перад азначаемым словам, якое выражана назоўнікам, яны адасабляюцца або не адасабляюцца згодна з іх сэнсавым і інтанацыйным выдзяленнем у сказе: *З блакітнымі вачыма на смуглявым твары, дзяўчына была надзвычай прыгожая* (Якуб Колас); *Сярэдніх гадоў мужчына шпарка крочыць па гасцінцы* (П. Пестрак).

17. Калі недапасаваныя азначэнні ўдакладняюць змест размешчаных перад імі дапасаваных азначэнняў, то яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі, калі стаяць перад азначаемым словам, якое выражана назоўнікам: *У прасторнай, гектары на чатыры, асушанай чашы возера ўсё стракацела ад белых і сініх жаночых хусцінак* (М. Паслядовіч).

☝ **Але** калі недапасаваныя азначэнні не маюць удакладняльнага адцення, то пры такім размяшчэнні разам з дапасаванымі азначэннямі яны адасабляюцца або не адасабляюцца згодна з іх інтанацыйным і сэнсавым выдзяленнем у сказе: *Імклівая, глыбокая, з халоднай, крынічнай вадой(,) рэчка вывівалася па лузе* (Т. Хадкевіч).



18. Калі адасабленне недапасаваных (або недапасаваных разам з дапасаванымі) азначэнняў у сказе падкрэслена з асаблівай сілай, то такія азначэнні аддзяляюцца ад іншых слоў у сказе пры дапамозе працяжніка: *У прыгожых сукенках, вясёлыя і радасныя – дзяўчаты ішлі па вуліцы* (І. Мележ).

19. Калі адасобленыя недапасаваныя азначэнні выражаны інфінітывам і ўжываюцца для ўдакладнення асобных слоў у сказе, а перад імі ёсць працяглая паўза і магчыма пастаноўка злучальнага слова ***а іменна,*** то ў такім разе заўсёды ставіцца працяжнік: *Усіх непакоіла адна думка – выстаяць* (М. Лынькоў); *Узнікла недарэчнае ў такіх абставінах жаданне – засмяяцца* (Р. Сабаленка).



✎ **Практыкаванне № 82.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых азначэннях. Укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.

1. Жывой паэзіі крыніца напоіць смагу маладых і будзе, светлая, бруіцца праз незлічоныя гады (П. Глебка). 2. Галіны, засохлыя, скрыпелі ад ветру (З. Бядуля). 3. У строгай маўклівасці хвоі стаяць над дарогай пустой і нібы ў журботным настроі аб долі смуткуюць людской (Якуб Колас). 4. Лес, стромкі, густы, застылай грамадою кучаравіцца на краі неба (З. Бядуля). 5. Шчаслівы, у акно роднай хаты стукае рыбак пасля багатага ўлову (М. Лупсякоў). 6. Задаволены, ідзеш і радуешся плёну рук чалавека (Т. Хадкевіч). 7. Змрок – густы, халодны, непрывычны – нерухома аблягаў зямлю (Якуб Колас). 8. Стаяў летні – сонечны і цёплы – дзень (Р. Мурашка). 9. З неразлучнай люлькай у зубах, дзядзька Тамаш сядзіць каля вогнішча і нешта майструе (З. Бядуля). 10. Заставалася толькі адно – чакаць (Міхась Чарот).

**Практыкаванне № 83.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Укажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты.

1. Акаймаваны вясёлкавым кругам з-за высокіх кудзелістых хмурынак паглядаў месяц (У. Карпаў). 2. Пакрытыя тоўстым пластом снегу галіны дрэў гнуліся да самай зямлі (Якуб Колас). 3. Засеяныя шчырай рукою палі вакол вёскі роўна зелянелі маладымі ўсходамі (Кузьма Чорны). 4. Малады пасаджаны яшчэ да вайны сасоннік рос дружна і ўзгоднена (М. Паслядовіч). 5. Занятыя на рабоце самі мала куды хадзілі (У. Краўчанка). 6. Адзінае акно ў шэсць шыбінак глядзела цераз вуліцу (П. Пестрак). 7. Дома малады музыка звычайна іграў на сваім старым з заклеенымі мяхамі і самаробнымі радамі гармоніку (І. Шамякін). 8. Моладзь і завадская і вясковая праяўляла да нас павышаную ўвагу, асабліва дзяўчаты (І. Шамякін). 9. У той памятны першамай мы вырашылі свой лёс на ўсе пяцьдзясят сем гадоў жыцця трывожнага шчаслівага трагічнага… (І. Шамякін).

**Практыкаванне № 84.** Запішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні, адзначце азначаемыя словы, да якіх гэтыя азначэнні адносяцца.

Язэп Драздовіч постаць незвычайная ў гісторыі беларускага мастацтва беларускай духоўнай культуры ўвогуле постаць магутная высакародная прывабная. Творчыя людзі такой свядомасці і характару звычайна не абмяжоўваюцца нейкім адным родам занятку. Іх хапае на большае іх грамадска-палітычная чыннасць шматгранная шырокая. Драздовіч быў не толькі выдатным жывапісцам але і таленавітым графікам самабытным скульптарам. А яшчэ ён збіраў народныя песні запісваў словы для слоўніка беларускай мовы.

...Біёграфы мастака сцвярджаюць што і сэрца яго перастала біцца ў час вандроўкі па роднай зямлі ў дарозе. Ён вельмі любіў хадзіць па Беларусі асабліва па роднай яму паўночна-заходняй Віцебшчыне... Сёння такіх вандроўнікаў сустрэнеш не часта вандроўнікаў бясконца ўлюбёных у вобразы роднай прыроды ў яе вячыстыя бары і пушчы ў сонечныя пагоркі ў зялёныя палеткі ў чароўны блакіт азёр у звілістую каёмку кустоў і кусцікаў у шырокай лагчыне пад якімі напэўна ж бруіцца ручулка яшчэ не выпрамленая яшчэ жывая. Ён любіў усё гэта так што не мог без гэтага (Паводле Н. Гілевіча).

**Практыкаванне № 85.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні, пісьмова растлумачце ўмовы іх адасаблення.

У поўдзень мы стомленыя ад частых крутых паваротаў пад'ехалі нарэшце да пачарнелых ад часу муроў Рыльскага манастыра. Навокал бязладна ціснуліся падымаліся адна над адной горы парослыя на схілах кустамі соснамі елкамі а на вяршынях заснежаныя белай аздобай зімы. Там высока ў гарах лютавала завея. А тут у лагчыне дзе раскінуўся чырванеў чарапічнымі дахамі сценамі розных збудаванняў манастыр было зусім ціха цёпла і на дзіва сонечна празрыста. Ёрдан спыніў «Волгу» мы вылезлі з машыны выпрасталі здранцвелыя за дарогу ногі і зачараваныя прыгажосцю залюбаваліся і манастыром і гарамі.

Любавацца было чым. Акружаны з усіх бакоў гарамі манастыр падымаўся сваімі чарапічнымі дахамі з лагчыны і быў да самай нязначнай пабудовы як на далоні. Заснаваны ў сівую мінуўшчыну манастыр быў як вядома адным з цэнтраў асветы і нацыянальнай культуры ён нават у змрочныя жудасныя гады турэцкай нявол і карыстаўся некаторымі прывілеямі (Паводле Б. Сачанкі).

## 36.2. Знакі прыпынку пры адасобленых прыдатках

1. Заўсёды адасабляюцца:

✓ незалежна ад месца ў сказе развітыя і адзіночныя прыдаткі, якія адносяцца да азначаемага слова, выражанага асабовым займеннікам: *У нас, у салдат, шынялі ледзь-ледзь ад дажджу пасівелі* (А. Астрэйка); *Старому ветэрану, яму быў зразумелы боль сыноў* (Б. Мікуліч).

✓ развіты прыдатак, калі ён адносіцца да азначаемага слова, выражанага агульным назоўнікам, і стаіць пасля яго: *Салавей, пясняр крылаты, прыляцеў вясной дахаты* (Язэп Пушча).

✓ развітыя і адзіночныя прыдаткі, якія адносяцца да азначаемага слова, выражанага ўласным назоўнікам, і стаяць пасля яго: *Скарына – доктар лекарскіх навук – у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры* (М. Багдановіч).

☝ **Заўвагі**

✓ Перад азначаемым словам, выражаным уласным імем або агульным назоўнікам, прыдатак адасабляецца, калі ён мае акалічнаснае значэнне ўступкі або прычыны: Сын батрака, Кузьма Чорны з малых год наглядаў гаротнае жыццё вясковай беднаты і сам зазнаў усе нягоды гэтага жабрацкага жыцця (Кандрат Крапіва); Бывалы паляўнічы, наш дзед ведаў шмат розных гісторый (З. Бядуля).

✓ Прыдатак адасабляецца, калі ён звязваецца з азначаемым словам, выражаным назоўнікам, з дапамогай слоў па прозвішчы, па мянушцы, па клічцы і інш.: Баец быў немалады ўжо чалавек, па імені Іван Корзун (У. Краўчанка).

✓ Прыдаткі са злучнікамі ці, або, калі маюць удакладняльнае значэнне: У беларускіх лясах гняздзіцца жаўна, або чорны дзяцел (В. Вольскі).

✓ Некалькі неразвітых прыдаткаў, якія размешчаны перад азначаемым словам, выражаным назоўнікам ці пасля яго, заўсёды адасабляюцца, калі звязаны бяззлучнікавай сувяззю: Неўгамон, непаседа, Павел не мог доўга затрымлівацца на адным месцы (М. Лынькоў). Калі ж некалькі неразвітых прыдаткаў звязаны пры дапамозе злучальных злучнікаў, то такія прыдаткі адасабляюцца або не адасабляюцца ў залежнасці ад інтанацыйнага і сэнсавага выдзялення ў сказе: Настаўніца і маці, Галіна Пятроўна добра ведала сваіх выхаванцаў (ЛіМ); Пісьменніка і публіцыста Кузьму Чорнага добра ведаюць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі (ЛіМ).

2. Адасобленыя прыдаткі аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка:

✓ калі неразвіты або развіты прыдатак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа пасля азначаемага слова, удакладняе змест азначаемага слова і перад прыдаткам дапускаецца магчымасць пастаноўкі злучальнага слова ***а іменна***: *Начны драпежнік – сава – бясшумна плыве ў паветры* (В. Вольскі); *Грабцы – дзяўчаты, маладзіцы – штораз варушацца жывей, бо чуюць голас навальніцы* (Якуб Колас); *З даліны вечар – хмуры дзед – нясе бярэма дробных хатак* (У. Хадыка);

✓ калі неразвіты або развіты прыдатак знаходзіцца ў канцы сказа пасля азначаемага слова: *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці – шпакі* (М. Хведаровіч); *Белай пенай-хвалямі ўзнялася Бяроза – магутная рака* (Т. Хадкевіч).



✎ **Практыкаванне № 86.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце прыдаткі хвалістай лініяй, абазначце азначаемыя словы.

1. У прыёмнай нас чакаў Станіслаў Стасевіч малады хлопец трохі старэйшы за мяне (І. Шамякін). 2. Мы пасябравалі са Сняжко Віктарам хлопцам задзірыстым (І. Шамякін). 3. Нас будучых інжынераў паслалі на практыку ў мястэчка Рось (І. Шамякін). 4. Ліецца хваляй песня ціхі ясны гімн вясне (М. Багдановіч). 5. Мужчыну фурмана запрасілі ў хату пагрэцца (П. Галавач). 6. Не хацеў алень палону вольнай тундры выхаванец (А. Звонак). 7. Непадалёку ад лясных рэчак выводзіць свае чароўныя трэлі сціплы начны спявак салавей (В. Вольскі).

8. Беларускі мовазнавец доктар філалагічных навук прафесар Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі даследуе гісторыю беларускай мовы (ЭЛіМ). 9. Заслаўскі замак помнік абарончай архітэктуры канца 16–17 ст. пабудаваны ў пойме ракі Свіслач разам са Спаса-Праабражэнскай царквой (ЭЛіМ).

✎ **Практыкаванне № 87.** Складзіце і запішыце сказы з адасобленымі прыдаткамі, выкарыстоўваючы звесткі з «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва».

1. Дзежыц Валянцін Канстанцінавіч, беларускі жывапісец і педагог. Выкладаў у Віцебску ў мастацкім вучылішчы. Удзельнічаў у мастацкіх выстаўках. Яго творы вылучаюцца лірычнасцю, выразнасцю колеру. 2. Дзенісюк Іван Аўксенцьевіч, украінскі літаратуразнавец, крытык. Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, М. Багдановіча. Пераклаў на ўкраінскую мову кнігу А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» 3. Жыровіцкі Успенскі сабор, помнік архітэктуры 17 – 1-й пал. 19 ст. Пабудаваны ў 1950 г. у стылі барока.

✎ **Практыкаванне № 88.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Пераклад запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя прыдаткі.

Постепенно в различных областях Греции сложились целые циклы сказаний о том или ином боге или герое. На острове Крит рассказывали о Зевсе могучем боге похитившем превратившись в быка финикийскую царевну Европу. В Аргомиде рассказывали о Персее сыне Зевса. Здесь же возникли сказания об Атрее правителе города Микен. В Беотии сложился цикл легенд о Кадме основателе города Фивы. В Аттике были распространены сказания о царе Тесее которого считали сыном морского бога Посейдона. Наконец с Севера из Эпира повсеместно распространились легенды о Геракле могучем



сыне Зевса о его подвигах и трагической судьбе (Паводле Н. Куна).

### *36.3. Знакі прыпынку пры адасобленых дапаўненнях*

1. Дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *акрамя, апрача, замест, за выключэннем*, маюць удакладняльнае значэнне і заўсёды адасабляюцца пры дапамозе коскі: *Акрамя кучаравых бярозак, на ўзгорку расла высокая сухаверкая хвоя* (З. Бядуля); *Апрача аднастайнага шуму сосен, у лесе нічога не чуваць* (Янка Маўр); *На зямлі, замест карычневай, сухой і слізкай ігліцы, сslаліся дываны з сухіх імхоў* (І. Гурскі); *Усе, за выключэннем Кавалевіча, выйшлі з пакоя* (І. Мележ).

☝ **Заўвагі**

✓ Дапаўненне з прыназоўнікамі *замест* не адасабляецца, калі прыназоўнік мае значэнне ‘за’: *Алена замест маці навяла парадак у хаце.*

✓ Калі перад дапаўненнямі, выражанымі назоўнікамі з прыназоўнікамі *акрамя, апрача, замест, за выключэннем,* знаходзіцца ўзмацняльная часціца *і*, то такія дапаўненні не адасабляюцца і коскамі не выдзяляюцца: *Нешта было ў вачах дзяўчыны і акрамя прыгажосці* (А. Чарнышэвіч).



✎ **Практыкаванне № 89.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя дапаўненні.

1. У лесе акрамя хвой зрэдку сустракаліся бярозы і асіны (Я. Васілёнак). 2. Каля калодзежа апрача вясковых жанчын стаялі дзве дзяўчыны апранутыя па-гарадскому (Я. Васілёнак). 3. У пакоі хлопец нікога не ўбачыў акрамя сястры (Б. Мікуліч). 4. Замест радасці ў вачах чалавека з’явілася незадавальненне (Кузьма Чорны). 5. Усе дрэвы за выключэннем старой

ліпы ў пачатку мая выпусцілі першыя лісточкі (Т. Хадкевіч). 6. Дабротны дом замест зямлянкі ўзвышаўся на ўзгорку (У. Краўчанка). 7. Усе камбайнеры апрача Самоцькі і абедалі ў полі. 8. Усе апрача Івана засмяяліся.

✐ **Практыкаванне № 90.** Складзіце і запішыце невялікае паведамленне на тэму «Мой любімы горад», выкарыстоўваючы сказы з адасобленымі дапаўненнямі.

### *36.4. Знакі прыпынку пры адасобленых акалічнасцях*

1. Калі неразвітыя адзіночныя акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, абазначаюць спосаб дзеяння і стаяць непасрэдна пасля паясняемага выказніка ў канцы сказа, то яны не адасабляюцца і коскай не аддзяляюцца: *Песні салаўіныя льюцца не сціхаючы* (П. Глебка). Але калі пасля такіх акалічнасцей знаходзяцца дадаными члены сказа, то яны (акалічнасці) адасабляюцца і аддзяляюцца коскай: *Іду, не спяшаючыся, сонцу наўздагон* (У. Дубоўка).

Не адасабляюцца акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія атрымалі пераноснае значэнне і сталі ўстойлівымі выразамі: *Маці працуе не разгінаючы спіны* (Кузьма Чорны).

2. Калі акалічнасці (неразвітыя і развітыя) выражаны адзіночнымі дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, якія размешчаны пасля прыслоўяў і звязаны з імі пры дапамозе злучніка ***і***, то коска паміж імі не ставіцца, бо гэтыя словазлучэнні і прыслоўі выступаюць у ролі аднародных членаў сказа: *Імкліва і булькаючы выбягала з крынічкі вада* (Якуб Колас).

3. Калі паміж выказнікам і акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным словазлучэннем, ёсць часціцы ***і, толькі, нават,*** то такія акалічнасці не адасабляюцца: *Яны перабраліся цераз раку і не ўмеючы плаваць* (С. Баранавых); *Маўчаць звычайна толькі сплючы* (Х. Шынклер). *Ён кудысьці знік нават не развітаўшыся з сябрамі* (Янка Маўр).

4. Калі адасобленыя акалічнасці (неразвітыя і развітыя) знаходзяцца паміж аднароднымі выказнікамі са злучнікам ***і***, то яны выдзяляюцца коскамі без гэтага злучніка: *Лукаш узяў ад старшыні паперку і, развітаўшыся, пайшоў з кабінета* (П. Галавач). Калі пры адным з аднародных выказнікаў (звычайна апошнім у радзе) стаяць адасобленыя акалічнасці са злучнікам ***а***, то яны выдзяляюцца коскамі разам з гэтым злучнікам: *Рыгор доўга шукаў выхад, а знайшоўшы, весела ўсміхнуўся і выйшаў з кватэры* (Ц. Гартны). Але калі злучнік ***а*** звязвае два аднародныя выказнікі з супрацьлеглым значэннем, то адасобленыя акалічнасці пры іх выдзяляюцца коскамі без гэтага злучніка: *Ён не гаварыў, а, махаючы кулакамі, крычаў у натоўп* (П. Пестрак).

5. Калі злучнік ***і*** звязвае дзве аднародныя акалічнасці, якія з’яўляюцца адасобленымі членамі сказа, знакі прыпынку паміж імі не ставяцца: *Сонца падымалася вышэй, рупліва аглядаючы зямлю і рассыпаючы над ёй святло і цеплыню* (Т. Хадкевіч). Калі такія акалічнасці звязаны бяззлучнікавай сувяззю, то паміж імі заўсёды ставіцца коска: *Хлопцы, штурхаючыся, перакідваючыся жартамі, пайшлі па лузе* (І. Мележ).

6. Калі адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, маюць пры сабе злучнікі ***нібы, як бы, быццам***, або злучнікавае слова ***дзе*** і інш., то перад гэтымі сродкамі сувязі заўсёды ставіцца коска: *Аленка, нібы спалохаўшыся, раптам спыняецца* (Якуб Колас); *Паміж лясамі, дзе ўзбягаючы на ўзгоркі, дзе знікаючы ў нізінах, ляжалі нівы* (І. Шамякін).

Калі адасабленне акалічнасцей падкрэслена з асаблівай сілай, то замест коскі ставіцца працяжнік: *Памагаць яму трэба – умеючы* (Янка Брыль).

7. Акалічнасці, выражаныя адзіночнымі прыслоўямі або прыслоўнымі словазлучэннямі, адасабляюцца або не адасабляюцца ў залежнасці ад інтанацыйнага і сэнсавага выдзялення ў сказе: *Аднекуль даносіліся(,) крыху неяк нечакана(,) ціхія словы песні* (М. Лынькоў). Тое ж самае характэрна і для акалічнасцей, якія паясняюць другія акалічнасці ў сказе: *На ўзгорку(,) побач з хатай(,) расце высокі дуб* (З. Бядуля).

Калі адасабленне акалічнасцей, выражаных прыслоўямі або прыслоўнымі словазлучэннямі, падкрэслена з асаблівай сілай, то ставіцца працяжнік: *Ляцяць над імі – дымам – хмары* (А. Вялюгін); *Ён ішоў і ўсміхаўся – прыветна, ласкава* (М. Зарэцкі).

8. Калі адасобленыя акалічнасці (пераважна неразвітыя) удакладняюць або паясняюць другія акалічнасці ў сказе, а перад імі існуе працяглая паўза і магчыма пастаноўка злучальнага слова ***а іменна***, то такія акалічнасці заўсёды аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Хата пабудавана на вясковы лад – проста і адмыслова* (Кузьма Чорны).

9. Адасобленыя акалічнасці, выражаныя інфінітывам або інфінітыўным словазлучэннем, аддзяляюцца працяжнікам, калі стаяць пасля паясняемага выказніка (звычайна ў канцы сказа): *Да Сцёпкі зайшлі хлопцы – пазнаёміцца* (Якуб Колас).

10. Адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі ва ўскосных склонах, залежыць ад таго, трэба ці не трэба інтанацыйна і сэнсава выдзеліць пэўную акалічнасць з тым, каб надаць ёй большае значэнне: *Бура і дуб можа вывернуць(,) з коранем (Якуб Колас)*; *Ён(,) для прыліку(,) памахаў рукой* (Кузьма Чорны).



11. У пачатку сказа ***могуць*** адасабляцца і аддзяляцца коскай неразвітыя і развітыя акалічнасці, якія выражаны назоўнікамі з прыназоўнікамі ***насуперак, згодна з, паводле, у адпаведнасці з*** і інш.: *Насуперак жаданню(,) Лабановіч доўга не мог заснуць* (Якуб Колас); *Па дамоўленасці(,) кожны заняў сваё месца* (Янка Маўр).

12. Адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі акалічнасці, якія выражаны назоўнікамі з прыназоўнікамі ***нягледзячы на, дзякуючы*** і стаяць перад паясняемым словам: *Нягледзячы на позні час, ніхто з пасажыраў не спаў* (І. Шамякін); *Дзякуючы цёплым сонечным дням, уборка збожжа прайшла паспяхова* (М. Паслядовіч). Калі ж такія акалічнасці стаяць пасля паясняемага слова, то ў залежнасці ад сваёй будовы і ступені сувязі з ім яны могуць адасабляцца або не адасабляцца: *Ногі чалавека былі ўкрыты, нягледзячы на цёплы восеньскі дзень, цёплай коўдрай* (М. Лынькоў); *Салдаты весела смяяліся нягледзячы на стому* (І. Мележ). Калі адасобленыя акалічнасці, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі ***нягледзячы на, дзякуючы,*** знаходзяцца непасрэдна за злучнікамі, то пасля гэтых злучнікаў звычайна ставіцца коска: *Пасля заняткаў дзеці дружна высыпалі на двор і, нягледзячы на мароз, доўга каталіся з гары* (В. Вітка).

Калі адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, падкрэслена з асаблівай сілай, то ставіцца працяжнік: *Хутка зусім стала цёмна – і ў хаце, і на дварэ* (П. Галавач).

### *36.5. Адасабленне ўдакладняльных членаў сказа*

1. У якасці такіх членаў сказа часцей за ўсё ўжываюцца адзіночныя акалічнасці месца, часу, меры і ступені, спосабу дзеяння, якія выражаны прыслоўямі або назоўнікамі ўскосных

склонаў і размешчаны пасля другіх акалічнасцей у сказе. Пры інтанацыйным і сэнсавым выдзяленні яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе коскі: *Васіль пайшоў назад, дадому* (І. Мележ); *Адтуль, недзе з-за ўзгорка, даносіліся невыразныя гукі* (Кандрат Крапіва).

Калі такія акалічнасці інтанацыйна і па сэнсе не выдзяляюцца ў сказе, то яны не адасабляюцца і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Высока за хмарамі гудзеў самалёт* (М. Лынькоў); *Учора вечарам я вярнуўся ў роднае сяло* (Б. Мікуліч).

Найбольш часта не адасабляюцца і не аддзяляюцца знакамі прыпынку акалічнасці, выражаныя тымі ж часцінамі мовы, што і акалічнасці, якія яны ўдакладняюць: *Сёння раніцай прайшоў добры дождэжык* (В. Каваль); *Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка* (Якуб Колас).

2. Калі ўдакладняльнымі з'яўляюцца дзве і больш акалічнасцей, размешчаных адна за другой у сказе, то яны звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі: *Тут, на палянцы, сярод цёмнага лесу, панавала незвычайная цішыня* (З. Бядуля); *Там, далёка, за дамамі, разлеглося* поле (Якуб Колас).

Але ў залежнасці ад сэнсу апошняя з такіх акалічнасцей можа не адасабляцца, калі цесна звязана з выказнікам асноўнай часткі сказа: *Далей, за берагам, на ўзвышшы хваіны лапамі калышуць* (А. Астрэйка).

Калі ўдакладненне падкрэслена з асаблівай сілай, адасобленыя акалічнасці аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *Тут хораша сядзець – на мяккай траве* (І. Шамякін); *Я многа грыбоў набраў – паўнюткі кошык* (П. Панчанка).

3. Працяжнікам аддзяляюцца дзве і больш акалічнасцей, якія выступаюць у ролі аднародных членаў і звязаны паміж сабой злучнікамі ***і, ды, ці, або:*** *Усюды – далёка і блізка – жаданая ява ўстае* (П. Броўка); *Заўсёды – летам ці зімою – ён хадзіў у цёплай шапцы* (М. Лынькоў).





**Практыкаванне № 91.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Раскажыце пра ўмовы, пры якіх акалічнасці ў сказах адасабляюцца або не адасабляюцца.

1. Не сціхаючы, усю ноч шумеў вецер (З. Бядуля). 2. Смеючыся і жартуючы, дзеці ішлі да рэчкі (Якуб Колас). 3. Лена бегла не азіраючыся (М. Лынькоў). 4. Навалу цяжкіх хмар стрымалі, выгнуўшыся, хвоі. (Максім Танк) 5. Няўдалыя паляўнічыя цягнуліся паволі і не разбіраючы дарогі (Янка Маўр). 6. Ганна тупала каля печы не спускаючы з вока квактуху з куранятамі (З. Бядуля). 7. У небе цёмным, рассыпаўшы вясёлкі, зорка згасла (М. Машара). 8. Стары пайшоў нават не адпачыўшы як след (Кузьма Чорны). 9. Штосьці трэба рабіць і не атрымаўшы звестак (А. Кулакоўскі). 10. Хлопцы – скончыўшы абедаць – дружна ўзяліся за працу (Янка Маўр).

**Практыкаванне № 92.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

1. Конь не крануўся з месца і перабіраючы пярэднімі нагамі намагаўся звярнуць убок (М. Лынькоў). 2. Ён усё прыбаўляў кроку а вышаўшы на поплаў подбегам пусціўся паўз гароды на другі бок вёскі (К. Крапіва). 3. Сакольны ўбачыў што яго каманда зусім не паўзла а прыадстаўшы і прыгнуўшыся ішла паціху следам (А. Кулакоўскі). 4. Разгрузіўшы воз і паставіўшы каня чалавек увайшоў у хату (Кузьма Чорны). 5. Антон умее гаварыць і не падумаўшы як след (П. Галавач).

**Практыкаванне № 93.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце, пры якіх умовах адасабляюцца або не адасабляюцца акалічнасці, выражаныя назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў, а таксама прыслоўямі.

1. На другім краі поля за рэчкай ледзьве-ледзьве вызначалася купка дрэў (Р. Няхай). 2. На поўдні за большай затокай выразна адлюстроўваецца ў вадзе высока падняты жоўтым абрывістым берагам сасняк (Янка Брыль). 3. Нягледзячы на дождж хлопцы пайшлі ў грыбы (З. Бядуля). 4. У вышыні ў блакітнай далі гучна жаўранкі спявалі (З. Бядуля). 5. На ўзгорку непадалёк ад асфальтаванай дарогі выраслі карпусы новага завода (І. Гурскі). 6. Дзесьці там далёка у правым канцы гасцінца чуліся спевы жней (Ц. Гартны). 7. Мы спалі мала ўсяго дзве гадзіны (М. Зарэцкі).

**Практыкаванне № 94.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

Званы Сафіі... Калі абуджаўся вялікі звон і густы чысты гул яго падымаўся над саборам і ўслед за ім на адно імгненне апярэджваючы наступную магутную хвалю працяглага трывожна-ўрачыстага гуку праз спалоханы пошум крылаў узляталі ў паветра бязважкія чародкі галубоў усё нерухомела і ў Полацку і ў яго ваколіцах. І вось ужо адгукаліся іншыя меншыя званы адгукаліся здавалася бязладна таропка быццам даганяючы гук і вось ужо іх пявучае бомканне злівалася ў нястрымнае неабдымнае гучанне прасторы. І ў кожнай жывой душы страпянуўшыся білі крыламі трывога і радасць (Паводле Т. Бондар).

**Практыкаванне № 95.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя акалічнасці.

Ёсць такая задума напісаць гісторыю маёй дружбы з кнігай. Не напісаўшы цяжка пераканаць каго-небудзь што гэта будзе цікава. Хачу пісаць пра Чэхава пра пачатак нашай дружбы пра маю сардэчную любоў. З радасным пачуццём давялося нядаўна спыніўшыся перад адным з кніжных магазінаў Рыма распазнаць на стэндзе сярод залітых сонцам каляровых вокладак «Вайну і мір» і зборнік чэхаўскіх навел. Зрэшты і не



бачачы на ўласныя вочы не так ужо цяжка ўявіць шматтысячную а то і шматмільённую армію жыхароў Зямлі ўлюбёных у творчасць Чэхава (Паводле Янкі Брыля).

**Практыкаванне № 96.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце ўдакладняльныя акалічнасці, укажыце іх значэнне (часу, месца, спосабу дзеяння).

Зіма так і не заладзілася. Пратрымаўся глыбокі і ранні снег нядоўга толькі да Новага года потым задажджыла быццам на поўдні. І так дзень за днём з туманам з пахмурным нізкім небам неўпрыкмет без вялікай вады і сонечных дзён прыйшла вясна. Добра-такі па-вясноваму змеркла пацягнула халадком моцным нейкім спрадвечным які прыходзіць увосень узазімкі і доўга трымаецца ў старым мокрым лесе. Адразу за вёскай узбоч дарогі пачаліся нізкія маладыя з сухімі паламанымі ніжнімі галінамі вербы. Яны былі ў прадчуванні радасці дружна наважыліся выкінуць да сонца мядова-залацістыя «коцікі» і здавалася толькі і чакалі таго аднаго апошняга самага патрэбнага цёплага сонечнага дня (Паводле А. Жука).

**Практыкаванне № 97.** Выпішыце з тэкстаў сказы з адасобленымі ўдакладняльнымі акалічнасцямі, падкрэсліце іх, пісьмова растлумачце ўмовы іх адасаблення.

Хораша летам у лесе! Стаіць млосная, з густым пахам соснаў і ягад цішыня. Недалёка ад дарогі, пасярод лесу, на невялікай палянцы, – чырвоныя россыпы суніц. Буйныя, як клубнічныя, галоўкі суніц усцілаюць яркім агнём зямлю. Аня збірае ягаду за ягадай у вязаны лазовы кораб, час ад часу кладзе сунічку ў рот. Аня любіць і ведае лес. Ёй тут, у гэтым вялізным лесе, бадай, знаёмая кожная паляначка, кожная сцяжыначка (Паводле І. Мележа).

Перад тым як засяваць гароды, у нашай вёсцы заўсёды паляць трэскі, шумавінне. Выграбаюць з дрывотняў, падворкаў, паветак – адусюль, куды толькі ні пазакідае іх гнілая

восень і лютая зіма. Выграбаюць доўга, з прадвесня. І неяк раптоўна, надвячоркам, абавязкова ў суботу, калі навокал ціха-ціха, не дзьме ніадкуль вецер, па ўсёй вёсцы ўспыхваюць агні (Паводле Б. Сачанкі).

## § 37. Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах

1. Параўнальныя звароты, якія адносяцца да ўказальных слоў, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Такіх, як ён, у вёсцы было многа* (Кузьма Чорны); *Вецер свішча так, як звер* (Якуб Колас).

Калі параўнальныя звароты ўводзяцца ў структуру сказа спалучэннямі ***больш як (не больш як), больш чым (не больш чым), менш як (не менш як), менш чым (не менш чым), не бліжэй як, не далей як, усё роўна як,*** коска пры іх не ставіцца: *Менш чым праз хвіліну Несцяровіч вярнуўся ў хату* (Кузьма Чорны); *Размова не спыніцца раней чым праз паўгадзіны* (М. Лынькоў). Коска ставіцца тады, калі параўнанне суправаджаецца супастаўляльным адценнем: *Людзей у лесе было больш, як грыбоў* (Якуб Колас); *Яна была занята сабой больш, чым усім іншым* (Кузьма Чорны).

2. Коска ставіцца перад словам ***як*** у выразах ***не хто іншы, як*** і ***не што іншае, як***: *На гарызонце віднееецца не што іншае, як горы* (Т. Хадкевіч); *У хату ўвайшоў не хто іншы, як цётка Аўдоля* (А. Чарнышэвіч).

3. Параўнальныя звароты, якія маюць паясняльнае значэнне, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за лесу* (Кузьма Чорны); *Пырскі крохкія, як шкло, узлятаюць над вяслом* (П. Глебка).

4. Параўнальныя звароты, якія маюць заключальнае значэнне, аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Каля крамы, як звычайна ў нядзелю, было шмат народу* (І. Мележ).



5. Заўсёды ставіцца коска, калі для прымацавання такіх зваротаў ужываецца злучнік ***як*** у спалучэнні з узмацняльнай часціцай ***і***: *Ластаўка, як і ўсе птушкі, радуецца цёпламу дню* (Якуб Колас).

6. Параўнальныя звароты, якія маюць дадатковае адценне прычыны, умовы, мэты, звычайна аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Усе, як па камандзе, ускоквалі на ногі* (М. Ракітны); *У Андрэя, як ад моцнага ўдару, сціснуліся бровы* (Я. Скрыган).

7. Калі характар параўнання падкрэслены з асаблівай сілай, то замест коскі ставіцца працяжнік: *Ільны такія белыя – што лебядзіны пух* (М. Калачынскі); *Струны – нібы авадні – жаласна звіняць* (М. Чарот).

8. Коска і іншыя знакі прыпынку не ставяцца:
- ✓ калі параўнальныя звароты з'яўляюцца ўстойлівымі або непадзельнымі па сэнсе выразамі: *Усё відаць як на далоні* (М. Лынькоў); *Дождж паліўся як з вядра* (Якуб Колас).
- ✓ калі перад параўнальным зваротам стаяць часціцы ***не, ні***, ***амаль***, прыслоўе ***зусім*** і некаторыя размеркавальныя злучнікі: *Міхась трымаўся не як сталы чалавек (Якуб Колас)*; *Сонца прыгравала зусім як летам* (М. Паслядовіч).
- ✓ калі параўнальны зварот мае значэнне «ў якасці»: *Чмаруцьку ўсе ведалі як чалавека з фантазіяй* (М. Лынькоў); *Лапко прыглядаўся да работы як гаспадар* (Якуб Колас).

9. Не лічацца параўнальнымі зваротамі і не выдзяляюцца знакамі прыпынку словаформы і словазлучэнні, якія маюць пры сабе параўнальныя злучнікі (або часціцы) і ўваходзяць у склад выказніка або займаюць пазіцыю дапаўнення ці акалічнасці (спосабу дзеяння і месца): *Гукі даносіліся да нас як бы здалёк* (І. Шамякін); *Хлапчук як бы нехаця падняўся з лаўкі* (Кузьма Чорны); *Хата была як цацка* (А. Чарнышэвіч); *Паветра нібы расплавілася ад гарачыні* (І. Навуменка).

10. Перад параўнальнымі часціцамі ***як, нібы, быццам*** і іншымі коска не ставіцца: *Між дзяцей дачку са школы як прыемна сустракаць* (П. Броўка); *Нібы ў сне стаіць сасняк* (З. Бядуля).

11. Параўнальныя звароты трэба адрозніваць ад даданых параўнальных частак складаназалежных сказаў. У даданай параўнальнай частцы прапушчаны выказнік (паколькі ён названы ў галоўнай частцы), але ёсць даданыя члены сказа, якія ўваходзяць у яго састаў: *Чалавек, як трава к сонцу, цягнецца да лепшага* (Кузьма Чорны). *Як трава к сонцу* – даданая параўнальная частка, у якой прапушчаны выказнік *цягнецца*, але ёсць дададзены член сказа, што ўваходзіць у яго састаў, – акалічнасць *к сонцу*.

Не з'яўляюцца параўнальнымі зваротамі канструкцыі, у якіх пры параўнальным злучніку знаходзяцца асабовыя формы дзеясловаў: *Кожны ратуецца, як умее* (А. Кулакоўскі). Такія канструкцыі трэба разглядаць як даданыя часткі складаназалежнага сказа.



**Практыкаванне № 98.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна ўкажыце магчымыя пунктуацыйныя варыянты, растлумачце ўмовы варыянтнасці.

1. Дні вялікай народнай вайны праз герояў сваіх відны, і як хвалі вясновай вады даплываюць да нас праз гады (М. Хведаровіч). 2. Вее верш мой дзіўнай казкай, і ясны ён як зорак сны (М. Багдановіч). 3. Дуб сцвярдзеў бы камень пад слотай, спёкай, маразамі. (А. Бялевіч) 4. Блакіт нябёс празрысты нібы ў маі (П. Панчанка). 5. Я памяць сваю нібы кнігу гартаю (А. Астрэйка). 6. Паміж лесу расцёгся туман нібы спушчаны з неба дыван (Ц. Гартны). 7. Поле роўнае такое бы стол габлява-



ны (Янка Купала). 8. Мы сядзім пад аховай дзюн як сцішаныя вандроўнікі (К. Кірэенка)

**Практыкаванне № 99.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку або адсутнасць знакаў прыпынку перад словамі ***як, нібы, чым***. Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца гэтыя словы.

1. З гулкай пушчы, як з радыёстудыі, салавей вясну абвясціў на ўвесь свет (В. Вітка). 2. Глыбіня ў небе стала бяздонная – як крыніца чыстай вады (Кузьма Чорны). 3. Усё стала нібы на сваё месца, зрабілася ясным, зразумелым (М. Лынькоў). 4. Першым на дапамогу прыйшоў не хто іншы, як Аляксей. (М. Паслядовіч) 5. Юныя садаводы Дзяржынскага раёна пасадзілі больш чым сто пладовых дрэў у сваім эксперыментальным садзе («Рэспубліка»). 6. Летняй раніцай някідкія лугавыя кветкі ўсё роўна як усміхаюцца мне (І. Грамовіч). 7. Маці шкадавала Уладзіка болей, як мяне (Б. Сачанка). 8. Усё навокал як бы дыхала святочна-радасным настроем вясновага абуджэння (Т. Хадкевіч). 9. На ўсе пытанні Максімка адказваў зусім як дарослы (І. Гурскі). 10. Вочы нібы васількі (З. Бядуля).

**Практыкаванне № 100.** Складзіце і запішыце па два сказы са спалучэннямі ***менш чым***, ***не часцей як*** так, каб у адным выпадку коска перад ***чым*** і ***як*** ставілася, а ў другім – не.

**Практыкаванне № 101.** Выпішыце асобна сказы з параўнальнымі зваротамі і складаназалежныя сказы з даданымі параўнальнымі часткамі. Растлумачце, на падставе чаго вы правялі гэта размежаванне. Зрабіце графічны разбор па членах сказа даданых параўнальных частак.

1. Цяпер, як ніколі раней, вёска прыгожаю стала (М. Машара). 2. Рассыпаны вішні, як груда рубінаў (Максім Танк). 3. Хутка беглі дні, нібы горныя рэкі ў бурлівае мора (І. Грамовіч). 4. На нас пазірае Радзіма, як маці на верных сыноў (М. Хведаровіч). 5. Як волаты, за рэчкаю дубы шатры свае

раскінулі над долам (Якуб Колас). 6. Лясную паляну, дзе бруілася крынічка, ахоўвалі стогадовыя дубы, як надзейная варта родную сядзібу (В. Вітка). 7. Над тундрай зара зіхаціць залатая, нібыта калыска палярнага дня (А. Александровіч). 8. Пад лёгкімі павевамі ветрыку ціха шапталіся дзве бярозы над возерам, быццам найлепшыя сяброўкі аб сваіх сакрэтах. (П. Прыходзька) 9. У класе, як заўсёды перад пачаткам заняткаў, было шумна і весела. (У. Краўчанка) 10. Стаяла яблыня ля вёскі, як падарожнік між дарог (П. Панчанка).

**Практыкаванне № 102.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце, чаму ў адных выпадках коска перад параўнальнымі злучнікамі ставіцца, а ў другіх – не.

1. Мястэчка відаць адсюль як на далоні (І. Навуменка). 2. Вакзал бы ўзварушаны вулей гудзе (А. Вольскі). 3. У вокнах нібы на экране ўжо загараецца ранне (С. Грахоўскі). 4. Некаторы час як зачараваны стаяў тут Сцёпка і любаваўся горадам (Якуб Колас). 5. Дрэвы шумелі так ціха як ніколі (Якуб Колас). 6. Параска стаяла як аслупянелая, не магла і слова вымавіць (М. Лобан). 7. Наватісціне як зерню нялёгка часам прарасці (А. Бачыла). 8. Міколка калаціўся як асінавы ліст (Якуб Колас). 9. Навокал нібы дываны раскінуты цёмна-зялёныя сенажаці (І. Гурскі). 10. Махнач як агню баяўся Бародкі, і таму Лемяшэвіч вырашыў пайсці на хітрыкі (І. Шамякін).

**Практыкаванне № 103.** Напішыце невялікае сачыненне на тэму «Вясна ў горадзе» («Вясна ў вёсцы»), выкарыстоўваючы сказы з параўнальнымі зваротамі.

**Практыкаванне № 104.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце параўнальныя звароты.

Лета выдалася мокрае непагодлівае. Амаль кожны дзень увесь май і чэрвень з неба сыпаўся дождж то дробны касы як восенню то цэлымі днямі шумела навальніца. Дождж ліў як з вядра бывала што і ўперамешку з градам. Толькі ў самым пачатку ліпеня ўсталявалася цяпло перасталі ісці дажджы. Сонца быццам адчуваючы сваю віну песціла і грэла зямлю ў лесе пайшлі расці грыбы. Дзеці неслі з лесу больш за ўсё лісічкі. Любіў лісічкі і я ведаў патаемныя мясціны дзе яны раслі. Я наведаўся на светлую палянку. На ёй расла густая па самае калена трава. Асцярожна ступаючы прайшоў крокаў сем і натрапіў на ладную сямейку лісічак. Лісічкі пахаваліся ў траве як маленькія сонейкі. У вёску вяртаўся з паўнюсенькім вядзерцам грыбоў. Ішоў і радаваўся як малы вельмі хацелася каб хто-небудзь сустрэўся мне па дарозе. Але на жаль гэтага не здарылася (Паводле Я. Галубовіча).

## § 38. Знакі прыпынку пры зваротку

1. Калі зваротак адносіцца да асабовых займеннікаў ***ты, вы,*** то незалежна ад іх размяшчэння ў сказе ён аддзяляецца або выдзяляецца знакамі прыпынку на аснове агульнага правіла: *Табе, Каўказ, паэты спеў дарылі* (П. Трус).

2. Асабовыя займеннікі ***ты, вы*** самі могуць выступаць у ролі звароткa, тады пасля іх звычайна ставіцца клічнік: *Гэй, ты! Ідзі да нас* (Міхась Чарот).

3. Калі асабовыя займеннікі ***ты, вы*** цесна звязаны з назоўнікам або назоўнікавым словазлучэннем, то яны сумесна выконваюць ролю звароткa і сумесна аддзяляюцца або выдзяляюцца знакамі прыпынку: *Мае вы госці дарагія! Давайце песню мы спяём* (М. Зарэцкі).

Пры паўтарэнні назоўніка ў складзе зваротkaў асабовыя займеннікі ***ты, вы*** прымыкаюць да яго зыходнай формы і аддзяляюцца знакамі прыпынку разам з ёй: *Магутнае слова ты, роднае слова! Са мной ты наяве і ў сне* (Янка Купала).

4. Калі зваротак мае пры сабе часціцы ***о, ну,*** то яны цесна прымыкаюць да звароткa і выдзяляюцца знакамі прыпынку

разам з ім: *О Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю* (П. Панчанка); *Ну брат, цудоўнае жыццё ў нас настала* (М. Клімковіч).

5. Выклічнікі ***о, ну*** да зваротка не прымыкаюць, а аддзяляюцца ад яго коскай, клічнікам ці шматкроп'ем: *О, бурліва-кіпучыя хвалі!.. Вам не страшны пажар навальніц* (П. Трус); *Ну, голубе, бывай здаровы і шчаслівы (Якуб Колас).*

6. Калі зваротак паўтараецца і суправаджаецца часціцай ***а***, то коска ставіцца перад гэтай часціцай: *Бабуля, а бабуля, колькі вам год?* (Б. Сачанка).

7. Выклічнік ***а*** не прымыкае да зваротка, а аддзяляецца ад яго коскай, клічнікам ці шматкроп'ем: *А, Рыгор! Куды ж гэта ты?* (Ц. Гартны).

8. Калі аднародныя звароткі або асобныя кампаненты развітага зваротка разрываюцца членамі сказа, то кожны са звароткаў або яго кампаненты аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Эх, лета-лецейка любое, ты адцвітаеш, залатое!..* (Якуб Колас).



**Практыкаванне № 105.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротку.

1. Плыві наша песня далёка па ўсіх акіянах плыві (П. Броўка). 2. Ой лясы-бары ды лугі-разлогі Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі (М. Багдановіч). 3. Дзень добры скульптар як жывеш ты дружа (А. Зарыцкі). 4. Беларусь-радзіма вольная старонка вольным тваім далям краю не відаць (А. Русак). 5. Эх скажы ты нам цёплае слова прытулі нас радзіма-зямля! (П. Пестрак). 6. Лета ты лета прыгожа-кваяцістае колькі ты ўносіш аздобы з сабой (Янка Купала). 7. Не кувай ты шэрая



зязюля сумным гукам у бары (М. Багдановіч). 8. О май мой родны май вясёлы Ты зноў прыйшоў мой светлы май (М. Машара). 9. Ой зямля аратых ды зямля герояў маладою ў сонцы ўставай (А. Бачыла). 10. Зямля ты наша ўпрыгожым у сад абернем мы цябе (Якуб Колас). 11. Кіпі ж ты маладосць бунтуй у парываннях бадзёрым поступам ідзі ў новы век (М. Хведаровіч). 12. Ой радзімае наша Палессе хто не бачыў твайго харaства! (М. Чарот). 13. Будзь жа ты жыта ядраным і ўмалотным удайся (Ц. Гартны).

**Практыкаванне № 106.** Прачытайце сказы, растлумачце наяўнасць або адсутнасць знака прыпынку пасля слоў ***о, ну***.

1. О светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло. і красу (Янка Купала). 2. О, рэкі, рэкі Беларусі сярод лугоў, сярод лясоў! Калі я гімн саткаць збяруся з блакітных вашых паясоў? (Г. Бураўкін). 3. О маці, як я ганаруся тым, што я – твой родны сын. (М. Аўрамчык). 4. О, рыфмы, рыфмы... Я падчас, як здраднікаў, баюся вас... (В. Вітка). 5. Ну дзеці, збірайцеся: паедзем да бабулі ў вёску (Янка Маўр). 6. Ну, Кандрат, ты і спазніўся! (У. Шыцік).

**Практыкаванне № 107.** Прачытайце ўрыўкі з вершаў Максіма Танка. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры звароткаx.

Наш край нарачанскі, Край сініх азёраў, Ты сёння красой Веснавою цвіцеш, Як наша радзіма.

Сосны! Вас дакараў я, Што ўзняліся вы рана На акопах – Зямных незагоеных ранах...

Я хацеў бы ў цябе Запытацца, мой Нёман, Умудронага бачаным І перажытым, Што за далечынёю гадоў Нас чакае З той сасной, над якой Бусел крылы раскінуў, З песняй роднай – Маёй спадарожніцай вечнай – І нязменнай, Як матчына вернасць, зямлёю?

**Практыкаванне № 108.** Выпішыце з твораў мастацкай літаратуры 5 сказаў са звароткамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры зваротках.

## § 39. Знакі прыпынку пры пабочных і ўстаўных канструкцыях

1. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, як правіла, выдзяляюцца невялікімі інтанацыйнымі паўзамі, паніжаным тонам (без лагічнага націску) і больш хуткім тэмпам вымаўлення, а на пісьме – коскамі: *Хлопцы, вядома, працуюць старанна* (З. Бядуля); *Саша, на думку Лялькевіча, паводзіла сябе дзіўна* (І. Шамякін); *Наколькі мне вядома, лясы Беларусі славяцца багаццем грыбоў і ягад* (В. Вольскі).

2. Пабочнае слова ***мо*** знакамі прыпынку не выдзяляецца: *Гэта быў мо цуд калісьці* (Кандрат Крапіва).

3. Узмацняльныя часціцы ад пабочных слоў і словазлучэнняў не аддзяляюцца, а выдзяляюцца коскамі разам з імі: *Дожджык, і праўда, так і паўзе за каўнер* (Янка Брыль).

4. Пабочныя словы і словазлучэнні са злучнікамі ***а, ці,*** якія ўжываюцца для сувязі паясняемага і паясняючага членаў сказа, выдзяляюцца коскамі разам: *Змрочнай, а галоўнае, пустыннай здалася Андрэю свая хата* (П. Пестрак); *Дзяўчына была просценькая, ці лепш сказаць, прастадушная* (Кузьма Чорны).

Калі пасля злучнікаў ***ці, або***, якія звязваюць такія члены сказа, знаходзяцца пабочныя сказы, то коска ставіцца не толькі перад злучнікамі, а і пасля іх: *Сымон, ці, як звалі яго цяпер, Салавей, нават не варухнуўся* (З. Бядуля).

5. Калі пабочныя словы ўваходзяць у склад адасобленых зваротаў і размешчаны ў пачатку або ў канцы іх, то паміж гэтымі словамі і адасобленымі зваротамі коска не ставіцца: *Механік Шавель, завёўшы матор камбайна, схіліў набок галаву, відаць прыслухоўваючыся да яго работы* (М. Паслядовіч); *Андрэй, прачнуўшыся як след нарэшце, хутка збіраецца на працу* (П. Пестрак).



6. Калі ж пабочныя словы знаходзяцца ў сярэдзіне адасобленых зваротаў, то яны выдзяляюцца коскамі на аснове агульнага правіла: *Людзі слухалі ўважліва, баючыся, відаць, прапусціць хоць адно слова* (П. Пестрак).

7. Калі пабочныя канструкцыі суправаджаюцца ўзмоцненай інтанацыяй і падкрэслены лагічна, яны аддзяляюцца ці выдзяляюцца працяжнікам: *Адным словам – усё ідзе як мае быць* (М. Зарэцкі); *Цяпер адсюль – гаворыць жартам – усё па край зямлі відно* (А. Вялюгін).

8. Заўсёды выдзяляюцца працяжнікамі тыя пабочныя словы і сказы, якія знаходзяцца ў сярэдзіне сказа і маюць клічную або пытальную інтанацыю (з клічнікам або пытальнікам пасля іх): *Рыба – хоць ты плач! – на кручок не бралася* (ЛіМ); *Пад восень – ці чулі?– сам прыехаў Пуцята* (А. Бялевіч).

9. Калі пабочныя словазлучэнні і сказы набываюць дадатковае адценне ўстаўкі, то яны выдзяляюцца дужкамі: *Жанчына была (ці мо толькі здаецца) высокая ростам* (Кузьма Чорны).

10. Устаўныя канструкцыі (словы, словазлучэнні і сказы) выдзяляюцца, як правіла, дужкамі або працяжнікамі: *Перад хатаю да самага гасцінца (крокаў з трыццаць) буяў спарыш і трыпутнік* (Кузьма Чорны); *Над зялёным прасторам, над статкам і – гэй, далёка! – над палямі паплыла, палілася песня* (П. Броўка).

11. Устаўныя сказы могуць выдзяляцца коскамі, калі маюць неразвітую або маларазвітую будову, лагічна не выдзяляюцца і цесна звязаны са зместам сказа: *Людзі, а іх было багата, проста за жываты хапаліся ад смеху* (М. Лынькоў).

12. Калі ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы размешчаны непасрэдна за пабочнымі словамі, словазлучэннямі і сказамі, але не звязаны з іх зместам, то пабочныя канструкцыі выдзяляюцца сваімі знакамі прыпынку (коскамі), а ўстаўныя канструкцыі – сваімі (працяжнікамі): *Сымон, трэба ж дадумацца, – стары жартаўнік! – сабраўся аладкі пячы* (З. Бядуля).



**Практыкаванне № 109.** Выпішыце асобна сказы з пабочнымі канструкцыямі і сказы з устаўнымі канструкцыямі. Расстаўце патрэбныя знакі прыпынку.

1. Быў адзін з тых летніх дзён якія бываюць мусіць толькі ў нас на Беларусі (Янка Маўр). 2. Больш-менш вялікіх камянёў на Палессі не знойдзеш: яны засталіся далей на поўнач напрыклад у Полаччыне (Янка Маўр). 3. Ад дарогі дарога нібы мяжой была пачынаецца заліўны луг (І. Шамякін). 4. Месяц здавалася ў здзіўленні спыніўся і спакойна глядзеў з цёмнасіняга неба (П. Пестрак). 5. Мы канчалі рабфак сярэднюю школу для дарослых і перад намі ляжалі шырокія дарогі ў свет (А. Пальчэўскі). 6. Пятнаццаць кіламетраў а старэйшыя людзі яшчэ казалі вёрст невялікая дарога (П. Пестрак). 7. Жанчыны іх было не так многа дапамагалі гаспадыні накрываць стол (Якуб Колас). 8. Трэба ачысціць сенажаць і галоўнае асушыць яе (У. Шахавец).

**Практыкаванне № 110.** Прачытайце сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Адрозніце пабочныя словы, словазлучэнні і сказы ад устаўных слоў, словазлучэнняў і сказаў.

1. У летні поўдзень – была спёка – выходзіць рой, снуе высока (Якуб Колас). 2. Нам кожнаю назвай (вялікай і дробнаю) патрэбна, як імем сваім, даражыць (П. Панчанка). 3. Ад малодшага брата не было ніякіх вестак (як потым высвеца лілася, ён загінуў у час блакады) (І. Новікаў). 4. Калі Аленка зірнула на памяты канверцік (відаць у дарозе вандраваў нямала), то сэрца яе забілася, як птушка ў клетцы (Якуб Колас). 5. Ручаёк агінаў бугаркі і выспы, выныраў з-за густых ракіт, аж пакуль – хто іх столькі высыпаў? – не наблізіліся пяскі (А. Бачыла). 6. Дарога была звілістай і выбоістай – вядома, на нізкім месцы, – але яна на нейкія два кіламетры скарачала шлях (І. Гурскі). 7. Меншы зубр – гэта, відаць, была матка – і зубраня перайшлі лясную дарогу і схаваліся ў гушчары (Т. Хадкевіч).



**Практыкаванне № 111.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Растлумачце асаблівасці пастаноўкі знакаў прыпынку пры пабочных словах у складзе адасобленых зваротаў.

1. Жанчына ішла па кладцы асцярожна відаць баючыся паслізнуцца (Кузьма Чорны). 2. Школьныя сябры сустрэўшыся праз трыццаць гадоў гаварылі доўга ўспамінаючы напэўна сваю маладосць («Рэспубліка»). 3. Мабыць адчуўшы змену настрою да бацькі падышлі дзеці (Кузьма Чорны). 4. Міхалаў бацька неяк загадкава пасміхнуўся ухваляючы відаць мой намер паехаць у Холмеч (І. Шамякін). 5. Старшыня імкліва абыходзіць вакол машыны няйначай прыглядаючыся неспакойным вокам да яе паклажы (І. Шамякін).

**Практыкаванне № 112.** Запішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце адной лініяй пабочныя канструкцыі.

Пачуццё Радзімы безумоўна ва ўсіх у нас развіта вельмі моцна. Цудоўнае пачуццё! І яно жывіцца вядома не толькі сузіраннем хараства нашай зямлі. Трэба як гаворыцца ўрасці ў яе каранямі і калі чалавек да поту папрацуе на ёй хлеб вырасціць заложыць горад пабудуе новую дарогу або акопы будзе капаць на гэтай зямлі абараняючы яе, – вось тады ён бясспрэчна зразумее да канца што такое Радзіма («Звязда»).

## Тэст № 7

**1. Адзначце сказы, у канцы якіх трэба паставіць клічнік:**

1. Эх, дзянёк харошы
2. Дзень добры, беларускі мой край
3. Пад'ём
4. Нашто псаваць настрой сабе і другім
5. Розныя мясціны часта сняцца Рыгору.

**2. Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам:**

1. Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман.
2. Голас срэбны званочак.
3. Зямля на Случчыне багатая, урадлівая.
4. Знайсці падкову на шчасце.
5. Чалавекам быць самая высокая з усіх пасад на зямлі.

**3. Адзначце сказы, у якіх працяжнік можна ставіць або не ставіць:**

1. Круты чалавек дзед Грысь.
2. Час як плынь рачная.
3. Ігнараваць мову гэта значыць ігнараваць народ.
4. Мы песняры працоўнай эры.
5. Воблакі нібы залачоныя чаўны.

**4. Адзначце складаныя сказы, у няпоўных прэдыкатыўных частках якіх не трэба ставіць працяжнік:**

1. Нібы касец з біклагі, п'е з хмары луг.
2. Акрэсляцца спакоем паплавы і свежасцю паветранай дарогі.
3. Стаяла яблынька ля вёскі, як падарожнік між дарог.
4. Блішчала роснае іржышча і на ім снапы.
5. Дзеці снедалі і маці з імі.

**5. Адзначце сказы, у якіх перад злучнікам *і* не трэба ставіць коску:**

1. Па ўзгорках і лагчынах бягуць дарогі і сцежкі.
2. І чаруе і варожыць шаўкавістая трава.
3. І там і сям па хатах свяціліся вокны, чуліся галасы.
4. Я малым хлапчуком палюбіў нашы пушчы і нівы і блакітныя рэкі і мора зялёных лугоў.
5. Успомняцца стэпы пушчы і бор і горы і зорны прастор.



**6. Адзначце сказы, у якіх перад размеркавальнымі злучнікамі трэба ставіць коску:**

1. Навокал раслі бярозы асіны ці вольхі.
2. То разбяжыцца то пухам засцелецца хітрая мяцеліца.
3. Ні канца ні краю нашаму ўраджаю.
4. Рыгор ці жартаваў ці не адказваў нічога.
5. На сотні вёрст ні жывое душы ні сяла ні заімкі – тайга і тайга.

**7. Адзначце сказы, у якіх пры аднародных членах з абагульняльным словам трэба ставіць двукроп'е:**

1. Усё тут дыхае ўспамінамі аб паэце хата сяло навакольныя пушчы.
2. Поле і будынкі ўсё пакрыта снегам.
3. Сланечнікі акацыя і сухая трава ўсё вакол хаты было пакрыта пылам.
4. Па краях насыпу смяюцца кветкі званочкі васількі смолкі.
5. Дажджу прасіла ўсё пад небам густое голле вішняку бары патрэсканая глеба і абмялелая рака.

**8. Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні неабходна адасобіць:**

1. Акропленая расой трава іскрылася на сонцы.
2. У кусціку расой абмытым спявае песню салавей.
3. Ахоплены радасцю ён весела смяецца.
4. За расстаўленымі ў тры рады партамі сядзелі хлопчыкі і дзяўчынкі.
5. Працяты марозам снег скрыпеў пад нагамі.

**9. Адзначце сказы, у якіх дапасаваныя азначэнні не адасабляюцца:**

1. Ляжыць перад намі ўмыты агнямі чароўны прастор.
2. Засеяныя дбалымі рукамі палі дружна зялянелі маладымі ўсходамі.
3. Цёмная, грозная хмара паволі ўставала на гарызонце.
4. Чаромха цвіла і ўкрытая белай квеценню быццам мігцела.
5. Ахінутыя інеем прыгіналіся да самай зямлі кусты маліннiку і парэчак.

**10. Адзначце сказы, у якіх трэба адасобіць прыдаткі:**

1. Вясковы каваль Даніла з самага ранку стукае ў кузні.
2. Каля воза стаяў Раман Чачотка па мянушцы Свісток.
3. Вядомы паляўнічы дзядзька Тамаш сядзеў у цяньку старага дуба.
4. Ён надыходзіць светлы час агорнуты красой чароўнай.
5. Грыб каштанавік або дубовік у Беларусі расце пераважна ў лісцевых лясах на пясчанай глебе.

**11. Адзначце сказы, у якіх прыдатак адасабляецца з дапамогай працяжніка:**

1. Сам шавец па прафесіі Арон любіў дасканалую і сумленную работу.
2. Мінула лета гарачая пара работ.
3. Хлопцы пастухі расклалі вогнішча і пякуць бульбу.
4. Краса тайгі шыпшыннік дзікі пялёсткамі ўсцілае шлях.
5. Настаўніца і маці Галіна Вячаславаўна добра ведала сваіх выхаванцаў.

**12. Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі:**

1. Па вуліцы рыпаючы палазамі паўзлі вазы з рознай паклажай.
2. Не век жа сядзець злажыўшы рукі.
3. У турысцкі паход мы адправіліся толькі добра вывучыўшы яго маршрут.
4. Вячэраючы Ганна спасцярожліва паглядала на мачыху.
5. Прыгнуўшыся ідуць пад небасхілы асеннія маўклівыя дажджы.

**13. Адзначце сказы, у якіх коска перад злучнікам *і* не ставіцца:**

1. Чалавек падышоў і ўсміхаючыся прывітаўся з жанчынамі.
2. Хлопцы спыніліся ўзняўшыся на невялікі ўзгорак і ўбачылі перад сабой вёску.
3. Нерухома стаяў густы лес шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін і пераплёўшы галіны.
4. Машына пранеслася па вуліцы падняўшы слуп пылу і спынілася на краі сяла.
5. Тузаючы лейцы і круцячы пугай Іван доўга гнаў каня берагам.

**14. Адзначце сказы з параўнальнымі зваротамі, пры якіх трэба паставіць коскі:**

1. Вясною падалі пялёсткі нібы сняжынкі на мурог.
2. Дзень выдаўся як на заказ.
3. Жыта як лес шуміць залатою ракой.
4. Голас нібы срэбны званочак.
5. З клёна як з календара лісты зрывае восень.

**15. Адзначце сказы, у сярэдзіне якіх коска не ставіцца:**

1. Плылі мне насустрач хмары нібы цяжкія беласнежныя зубры.
2. Шчокі быццам расквечаныя макам.
3. Пры апошніх словах прамоўцы быццам ветрык прайшоў па зале.
4. За плотам чырванела спелымі ягадамі гнуткая як у лесе рабіна.
5. Дубы вялізныя як зялёныя хмары.



**16. Адзначце сказы, у якіх развіты зваротак разрываецца іншымі членамі сказа:**

1. Слаўся, радасць хлебнага дня, спорся ў дзежцы рашчынай.
2. А калі ж, калі ты, Занямонне, радасцю ўквеціш берагі?
3. Спі, сыночак, спі, саколік, ды расці!
4. Расступіся, далеч, расступіся, цёмная...
5. Даруй за слова грубае, прабач за крыўды круг, адзіная і любая, мой свет, мой мудры друг.

**17. Адзначце сказы, у якіх асабовыя займеннікі не аддзяляюцца ад звароткa коскай:**

1. Век красуйся і жыві ты наш край!
2. Зямля ты наша ўпрыгожым у сад абернем мы цябе.
3. Арцём мы цябе чакаем.
4. Мае вы госці дарагія! Давайце песню мы спяём.
5. Магутнае слова ты роднае слова! Са мной ты наяве і ў сне.

**18. Адзначце канструкцыі з пабочнымі сказамі:**

1. Людзі кажуць што працаваць весялей з песняй.
2. Да пары кажуць людзі збан ваду носіць.
3. Вы думаеце што лепш сказаць праўду?
4. Вы думаеце я ўвесь час быў дзедам?
5. Навін у нас калі гаварыць праўду вялікіх няма.

**19. Адзначце сказы, у якіх пабочныя канструкцыі размешчаны пасля ўзмацняльных часціц:**

1. Кастусь бачыў а праўдзівей уяўляў як хвалюецца мора.
2. Размова і сапраўды не ладзілася.
3. Дзяўчына стаяла каля дзвярэй і відаць не рашалася ўвайсці.
4. Праца ў школе складаная і безумоўна цікавая.
5. Жыццё за межамі лясоў і балот Палесся было для Ядвісі яшчэ не зусім ясным і стала быць яшчэ больш парывальным і прыгожым.

**20. Адзначце сказы з устаўнымі канструкцыямі:**

1. Дзяўчына высветліў я пазней была загадчыцай клуба.
2. Здаецца не быў я занадта сарамлівы ў юнацтве ў маленстве саромеўся картавасці але танцаваць не навучыўся.
3. Быстрынка так называлася невялічкая рачулка ціха плыла сярод кустоў алешніку і вербалозу.
4. Дождж на наша шчасце ўжо пераставаў.
5. У цішыні было ўжо за поўнач пачуўся гудок паравоза.

# Раздзел 12. ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНЫМ СКАЗЕ

## § 40. Знакі прыпынку ў складаназлучаным сказе

1. Коскай аддзяляюцца часткі складаназлучаных сказаў, якія аб'яднаны злучнікамі ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), ***дый (ды і)***, ***або (альбо)***, ***ці*:** *Бор уначы амаль перастаў шумець, і навокал зрабілася аж занадта ціха* (В. Быкаў). *Лянiва шэпчуцца чароты, ды ледзь калышацца лазняк.* (М. Машара) *Пачалі зябнуць яго мокрыя ногі, ды і самому стала халаднавата* (В. Быкаў).

2. Перад злучнікамі ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), *або* коска не ставіцца:

✓ калі ў складаназлучаным сказе (звычайна ў пачатку) ёсць агульны даданы член, які аднолькава адносіцца да першай і да другой часткі, або агульная часціца ці агульнае пабочнае слова: ***У вадзе*** *паволі пагойдваўся маўклівы цень і адсвечвалася цёмная бясконцасць неба* (Я. Скрыган). ***Нарэшце*** *рачная плынь паспакайнела і човен, пахістваючыся, прыбіўся бокам да ўтравелага берага* (В. Коўтун). ***Вось і*** *прыгожая стройная яліна і сляды чалавека пад ёю* (В. Карамазаў). ***Хай*** *шчасце куецца на свеце і вечная дружба расце*. (П. Броўка). ***Відаць***, *тут быў нядаўна рамонт і яшчэ не паспелі зрабіць парадку* (Якуб Колас).

☝ **Заўвагі**

✓ калі ж даданы член сказа, падобны на агульны (пераважна акалічнасць месца і часу), адносіцца толькі да першай часткі і не звязаны з другой часткай, то коска перад злучнікамі ***і***, ***ды***, ***або*** ставіцца: ***На нейкую хвіліну*** *хмары на небасхіле разарваліся, і з іх цікаўна глянула сонца* (І. Мележ).

✓ставіцца коска перад гэтымі злучнікамі і тады, калі пры выказніках кожнай часткі ёсць аднолькавыя члены сказа, напрыклад, акалічнасці месца: ***Пры*** *пыльнай* ***дарозе*** *шумяць палыны, і вясёлыя плачуць* ***наводдаль*** *каліны.* (Кузьма Чорны).

✓ калі часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца неразвітымі або маларазвітымі намінатыўнымі або безасабовымі (аднароднымі па значэнні) сказамі, а таксама калі маюць форму пытальных, пабуджальных ці клічных сказаў: *Цішыня і прастор* (Э. Агняцвет). *Холадна і змрочна* (Янка Брыль). *Куды ж ісці і што рабіць?* (М. Багдановіч). *Ёсць пытанне ці няма пытання?* (П. Панчанка).

3. Коскай аддзяляюцца часткі, якія аб'яднаны ў складаназлучаны сказ злучнікамі ***а***, ***але***, ***ды*** (у значэнні ***але***), ***ж*** (***жа***), ***аж***, ***аднак***, ***затое***, ***толькі*** і інш.: *Усе заснуць, а ты святла не гасіш* (С. Грахоўскі). *На самым сподзе было трохі зацішней, але снег усё роўна сыпаў па ўсім прасцягу над ровам* (В. Быкаў) *Я тут згіну неабудна, ды твой, лісцік, лёс больш цяжкі* (Якуб Колас). *Шэўчык хадзіў і чакаў жаданай сустрэчы на новым месцы, аднак і туды ніхто не прыйшоў* (А. Кулакоўскі). *У рове зусім ужо сцямнелася, толькі край неба трохі блішчэў апошнім закатным святлом* (В. Быкаў). *У жнівеньскі дзень зранку вуліца ціха дрэмле, затое поле поўніцца жыццём* (І. Мележ).

4. Коскай аддзяляюцца часткі, якія аб'яднаны ў складаназлучаны сказ пры дапамозе паўторных злучнікаў ***і...і***, ***ні...ні***, ***то...то***, ***не то... не то***, ***або (альбо)... або (альбо)***, ***ці... ці***, ***ці то... ці то***: *І хвалюецца пшаніца, і дрыжыць пяшчотна гай* (П. Броўка). *То дожджык прамочыць, то сівер прадзьме* (А. Зарыцкі). *Або ён не ведае ад арышце Панаса, або штось тоіцца ў яго на думках* (Якуб Колас). *Ці гэта казку лес складае, ці даль ачнулася нямая?* (Якуб Колас). *Ці то сонца свеціць, ці то месяц ясны вам смяецца з неба весела і шчасна (Янка Купала).*

5. Паміж састаўнымі часткамі ў складаназлучаным сказе можа ставіцца працяжнік (перад злучнікам ***і***), калі ў другой частцы падкрэсліваецца вынік, нечаканасць, хуткая змена падзей або рэзкае супрацьпастаўленне: *Вось дзьмухне вецер – і вяршаліны асін паціху закіпяць…* (П. Панчанка) *Сонечны прамень дакрануў-*

*ся да званочкаў – і яны звіняць, звіняць і звіняць* (М. Лынькоў). *Маленечкі павеў ветру – і ўжо выпырхнула з далоні гэтая амаль бязважкая, нібы само паветра, пушынка* (Я. Сіпакоў). *Сярэдзіна кастрычніка – і такі мароз* (І. Шамякін).

6. Кропка з коскай ставіцца паміж часткамі складанага сказа (звязанымі злучнікамі ***і, ды, а, аднак*** і інш. ), калі гэтыя часткі даволі развітыя і маюць свае знакі прыпынку: *Тым часам сонца выйшла ўгору і з безгранічнага прастору шырокай плынню агнявою на зямлю шчодраю рукою лье блеск гарачы і яскравы*; *і вянуць скошаныя травы, і выглядаюць нудна палі* (Якуб Колас).



**Практыкаванне № 113.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі складаназлучаных сказаў.

1. Яблынька танклявая, і прыставіць да яе лесвіцу не так проста (І. Навуменка). 2. Прашумела непагода, але буду я заўсёды помніць гэты непаўторны светлы час (Максім Танк). 3. Лабановіч ужо хацеў ісці назад, аж раптам грукнула засаўка (Якуб Колас). 4.Згодна ў полі ўдоўж дарогі каляінкі ўюцца, ды ніколі між сабою яны не сальюцца (Якуб Колас). 5. Усе лісточкі даўно вецер-сівер разнёс, толькі гэты лісток моцна к дрэву прырос (Якуб Колас). 6. Хлеб сірочы, вядома, нялёгкі, аднак пра яго пакуль што больш думала мама (Янка Брыль). 7. То гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах, то грукне над лесам пярун (Якуб Колас). 9. А з'ясі ты з бульбай скварку – і работа пойдзе шпарка (А. Русак). 10. Момант – і Сцёпкава постаць знікае з вачэй (Якуб Колас). 11. Падарунак аддаць не змагла ты, я ж не здолеў любоў зберагчы (А. Звонак). 12. У Андрэя вопыту не больш, прытым і характарам ён мяккаваты (М. Машара). 13. Насця звычайна выходзіла на спатканне яму, цяпер жа яе тут не відаць было (Якуб Колас). 14. Вось апушчу павекі, задумаюся – і бачу цябе, вёска (Б. Сачанка). 15.Скрозь стаяла вада, і са стрэх капала (Кузьма Чорны).



**Практыкаванне № 114.** Запішыце сказы, пастаўце, дзе трэба, прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Шумяць бары і шэпчуць травы і гнуцца ў полі каласы (А. Пысін). 2. Заставалася пафарбаваць усё ў нейкі прыстойны колер ды нідзе нельга было дастаць фарбы (В. Быкаў). 3. Толькі сосны і елкі па-ранейшаму аднастайна шумелі ды на маладых дубах трапяталася засохлае карычневае лісце (І. Шамякін). 4. Лёгка сказаць ды не лёгка зрабіць (Прыказка). 5. Ніхто не ішоў адчыняць. Або не пачулі стуку або не было дома (Якуб Колас). 6. Стэп уздыхне і зябка дрогне ў стаўку хмурынка-паплавок (А. Пысін). 7. Канчалася вуліца і далей вяла праз лугавіну сцежка, размытая веснавой вадой, яшчэ не вытаптаная, з падсохлай ужо дзе-нідзе і патрэсканай гразёю (М. Стральцоў). 8. Паслухаеш песню і нібы рукою тугу-смутак здыме цяпло яе слоў (П. Прыходзька). 9. Доўга стаяў я і любаваўся гэтым цудоўным кутком таёжнай прыроды і ў галаве маёй узнікалі вобразы з нашага надзвычайнага па прыгажосці і глыбіні фальклору (А. Чарнышэвіч). 10.У Максіма пацямнела ў вачах і перахапіла дыханне (І. Шамякін).

**Практыкаванне № 115.** Выпішыце складаназлучаныя сказы, у якіх паміж часткамі коска не ставіцца. Растлумачце адсутнасць косак.

1. Іду і ў звечарэлай цішыні мінаю ліпы, ясені і клёны і да мяне злятаюцца, як дні, загубленыя тэмы і імёны (Я. Янішчыц). 2. Ціха і золка (П. Глебка). 3. За перагародкай шапталіся Кашалькі, нешта вырашалі і гэты тайны шэпт адганяў усе думкі (М. Парахневіч). 4. З двара ў акно пазірала чорная ноч і завешанае густымі хмарамі-валокнамі цёмнае неба (Якуб Колас). 5. Не відно юнацтва следу і сяброў даўно няма (С. Грахоўскі). 6. Цяжка на сэрцы было і не хацелася паказваць свай-

го гора другім (А. Пальчэўскі). 7. І зноў надакучлівая цішыня і не менш дакучлівы голас (І. Пташнікаў) 8. Пазірае ноч у вокны мутным вокам мжы ды ўсё булькаюць маркотна кроплі ў капяжы (Якуб Колас). 9. Толькі верхавіны соснаў гудзелі ледзь чутна ды шалясцелі няўмоўчныя трапяткія асіны (М. Лынькоў). 10. Тут хмары камароў і лянівая, прэлая цішыня (Э. Самуйлёнак).

## § 41. Знакі прыпынку ў складаназалежным сказе

1. У складаназалежным сказе даданая частка аддзяляецца ад галоўнай коскай або выдзяляецца з абодвух бакоў коскамі, калі стаіць у сярэдзіне галоўнай: *Дзяды і бацькі нашу мову стваралі, каб звонка звінела, была як агонь.* (П. Броўка). *Каб жыта гаючай набралася сілы, вясной яго хмарка дажджамі паіла* (П. Макаль). *У гарадскім садзе, якраз на тым месцы, дзе да вайны стаяў дом Коласа, пабудавалі планетарый* (М. Лужанін).

☝ **Заўвагі**

✓ Калі злучальнае слова *які* стаіць у сярэдзіне даданай азначальнай часткі, то коска ставіцца не перад злучальным словам, а перад тым словам, якім пачынаецца даданая частка: *Зубр стаяў пад старымі елкамі, камлі якіх абраслі мохам* (І. Шамякін).

✓ Калі перад падпарадкавальнымі злучнікамі стаяць словы *асабліва, нават, толькі*, то коска ставіцца не перад злучнікам, а перад гэтымі словамі, на мяжы частак: *Вада пагойдвае лодку, асабліва калі набліжаецца* цеплаход (Б. Сачанка). *Песня заўсёды была пра вясну, нават калі за цьмяным акном стаяла сумная восень* (Янка Брыль).

2. Калі аднародныя даданыя часткі звязваюцца пры дапамозе адзіночных злучнікаў ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), ***або***, ***ці***, то паміж імі коска не ставіцца: *Слухаючы дзеда, я і не прыкмеціў, калі скрыпнулі дзверы і калі ўвайшоў у хату мой бацька* (С. Баранавых). *Як прайшоў дзень і сцямнела, гэтае месца зноў стала пустое* (Кузьма Чорны). *У нямой глушы пачуеш, як зязюля закукуе альбо дзяцел на сасне свой рабочы дзень пачне* (А. Александровіч).

Перад супраціўнымі злучнікамі і перад злучнікам ***і***, які паўтараецца паміж аднароднымі даданымі часткамі, коска ставіцца: *Добра абмачыць касу, пацягнуць яе пад вадой і, падняўшы, глядзець, як ўздоўж прута спачатку цячэ ў раку тонкі струмень, а потым адна за адной закапаюць буйныя, звонкія кроплі* (Янка Брыль). *Вяртаючыся дадому, яна ўспомніла, як яны сустрэліся, і як таварышы дапамаглі ім пасябраваць, і як яна старалася выратаваць яго з бяды* (А. Раткевіч).

3. Коска не ставіцца перад злучнікамі ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), ***або***, ***ці***, што звязваюць дзве галоўныя часткі, да якіх адносіцца агульная даданая частка: *Калі наступае глыбокая восень, над зямлёй нізка сцелецца туман або імжыць дробны дождж* (Кузьма Чорны).

4. Калі даданая частка звязваецца з галоўнай пры дапамозе састаўных падпарадкавальных злучнікаў ***таму што, перад тым як, пасля таго як, у той час як, па меры таго як, да таго часу пакуль, для таго каб, замест таго каб, з прычыны таго што, нягледзячы на тое што, дзякуючы таму што, у сувязі з тым што*** і інш. і стаіць, як правіла, перад галоўнай, то паміж часткамі ставіцца коска (злучнік не разрываецца і поўнасцю ўключаецца ў даданую частку): *Пасля таго як дакасілі, разам ужо выходзілі і жаць* (І. Мележ). *Перад тым як адбіць гадзіны, гадзіннік колькі хвілін трашчаў, скрыпеў, як калодзежны журавель на марозе...* (Якуб Колас). *Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з малых гадоў* (Якуб Колас). *Часта прыходзілася спыняцца, таму што дарога была несамавітая* (І. Мележ).

Калі ж у адпаведнасці з сэнсам сказа і інтанацыяй адна частка састаўнога злучніка ўключаецца ў галоўную частку як

суадноснае слова, а другая – у дадaную, то коска ставіцца пасля першай часткі састаўнога падпарадкавальнага злучніка: *Я гэту мову ўзяў сабе таму, што зашмат у ёй было гаротных песень* (Максім Танк). *У хуткім часе пасля таго, як Лабановіч вярнуўся ад Турсевіча, да яго прыехаў Саханюк* (Якуб Колас). *Перад тым, як ісці ў поле, яна прыбірала ў хаце, мыла падлогу, лавы* (Б. Сачанка).

5. Коска не ставіцца перад фразеалагізмамі тыпу *куды вочы глядзяць*, *як мокрае гарыць, хоць іголкі збірай* і інш., якія падобныя да даданых сказаў*: Ён проста ішоў куды вочы глядзяць, бо яму не было тут месца* (Якуб Колас).

Коска не ставіцца перад *як, калі, што*, якія ўваходзяць у склад устойлівых выразаў *як мае быць, як і не было, што б там ні было* і інш.: *Ужо і восень як мае быць ўсталёўвацца пачала* (Кузьма Чорны). *Яго там як і не было.*

6. Даданая няпоўная частка, якая выражана адным злучальным словам (адносны займеннік ці прыслоўе), коскай не аддзяляецца: *Перастала імжыць, аціхла. Нават не ўгледзелі калі* (І. Пташнікаў).

7. Калі ў складаназалежным сказе з некалькімі даданымі побач стаяць два падпарадкавальныя злучнікі (ці злучнік і злучальнае слова), то перад кожным злучнікам ставіцца коска: «*Жыціе*» *паведамляе, што, калі князёўне споўнілася дванаццаць гадоў, бацькі вырашылі аддаць яе замуж* (У. Арлоў). У гэтым выпадку пропуск даданай часткі ці яе перастаноўка не разбурае сэнсу ўсяго сказа.

Коска не ставіцца перад другім злучнікам, калі ён парны (*калі – то, калі – дык)*: *Ужо такі быў гэты чалавек, што калі закарціць у яго якое жаданне, дык ён даможацца свайго* (В. Быкаў).

8. Паміж галоўнай і даданай часткай коска не ставіцца, калі перад падпарадкавальным злучнікам ці злучальным словам стаіць адмоўе ***не***: *Важна высветліць не што яны ўжо зрабілі, а што збіраюцца рабіць далей*.



9. Кропка з коскай ставіцца паміж разгорнутымі даданымі часткамі складаназалежнага сказа, падпарадкаванымі адной і той жа галоўнай, калі паміж даданымі няма злучальнага злучніка: *Мяне ўжо радуе і тое, што ночка стала ўбываць і што ад мёртвага спакою пачне прырода ажываць; што з кожным днём бліжэй к вясне мы, калі абудзяцца гаі і сон палёў, спакой іх немы пабудзяць з шумам ручаі* (Якуб Колас).

10. Працяжнік паміж часткамі складаназалежнага сказа ставіцца пры сэнсава-інтанацыйным выдзяленні даданай часткі, якая звычайна знаходзіцца перад галоўнай: *Што думаў бацька – не ведаю* (Янка Брыль).

11. Двукроп'е можа ставіцца паміж галоўнай і даданай часткай, калі ў галоўнай ёсць спецыяльныя словы, якія патрабуюць далейшага тлумачэння: *Дзеці чакалі аднаго: калі наступіць вясна* (З. Бядуля).



**Практыкаванне № 116.** Растлумачце пастаноўку ці адсутнасць знакаў прыпынку паміж часткамі складаназалежнага сказа.

1. Падбіраю і збіраю ў сваім радзімым краі па зярнятку тыя словы, што кладуцца ў асновы не старых, а песень новых (Я. Пушча). 2. Хлопец доўга стаяў пасярод незнаёмага яму двара, на новым месцы, аб існаванні якога раней і не здагадваўся (Кузьма Чорны). 3. Што ноч прайшла, мы не заўважылі таго (А. Клышка). 4. Чым ніжэй апускалася асенняе сонца, тым гусцей спавіваў туман лесавыя сенажаці (З. Бядуля). 5. Лявей, дзе, выбягаючы з лесу, Шчара робіць крутое калена, відаць былі яшчэ дрэвы (А. Кудравец). 6. Калі парою лістападу ў вырай птушкі адлятаюць, яны ў дубровах пакідаюць свае вясновыя напевы, каб не згубіць іх недзе часам у хмарным небе на чужыне (Максім Танк). 7. Апошні раз ён [Сымон] зірнуў на сваю новую сялібу, у якой думаў гадаваць дзяцей і якой

цяпер заўладаў нехта чужы (Кузьма Чорны). 8. Чым бліжэй Антось падыходзіў да Ермалая, тым нерашучай былі яго крокі і тым брыдчэй рабілася яму перад самім сабою (Ц. Гартны). 9. Можна было падумаць, што, каб увесь свет перавярнуўся верхам уніз, чалавек не здзівіўся б (Кузьма Чорны). 10. Хлопцы паваліліся на зямлю і паснулі, толькі калі пазбіралі ды спалілі ўсё бліжэйшае галлё (Янка Маўр). 11. Вы абмінаеце асенні лес таму, што вецер абарваў лістоту (Максім Танк). 12. Па меры таго як выкладаў Сцёпка свой план, слухачы ўсё больш і больш захапляліся ім (Якуб Колас). 13. Як сканаю – душа застанецца ...ў срэбных хвалях дняпроўскай лазы (У. Караткевіч). 14. У маленстве выйдзе ён на двор пагуляць, а яна непакоіцца: хаця б з ім чаго не здарылася (А. Марціновіч).

**Практыкаванне № 117.** Запішыце сказы, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Хто не спытаў хоць раз трывогі жыццю не ведае цаны (А. Звонак). 2. І бывае выпадкова падасі хлапцу руку хоць раней ты з ім ніколі не страчаўся на вяку (П. Панчанка). 3. Нарэшце спыніліся ў вялікім пакоі акно ў якім, высокае і шырокае, было адчынена (Кузьма Чорны). 4. У тую крыніцу з якой піў ваду гразёю не кіну (К. Кірэенка). 5. Чалавек быў такі бледны што яго не брала загара і такі худы што адзежына на ім матлялася як на калу (Кузьма Чорны). 6. Мароз рыпіць пад палазамі як быццам плача дзесьці хто (М. Хведаровіч). 7. Гэта і быў той момант калі ён як мае быць выйшаў з дрымоты і цяпер скончыўся яго смутак (Кузьма Чорны). 8. Хто ведае чым падтрымліваецца існаванне некаторых глухіх дарог па якіх мала хто калі ездзіць і якіх ніколі ніхто не правіць і не глядзіць (Кузьма Чорны). 9. Там дзе раней ляжалі хмызнякі або жаўцеў пясок раслі стройнымі радамі маладыя сасонкі (А. Чарнышэвіч). 10. У каго ні пытаўся ніхто нават і не чуў такога (Кузьма Чорны).



**Практыкаванне № 118.** Запішыце сказы, пастаўце, дзе трэба, коскі; растлумачце наяўнасць або адсутнасць коскі паміж злучнікамі (злучнікам і злучальным словам).

1. Нават здаралася, што калі канчалася паліва, яна мабілізоўвала персанал бальніцы, ішла разам з усімі ў лес і на самацяжках прывозіла дровы (І. Шамякін). 2. Трэба было адпачыць, але Іван адчуваў, што калі ўпадзе ў снег, то напэўна болей ужо не ўстане (В. Быкаў). 3. Усхваляваная, яна з цяжкасцю давяла ўрок да канца і як толькі зазвінеў званок, заспяшалася ў настаўніцкі пакой (М. Ткачоў). 4. Сосны навокал такія, што калі зірнеш угору, шапка на галаве не трымаецца (А. Чарнышэвіч). 5. І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што каб меў крылы, то ўзняўся б і паляцеў (Якуб Колас). 6. Гладкімі плямамі браліся ўмёрзлыя вадзяныя прагалы, якія каб не пакідаць слядоў, старанна мінала Зоська (В. Быкаў).

## § 42. Знакі прыпынку ў бяззлучнікавым складаным сказе

1. Коскай аддзяляюцца часткі складанага бяззлучнікавага сказа, якія па сэнсе і інтанацыйна звязаны паміж сабой. Яны выступаюць як аднародныя прэдыкатыўныя адзінкі, што перадаюць пералічальныя адносіны: *Зябнуць вербы на марозе, глуха лес гамоніць* (Якуб Колас). *Расце на гэтым агародзе бульба, цвіце белы і чырвоны мак, уздымаюць галоўкі сланечнікі* (Б. Сачанка). *Пад поўдзень выбілася з туману сонца, трава і дрэвы яснелі, лясы як бы адыходзілі далей, неба ўзнімалася вышэй.* (К. Чорны.) *Ціха, пагодлівы вечар* (Янка Брыль). *Балота, мокры лес, зноў балота* (І. Мележ).

2. Кропка з коскай ставіцца:

✓ паміж адносна незалежнымі састаўнымі часткамі бяззлучнікавага сказа, асабліва калі гэтыя часткі разгорнутыя і (або) маюць свае знакі прыпынку: *Адспявала лета песні, усе са-*

*брала каласы*; *пад сасонкамі, на ўзлессі, расцвітаюць верасы* (Я. Пушча). *Адзінаю ўцехаю былі дзеці; неадступныя былі клопаты аб іх здароўі* (У. Дамашэвіч);

- ✓ паміж групамі адносна незалежных састаўных частак бяззлучнікавага сказа: *Грыміць на карэннях цялежка, мігацяцца стракатыя верставыя слупы, мігаюцца, пахіліўшыся, крыжы паабапал дарогі*; *бягуць лясы, гаі, мяшаюцца палі, грамадзяцца горы, рассцілаюцца шырокія лугі...* (Якуб Колас).;
- ✓ на стыку частак бяззлучнікавага сказа з адносна незалежнымі часткамі, калі паміж імі знаходзіцца пабочнае слова. У гэтым выпадку кропка з коскай паказвае, да якой з частак адносіцца пабочнае слова: *Але расстацца нам час наступае; пэўна, ужо доля такая ў нас* (М. Багдановіч).

3. Двукроп'е паміж часткамі бяззлучнікавых складаных сказаў ставіцца:

- ✓ калі другая частка (або некалькі частак) раскрывае змест ці ўказвае на прычыну таго, пра што гаворыцца ў папярэдняй частцы: *Ціха было ў навакольных лясах: супакоілася птаства, не шапацелі дрэвы* (А. Чарнышэвіч). *Доўга не мог заснуць Міхась: клапатлівыя думкі змянялі адна адну* (А. Пальчэўскі);
- ✓ калі першая частка бяззлучнікавага сказа заканчваецца дзеясловамі *бачыць, глядзець, разглядзецца, чуць, адчуць, адчуваць, заўважыць, зразумець, ведаць, верыць, казаць, разумець* і інш., пры дапамозе якіх указваецца, што далей будзе ісці паведамленне пра які-небудзь факт, падзею, з'яву і пад.: *Я падняў галаву і ўбачыў: над мястэчкам стаяла цёмная хмара з папяловымі краямі* (В. Адамчык). *Я ведаю: не вечны шлях жыцця, не вечнае знядужалае сэрца.* (Г. Бураўкін) *Алесь зразумеў: нервовасць Кастуся можа сапсаваць справу* (У. Караткевіч);

4. Працяжнік ставіцца ў бяззлучнікавых складаных сказах паміж часткамі:

- ✓ калі першая частка ўказвае на час або ўмову дзеяння, пра якое паведамляецца ў другой частцы (у пачатку першай



часткі можна паставіць злучнік *калі*): *Умеў памыліцца – умей і паправіцца* (Прыказка). *Падрасцеш вялікі – раскажу тады* (П. Глебка). *Збяруцца – мяне паклічаш* (А. Макаёнак);
- ✓ калі ў другой частцы паказваецца вынік або робіцца вывад з таго, пра што паведамляецца ў першай частцы (паміж часткамі можна ўставіць словы *таму, так што, значыць*): *Шмат зорак у небе – добра жывёла расплодзіцца* (Л. Дайнека). *Пупышкі на вербах гнуткіх – гэта вясны пачатак* (П. Панчанка);
- ✓ калі змест частак супрацьпастаўляецца ці супастаўляецца (на месцы працяжніка можна ўставіць злучнікі ***але***, ***а***): *Маці будзіла снедаць – ён не ўстаў (І. Навуменка).Тая навіна не толькі кранула – яна амаль узрушыла мяне (В. Быкаў).Мы ўжо не просім міласці ў прыроды – прырода моліць літасці ў нас.*(С.Грахоўскі);
- ✓ калі ў сказе гаворыцца пра хуткую змену падзей або ў другой частцы паказваецца неадпаведнасць, нечаканы вынік таго, пра што паведамляецца ў першай частцы (паміж часткамі можна ўставіць злучнік ***і***): *Бліснула маланка – стала відна як удзень* (С. Грахоўскі). *Ён спрабаваў гукаць – ніхто не адказвае* (П. Броўка). *Ён пастукаў у акно – з хаты ніхто не абазваўся* (Кузьма Чорны);
- ✓ калі апошняя частка з'яўляецца абагульняльнай у адносінах да папярэдніх: *Ціха булькатала вада ў канаве, сыпалася лісце, чырыкалі недзе вераб'і – усё гэта было такім звыклым, добрым, прыгожым* (М. Гамолка);
- ✓ калі другая частка з'яўляецца далучальным сказам (у ёй выражаецца дадатковае паведамленне): *І разгарэлася ігрышча – даўно такога не было* (Якуб Колас). *Андрэй быў у добрым гуморы – гэта адразу кідалася ў вочы* (М. Зарэцкі);
- ✓ калі другая частка выступае параўнаннем у адносінах да першай (перад ёй можна ўставіць злучнікі ***як, быццам, як быццам)***: *Князь без дружыны – без лука страла* (В. Зуёнак).



**Практыкаванне № 119.** Растлумачце ўжыванне коскі і кропкі з коскай у бяззлучнікавых складаных сказах.

1. З-за шчыльнага плоту лесапільні патыхала паленым, даляталі па ветры горкія подыхі пажарышчаў (В. Быкаў). 2. Калыхаліся палахлівыя чароты, пагойдваліся стройныя сітнякі, нават сам лес таемна шапацеў чуллівымі лісточкамі-струнамі (Якуб Колас). 3. Хмара, варочаючыся клубкамі, ішла сюды проці ветру; над мястэчкам, каля шашы, уставалі аж да неба жоўтыя косы пылу (В. Адамчык). 4. Памалу рабілася цяплей, у лесе ўвогуле было зацішна (В. Быкаў). 5. Сонца схавалася за аграмадзінай гор, у даліну напоўз даволі прахалодны цень; усё навокал спахмурнела, хутка губляючы сваю нядаўнюю веснавую ўрачыстасць (В. Быкаў). 6. Лёгкая, лагодная завея, першародна чысты, ясны снег (А. Лойка). 7. Стаяць палкі баравікоў; дрыжыць басок чмяліны (А. Вялюгін). 8. Чорныя цені, шэпат таемны, шум падазроны, глухі (Якуб Колас). 9. Забурлілі, заспяшаліся раўчукі, зліваючы ваду ў падземныя рэкі, весела заблішчэла сонейка, яркае, сляпучае, быццам адпачыўшае, памаладзелае за зіму (Л. Арабей). 10. На верхавіне старой ліпы за агародам пагасла чырвань на лісці; шпакі ўзняліся з голля і панеслі свой кірмаш у вёску (Янка Брыль). 11. Паўзучы мох на адзінокіх плітах; тут «у вайну» гулялі хлапчукі (А. Пысін).

**Практыкаванне № 120.** Запішыце сказы, пастаўце паміж прэдыкатыўнымі часткамі патрэбныя знакі прыпынку, растлумачце іх ужыванне.

1. Змоўклі птушкі з той часіны смутна стала навакол (Якуб Колас). 2. Была адна асаблівасць у лесе многа было асінніку (Кузьма Чорны). 3. Нічога асаблівага не здарылася зноў вярнулася лета, зноў ласкава грэе сонца… (Я. Сіпакоў). 4. Маўчала ноч па-над палянай зялёны гай не гаманіў (П. Трус). 5. Цяпер



Алесь адчуў ён павінен не толькі пабыць сам-насам, але мусіць схадзіць да Гаспадара-каменя (Г. Далідовіч). 6. Вельмі хутка падыходзіць аўтобус я заходжу ў яго і выбіраю сабе месца бліжэй да акна (М. Лупсякоў). 7. Каваль зашпіліўся мароз запаўзаў пад кажух (А. Савіцкі). 8. Рунь пад сонцам заіскрыцца краска ўспыхне ля крыніцы ажывуць гаі (К. Кірэенка) 9. Дума неспакойная жыла ў майстра ён хацеў пакінуць пакаленням след жыцця свайго (Максім Танк).

**Практыкаванне № 121.** Пасля кожнага сказа ўкажыце пункт правіла, у адпаведнасці з якім ставіцца працяжнік паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа.

1. Яны агледзелі ўсе куткі – чалавека не было (К. Крапіва).

2. Твар яго быў хударлявы – гэтую хударлявасць узмацнялі вуглаватыя абрысы сківіц (І. Мележ).

3. Ранак луг расой купае – дзень гарачы будзе (А. Бачыла).

4. Раней устанеш – болей зробіш (Прыказка).

5. Яшчэ пачакалі – нікога (Янка Брыль).

6. А вуха да гонкае сасны прытуліш – яна адгукнецца затоеным стогнам (П. Панчанка).

7. Адчыніш ціха фортку – павее халадок (В. Таўлай).

8. Слова сказаў – сякераю адсек (Прыказка).

9. Дол засланы шышкамі, цвіце сунічнік, бруснічнік, перагукваюцца птушкі, звіняць камары – усё тут знаёмае… (І. Навуменка).

10. То не струны звіняць галасістыя – зашумела жытцо каласістае (М. Машара).

**Практыкаванне 122.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку.

1. У лесе ўжо настаў дзень было відна навокал сцішана драмалі елкі не варушыўся ніводзін лісцік у жаўтлявым вецці бяроз (В. Быкаў). 2. Лабановіч акінуў вачамі ваколіцы Цельшына цесна, цёмна і пуста (Якуб Колас). 3. Прыйдзе час зноў

збудуем мы хаты ўтульныя (П. Панчанка). 4. Трэба сказаць праўду харошае тут месцейка (Якуб Колас). 5. Крушэнне цягніка не было выпадковым здарэннем у гэтым ён быў упэўнены (Т. Хадкевіч). 6. Праўдзівы бой вядзе сумленне ваюе сэрца не без страт (А. Пысін). 7. Галлё спусціўшы над парканам, расла тут грушка з тонкім станам па-над парканам пышным валам стаяў вішняк густы, прыўдалы (Якуб Колас). 8. Салдат абышоў навокал хаты нікога нідзе (Кузьма Чорны).

## § 43. Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі

У складаных сказах з рознымі відамі сувязі пастаноўка знакаў прыпынку залежыць ад віду сувязі, ад сэнсавых адносін паміж часткамі. У такіх сказах часткі раздзяляюцца тымі ж знакамі прыпынку, што і ў складаназлучаных, складаназалежных і бяззлучнікавых сказах: *Адшумеў лістапад, адзвінелі дажджы, і зіма панагнала пякучых ветроў* (П. Панчанка). *Хмаркі падняліся трошкі вышэй, і па ўсім было відаць: будзе добрае надвор'е* (А. Пальчэўскі).

1. Калі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі побач стаяць два злучнікі (злучальны і падпарадкавальны), то паміж імі ставіцца коска: *Мы ішлі па мяжы, і, хоць на ёй было вузка, дзед вёў мяне за руку* (Янка Брыль). *Мястэчка не наносіцца на геаграфічныя карты, яно далёка ад фронту, але, паколькі праз яго пралягае чыгунка, нешта пра вайну можна выведаць* (І. Навуменка).

Коска не ставіцца перад другім (падпарадкавальным) злучнікам, калі ён парны (***як – то***, ***калі – то***, ***калі – дык***): *Сёння Андрэй адчуў быў адзіноту, але як выйшаў на двор, то рассеялася яна, знікла* (А. Чарнышэвіч). *Гэта была вельмі недакладная зарысоўка, і калі добра і доўга прыглядацца да яе, то тады рысунак праступаў выразней* (Кузьма Чорны).



☝ **Заўвага.** У пачатку сказа злучальны і падпарадкавальны злучнікі не раздзяляюцца коскай, бо ў гэтым выпадку злучальны злучнік мае далучальнае значэнне: *І чым больш ён [Серж] плакаў, тым больш яму рабілася шкада самога сябе, і яму пачало нарэшце здавацца, што ён вялікі пакутнік* (Кузьма Чорны). *Аднак хоць у яго быў яшчэ цэлы месяц вольны, ён адчуў: летні адпачынак скончыўся і сорамна яму зараз блукаць без работы* (І. Шамякін).

2. Коска не ставіцца паміж састаўнымі часткамі, калі яны звязаныя злучальным злучнікам і маюць агульную даданую частку: *А на тым месцы, на балоце, дзе раней перайшоў агонь, пачала рунець новая лапушыстая трава і буяць сакавітыя маладыя краскі* (Якуб Колас). *На паляне, дзе стаяла невялікая леснічоўка, ярка свяціла сонца і чуліся розныя галасы лясных птушак* (Б. Мікуліч).

3. Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі могуць падзяляцца на структурна-семантычныя кампаненты (блокі), якія самі па сабе выступаюць складанымі сказамі. На мяжы гэтых блокаў ставяцца тыя знакі прыпынку, якія адлюстроўваюць іх сэнсавыя ўзаемаадносіны: *Мы добра бачым тую небяспеку, якая пагражае людзям**,** і трэба зрабіць усё для таго, каб адвесці бяду* (І. Мележ). *Вялікае шчасце раптам страсянула яго душу: там, дзе канчалася сцежка і пачыналася дарога, ён убачыў тыя самыя і такія самыя дрэвы* (Кузьма Чорны). *Скаварада была гарачая, і цеста зласнавата шыпела**;** ад скаварады ішоў прыемны зваблівы пах, які смачна казытаў у носе* (Б. Сачанка).



✎ **Практыкаванне № 123.** Растлумачце ўжыванне знакаў прыпынку.

1. Ганьба – гандляваць зямлёй бацькоў, змалку шанаваць яе вы ўмейце, бо яна для нас, нібыта кроў, без якой нам не пражыць на свеце (А. Грачанікаў). 2. Сонца спускалася ўсё ні-

жэй, праменне яго з кожнай хвілінай зменьвала свой колер, і нарэшце ў яго роўным чырванаватым бляску ажыла задумёнасць ціхага змяркання (Кузьма Чорны). 3.Незнаёмаму з тутэйшымі балотамі чалавеку небяспечна забірацца ў гэтыя нетры: зойдзеш, ашаломішся, заблудзіш і не патрапіш выбрацца, бо, апроч густых чаротаў ды неба над галавою, нічога не ўбачыш (Якуб Колас). 4. Гэты ўзлесак цягнуўся і цягнуўся кудысь у снегавыя прыцемкі, і Зоська, ужо не адступаючы, таропка ішла за Антонам, пакуль за чарговым паваротам наперадзе зноў не з'явіўся чырвоны агеньчык у акенцы (В. Быкаў). 5. Калі ж хмурынкай сонца ахіналася – туманіўся пагляд, цямнела сінь... (В. Зуёнак). 6. Палонку дзядзька прасякае, а Костусь, радасны, чакае, і зорыць пільна ён вачыма, калі той бучык дзядзька ўзніме (Якуб Колас). 7. Палеткі акружалі вёску, і калі глядзець на вёску здалёку, то яна здавалася са сваімі прысадамі нейкім невялікім зялёным астраўком у жоўтым разліве (А. Жук).

**Практыкаванне № 124.** Запішыце сказы з рознымі відамі сувязі, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку і растлумачце іх ужыванне.

1. Стагналі дрэвы мнагарукія, ламаўся з грукатам прастор і сэрцы ў лад грымотам грукалі, і бліскавіцы секлі бор (П. Панчанка). 2. Мусіць, трэба было перайсці пад вышэйшую яліну але навокал ляжала такая цемра што было боязна ўстаць каб не выкалаць вочы (В. Быкаў). 3. Струменіць Нёман срэбраводны ў тваіх прыўдалых берагах а ў лозах ветрык вее згодны і ходзіць шум па чаратах (Якуб Колас). 4. За грандыёзнымі падзеямі якія гісторыя ўвекавечыла для нашчадкаў, прыціхла, а часам і прапала з увагі тое што было немаштабным, абыдзённым што хвалявала аднаго чалавека (І. Мележ). 5.Ён дрэнна разумеў ужо што з ім здарылася і дзе ён, толькі адчуваў як пякучым болем гарацць на руках пальцы і надта хацеў піць (В. Быкаў). 6. Сонца яшчэ не ўставала але ўсход быў як абсыпаны



ружовай стужкай зары і тонка пахла ў паветры вільготнай травой якая нагадвала пах чабору (В. Іпатава). 7. Ён чалавек дарма што сур'ёзны а калі разгаворыцца, дык люба слухаць (К. Крапіва). 8. Развражыўшы, аднак, Зоська рашыла што крыўдаваць на Антона не трэба пры такой завеі ды бездарожжы няцяжка заблудзіцца кожнаму (В. Быкаў).

## Тэст № 8

**1. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску ставіцца коска:**

1. Варочае восень цяжкія грымоты__ і паляць маланкі апошні свой порах.
2. Сонца было на поўдні__ ды і то зямля нагрэлася яшчэ.
3. Гукну ў прастор__ і грозна адзавецца шалёны гром праз хіжыя вякі.
4. Кудахталі заклапочаныя куры__ ды певень раз за разам дзёр горла на абымшэлым плоце.
5. Дай толькі знак __ і ў момант я прыйду.

**2. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску коска не ставіцца:**

1. Заснулі дрэвы ў пухавых аснежаных уборах__ і чыстым золатам на іх ліюцца ціха зоры.
2. Праімчаліся дні-санцавеі__ і гаі адцвілі, адзвінелі.
3. Яшчэ не азвярэлі камары__ і машкара не налятае хмарай.
4. Ноч плыве па адхонах паветраных хваль__ ды трапечуць уверсе далёкія зоры.
5. У траве дзе-нідзе валяліся непадабраныя трэскі і жаўцела пілавінне.

**3. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску ставіцца працяжнік:**

1. Зірнеш__ і зрэдзь убачыш адзінокі яблык.
2. Я правёў старога на ганак__ і мы крыху пастаялі, любуючыся нерухомай і велічнай тайгой.
3. Ручку кранеш__ і дыхне гарачынь далоні шурпатай, мазольнай.
4. Узяўся чытаць__ і не чыталася.
5. Спаўзаюць на сялібы трактары__ і дыхае ралля вільготнай парай.

**4. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску не ставіцца працяжнік:**

1. Неасцярожны рух__ і лодка перавярнулася.
2. У гэтым позірку яна прачытала знаёмую ўпэўненасць__ і гэтая ўпэўненасць перадалася ёй.

3. Сухая духмень стаіць у бары__ і толькі няўлоўна тонка, але востра пахне патрэсканымі шышкамі, падсохлым голлем і леташнім лісцем.
4. Бег ён каротка ці доўга__ ды ўзяла сваё знямога.
5. Мішурын падумаў, што з гэтым чалавекам гаварыць цяжка__ і што, мусіць, нічога не будзе добрага.

**5. Адзначце сказы з пунктуацыйнай памылкай:**

1. Антону надакучыла таптацца на мокрым снезе ў варотах, і ён адышоўся далей, знайшоў камень, падкаціў яго бліжэй да выхаду і, сеўшы, прысланіўся да шула.
2. У досвітку маўклівым крычалі гусі празарліва ды качкі з шумам праляталі.
3. Пачалі зябнуць яго мокрыя ногі, ды самому стала халаднавата.
4. Толькі верхавіны соснаў гудзелі ледзь чутна, ды шалясцелі няўмоўчныя трапяткія асіны.
5. На агародах падтаў снег, і гракі пачалі ладзіць свае гнёзды на падсохлай стромкай таполі.

**6. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску ставіцца коска:**

1. Ледзяшы__ што звісалі са стрэх__ часам зрываліся, падалі, са звонам разбіваючыся на дробныя друзачкі.
2. Нішто так не міла, як хатні агонь__ што сэрца астылае грэе.
3. Андрэй заняў месца каля акна і__ як толькі выехалі з горада, пачаў угледацца ў некалі да драбніц знаёмую дарогу.
4. Кавалак у горла не лезе, асабліва__ як падумаю, што адбіраю апошняе ў сям'і.
5. Сталася так, што дзесяцігадовыя дзяўчаткі жалі жыта, дванаццацігадовыя хлапчукіаралі__ як мае быць, а пятнаццацігадовыя самі вялі гаспадарку.

**7. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску не ставіцца коска:**

1. Было відно, што трывога агарнула яго__ і што яна ўсё пабольшваецца.
2. Мінск – горад, які ўвайшоў у асацыяцыю дзесяці самых пацярпелых гарадоў свету пад час Другой сусветнай вайны, горад__ дзе мала што захавалася.
3. Бліскучы прамень каўзануўся па рэйках і пабег аж туды, дзе пяшчотна млелі чырвоныя агеньчыкі на стрэлках __і дзе ўжо іншыя, высокія і зыркія, узнімаліся насустрач агні.
4. Людзі даўно стаміліся, хоць, безумоўна, кожную чарговую ноч стараліся__ як мага лепей адпачыць, ладзячы начлег на беразе, выстаўляючы ахоўныя пасты.
5. А я хаджу і радуюся. Ведаеш__ чаму?



**8. Адзначце сказы з пунктуацыйнымі памылкамі:**

1. Дарогі кружныя і дарогі прамыя... Хто пратаптаў вас і колькі людзей вас перамерала сваімі нагамі ўздоўж і ўпоперак, зімою і летам, гразкай вясною і ў дажджлівую восень?
2. Скажы яна адно слова Сцяпану, і ён, здаецца, пойдзе за яе ў агонь і ў ваду.
3. Язэпка ведаў, што як пачнецца вясна, войт не дасць перадышкі пакуль не адсеюць усе панскія палеткі.
4. Была толькі радасць і турбота, якая мяшалася з гэтай радасцю і з якой невядома што было рабіць.
5. Яшчэ не азвярэлі камары і машкара не налятае хмарай.

**9. Вызначце сказы з пунктуацыйнымі памылкамі, выпішыце іх, правільна расстаўляючы знакі прыпынку:**

1. Мы гаварылі, бо ўжо нам можна было гаварыць аб усім і маўчалі, бо добра было і маўчаць і спыняліся часта, бо нас тут, на ціхім аснежаным лузе, не бачыў ніхто.
2. І здавалася Лагацкаму, што ён чуе як вастравата і скупа пахнуць і снег пры дарозе, і лядок на ёй і які асаблівы, густы халадок ідзе ад цэглы і які зусім іншы, скразняковы ветрык дзьме з праёмаў пустых вокнаў.
3. Не апалі яшчэ раннія росы і сонца не стала зіяць, як вострыя ў поплаве косы вясёла і зычна звіняць.
4. У чым была прычына такіх няўдач – цяжка сказаць.
5. Шчаслівы я, што ўбачыць давялося і Енісей, і хараство Саян, як там плыве ракою жоўтай восень у цёмны і далёкі акіян.

**10. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставіцца двукроп'е:**

1. Вось толькі пытанне__ як рана ён пойдзе ў дарогу?
2. Адразу ж я заўважыў__ вецер пачаў дзьмуць нам у бок, потым і зусім у твар.
3. Нас не чапаеш__ мы не чапаем. А закранеш__ перуном загрымім.
4. На вёсцы чуліся ранішнія гукі__ недзе скрыпнуў калодзежны журавель, бразнулі хатнія дзверы.
5. Кветку-званочак крані__ песні пальюцца адтуль жаўруковы.

**11. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставіцца працяжнік:**

1. Хацеў сказаць слова – язык не варушыўся.
2. На вёсцы чуліся ранішнія гукі: недзе скрыпнуў калодзежны журавель, бразнулі хатнія дзверы.

3. Ідзе па вуліцы__ лебедзь плыве.
4. Сена моцна пахне__ ноччу дождж ахне.
5. Я добра памятаю__ Юрка быў худзенькі, шчупленькі і вельмі сарамлівы.

**12. Адзначце сказы з пунктуацыйнай памылкай:**

1. Восень на свеце. Бор стогне, шуміць; колас нязжаты на полі стаіць.
2. Маці зірк у акно: праўда, дзічкі як бы ўжо няма.
3. Звыклыя гукі напоўнілі лясныя гушчары, у галлі варушылася сонная птаха, піскнуў заяц, бязгучна мільгануў кажан.
4. Яны пастукалі яшчэ раз, ніякіх адзнакаў жыцця.
5. Скажыце мне: з якога цуду створана Чайкоўскага журботная мелодыя?

**13. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску ставіцца коска:**

1. Птушкі, што збіраліся зімаваць у лесе, смела садзіліся на паваленае дрэва__ і за цэлы дзень ніхто ні разу не спудзіў іх.
2. Ліхтары згаслі__ і снег стаў ліловы, калі ўрэшце з'явіўся бацька.
3. Унізе ж, пад ляшчыннікам, стыў сыраваты засень, было халаднавата__ і Хведар колькі разоў ужо варочаўся то адным , то другім бокам, каб не дужа застуджвацца ад зямлі.
4. Калі дзень адыходзіць__ і вечар на зямлі кладзе доўгія цені, сэрца тужыць паціху аб нечым__ і злятаюць ізноў летуценні.
5. На балоце калісьці капалі торф__ і дзе яго выбралі – стаяла вада, чорная і глыбокая.

**14. Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:**

1. Усё блішчэла, і здавалася, што гэта свеціцца вада ў лагчынах.
2. Тое, што Міканор збіраўся бурыць не чыё-небудзь, а сваё гумно, не давала супакаення: усе разумелі, што вельмі хутка за гэтым і ім трэба будзе адважвацца на такую страту.
3. Найбольшая бяда мінала і каб не той небарака Ціханаў, дык Ляўчук, мабыць, быў бы задаволены сваім сённяшнім лёсам.
4. Адуванчык згарнуў парасонам шарык, закрыліся венчыкі кветак макрыц, незвычайна пахне бружмель, а над яго кветкамі цэлымі роямі гудуць пчолы – усё гэта на непагоду.
5. Пасажыраў у вагоне было нямнога і Лабановіч пераходзіў ад аднаго акна да другога, каб разгледзець гэтую мясцовасць і хоць прыблізна адгадаць, дзе яго новая школа.



**15. Адзначце сказы з пунктуацыйнай памылкай:**

1. Заўсёды поўначчу, калі прачнуцца пад вясенні́м шумам разлівы родных рэк, мяне наведваюць думы: якімі гукамі струны ці песнямі я ўвекавечыў дні гора, нашай славы дні і гэтых зораў бляск спрадвечны?
2. Прыйшла вясна – ужо часу няма, прыйшло лета – бярыся то за тое, то за гэта, надышла восень – яшчэ работ восем.
3. Сама зямля без гною тлуста і надта родзіцца капуста: з вядро галоўкі вырастаюць, з трох коп кадушку накладаюць!
4. Памятаю: сустрэў я неяк Рыгора Раманавіча пасля паездкі ў Львоў, дзе харавая капэла выступала з канцэртамі.
5. Франтавікі старэць не маюць права і колькі там гадоў ні набяжыць, а нашы твары, як і нашы справы, заўсёды будуць маладымі жыць.

# ДАВЕДНІК

## Змены ў беларускім правапісе ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (ад 23 ліпеня 2008 г.)

| РЭДАКЦЫЯ 1959 г. | РЭДАКЦЫЯ 2008 г. |
|---|---|
| Аканне ў ненаціскных фіналях **-эр**, **-эль** запапазычанняў | |
| **Пісалася без акання:** *альма-матэр, бартэр, дэкодэр, камп'ютэр, карцэр, кіндэр-сюрпрыз, лідэр, менеджэр* і *мэнэджэр, містэр, прэсвітэр, шніцэль, шпатэль, унтэр, унтэр-афіцэр.* | **Уводзіцца аканне:** *альма-матар, бартар, дэкодар, камп'ютар, карцар, кіндар-сюрпрыз, лідар, менеджар, містар, прэсвітар, шніцаль, шпаталь.*<br>**Не ўводзіцца аканне:** *унтэр, унтэр-афіцэр; Ландэр, Одэр, Пітэр, Юпітэр.* |
| Замацаванне акання ў абрэвіятурах савецкага часу і ўвядзенне акання ў іншых запазычаных скарачэннях | |
| *абком, ваенком, гарком, прафком, ваенком, лінкор, селькор; інтэрпол* | *абкам, ваенкам, гаркам, прафкам, лінкар, селькар; інтэрпал* |
| Аканне на канцы запазычаных слоў | |
| **Пісалася без акання:** *Ватэрлоо, Рыо-Грандэ, Рыо-дэ-Жанейра, Токіо; адажыо, імпрэсарыо, радэо, сальфеджыо, трыо.* | **Уводзіцца аканне:** *Ватэрлоа, Рыа-Грандэ, Рыа-дэ-Жанэйра, Токіа; адажыа, імпрэсарыа, радэа, сальфеджыа, трыа.* |
| Яканне ў лічэбніках і ў запазычаных словах | |
| *дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць, пяцьдзесят і інш.; аўдыекасета, плеяда* | *дзявяты, дзясяты, сямнаццаць, васямнаццаць, пяцьдзясят і інш.; аўдыякасета, пляяда* |



| РЭДАКЦЫЯ 1959 г. | РЭДАКЦЫЯ 2008 г. |
|---|---|
| Спалучэнне «[**й**] + галосны» | |
| **Перадавалася рознымі спосабамі:** *іог* і *ёг, Айунскі, Іофе, Нью-Йорк, нью-йоркскі; Іакагама* і *Йакагама, Іашкар-Ала* і *Йашкар-Ала; папайя, паранойя, піар-ход, секвойя.* | **Будзе перадавацца рознымі спосабамі:** *ёг, Аюнскі, Ёфэ, Нью-Ёрк, нью-ёркскі; Іакагама, Іашкар-Ала; папая, параноя, піяр-ход, секвоя.* |
| Напісанне **е** – **э** ў запазычаных словах | |
| **Пісалася праз е або праз э:** *інтэрнет* і *інтэрнэт, рэзюме* і *рэзюмэ, сервіс* і *сэрвіс, экземпляр* і *экзэмпляр, Душанбе* і *Душанбэ, Морзе* і *Морзэ, Рыо-дэ-Жанейра,* грузінскія прозвішчы на *-дзе*: *Шэварнадзе, Леанідзе; менеджэр* і *мэнэджэр, менеджмент* і *мэнэджмент, Каба-Верде* і *Каба-Вэрдэ.* | **Уводзіцца напісанне праз э:** *інтэрнэт, рэзюмэ, сэрвіс, экзэмпляр, Душанбэ, Морзэ, Рыа-дэ-Жанэйра,* грузінскія прозвішчы на *-дзэ*: *Брыгвадзэ, Шэварнадзэ, Табідзэ.*<br>**Уводзіцца напісанне праз е:** *менеджар, менеджмент, Каба-Вердэ.* |
| Напісанне **д** (**дз**), **т** (**ц**) у запазычаных словах | |
| **Пісалася цвёрда або мякка:** *Д'еп* і *Дзьеп, Сан-Мартын* і *Сан-Марцін; арцішок* і *артышок, ятвяг.* | **Уводзіцца цвёрдае напісанне:** *Д'еп, Сан-Мартын.* **Уводзіцца мяккае напісанне:** *арцішок, яцвяг.* **Але**: *твіст.* |
| Правапіс мяккага знака (у прыметніках, утвораных ад кітайскіх назваў) | |
| **Мяккасць адлюстроўвалася:** *чаньчуньскі, цяньшаньскі.* | **Мяккасць не адлюстроўваецца:** *чань-чунскі, цянь-шанскі.* |
| Прыстаўны і ўстаўны **в** у запазычаных словах | |
| *вохра* і *охра, есаул* | *вохра, есавул* |

| РЭДАКЦЫЯ 1959 г. | РЭДАКЦЫЯ 2008 г. |
|---|---|
| Ненаціскны пачатковы **у** → **ў** пасля галосных | |
| **У запазычаных словах *у* не «скарачалася»:** *для **у**ніята, ва **у**ніверсітэце.* | **Уводзіцца «скарачэнне» *у* ў запазычаных словах:** *для **ў**ніята, ва **ў**ніверсітэце.* |
| Ненаціскны **у** ў дыфтонгах запазычаных слоў | |
| **Было «нескарочанае» напісанне:** *ра**у**нд, са**у**на, фа**у**на, ка**у**зуальнасць, кло**у**н, лака**у**т.* **Было «скарочанае» напісанне:** *Даха**ў**.* | **Уводзіцца «скарочанае» напісанне:** *ра**ў**нд, са**ў**на, фа**ў**на, ка**ў**зуальнасць, кло**ў**н, лака**ў**т.* **Але**: *тра**у**р.* **Уводзіцца «нескарочанае» напісанне:** *Даха**у**.* |
| Фанетычнае напісанне збегу зычных **стн** як **сн** | |
| **Пісалася літара *т*:** *кампо**стн**ы, фарпо**стн**ы, кантра**стн**ы, аванпо**стн**ы, бала**стн**ы.* | **Уводзіцца напісанне без *т*:** *кампо**сн**ы, фарпо**сн**ы, кантра**сн**ы, аванпо**сн**ы, бала**сн**ы.* |
| Лібералізацыя правіл пераносу | |
| **Дазвалялася пераносіць толькі:** *птуш-ка, рас-крыць, двац-цаць, сол-лю.* | **Дазваляецца пераносіць па-рознаму:** *пту-шка, птуш-ка; ра-скрыць, рас-крыць, раск-рыць; двац-цаць, два-ццаць; сол-лю, со-ллю.* |
| Іншыя змены | |
| *__с__эканоміць і __з__эканоміць; Ч__э__люскін; Вялікае __к__нязтва Літоўскае* | *__с__эканоміць; Ч__а__люскін; Вялікае __К__няства Літоўскае* |



## Вялікая і малая літары ў найменнях асоб, звязаных з рэлігіямі, назвах міфалагічных і казачных герояў

З <u>вялікай літары</u> пішуцца:

- ✓ найменні найвышэйшых божастваў (боставў) у рэлігійных культах, а таксама ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя назвы: ***Бог***, ***Алах***, ***Яхве***, ***Шыва***; ***Госпад*** (***Гасподзь***), ***Усявышні***, ***Уладыка Нябесны***, ***Усемагутны Бог***, ***Святая Тройца***, ***Бог Сын***, ***Божы Сын***, ***Бог Дух Святы***, ***Прасвятая Тройца***, ***Божая Маці***, ***Прасвятая Дзева Марыя***, ***Царыца Нябесная***, ***Месія***;
- ✓ прыметнікі, утвораныя ад слова ***Бог***: ***Божы*** (***Боскі***) *суд*, ***Божы*** (***Боскі***) *храм*, ***Божая*** (***Боская***) *міласць*;
- ✓ уласныя назвы ўяўных і казачных істот, герояў літаратурных твораў: ***Папялушка***, ***Чырвоная Шапачка***, ***Калабок***, ***Снягурка***, ***Дзед Мароз***, ***Баба Яга***, ***Пегас***, ***Буцэфал***, ***Атлант***, **але** <u>як агульныя назвы</u>: ***дзед-мароз*** – ёлачнае ўпрыгожанне, ***баба-яга*** – агідная старая, ***буцэфал*** – стары конь, ***атлант*** – у архітэктуры.

З <u>малой літары</u> пішуцца:

- ✓ слова ***бог*** (***гасподзь***) ва ўстойлівых выразах, звязаных з выказваннем розных пачуццяў у прастамоўі, а не са зваротам да Бога паводле рэлігійнай абраднасці і ўяўленняў: ***бог** яго ведае*, ***божа*** (***божачка***) *ты мой*, ***божа** збаў*, *дай **божа***, *крый **бог*** (***божа***), *не давядзі **бог*** (***божа***, ***госпадзі***), *ратуй **божа***, *дзякаваць* (*дзякуй*) ***богу*** (*табе*, ***госпадзі***), ***бог** з табой* (*з ім*, *з вамі*), ***алах** з ім*;
- ✓ слова ***бог*** з агульным значэннем боства ў спалучэнні з асабовай назвай або з назоўнікам з агульным значэннем у родным склоне: *старажытны славянскі **бог** Пярун*, ***бог** сонца Дажбог*, *Сварог – **бог** неба*.

## Вялікая і малая літары ў назвах дзяржаўных органаў і іншых арганізацый

З вялікай літары пішуцца:

- ✓ усе словы ў найменнях вышэйшых органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады Рэспублікі Беларусь і іншых краін: ***С**авет **М**іністраў **Р**эспублікі **Б**еларусь*, ***В**ярхоўны **С**уд **Р**эспублікі **Б**еларусь*, ***Н**ацыянальны **К**ангрэс*, ***У**секітайскі **С**ход **Н**ародных **П**радстаўнікоў*; **але**: ***Н**ацыянальны **с**ход **Р**эспублікі **Б**еларусь*, ***П**алата **п**радстаўнікоў **Н**ацыянальнага **с**ходу **Р**эспублікі **Б**еларусь*;
- ✓ першае слова ў найменнях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых арганізацый: ***М**іністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь*, ***Н**ацыянальная акадэмія навук Беларусі*, ***Н**ацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы*, ***Ф**едэрацыя прафсаюзаў Беларусі*, ***Б**еларускі рэспубліканскі саюз моладзі*, ***Е**ўрапейскі саюз* (***Е**ўрасаюз*), ***М**іжнародны алімпійскі камітэт*;
- ✓ простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый: *Адміністрацыя **П**рэзідэнта **Р**эспублікі **Б**еларусь*, ***Н**ацыянальны акадэмічны **В**ялікі тэатр балета **Р**эспублікі **Б**еларусь*, ***П**арламенцкая асамблея **С**авета **Е**ўропы*, ***Т**аварыства **Ч**ырвонага **К**рыжа*, ***С**авет **Б**яспекі **А**рганізацыі **А**б'яднаных **Н**ацый* (*ААН*);
- ✓ слова *Савет* у значэнні органа ўлады: *Мінскі абласны **С**авет дэпутатаў*, *сельскі **С**авет дэпутатаў*; **але**: ***с**ельсавет*;
- ✓ словы *Дом*, *Палац*, якія пачынаюць найменне ўстановы: *Дом культуры*, *Дом народнай творчасці*, ***П**алац спорту*, ***П**алац мастацтваў*; **але**: *Зімовы **п**алац*, ***д**ом адпачынку*.

З малой літары пішуцца найменні аддзелаў і іншых падраздзяленняў навуковых і адукацыйных устаноў, іх органаў кіравання, а таксама словы тыпу калегія, вучоны савет, навукова-метадычны савет, савет па абароне дысертацый, факультэт, аддзяленне, сектар, група: ***в**учоны **с**авет факультэта журналістыкі*, ***с**авет па абароне дысертацый*, ***к**алегія Міністэрства культуры*; **але**: ***А**гульны сход Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі*, ***А**ддзяленне аграрных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі*.



## Вялікая і малая літары ў найменнях пасад і званняў, ветлівых зваротах і спецыяльных абазначэннях

З вялікай літары пішуцца:

- ✓ словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: ***П**рэзідэнт Рэспублікі Беларусь*, ***П**рэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь*, ***Г**алоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь*, ***М**ітрапаліт Мінскі і Слуцкі*, ***П**атрыяршы **Э**кзарх усяе Беларусі*, ***П**апа Рымскі*. У неафіцыйным ужыванні словы *прэзідэнт*, *старшыня*, *кароль*, *імператар* пішуцца з малой літары: *візіт **п**рэзідэнта*, *загад **і**мператара*; **але**: *выбары **П**рэзідэнта Рэспублікі Беларусь*;
- ✓ словы ў назвах бакоў у пагадненнях, кантрактах і іншых дагаворах: ***В**ысокія **Д**агаворныя **Б**акі*, ***А**ўтар і **В**ыдавецтва*, ***З**аказчык і **В**ыканаўца*.

## Вялікая і малая літары ў назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, святаў

З вялікай літары пішуцца:

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах дзяржаўных, традыцыйных і рэлігійных святаў: ***Д**зень жанчын*, ***С**вята працы*, ***Н**араджэнне Хрыстова*, ***Д**зень памяці*, ***У**шэсце Гасподняе*, ***У**васкрэсенне Хрыстова*, ***В**ялікая субота*, ***Р**адаўніца*, ***В**ялікдзень*, ***К**аляды*, ***К**упалле*, ***Д**абравешчанне*, ***Н**аўроз*, ***Р**амадан*.

# ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ

## *Правапіс прыставак*

Прыстаўка ***су***- пішацца:

– у новых утварэннях, калі ёсць слова і без ***су***-: ***су****грамадзянін*, ***су****палімер*, *сукрэдытор*, ***су****кіраўнік*, ***су****пастаўшчык*, ***су****член*, ***су****апякун*, ***су****працоўнік*, ***су****родзіч*, ***су****наймальнік*, ***су****спадчыннік*, ***су****адказчык*, ***су****забудоўшчык*, ***су****выканаўца* і інш.;

– у словах, якія без ***су-*** не ўжываюцца: ***су****квецце*, ***су****ладдзе*, ***су****гучча*, ***су****глінак*, ***су****песак*, ***су****кравіца*, ***су****зіральнік*, ***су****межжа*.

Прыстаўка ***са-*** пішацца:

– у запазычаннях і кальках (пераважна з рускай мовы): ***са****іскальнік*, ***са****курснік*, ***са****дружнасць*, ***са****трапезнік*, ***са****служывец*.

Пры спалучэнні прыставак (***аб-***, ***ад-***, ***над-***, ***пад-***, ***раз-***, ***з-*** **(*с-*)**, ***уз-***, ***спад-***, ***перад-***, ***дэз-***, ***суб-***) са словамі, што пачынаюцца з ***і***, у адпаведнасці з вымаўленнем замест ***і*** пішацца ***ы***: *аб****ы****нтэлігенцыя*, *з****ы****мправізаваць*, *ад****ы****менны*, *спад****ы****лба*, *перад****ы****нфарктны*, *перад****ы****мперскі*, *<u>суб</u>****ы****нспектар*, *<u>дэз</u>****ы****нтэгратар*, *<u>дэз</u>****ы****нфармацыя*, *<u>дэз</u>****ы****нфіцыраваць*.

Пасля прэфіксоідаў (***звыш-***, ***між-***, ***пан-***, ***супер-***, ***транс-***, ***контр-***) ***і*** захоўваецца: *звыш****і****мклівы*, *між****і****нстытуцкі*, *пан****і****сламізм*, *контр****і****дэя*, *супер****і****нтэлект*, *транс****і****ндыйскі*.

У складанаскарочаных словах, першая частка якіх заканчваецца на цвёрды зычны, пачатковае ***і*** другога слова пішацца нязменна: *пед****і****нстытут*, *сан****і****нструктар*, *мед****і****нструменты*, *гас****і****нвентар*.

Прэфіксоід ***экс-*** пішацца праз злучок, і ***і*** не пераходзіць у ***ы***: *экс-****і****нжынер*, *экс-****і****мператар*.



## *Правапіс суфіксаў*

Пераважная большасць <u>запазычаных дзеясловаў</u> ужываецца з суфіксам ***-ава-*** (***-ява-***): *дэград****ава****ць*, *фальсіфік****ава****ць*, *цыт****ава****ць*, *аналіз****ава****ць*, *кантакт****ава****ць*, *план****ава****ць*, *нацыяналіз****ава****ць*, *прыватыз****ава****ць*, *ліквід****ава****ць*, *перафраз****ава****ць*, *кваліфік****ава****ць*, *інфарм****ава****ць*, *функцыян****ава****ць*, *паразіт****ава****ць*, *тыраж****ава****ць*, *консульт****ава****ць*, *ангаж****ава****ць*, *імпарт****ава****ць*, *дэбат****ава****ць*, *інспект****ава****ць*, *правак****ава****ць*, *фініш****ава****ць*.

Дзеяслоўны суфікс ***-ірава-*** (***-ырава-***) ужываецца:

✓ калі без гэтага суфікса ўзнікае аманімія дзеясловаў з дзеясловамі з суфіксам ***-ава-*** (***-ява-***): *букс****ірава****ць – букс****ава****ць*, *парадз****ірава****ць – парад****ава****ць*, *газ****ірава****ць – газ****ава****ць*, *камандз****ірава****ць – каманд****ава****ць*, *пас****ірава****ць – пас****ава****ць*, *фарм****ірава****ць – фарм****ава****ць*, *апан****ірава****ць – апан****ава****ць*;

✓ калі дзеяслоў без ***-ір-*** (***-ыр-***) губляе сваю фармальную і семантычную акрэсленасць: *шак****ірава****ць*, *біс****ірава****ць*, *брав****ірава****ць*, *гарман****ірава****ць*, *драп****ірава****ць*, *лаб****ірава****ць*, *грас****ірава****ць*, *кур****ырава****ць*, *лав****ірава****ць*, *дэкар****ырава****ць*, *серв****ірава****ць*, *фантаз****ірава****ць*, *лак****ірава****ць*, *штудз****ірава****ць*, *мус****ірава****ць*, *тату****ірава****ць* і інш.;

✓ калі дзеяслоў мае вузкатэрміналагічнае значэнне: *манц****ірава****ць*, *пасів****ірава****ць*, *аксідз****ірава****ць*, *зандз****ірава****ць*, *дэкац****ірава****ць*, *стал****ірава****ць*, *дэмпф****ірава****ць*, *юз****ірава****ць*, *юсц****ірава****ць*, *параф****ірава****ць*, *дыфундз****ірава****ць*.

У некаторых выпадках <u>паралельна ўжываюцца дзве формы</u>: *дэмаск****ірава****ць – дэмаск****ава****ць*, *акуп****ірава****ць – акуп****ава****ць*, *курс****ірава****ць – курс****ава****ць*, *кальк****ірава****ць – кальк****ава****ць*, *баз****ірава****ць – баз****ава****ць*.

# ЛІТАРАТУРА



1. Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу: пастанова Савета Народных Камісараў БССР. – Мінск: Дзяржвыд Беларусі, 1933. – 15 с.
2. Акуленка, А.А. Правапіс зычных у сучаснай беларускай мове: вучэб.-метад. дапам. / А.А. Акуленка, Г.Ф.Вештарт, Т.М. Трухан. – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – 48 с.
3. Агароднікава, С.В. Беларуская мова: арфаграфія, марфалогія, сінтаксіс: вучэб. дапам. / С.В. Агароднікава. – Мінск: Экаперспектыва, 2006. – 106 с.
4. Беларуская граматыка: у 2 ч. / пад рэд. М.В. Бірылы, П.П. Шубы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985 – 1986. – Ч. 1–2.
5. Беларуская мова / red. nauk. Aijaksandr Lukačanec, Mikalaj Prigodzič, Lidzija Sjameška. – Opole: Uniwersytet Opolski – Instytut Filologii Polskiej, 1998. – 294 c.
6. Бурак, Л.І. Сучасная беларуская мова: арфаграфія і пунктуацыя: практыкум: вучэб. дапам. – Мінск: Універсітэцкае, 1993. – 247 с.
7. Буракова, М.У. Сучасная беларуская мова (арфаграфія і пунктуацыя) этнакультуралагічныя тэксты: вучэб. дапам. / М.У. Буракова, В.А. Ляшчынская, З.У. Шведава. – Гомель: ГДУ, 2007. – 237 с.
8. Бут-Гусаім, С.Ф. Сучасная беларуская мова: фанетыка, фаналогія, арфаэпія, графіка, арфаграфія: практыкум / С.Ф. Бут-Гусаім. – Брэст: БрДУ, 2008. – 72 с.
9. Гапоненка, І.А. Графіка і арфаграфія беларускіх выданняў XIX – пачатку XX стагоддзя: вуч.-метад. дапам. / І.А. Гапоненка. – Мінск: РІВШ, 2002. – 76 с.
10. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / пад рэд. К.К. Атраховіча, М.Г. Булахава. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962–1966. – Т. 1 – 2.
11. Зіманскі, В.Э. Беларуская арфаграфія: метад. рэкаменд. / В.Э. Зіманскі. – Віцебск: ВДУ, 2009. – 70 с.
12. Змены беларускага правапісу ў Савецкай Беларусі: зб. дакументаў / уклад. В. Мухін. – Гомель: Радавая Беларусь, 2000. – 24 с.
13. Іўчанкаў, В.І. Беларускі правапіс у апорных схемах / В.І. Іўчанкаў. – Мінск: Пачатковая школа, 2010. – 54 с.
14. Іўчанкаў, В.І. Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыя / В.І. Іўчанкаў. – Мінск: Пачатковая школа, 2010. – 304 с.
15. Камароўскі, Я.М. Сучасная беларуская мова: фанетыка і фаналогія, арфаэпія, графіка, арфаграфія: вучэб. дапам. / пад. рэд. праф. Л.М. Шакуна. – Мінск, 1985. – 216 с.
16. Капылоў, І.Л. Правапіс беларускай мовы: асноўныя правілы і практычныя заданні / І.Л. Капылоў, С.Я. Рапацэвіч, М.А. Атрахімовіч. – Мінск: Соврем. шк., 2008. – 255 с.
17. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / пад. рэд. А.А. Лукашанца. – Мінск: Белар. навука, 2007–2009. – Ч. 1–2.
18. Кулеш, Г.І. Рэпетытар па беларускай мове: марфалогія і правапіс: да падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання / Г.І. Кулеш, Г.К. Ціванова. – Мінск: Аверсэв, 2009. – 191 с.
19. Куліковіч, У.І. Арфаграфія: матэрыялы для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання: дапаможнік / У.І. Куліковіч. – Мазыр: Белы Вецер, 2010. – 59 с.
20. Куліковіч, У.І. Новае ў беларускай арфаграфіі: правілы, заданні, тэсты, слоўнік: вучэб. дапам. / У.І. Куліковіч. – Мінск: Новое знание, 2009. – 103 с.
21. Куліковіч, У.І. Беларускі правапіс / У.І. Куліковіч. – Мінск: Завігар, 1998. – 275 с.
22. Куліковіч, У.І. Вучымся пісаць па-новаму: вучэб. дапам. / У.І. Куліковіч. – Мінск: Белар. асацыяцыя «Конкурс», 2009. – 144 с.
23. Куліковіч, У.І. Фаналагічная тэорыя і беларуская арфаграфія: практыкум / У.І. Куліковіч. – Мінск: РІВШ, 2003. – 61 с.
24. Міхайлаў, П.А. Беларуская мова: тэматычны трэнажор: фанетыка, арфаэпія, арфаграфія: для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання / П.А. Міхайлаў, А.К. Пекач, С.І. Фацеева. – Мінск: Аверсэв, 2009. – 94 с.
25. Правапіс беларускай мовы / Бел. акад. навук, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Выд-ва БАН, 1934. – 45 с.
26. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1959. – 160 с.
27. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі РБ, 2008. – 142 с.
28. Сучасная беларуская літаратурная мова: уводзіны, лексікалогія, фразеалогія, лексікаграфія, фразеаграфія, фанетыка, арфаэпія, графіка, арфаграфія: вучэб. дапам. / М.Ц. Кавалёва, А.К. Юрэвіч, Ф.М. Янкоўскі і інш. – Мінск: Вышэйш. шк., 1993. – 206 с.

29. Сучасная беларуская мова: уводзіны, фанетыка, фаналогія, арфаэпія, графіка, арфаграфія, лексікалогія, лексікаграфія, фразеалогія, фразеаграфія: вучэб. дапам. / Я.М. Камароўскі, В.П. Красней, У.М. Лазоўскі і інш. – Мінск: Вышэйш. шк., 1995. – 334 с.
30. Шумчык, Ф.С. Сучасная беларуская мова: тэсты па арфаграфіі: вучэб.-метад. дапам. / Ф.С. Шумчык. – Мінск: БДПУ, 2000. – 39 с.
31. Шумчык, Ф.С. Правапіс беларускай мовы: асноўныя правілы і тэставыя заданні / Ф.С. Шумчык. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2006. – 131 с.



32. Граматычны слоўнік дзеяслова / пад. рэд. А.І. Падлужнага, В.П. Русак. – Мінск: Белар. навука, 2007. – 1252 с.
33. Граматычны слоўнік назоўніка / пад. рэд. А.Я. Михневича, В.П. Русак. – Мінск: Белар. навука, 2008. – 1379 с.
34. Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя / пад. рэд. В.П. Русак. – Мінск: Белар. навука, 2009. – 1176 с.
35. Завальнюк, У.М. Слоўнік сучаснай беларускай мовы / У.М. Завальнюк, М.Р. Прыгодзіч, В.К. Раманцэвіч; пад агул. рэд. М.Р. Прыгодзіча, У.М. Завальнюка. – Мінск: Нар. асвета, 2009. – 399 с.
36. Кандраценя, І.У. Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы / І.У. Кандраценя, Л.П. Кунцэвіч; пад. рэд. А.А. Лукашанца. – Мінск: ТетраСистемс, 2009. – 703 с.
37. Кандраценя, І.У. Беларускі арфаграфічны слоўнік / І.У. Кандраценя, Л.П. Кунцэвіч; пад. рэд. А.А. Лукашанца. – Мінск: Бел. навука, 2009. – 695 с.
38. Капылоў, І.Л. Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы для школьнікаў: новыя правілы беларускага правапісу / І.Л. Капылоў, Т.М. Маракуліна. – Мінск: Современная школа, 2010. – 256 с.
39. Николаева, О.М. Современный русско-белорусский словарь для школьников / О.М. Николаева, Т.М. Трухан; под ред. А.А. Лукашанца. – Минск: ЛіМ, 2009. – 256 с.
40. Слоўнік беларускай мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне / пад рэд. М.В. Бірылы. – Мінск: БелСЭ, 1987. – 903 с.



# ЗМЕСТ

**Вучэбнае выданне**

*І.Л. Бурак, Д.В. Дзятко, Н.М. Нямковіч, Н.А. Радзіваноўская, В.В.Урбан, А.М. Цясевіч, Ф.С. Шумчык*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС

*Вучэбна-метадычны дапаможнік*

*Рэдактар*
*Карэктар*
*Адказны за выпуск*
*Тэхнічнае рэдагаване і камп'ютэрная вёрстка* А.А. Пакалы

Падпісана ў друк __.__.__. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура *Таймс*.
Друк Riso. Ум. друк. арк. 12,21. Ул.-выд. арк. 11,78. Тыраж ___ экз. Заказ

*Выдавец і паліграфічнае выкананне:*
*Установа адукацыі* «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка».
ЛИ № 02330/0494368 от 16.03.09.
ЛП № 02330/0494171 от 03.04.09.
220050, Мінск, Савецкая, 18.
http://izdat.bspu.unibel.by/